Пралетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР.**

**У НУМАРЫ:**



**7 (53)**

**Ліпень.**

**1957.**

Год выдання V.

Газетна-часопіснае выдавецтва
Галоўвыдата Міністэрства
культуры БССР.
Мінск.

Пімен **ПАНЧАНКА**

# ЦАГЛІНА
# З ДОМА ПАЎЛАВА



Яе прывезлі слаўныя майстры
З вялікай Волгі, з горада герояў
Для Беларусі, роднае сястры,
Гарачай будаўнічаю парою.

Той момант сэрца кожнага крануў —
Наш добры госць, з харошым тварам муляр,
Умураваў цагліну у сцяну,
Каб новы дом віхуры не садзьмулі.

Замоўк на міг шумлівы горад мой,
І сонца засвяціла ярка, ярка,
Калі рука злучылася з рукой
У поціску, як дружбы нашай арка...

Заселены даўно высокі дом.
У хвілю вольную ці як агорне скруха,
Вясной і восенню, і раніцай і днём
Адведаць я люблю яго, як друга.

Расхопяць вокны золата зары,
Гудкі, каго патрэбна ім, паклічуць,—
І ў гэты час выходзяць жыхары
З рабочым заклапочаным аблíччам.

Прыду пазней — другі, больш чынны лад,
Машыны тут спыняюцца з разгону...
Жыве наш дом!

І я ад сэрца рад
Яго гамонцы, песням, смеху, звону.

І сочыць рэўнасць смешная мая,
Каб жыхары жылі тут бездакорна:
Дом Паўлава над Волгай бачыў я,
Дом Паўлава — паранены і чорны.

Хачу, каб не забылі тут яны
У тлуме быту, у турботах працы
Далёкі гул і блізкі гул вайны
І поціск рук мінчан і сталінградцаў.

Я-б шыльду залатую тут прыбіў,
Каб памяць абыякасці пазбегла;
Я дзецям-бы ўсе вушы пратрубіў,
Якая ў іх сцяну цагліна легла.

Хай непагадзь, хай град у твар, хай гром,
Не стоміцца мой верш звінець і радзіць,—
Каб бераглі свой дом, свой светлы дом,
Як Паўлаў свой бярог у Сталінградзе.

* * *



Яшчэ ніводнай веснавой прыкметы,
У дрэў і птушак ледзяны настрой.
Падзьмуць вятры — і снежныя каметы
Праносяцца над белаю зямлёй.

І толькі у адной прасторнай хаце
Зімы ні следу — тут цвіце вясна:
У бэзавых, ружовых, сініх плаццях
Дзяўчаты найслаўнейшага звяна.

А звеннявая па ільну, здаецца,
Сама з ільну з'явілася на свет:
Кужэльная каса ў яе віецца
І вочы сінія, як той ільняны цвет.

І нешта горача, і нешта навукова
Гаворыць аб ільне і аб вясне...

А ў куце хлопец, ён тут выпадкова.
Яна не, не, ды ў бок той пазірне.

Хаваюць пад далонямі усмешкі
Сяброўкі...
Хлопец моліцца: «Хутчэй!»
Шукае ён не ў лён, а ў сэрца сцежку
І тоне ў сіняве яе вачэй.

## ПРАВОДЗІНЫ



а стале — букеты кветак,
Пляшак рад і чарак строй.
Кожны шчыры, кожны ветлы,
А настрой — благі настрой.

Змоўклі песні, сціхлі танцы,
А чаму — лепш не пытай:
Друга нашага кітайца
Выпраўляем у Кітай.

Вось сядзіць ён скромны, просты,
Смуглы твар і лоб круты.
Ён гаворыць нам на ростань:
«Вы — старэйшыя браты».

Нам, прызнацца, крышку сорам.
Мы смяемся: «Што ты, брат!
Самі ездзілі мы ўчора
Па навуку ў Сталінград».

А калі сказаць па праўдзе —
Падцягнуў кітаец нас:
Перш чым другу што парадзіць,
Адмяралі восем раз.

Працавалі з ім мы слаўна,
Кожны ўсё аддаць быў рад...
Толькі ў справе чаркі яўна
Адставаў кітайскі брат.

Сёння-ж чарку падымаем
Мы за Мінск і за Шанхай,

Па-кітайску вымаўляем
Слова нашае «Няхай!»

Так, няхай жывуць навекі
Еднасць верная братоў,
Нашы зоры, нашы рэкі,
Нашы песні і любоў!

Дружа, стаў для нас ты блізкім,
Быццам век з табой жылі,
Быццам разам тут, пад Мінскам,
Партызанамі былі.

Зашчымела сэрца сумам,
Кожны кажа ад душы:
«Эх, пабыў-бы, стаў-бы кумам...»
«Ледзьве што, браток, — пішы!»

Развітальны гул вакзала,
У вагоне — руж гара...
А з Кітаю наплывала,
Як мільён сцягоў, зара.

Аляксей **ПЫСІН**

# ВЫНОСЛІВАСЦЬ



Дуб нават вобмацкам адрозніш,
Адчуеш дотыкам рукі
Рубцы глыбокія, барозны,
Кары шурпатай вузлякі.

Дажджы асеннія мачылі,
Паліў сухмень, сціскаў мароз,
І прадубілася да шчылін
Кара дубовая наскрозь.

Калі гляджу на рукі бацькі
У рубцах, вузлах,
Здаецца мне,
Што можна з дубам параўнаць іх
Моц і вынослівасць.
Ды не!

Яны-ж не толькі спёку зналі,
Дубелі ў холадзе зімой,
А дол варочалі, аралі,
Драбілі вугаль пад зямлёй;

Кавалі сталь, граніт крышылі,
Трымалі зброю на вайне,
І хоць гулі, ад стомы нылі,
Малога няньчылі мяне.

Аляксей КУЛАКОЎСКІ

*С. Б. Такарэўскай прысвячаю*

# ДА ЎСХОДУ СОНЦА

## Аповесць

Мал. Г. Паплаўскага.

Кожнаму сваё. Іншыя дзяўчынкі ў летнюю нядзелю выбіраліся ў недалёкі лясок, шукалі там ранніх грыбоў, рвалі кветкі. Іншыя не адступаліся ад сваіх старэйшых і наведвалі разам з імі парк, стадыён, звярынец ці яшчэ што-небудзь блізкае ад дому. А Святлана ледзь не кожную нядзельку бегала ў вайсковы гарадок. Там ёй было весела, там у яе былі свае сябры. Хто-б ні стаяў вартавым ля прахадной будкі, усякі прапускаў Святлану ў вайсковы двор. Бывала часам і так, што амаль ля самых варот яе сустракаў лейтэнант Бандарэнка. Ішлі яны тады ўдваіх па брукаванай дарожцы, абсаджанай маладымі таполямі, і ўсе стрэчныя байцы віталі лейтэнанта з асаблівай павагай. Ішлі яны на канюшню, бо там іх чакаў «Люты», самы лепшы скакун ва ўсім палку. Хоць гэтага гнядога, у белых панчошках каня звалі «Лютым», аднак-жа ён быў вельмі рахманы, любіў пяшчоты свайго гаспадара Бандарэнкі і яшчэ больш — святланін цукар. Калі дзяўчынка падыходзіла бліжэй, ён туліўся да яе, ласкава хмыліўся і лавіў мяккімі сухімі губамі яе рукі.

У тую нядзелю, з якой мы хочам пачаць наш расказ, Святлана прыйшла ў вайсковы гарадок ледзь не з самага ранку. Пачаставаўшы цукрам «Лютага», дзяўчынка зайшла ў кабінет да свайго бацькі, бо ў гэты дзень яна яго яшчэ нават не бачыла. Хадзіў, здаралася, і раней бацька па выхадных днях у штаб, але сёння ён пайшоў чамусьці вельмі рана. Святлана ў гэты час яшчэ спала.

У пакоях штаба трохі папахвала конскім потам, але дзяўчынка нават і не заўважыла гэтага. У іх кватэры ў горадзе ўвесь час гэтак-жа папахвае, як тата ні стараецца, як ні прасушвае сваю вопратку. У прыёмнай кабінета дробненька стукала машынка. Святлана прыпынілася каля дзвярэй. Ёй не хацелася бачыць машыністку, хоць для гэтага не было ніякіх прычын.

Святлана нерашуча пастукала ў дзверы, нібы ішла да свайго дырэктара школы. Ніхто не азваўся, бо машынка стукала мацней, як Святлана. Тады яна зайшла без стуку. Машыністка аглянулася, кіўнула ветліва, і зноў яе пальцы спрытна заскакалі па літарах. Яна заўсёды сустракала

дзяўчынку ветліва. А бацька чамусьці нахмурыўся, калі ўбачыў дачку. Нахмурыўся і не надта ветліва сказаў, паказваючы на дзверы кабінета:

— Пабудзь там Света, пакуль я вось... Пачытай што-небудзь.

Дзяўчынка пайшла ў кабінет, і хоць на стале ляжалі ўсялякія часопісы і кнігі, не ўзяла ў рукі нічога. Яна села ў кутку на мяккую канапку, падагнула загарэлыя каленкі і ледзь не заплакала ад крыўды. Ёй так хацелася пагуляць сёння з таткам, схадзіць з ім на палігон, а можа і праехацца разам: ён на сваім «Віхры», сівым, у яблыкі, а яна на бандарэнкавым «Лютым». І чаму гэта сёння бацька на рабоце, чаму ён усё нешта дыктуе і дыктуе машыністцы? Магла-б яна, гэтая машыністка, і не прыходзіць сёння. Ніколі ў выхадныя дні яна не прыходзіла. Крыўда ўпала і на машыністку: нездарма-ж так не хацелася яе тут бачыць. Каб яна не прыйшла, то напэўна можна было-б пайсці з татам на палігон.

Святлана прыцішылася, трошкі супакоіла сваю крыўду і пачала слухаць, што бацька дыктуе. Дзверы былі прычыненымі; у перапынках, калі машынка не стукала, чутно было, як бацька ходзіць сюды-туды па пакоі, як хараша і звычна падзынькваюць яго шпоры. А слоў нельга было разабраць: бацька гаварыў вельмі ціха, і друкаванне заглушала яго голас. Ці хутка ён скончыць дыктаваць, ці хутка пойдзе адсюль гэтая зусім непатрэбная дзяўчына?

Марудна і сумна цягнуліся хвіліны. Вядома, у двары было-б весялей: там зноў падышоў-бы лейтэнант Бандарэнка, ён прыдумаў-бы штонебудзь цікавае, вясёлае. Там можна было-б пайсці да кулямётчыкаў і пакатацца ў тачанцы. Але не цягнула Святлану нікуды, нават Бандарэнку не хацелася бачыць. Яна ўсё слухала, як стукае за дзвярыма машынка, як гучыць неразборлівы бацькаў голас. Слухала, чакала і сама не заўважыла, як у гэтым чаканні заснула. Можа душны дзень быў у гэтым вінаваты, а можа і тое, што ноччу дзяўчынка сніла страшныя сны і часта прачыналася.

Колькі часу праспала тады Святлана, ніхто не ведае, як не памятае гэтага і яна сама. У памяці часта ўзнікае толькі тое, як яна прачнулася. Бацька аб нечым моцна крычаў па тэлефоне, машыністка, хапаючы нейкія паперы, перакуліла столік з машынкаю. На двары нешта страшэнна грымела, ляскала, у вокнах бліскаў агонь. Нельга было зразумець, сон гэта ці незвычайнае, жудаснае няшчасце. Нібы ў гэтым-жа неадольным сне і спалоху перад самымі вачыма мільгануў дарагі, страшэнна заклапочаны твар бацькі, потым аднекуль, быццам з густога дыму, з полымя выскачыў Бандарэнка. Святлана адчула пад сабою нечыя цвёрдыя рукі. Можа яго, а можа бацькавы. Усё загойдалася, затраслося ў вачах, загуло над галавою. Дзяўчынка адчула, што яна некуды едзе, расплюшчыла на момант вочы і ўбачыла перад сабою шафёра з бледнай стрыжанай патыліцай, а поруч з ім — байца ў пілотцы, надзетай бліскучай зоркаю назад. Уціснулася галавою ў жорсткі куток машыны, прыжмурыла вочы, каб успомніць, уявіць, што адбылося, чаму так доўга не праходзіць гэты страшны сон? І зноў акунулася ў нейкую дзівосную, кіпучую хвалю, зноў знікла ўсё з вачэй, патанула ў бездані...

Цяпер ужо вочы расплюшчыліся, мабыць толькі ад таго, што неўзабаве выплыла з-за хмаркі жыватворнае летняе сонейка і пачало пранізваць павекі. І калі дзяўчынка глянула на сонца, якое спускалася ўжо на захад, калі ўбачыла над сабою чыстае, спакойнае неба, тады паверыла, што цяпер ужо сапраўды мінуўся гэты жудасны сон. На хвіліну ёй нават уявілася, што яна недзе дома: нібы каля таго ляска за горадам, куды

часта бегалі яе сяброўкі, нібы на мураўцы палігона, дзе ў вольную хвіліну любяць адпачываць і нюхаць малады чабрэц коннікі. Вось і жаваранак узняўся над галавою, затрапятаў крыльцамі, зазвінеў. Калі гэта палігон, дык тут і рэчка недалёка. Хутка прыйдзе тата, і пабяжым тады разам на рэчку. Напіцца-б халодненькай вады, памачыць свежым струменьчыкам галаву... Баліць нешта галава...

Непадалёку нехта застагнаў, і адразу-ж знікла песня жаваранка. Святлана ўзнялася на локаць. Перад ёю ляжаў коламі ўверх перадок газіка. У першы момант дзяўчынцы здалося, што гэтыя колы яшчэ круцяцца. Кроках у дзесяці збоку намагалася ўстаць нейкая дзяўчына: узмахвала рукамі, упіралася ў зямлю.

— Пачакайце трошачкі! — сказала Святлана,— я вам памагу.

Яна ўскочыла на ногі, але мяккая трава нібы правалілася пад ёю, і дзяўчынка ўпала. На руках і каленках падпаўзла яна потым да той дзяўчыны, што адзін раз застагнала, і пачала пасабляць ёй сесці. Узяла яе за шыю, колькі было сілы пацягнула да сябе. Калі дзяўчына села і паправіла на галаве зблытаныя чарнявыя валасы, Святлана ўбачыла, што гэта — машыністка.

— Дзе гэта мы? — запытала дзяўчына. А Святлана глядзела на яе і не ведала, што адказаць. Ёй толькі хацелася хутчэй стаць карыснай у бядзе, дапамагчы машыністцы, дапамагчы ўсім, калі гэта трэба.

— Што з вамі? — хацела яна спытаць у машыністкі, але тая перахапіла яе словы і спытала сама:

— Табе не баліць, Светачка?

Дзяўчынка ўзялася рукою за галаву, і яе вочы наліліся слязамі.

А машыністка тым часам разарвала крэмавую блузку проста на сабе:

— Дай я цябе перавяжу, Светачка.

Пакуль перавязвала, прыйшла ў поўную свядомасць, зразумела, што сама не паранена, і трывога брала толькі за Святлану. У дзяўчынкі была пляма вышэй ілба. Можа гэта толькі шкрабінка, а можа і горш. Ці няма яшчэ дзе ран?

У машыністкі калоціцца сэрца, калі яна саджае дзяўчынку сабе на калені, аднак яна гаворыць зусім спакойным голасам:

— Маленечкая ранка ў цябе, Света, амаль што і не відаць. Мабыць, валасамі за нешта зачапілася, калі ляцела з машыны.

— А што гэта здарылася? — абняўшы машыністку за шыю, спытала дзяўчынка.— Дзе мой тата, дзе Бандарэнка?

— Вайна, Светачка,— ледзь стрымліваючы слёзы, сказала машыністка.— Здарылася вайна.

Адсунуўшы з вачэй не надта ўмелую павязку, Святлана яшчэ раз глянула на газікаўскі перадок з вісячымі нібы для забавы калёсамі; убачыла там паблізу вялікую, круглую яму, акаймаваную свежым чарназёмам, і тую пілотку, што нядаўна паблісквала начышчанай зоркай. Больш не было пра што пытацца.

* * *

Першыя гадзіны яны беглі па гэтай дарозе амаль што адны. Зрэдку праходзіла машына, зрэдку праносілася група коннікаў. Стрэчныя людзі часам нават і не ведалі, што заварылася там, на граніцы, і глядзелі на Святлану і машыністку здзіўлена, а то і падазрона. Выгляд гэтых дзяўчат сапраўды выклікаў здзіўленне. Святлана была ў крэмавай павязцы, нібы ў чалме, а на плячах у машыністкі была толькі палавіна

блузкі. Памяталася дзяўчыне, што брала яна з сабою касынку, калі выбягала са штаба, але знікла гэтая касынка, як знік шафёр, як знік той баец, што сядзеў у машыне поруч з шафёрам. Гарачае летняе сонца можа выпаліць прыгожыя, блізкія да кучаравасці валасы, зрабіць іх выцвілымі. Але бог з імі, з валасамі. Толькі для таго, каб не было вобмараку ад спёкі, дзяўчына падняла ў адной канаўцы парыжэлы, выдзьмуты ветрам газетны ліст, згарнула яго караблікам і надзела на галаву.

Перад адвячоркам паявіліся грузавыя машыны з раненымі. Многа ішло машын, ледзь не адна за адной. Байцы ў розных павязках, а некаторыя і без павязак, відаць, падабраныя па дарозе, сядзелі, хто мог, ля бартоў, на бартах, нават на кабіне. Цяжка раненыя ляжалі на саломе, хто ніцма, хто бокам, хто дагары, прыкрыўшы твар рукамі. Святлана, са згоды машыністкі, пачала галасаваць: яна-ж таксама раненая, яе павінны ўзяць на машыну. Але шафёры нават вока не спынялі на гэтым галасаванні і ціснулі на газ, што было сілы. Часам машыну падкідвала так, што траха не зляталі з бартоў раненыя; крычалі, стагналі, прасілі і з апошняга слова лаяліся тыя, каму ледзь не смерцю была такая язда. Нішто не праймала шафёраў. Яны глядзелі толькі на дарогу ды праз бакавыя вокны сачылі, ці чыстае неба, ці няма пад хмаркамі таго жудаснага ліха, ад якога вось гэтыя людзі, што ў кузаве, сталі калекамі.

Аднак знайшоўся ўсё-такі адзін шафёр, які затармазіў машыну перад паднятай маленькай рукой.

— Перавязваць умееце? — спытаў ён, высунуўшы запылены чуб праз выбітае бакавое акно.

— Умеем,— адказала Святлана.

Чубаты ўсміхнуўся і, зірнуўшы на машыністку, загадаў:

— Сядайце! Толькі хутка: раз, два! Вось вам бінты!

— Куды іх, на галовы? — заенчыў нехта з кузава, але тыя байцы, што ледзь не адзін на адным сядзелі на бартах, жвава заварушыліся, нейкім цудам зрабілі шчыліну між сабою і дапамаглі дзяўчатам узлезці. Машына зноў пайшла, ды так ірванула з месца, што Святлана сапраўды села аднаму байцу на галаву, аднак той не сказаў нічога, усміхнуўся, як толькі можна ўсміхнуцца, перамагаючы боль, і адвёў убок перавязанае плячо.

Сяк-так прымасціўшыся, Святлана пачала глядзець туды, дзе, па яе арыентыру, павінен быць іхні вайсковы гарадок. Можа ён яшчэ відзён з машыны, можа хоць якія прыкметы пашанцуе заўважыць. Не, не было ўжо ніякіх прыкмет. Нават густыя клубы дыму, якія яшчэ не так даўно ўзнімаліся недзе там, каля гарадка, і зліваліся з воблакамі, цяпер, відаць, рассеяліся ці сталі недасягальнымі для вока. Скрозь па дарозе відны былі толькі машыны ды фурманкі. Тады дзяўчынка пачала ўглядацца ў сваіх суседзяў. Ці ёсць тут коннікі? — перш-на-перш цікавіла яе. Коннікаў яна магла адрозніць заўсёды калі не па сініх пятлічках, дык па асабліваму паху. Ёй, чамусьці, здавалася, што тут, у кузаве, абавязкова павінен нехта быць з іхняга палка. Калі-ж ёсць, то яна адразу пазнае яго.

Адзін баец ляжаў у кутку ля самай кабіны. Пятліцы на яго гімнасцёрцы былі ў крыві, таму нельга было вызначыць іх колеру. У байца была перавязана галава. Трохі лепш яна была перавязана, як у самой Святланы, але прыблізна ў гэтым-жа месцы. Валасы густа чарнелі на цемені, а каля самай раны не відно было ніводнага валаска.

— Ці добра ён перавязаны? — спытала дзяўчынка ў машыністкі і непрыкметна паказала вачамі на байца.

— Нядобра,— ціха адказала машыністка,— але на такой дарозе цяжка паправіць.

— Цёця, — зноў неўзабаве загаварыла дзяўчынка і ўжо шэптам. У яе голасе чутны былі ноткі горнасці і бязмежнага давер'я. — А ў яго рана такая-ж, як у мяне, праўда?

— Не, што ты? — здагадаўшыся, у чым справа, пачала ўгаварваць дзяўчынку машыністка.— У цябе зусім не такая, у цябе — маленечкая, драпінка проста. Твая хутка загоіцца і знаку ніякага не будзе.

— А валасы? — нясмела прашаптала дзяўчынка.

— Усё ў цябе будзе добра, усё, — суцяшала машыністка. — Не думай нічога. Потым вось што, Светачка: не заві мяне цёцяй, а проста па імю. Зінай мяне завуць.

Дзяўчынка змоўкла, усё яшчэ не спускаючы сумных вачэй з перавязанай галавы байца, а Зіне стала няёмка, што яна сказала падлетку няпраўду. Нетрывожная рана на галаве ў Святланы, але хто ведае, як яна будзе гаіцца. Скура над ілбом садрана, магчыма, і сапраўды не будуць расці валасы. Мабыць дзяўчынка адчувае гэта і не верыць ніякім словам. Шкада ёй гэтага байца, што ляжыць ля кабіны з перавязанай галавой, яшчэ больш шкада бацьку, які застаўся там, у гарадку, і можа таксама недзе пакутуе ў цяжкіх ранах, але-ж шкада і сваіх валасоў.

Баец ля кабіны раптам паварушыўся, застагнаў, і Святлана спалохана адвяла ад яго вочы.

— Вады-ы,— ледзь чутна папрасіў баец.

— Ёсць у каго вада? — спытала Зіна.

— Даўно няма,— адказаў адзін з тых байцоў, што сядзелі на кабіне.

— Хаця-б глыточак, Зінечка,— раптам пачула дзяўчына зусім побач з сабою.— Усё нутро ссохлася.

Зіна азірнулася на гэты голас.

— Адкуль вы ведаеце маё імя? — спытала яна, яшчэ добра не разабраўшы, хто гэта гаварыў.

— Дык у мяне-ж толькі вочы завязаны,— з жартаўлівай ноткай адказаў баец,— а вушы не. Падслухаў. Не крыўдуйце...

Святлана таксама паглядзела на гэтага байца і ледзь не крыкнула ад нечаканасці: у яго на гімнасцёрцы былі сінія пятліцы.

— Стукайце шаферу ў кабіну! — падала каманду Зіна, калі машына ўляцела ў вуліцу адной невялікай вёсачкі.

— Не спыніцца ён,— сказаў той баец, што першы азваўся Зіне.

— Стукайце! — цвёрда паўтарыла дзяўчына.— Мы яго прымусім спыніцца.

— Застукала адразу некалькі байцоў.

— Што такое? — крыкнуў шафер, прытармазіўшы машыну.

— Вады трэба набраць,— сказала Зіна.

— На дзіва ўсіх шафёр адразу згадзіўся і выключыў матор.

— І мне трэба вады,— сказаў ён, выцягваючы з-пад сядзення пагнутую бляшанку.— Толькі прашу ўмомант: раз-два. А то немец прэ за намі.

Зіна з дапамогай Святланы сабрала ў байцоў біклажкі, праз якую хвіліну яны былі напоўнены ля калодзежа, шафёр заліў ваду ў радыятар, і машына памчала далей. Глытнуўшы свежай вады, байцы павесялелі,

сталі глядзець на дзяўчат з замілаванай павагай, а сусед з завязанымі вачамі многазначна сказаў:

— У нашым палку таксама была Зіна, машыністка. Харошая, кажуць, была дзяўчына, але загінула напэўна, бо першыя бомбы ўпалі на штаб.

— Вы з таго палка? — рынулася да яго Святлана, але Зіна ўхапіла яе за плечы і прытуліла да сябе.

— Не трэба, Светачка,— зашаптала яна,— не трэба, родная. Лепш нічога не ведаць, чым распытваць цяпер. Людзей будзем трывожыць і сябе.

— Светачка ў нас таксама была,— нечакана сказаў баец.— Дачка камандзіра палка.

Дзяўчынка дрыжала ад хвалявання, ледзь не плакала, а Зіна ўсё туліла яе да сябе і ўгаварвала маўчаць.

— У вас вельмі тонкі слых,— сказала яна байцу, каб хоць як-небудзь пачаць іншую размову,— чуеце самы ціхі шэпт.

— Вушы ў мяне добрыя, — ніколькі не сумеўшыся, згадзіўся баец. — Вялікія. Бачыце? — Ён абедзвюма рукамі пацягнуў сябе за вушы. — Таму і ловяць усё.

— А як мой тата? — нястрымна хацелася спытаць Святлане.— Ці не чулі вы чаго пра майго тату?

Баец, нібы адчуваючы жаданне дзяўчынкі, пачаў усё-ж гаварыць пра свой полк, сказаў-бы ён, напэўна, і пра камандзіра палка, але ў гэты час нечага зачмыхала машына і пачала сударгава, са штуршкамі спыняцца.

— Прыехалі! — абвясціў нарэшце шафёр, вылезшы з кабіны.— З'елі ўсё гаручае!

Твары ў байцоў адразу пазмрачнелі, а Зіна адчула нешта падобнае да палёгкі, бо каб не гэты выпадак, то сляпы баец сказаў-бы пра смерць святланінага бацькі. Зіна была ўпэўнена, што камандзір загінуў.

— Гэта номер! — сказаў баец з павязкай на вачах.

— Ну, нічога! — дадаў шафёр, паглядваючы з-пад чуба толькі на Зіну.— Вы тут крыху пабудзьце, а я збегаю вунь у тую вёску, дастану хоць газы якой.— Ён зноў выцягнуў з кабіны сваю пагнутую бляшанку.— Я хутка: раз-два!

Шафёр пабег, пазвоньваючы бляшанкай, і ўсе тыя байцы, што сядзелі на бартах, праводзілі яго сумнымі і безнадзейнымі позіркамі.

— Цяпер будзем загараць,— прамовіў сляпы баец.

— Ціха вы! — загадала яму Зіна.— Трэба зрабіць усё, каб не стаяць тут доўга.

Яна рухава саскочыла з барта, выйшла на сярэдзіну дарогі і пачала настойліва спыняць грузавікі. Амаль усе шафёры спыняліся, аднак гаручага пакуль што ніхто не даваў.

— А што-б мы рабілі з тым гаручым,— усё-ж не ўстрымаўся сляпы баец,— калі-б нам яго і далі? Хіба вы — шафёрка?

— Я шафёр, — раптам заявіў адзін з тых байцоў, што сядзелі на краі кабіны.

— Рукі і ногі ў цябе цэлыя? — спытаў сляпы баец.

— Рукі цэлыя,— адказаў той,— і нага адна дзейнічае. Зіна! — звярнуўся ён да дзяўчыны адразу па імю. — Паглядзі там, шафёр пакінуў ключы ці не?

— Пакінуў,— адказала дзяўчына, зірнуўшы ў кабіну.

— Значыць, паедзем.

І яны, канешне, паехалі-б, дагналі-б недзе свайго чубатага шафёра,

каб у гэты час не з'явіліся над шашою варожыя самалёты. Усе байцы, хто хоць трохі мог варушыцца, пачалі саскакваць, а то проста звальвацца з машыны. У кузаве застаўся толькі той чарнявы юнак з перавязанай галавою, ды яшчэ некалькі байцоў, вельмі цяжка параненых. Зіна паспрабавала высадзіць і іх, з усёй сілы дапамагала ёй Святлана, але дваім ім цяжка было спусціць на зямлю амаль што нерухомых байцоў. Тады падняўся з кювета і на адной назе прыскакаў да машыны той баец, што назваўся шафёрам. Спрытным рухам працавітых рук ён апусціў задні борт. Падбег яшчэ адзін вайскавік, з падвязанай рукой, з двума трохкутнікамі на пятліцах, і яны ўдвух пачалі прымаць на рукі тых пакутнікаў, якія самі нават паварушыцца не маглі.

Самалёты ўжо раўлі над самай шашою і над вёскаю, куды чубаты шафёр пайшоў шукаць бензіну. Вайсковыя машыны віхрам праносіліся міма заглохлага і быццам ужо нікому непатрэбнага грузавіка. Шафёры выціскалі з іх апошняе, каб хутчэй ускочыць у вёску, а там дзе-небудзь прытуліцца, навясці маскіроўку. Святлана з жудасцю наглядала, як некаторыя байцы на хаду выскаквалі з машыны, перакручваліся па некалькі разоў на адкосе, а потым знікалі ў быльняку ці прыдарожным жыце. Яе вельмі цягнула бачыць, ці застаюцца яны жывымі, таму пры набліжэнні кожнай машыны яна ўзнімала ґалаву з кювета, і Зіна моўчкі прыціскала дзяўчынку да зямлі.

Фашысцкія сцярвятнікі пачалі рабіць залёты на шашу, спускаліся зусім нізка і білі па машынах з кулямётаў. Святлана прытулілася да сваёй старэйшай сяброўкі і пры кожным выбуху бомбы ўздрыгвала, хапалася рукамі за галаву. Ёй здавалася, што ўсе самалёты віселі якраз над яе галавою і вельмі добра заўважалі яе крэмавую павязку, яе святочную сукенку, таксама светлую, толькі ў малінавыя палоскі. Цяпер дзяўчынцы ўспаміналася, што калі яна спала ў штабе, на мяккай татавай канапцы, у сне чулася такая-ж самая траскатня, гул і шум, але тады нават і не снілася, што гэта вайна. Хто яе ведаў, якая гэтая вайна, хоць бацька дома і многа гаварыў пра яе.

Вельмі-ж боязна было, каб не выцяла што па галаве. Галава і так баліць, і на ёй ужо, мабыць, не будуць расці валасы. А ў таго чарнявага хлопца, што ляжаў ля кабіны, напэўна, яшчэ горш баліць галава. Дзе гэта ён цяпер? Там, дзе мы яго паклалі, у кювеце, ці можа адпоўз куды? Хоць-бы на дарогу не выпаўз, шукаючы паратунку ад болю. Нешта-ж не чутно яго стогнаў.

Святлана пачала думаць пра тых байцоў, якіх яны нядаўна знялі з машыны, пра тых, што пападалі тут на поўным хаду і недзе ляжаць цяпер ля дарогі, жывыя ці нежывыя. А колькі машын пайшло далей! Яны недзе ў вёсцы. Ляжаць на іх вось такія, як наш чарнявы, і з моманту на момант чакаюць смерці. Наўрад ці памог ім хто хоць як-небудзь зваліцца з кузава, бо не на кожнай-жа машыне едуць такія харошыя дзяўчаты, як наша машыністка.

Думкі пра іншых крыху супакоілі Святлану, у яе пачала з'яўляцца ўпэўненасць, што хутка ўсё скончыцца, што ніякі асколак яе не зачэпіць. Нават боль стаў нібыта меншы. Пройдзе яшчэ трохі часу, і ўсё загоіцца, бо Зіна вельмі добра перавязала ранку. І валасы будуць расці, як і раней.

Уявілася, як хутка пачнуць вылазіць з кювета і выпаўзаць з жыта пасажыры той машыны, што стаіць і чакае ўсіх на шашы. Два хлопцы, адзін аднарукі, а другі аднаногі, дапамогуць Зіне пакласці ў кузаў

цяжка параненых, прыбяжыць з вёскі чубаты шафёр і паедуць яны ўжо без усякіх перашкод аж да самага шпіталя. Сляпы кавалерыст будзе жартаваць у дарозе, а Зіна, магчыма, дазволіць распытаць у яго пра наш вайсковы гарадок.

Такімі былі святланіны ўяўленні. А калі гул самалётаў аддаліўся і Зіна сказала, што ўжо можна выходзіць на шашу, усё паўстала зусім іншым. Машына была нібы і цэлая, але на ёй не было капота, радыятара і стаяла яна значна ніжэй, чым раней, бо ўсе скаты былі прастрэлены. Аднаногі шафёр выкульгікаў з жыта на дарогу, агледзеў грузавік і безнадзейна махнуў рукой.

* * *

У першыя гадзіны Зіна ўсё яшчэ спадзявалася на нейкую магчымасць паехаць далей: чакала шафёра з гаручым, хоць няпэўна, але верыла, што чалавек знойдзе нейкую раду з машынай. Не здолее паставіць на ногі гэтую, дык, магчыма, адшукае другую. Але не прыйшоў шафёр у той адвячорак пасля налёту, не прыйшоў і ноччу, і на другі дзень. Хто ведае, што здарылася: можа раніла ці забіла чалавека, а можа не захацеў ён звязваць свой лёс з гэтымі параненымі, па сутнасці бездапаможнымі людзьмі, сеў на другую машыну і паехаў.

Нажаль, гэтак-жа паглядзелі на абставіны і некаторыя іншыя з тых, каго вёз чубаты шафёр. З усёй групы хадзячых хворых засталіся ў жыце пры цяжка раненых толькі той аднарукі, што меў два трохкутнікі на пятліцах, ды шафёр, хоць ён някепска мог кульгікаць на адной назе. Астатнія прыцёмкам падаліся на шашу і рушылі ў напрамку вёскі. Застаўся, праўда, яшчэ сляпы кавалерыст, але-ж гэты без павадыра не здолеў-бы і двух крокаў ступіць.

Першы дзень жылі амаль што зусім пры дарозе. Зіна прынесла з вёскі рыдлёўку, выкапалі шчыліну, каб хавацца ад налётаў. Прынесла яна таксама трохі спірту, што выпрасіла ў людзей. Удваіх са Святланай яны прамылі раны і налажылі новыя бінты ўсяму свайму шпіталю. Сляпы кавалерыст, калі яму добра працёрлі вочы, пазнаў Святлану. Выявілася, што пашкоджаны ў яго былі не самыя вочы, а ўсё надброўе і часткова павекі. Чалавек проста разануўся недзе, калі вылятаў з канюшні разам з коньмі, з цаглінамі падмурка і драўлянымі бэлькамі. Зразумеўшы, што сляпым ён не будзе, кавалерыст так павесялеў, што жартаваў нават і тады, калі ніякія жарты былі не да часу. Шпіталь таксама весела прыняў яго хуткую папраўку, бо ў лагеры прыбаўляўся яшчэ адзін працаздольны і вельмі карысны чалавек. Баяліся, праўда, каб ён не даў маху з жыта, як зрабілі некаторыя яго суседзі па кузаву. Аднак-жа ўсе хутка ўпэўніліся, што кавалерыст — чалавек не такі.

Увесь той дзень гурчалі на дарозе машыны, тарахцелі падводы, ішлі і беглі людзі. Зіна раз-по-раз выходзіла на шашу, галасавала, упрошвала шафёраў узяць раненых байцоў. Мала хто спыняўся, заўважыўшы яе паднятую руку, а калі і спыняўся, то рабіў спачувальны выгляд, паказваў на свой кузаў і зноў паспешліва ўключаў матор. Пад вечар яны выйшлі на дарогу ўчацвярых: кавалерыст, якога ўжо ўсе ў лагеры звалі Грыцком, аднарукі камандзір аддзялення, Зіна і Святлана. Яны амаль сілай пачалі спыняць машыны. Адзін чалавек у цывільнай вопратцы сам пачаў тарабаніць свайму шафёру, калі ўба-

чыў наперадзе такую грозную заставу. Ён стаяў у кузаве ля кабіны і прытрымліваў за вераўчаны залыгач карову.

— У чым справа, таварышы? — гучна спытаў чалавек. — Пад'ехаць хочаце? Дык недалёка еду, усяго якіх вярстоў пяць. Раненых? Не, раненых не магу. Вось дзевачак можна падвезці, калі хочуць.

Грыцко і камандзір аддзялення сталі на падножку каля шафёра:

— Калі толькі рушыш без майго дазволу — аглушу дурня. Бачыш, што гэта? — І Грыцко паказаў шафёру камень.

— Дык можа так рашым, — пайшоў гаспадар на хітрыкі, бачачы, што цяпер яму ўжо адсюль не ўлізнуць. — Я даеду вось да гэтай вёскі, згружу там усё, а тады прыгазую па вас.

— Прыгазу-уеш, — недаверліва паўтарыў Грыцко.— Дурняў знайшоў.

— Ды што вы, таварышы, — пачаў абурацца гаспадар, — за каго вы мяне прымаеце? Сказаў, што падвязу, значыць падвязу. Недалёка, праўда, бо гаручага мала, але падкіну кілометраў за дзесяць.

— Ну, паехалі! — раптам загадаў Грыцко. — Няма часу таргавацца. Я правяду вас да вёскі і разам вернемся. Паехалі!

Ён глянуў на шафёра, і той уключыў матор, не чакаючы каманды гаспадара.

Шчуплы ў постаці і вельмі сталы і валявы з твару камандзір аддзялення адразу саступіў з падножкі. Ён, вядома, згадзіўся з рашэннем Грыцка, хоць у душы трошкі сумняваўся, што ўсё гэта пойдзе на карысць. Угаворыць гаспадар кавалерыста, і яны драпануць адсюль разам. Зіна, чамусьці, больш давярала Грыцку, але і яе трошкі збянтэжыла гэтае яго раптоўнае рашэнне.

Вярталіся ў свой лагерок з нейкай надзеяй і з трывогай у душы. Усе трое разумелі, што гэта была апошняя спроба паехаць, дабрацца да шпіталя. Пачынала цямнець, ноччу машыны ідуць без фар і ніводная не спыніцца, хоць нават ляжаш на дарозе. А заўтра... Хто ведае, што будзе заўтра.

— Гэта шуркін бацька паехаў, — задумліва сказала Святлана. — Шурка з мамаю ў кабіне сядзела, і калі хацела загаварыць са мною, дык мама сціснула яе за руку.

— Чаму-ж ты сама не загаварыла? — крыху здзіўлена спытала Зіна.— Знаёмыя людзі. Яны ўзялі-б цябе, і можа так было-б лепш.

— Я не хацела з імі ехаць,— упэўнена сказала дзяўчынка.

Прыдарожны лагер чакаў сваіх пасланцоў цяпер з асаблівай нецярплівасцю. Усе параненыя, нават і тыя, каторыя адчувалі сябе вельмі дрэнна, разумелі, што нейкі паратунак павінен быць знойдзены толькі сёння. Кожны раз, калі Зіна адыходзіла на дарогу, яны праводзілі яе шчырымі даверлівымі позіркамі, а потым чакалі з хвіліны на хвіліну. Апошні выхад чацвярых яшчэ больш абнадзеіў іх, і тут ужо кожная хвіліна здавалася гадзінай. Усе верылі Зіне, спадзяваліся на яе, бачылі ў ёй свайго збавіцеля ад пакут, а то можа і ад смерці. Калі сёння Зіна нічога не даможацца, калі яе старанне не прынясе дабра, дык што будзе далей, што чакае ўсіх наперадзе? Харчоў амаль што няма — рэдка хто паспеў у трывозе падрыхтаваць рукзак. Вады таксама няма. А што ўжо гаварыць аб нейкім лячэнні, аб бінце, аб медыкаментах?

Даведаўшыся, што Грыцко паехаў на падножцы грузавіка з кароваю і павінен хутка прыехаць назад, лагер крыху павесялеў, а кульгавы шафёр пачаў запэўняць, што ён даедзе на гэтым грузавіку хоць да самай Масквы і кожнага давязе, куды трэба. Папрасілі Машкіна (такое про-

звішча насіў шчуплы камандзір аддзялення) пайсці на дарогу падзяжурыць, каб адразу-ж даць знаць, як толькі пад'едзе Грыцко.

Аднак праходзіла гадзіна, другая, а машыны ўсё не было. Ужо ўсё ў лагеры было падрыхтавана да хуткай пагрузкі, шафёр нават змайстраваў насілкі для пераноскі ляжачых хворых, а ад Машкіна ніякага сігналу. «Збег Грыцко, — пачалі падумваць некаторыя, — выкарыстаў зручны момант».

Ужо і Зіна стала хвалявацца, ужо і ў яе пачалі з'яўляцца трывожныя думкі наконт кавалерыста, але ў гэты час прыбег у лагер Машкін, сеў на снапку зялёнага жыта побач з Зінаю і, аддыхаўшыся, сказаў:

— Па-мойму, сябры, гэта немцы!

Усе, хто мог, паднялі галовы.

— Я доўга ляжаў у разоры,— працягваў камандзір аддзялення, — хацеў упэўніцца. Спачатку праехалі матацыклісты. Цёмначы не разбярэш, я яшчэ сумняваўся. А потым пайшлі бронемашыны, і я ўбачыў: тэхніка не наша, людзі не нашы. Значыцца, нас ужо абышлі.

— Будзем сядзець тут, пакуль цёпла і за шыю не лье,— паспрабаваў пусціць жарт шафёр. Але ніхто не падтрымаў яго жарту, ніхто нават не глянуў у яго бок. Многім успомнілася, што сапраўды з гадзіну таму назад быў нейкі злавесны перапынак на шашы: не чутно было гулу машын, людского гоману, тарарахкання перасохлых калёс. Мабыць, апошнія з нашых адышлі, а ворагі яшчэ не прыйшлі.

Зіна тут ужо не ведала, што і сказаць, за што брацца, якімі парадамі падтрымаць хворых. Ёй так цяжка стала на душы, што цямнела ў вачах, яна неяк аж спалохалася, уявіўшы ўсё тое, што адбылося. Пакуль за спіною былі нашы часці, пакуль на граніцы,— яна ведала,— ішло гераічнае змаганне, пакуль той полк, у штабе якога яна служыла, быў яшчэ на сваім месцы і таксама вёў барацьбу з ворагам, жыла ў сэрцы нястрымная воля змагацца, перамагаць усялякія цяжкасці, смагнуць без вады, галадаць, стаяць пад кулямі і пад бомбамі, каб толькі хоць чым-небудзь дапамагчы фронту, тым байцам, якіх яна бачыла кожны дзень. А калі за спіною — страшна падумаць!—ужо нічога няма; калі вораг ступіў на нашу зямлю, заняў той цудоўны лясок каля таго горада, які за апошнія гады стаў яе родным, зайшоў у зялёныя вуліцы, забрудзіў пэўна той маленькі, абвіты плюшчам домік, дзе засталася яе матуля! Цяпер на момант здалося, што быццам знік увесь сэнс змагання, што рукі пачынаюць апускацца і язык не варочаецца, каб суцешыць тых бездапаможных людзей, якія моўчкі ляжаць перад вачамі. Святлана таксама адчула нешта горкае, незвычайнае і пачала яшчэ цясней туліцца да Зіны.

Цяжка застагнаў чарнявы баец, і Зіна кінулася да яго. У супакойванні хворага быццам-бы лягчэй ішоў час, аднак на душы мацнела адчуванне нейкай безвыходнасці: не дапаможаш параненаму байцу, як не дапаможаш ужо цяпер свайму гораду, сваёй роднай маці. Не хопіць сілы ў цябе на гэта, не хопіць вытрымкі, бо цяжкасці перад табою жудасныя і неадольныя. Шэптам Зіна пытала ў байца, што яму даць, як зрабіць палёгку. Па сутнасці-ж, яна нічога не магла зрабіць, але шаптанне гэтае давала нейкую магчымасць абдумваць становішча, пакуль усе лічылі, што яна вельмі занятая. Астатнія байцы таксама быццам-бы ўсё забылі з-за стогну чарнявага суседа. Адны трывожыліся, што гэтае стагнанне могуць пачуць немцы, другія проста спачувалі таварышу.

І кожны ў гэтыя хвіліны думаў: што-ж будзем рабіць, калі гэты хлопец перастане войкаць і перакочвацца з месца на месца, што скажа Зіна, ці знойдзе яна хоць які-небудзь паратунак?

Толькі Зіна адышлася ад хворага, як у жыце нешта зашамацела. Гэта яна пачула адразу, але не паверыла сабе. У такім душэўным стане можа і ў галаве зашумець. Глянула на байцоў, ажно-ж і тыя насцярожыліся. Машкін лёг, як лажацца для стральбы, і здаровай рукой выняў з кішэні нож. Пачалі варушыцца і шукаць нечага ў кішэнях і пазухах і некаторыя іншыя байцы. Шафёр выцягнуў з кірзавага галяніішча ручную гранату.

— Што гэта, Зіначка?— пачала ціхенька плакаць Святлана. А Зіна і сама не магла нічога сказаць, толькі ў яе чамусьці зусім не было страху: няхай будзе, што будзе, абы хутчэй які канец.

Шалясценне ў жыце пачулася зусім блізка, і нехта да шэпту прыцішаным голасам спытаў:

— Дзе вы тут, братва?

Машкін усхапіўся на ногі.

— Ні д'ябла не бачу вас тут,— працягваў той-жа голас ужо крыху мацней.— Пахаваліся, начлежнікі бісавы.

— Грыцко! — ледзь не крыкнуў ад радасці Машкін і, сагнуўшыся, шуснуў у жыта яму насустрач.

Кавалерыст выйшаў на прагалачак, дзе ляжалі хворыя, сеў на снапок побач з Зінай і выняў з кішэні свой бінт.

— Прашу прабачэння, доктар,— звярнуўся ён шэптам да дзяўчыны,— прымайструйце мне гэтую павязку зноў.

— А нашто-ж вы яе знялі? — сапраўды як доктар спытала Зіна.

— Замінала яна мне, лоб Гітлеру паказвала ў цемнаце.

Зіна ўзяла са свайго невялічкага запасу чысты бінт і калі стала перавязваць Грыцко, заўважыла, што твар у яго вельмі змрочны і разгублены. «Чаму-ж у голасе гэтага не чуваць? — міжвольна падумала яна.— Не хоча хлапец расхрыстваць сваю душу перад хворымі людзьмі? Можа, гэта і правільна. Так, мабыць, трэба рабіць моцнаму чалавеку».

— Чаму-ж ты без машыны? — спытаў шафёр і, як здалося Зіне, спытаў занадта патрабавальна, нават грозна.

Тут трэба было спытаць, як хлопец дабраўся сюды, як не трапіў у рукі ворагу, а не патрабаваць немагчымага. Але ў шафёра была, відаць, свая логіка. У больш тонкія пачуцці ён не ўваходзіў, а ведаў адно: узяў баец даручэнне, павінен выканаць. Гэта, па сутнасці, быў загад. І не аднаго чалавека, скажам, камандзіра аддзялення, а вось і Зіны, і Святланы, і ўсіх тых, што ляжаць тут і маўкліва паглядваюць, як Зіна перавязвае Грыцку лоб.

— І вочы мне завяжыце, і вочы! — настойліва зашаптаў Грыцко замест таго, каб адказаць шафёру.

— Навошта-ж гэта? — безуважна сказала Зіна, не перапыняючы сваю справу.

— Каб не бачыць мне, што робіцца навакол, — зусім ціха прамовіў Грыцко. І Зіна адчула, што ні кропелькі жарту не было ў гэтых словах і што яны былі сказаны толькі для яе адной.

Затым хлапец пачаў гаварыць ужо для шафёра і іншых байцоў:

— Пакуль высадзіў я там з кузава гэтую карову, пакуль адбіў атаку гаспадара і асабліва гаспадыні, дык і немцы на вуліцы. Бачу — бяда. Гаспадар спужаўся, пачуўшы пра немцаў, а гаспадыня зусім

звар'яцела: крычыць немым голасам на ўсю вуліцу і гатова горла мне перагрызці за карову. Бачачы, што машыны цяпер ужо не ўзяць, я пачаў націскаць на шафёра, каб ён кінуў усё і пайшоў са мной. Ён чалавек мясцовы, падумаў я, ведае тут усё навакол. Спатрэбіцца нам такі чалавек. Хлапец вылез ужо з кабіны, а тут гаспадынька як кінецца з лямантам на мяне ды аберуч за мой бінт. Сцяміў я тут, што справы мае слізкія: кабетка гэтая хоча і карову сваю даіць і мяне ўпячы Гітлеру ў лапы. Давялося пайсці на грэх: тузануў я яе за кудлы, ды так з тымі каўтунамі, што засталіся у руцэ, і падаўся ў вішняк. Пакуль яна там галасіла, я ўжо на загуменнях быў. Праскочыў на чацвярых у жыта і іду сабе ціхом паўз дарогу. Жыта добрае тут, мне, як чалавеку нізкарослаunion, дык і прыгінацца асабліва не трэба было. Іду, а па шашы Гітлер прэ. Ён, нечысць, туды, а я назад, насустрач яму. І радасна мне на душы, што не ўцякаю ад яго, і страшнавата трохі.

Шафёр больш не задаваў Грыцку пытанняў, ды не было патрэбы яшчэ пра што пытацца. Зварот кавалерыста ў лагер вельмі крануў усіх байцоў. Хоць канкрэтна ён нічым не дапамог лагеру, хоць і цяпер яшчэ не было вядома, што рабіць, як ратавацца, але ў кожнага на душы з'явілася нейкае прасвятленне. Грыцко дапамог ужо тым, што прыйшоў сам.

— Дарэмна, выходзіць, я насілкі майстраваў,— толькі і сказаў шафёр.

— Насілкі якраз спатрэбяцца,— задумліва прамовіў Машкін.—Баюся, што мала будзе адных.

Нейкую хвіліну ў лагеры панавала цішыня, быццам кожны абдумваў сваю важную прапанову. Ніхто пакуль што не мог сказаць нічога пэўнага, аднак усім было ясна, што перш за ўсё трэба адысці ад дарогі, бо да раніцы на гэтым месцы заставацца нельга.

— Пайсці нам са Святланай у вёску,— нібы сама з сабою пачала разважаць Зіна.— Паспрабаваць там знайсці людзей, каб пусцілі ў якую пуню, дапамаглі перанесціся? Але-ж дваццаць чалавек... Хто гэта пусціць?

— І Гітлер у вёсцы,— дадаў Грыцко.

— У вёску наўрад ці можна,— усумніўся Машкін, і яго падтрымалі амаль усе байцы.

— Тады трэба выбіраць месца пакуль што тут,— сказала Зіна і неяк асабліва ўважліва паглядзела на Грыцка. Ёй было няёмка перад гэтым байцом. Хлопец можа нават малодшы за яе, нізкаросл, несамавіты на выгляд, а вытрымка ў яго такая, што кожны можа пазайздросціць. Дзяўчыне падумалася, што яна ўжо больш ніколі не гляне на свет так, як паглядзела некалькі хвілін таму назад.

Машкін устаў.

— Пайшлі!— сказаў ён шафёру, мабыць не жадаючы турбаваць Грыцка, як чалавека, напэўна, стомленага. Але Грыцко ўстаў хутчэй за шафёра, і ўтрох яны пайшлі выбіраць больш зручнае месца.

Над палеткам спусцілася ноч. Цёплая, кароткая, але густа-цёмная і крыху вільготная. Дзіўна было тое, што ноч прынесла і цішыню, хоць не надта ўтульную, ненадзейную, але ўсё-ж-такі цішыню. Нават на шашы стала спакойна.

Зіне не верылася ў гэтую цішыню, усё ёй здавалася, што гэта зман, што ў такі суровы час не можа быць цішыні ніколі, нават у самую глыбокую ноч. А Святлана нібы і чакала гэтага спакою: яна прыхінулася

да Зіны, падагнула ледзь не да барады голыя каленкі і заснула. Адзін баец, паранены ў нозі, клапатліва заварушыўся, выцягнуў з-пад сябе шынель і накрыў ім дзяўчынку.

— Дзякуй вам,— сказала Зіна,— але-ж можа вам самім будзе холадна.

— А я вось саломкі пад сябе,— сказаў баец і працягнуў руку, каб вырваць некалькі жменяў зялёнага, але ўжо каласістага жыта.

— Я вам памагу,— сказала Зіна і асцярожна стала адхіляцца ад Святланы, каб пакласці яе галаву на снапок. Падаўшыся крыху ўбок, яна аберуч пачала рваць пругкае, але ласкавае, бо ўжо крыху роснае жыта. Некаторыя каліўі перагіналіся ў яе пальцах і заставаліся ў руцэ без кораня, большасць-жа вырывалася з коранем. Ад карэнняў пахла свежай зямлёй (які прыемны і знаёмы з дзяцінства быў гэты пах!), а зламаныя каліўі таксама пахлі, ды так, што хацелася ўдыхаць іх водар, глытаць яго, як ваду ў вялікую смагу.

— Я вам дам ножык,— прапанаваў баец. І голас яго быў ласкавы, спагадлівы. Відаць і да яго дайшоў гэты жыватворны пах, відаць і яму прынёс ён успаміны пра ўсё лепшае, што было ў дзяцінстве, у раннім юнацтве.

Зіна пачала зразаць каліўе ножыкам, і выходзіла ў яе нейкае цудоўнае і зусім незвычайнае жніво. Ціхі шоргат гэтага жніва радаваў душу, падаваў, здавалася, яшчэ больш прыемны пах. Хоць і шкада было зялёнага жыта, але хацелася зжаць яго больш. Гэта, мабыць, для таго, каб падмякчыць пасцель не толькі вось гэтаму байцу, які сам праявіў чуласць і размаўляе так ласкава, а і ўсім астатнім. Вядома, для гэтага. Але-ж было тут і нешта іншае. Каму не па сэрцу ў цяжкую гадзіну хоць на момант забыцца аб усім тым, што бачыш навакол, што гняце тваю душу? Жніво для Зіны — гэта ледзь не самае светлае, што засталося ў яе памяці з дзіцячых год, ледзь не самае чароўнае. Жніво для яе — гэта нават была і не работа, а толькі асалода, не той занятак, ад якога баліць і ные спіна, а суцэльнае харастве і ўцеха. Дзяўчынцы мала даводзілася і нагінацца, калі яна вучылася жаць. Нават і на той неўрадлівай палосцы, якую меў тады зінін бацька, жыта расло вышэй за яе. Яна жала заўсёды побач з матуляй. Бацька прыходзіў к поўдню, зносіў снапы і састаўляў іх у бабкі або ў мэндлікі і ішоў на іншую работу. Зіна ведала, што ішоў ён не на сваю работу, а на панскую, бо са сваёй палоскі нельга было пракарміцца. Ведала, што польскія паны маглі пакрыўдзіць тату, маглі замучыць яго на рабоце, і таму заўсёды з трывогай і ўцешнай надзеяй чакала вечара, калі бацька зноў прыйдзе на поле і зноў пачне насіць снапы. Любіла Зіна глядзець, як бацька зносіў снапы. Сама яна, калі і падыме, бывала, адзін сноп, дык ледзь цягне яго перад сабою, — каласы абіваюцца аб іржышча. А бацька адной рукой ускідае снапы на плечы так лёгка, нібы гэта якія лялькі, а не снапы, абкладзецца гузырамі, што і сам не відзён. Крочыць тады бацька, падобны на жытнюю капу, і здаецца Зіне, што няма на свеце чалавека больш дужага, больш здатнага да працы.

Калі-б толькі не прыходзіў бацька на поле, заўсёды дзяўчынцы рабілася надзвычай весела. Радасць брала, калі ён хоць на хвіліну садзіўся на сноп, закурваў або палуднаваў разам з імі: еў спелыя вішні з хлебам. І гэтак усюды, і гэтак кожны раз было з бацькам весела і радасна. Цяпер Зіне часта ўспамінаюцца тыя часы дзяцінства, і амаль заўсёды здаецца, што яно было напоўнена чаканнем бацькі. Спачатку яна яго чакала на полі, дома з работы, з адыходных заработкаў, а потым з поль-



Л. Роберман. **Янка Купала (1900 г.).** Бранзіраваны гіпс (экспанат Літаратурнага музея Янкі Купалы).



С. Ф. Нікалаеў, народны мастак БССР. Эскіз дэкарацыі 4-й карціны оперы «Садко».

скай дэфензівы і з турмы, куды забіралі яго пілсудчыкі за падпольную рэвалюцыйную дзейнасць. Раз прычакала, другі раз прычакала, нават і трэці раз прычакала. А чацвёртым разам як узялі, дык гады прайшлі ў чаканні, маці згорбілася і пасівела, дачка за гэты час вырасла, а бацькі ўсё не было. Потым прыйшла па пошце цыдулька, што арыштант Іван Пруднікаў памёр у турме.

Змрочным тады стала ўсё навакол: нямілай была свая хата, чужой і непатрэбнай выглядала палоска, якая да таго часу ўжо амаль зусім перастала радзіць. Узялі тады дачка і маці вялікія кіі ў рукі, павесілі на плечы торбы з сякімі-такімі пажыткамі і пайшлі ў свет. Служылі потым у горадзе ў розных людзей, не цураліся самай чорнай работы. Зіна трохі вучылася пры людзях. Пасля вялікага ўз'еднання яна скончыла курсы машыністак і неўзабаве паступіла на службу ў штаб кавалерыйскага палка.

Незвычайнае начное жніво ўзбудзіла ў зінінай душы вось гэтыя ўспаміны. Чаму-б не паўспамінаць у такую цішыню? Ці доўга яна будзе, ці не парушыць яе што-небудзь нават ужо ў наступную хвіліну?..

Раптам дзяўчыне здалося, што жне яна занадта смела, што складаны ножык, хоць ён і не серп, а рэжа неяк гучна, са скрыгатам. І Зіна спалохалася гэтага скрыгату: а што, калі пачуюць на дарозе, калі пачнуць сюды страляць?

— Хопіць вам ужо,— ціха сказаў ранены баец.

І тады дзяўчына зразумела, што сапраўды пара канчаць жніво. Выцерла палоскай марлі ножык, аддала яго байцу, а сама стала падбіраць сарваныя і зжатыя каліўі. Ці вялікі выйшаў-бы сноп, калі-б усё гэта звязаць?

Баец падклаў пад сябе трохі жыта, а з астатняга зрабіў нешта падобнае на пасцель для Зіны.

— Ляжце адпачніце, пакуль хлопцы прыйдуць, — спагадліва сказаў ён.— Ды вось мой рукзачок. Вазьміце яго пад галаву.

Калі Зіна прымасцілася зноў каля Святланы, баец, уздыхаючы, доўга паглядваў на яе, а потым стаў паспешліва і ўсхвалявана гаварыць, нібы баючыся, што дзяўчына хутка засне і не пачуе яго слоў.

— Там у мяне ў рукзаку — вязанка мяккая... З шоўку, мабыць, з аднаго ці можа трохі шэрсць прымешана. Я збіраўся ўжо ехаць дадому, дык купіў мацеры. Вазьміце, калі ласка, гэтую кофту ды адзеньце.

— Ну, што вы?— здзівілася Зіна.— Гэта-ж падарунак, вы яго абавязкова завязіце сваёй мацеры.

— Дык вам-жа холадна,— з добрай ласкавасцю ў голасе працягваў баец.— От ужо цяпер усё расою прыпадае, а пад дзень можа і зусім прыстудзіць. Вы тады змерзнеце ў такой адзежы, як у вас. А ці адна цяпер такая ноч наперадзе?

— Нічога, не змерзну.— Зіна цясней прытулілася да Святланы.— Вось мы ўдваіх вашым шынялём накрыемся, а там я што-небудзь дастану ў вёсках: свет не без добрых людзей.

— Я вас вельмі прашу,— ледзь не з крыўдай пачаў гаварыць баец.— Да мацеры цяпер ужо мне не даехаць, хоць і білет у кішэні і дакументы, што адслужыў свой тэрмін. Мне хочацца зрабіць вам гэты падарунак, усё роўна, як сваёй мацеры.

Зіна пакуль што нічога не адказвала. Ёй здалося, што ўсе байцы слухаюць іхнюю гэтую, магчыма, залішне інтымную размову, а каму гэта трэба — да аднаго адносіцца лепш, як да ўсіх астатніх. Цяпер трэба

было любіць і паважаць усіх аднолькава, быць для ўсіх шчырым таварышам, сястрой. Аднак калі Зіна прыслухалася, то заўважыла, што ўсе байцы, у тым ліку і цяжка хворыя, спяць. Ціхая летняя ноч, напоўненая пахам малочнага жыта, зняла з іх сэрцаў хваляванні і трывогі, зняла нават боль з ран.

— А вам далёка трэба было ехаць?— спытала Зіна, калі ўпэўнілася, што ніхто лішні іх не слухае.— Адкуль вы родам?

— Ды яно і недалёка, калі ехаць,— з радасцю, што ўзнавілася размова, адказаў баец.— А калі ісці, то наўрад ці хопіць ног. З нашага Палесся я, з вёскі Забалоцце. Можа чулі пра такую?

— Не чула,— з павагай да шчырасці байца адказала Зіна,— але рада, што вы адтуль.

— Чаму?— у голасе байца адчулася здзіўленне.

— Зямляк мой,— задаволена сказала Зіна,— гэта па-першае, а па-другое — блізка вам да родных мясцін. Усё-ж-такі гэта прыемна.

— Дык і вы адтуль?— баец ужо не толькі здзівіўся, а і ўзрадаваўся.

— Я не адтуль,— нібы з жалем, што сапраўды не адтуль, сказала Зіна,— але-ж і ў такіх выпадках байцы завуць адзін аднаго землякамі. Я з-пад Брэста.

— Дык вядома землякі! — ледзь не ўскрыкнуў баец. — З адной рэспублікі, значыць і землякі.

Ён памаўчаў з хвіліну, а потым яшчэ больш шчыра і па-сяброўску папрасіў:

— Дык вазьміце маю вязанку, зямлячка.

Вярнуліся хлопцы з свае першае разведкі. Грыцко сказаў Зіне, што тут непадалёку за жытам знайшлі хмызнячок. Расце там ядловец, маладая алешына, крушыннік. Ёсць месцамі мох. Збоку ад дарогі — балотца, і ідзе яно далей, аж на той бок хмызнячку. Да ўсходу сонца трэба туды перабрацца.

Невялічкі лагерок адразу прачнуўся. Сталі вызначаць, каго несці на насілках, каму дапамагчы рухацца сваім ходам, а хто можа хоць як-небудзь і колькі-небудзь прапаўзці.

Апошнім неслі чарнявага байца, параненага ў галаву. Недзе каля сярэдзіны дарогі ён раптам падняўся на насілках, закрычаў, замахаў рукамі. Святлана спужалася яго крыку і ледзь не кінула кончык насілак, за які трымалася, ідучы побач з Грыцком. Трымалася яна, каб дапамагаць Грыцку, а Грыцко прымаў яе дапамогу толькі для таго, каб дзяўчынка не згубілася ў цемры. Чарнявы баец раптам змоўк, адкінуў на насілкі забінтаваную галаву і пачаў часта, роспачна ўздыхаць.

— Куды вы мяне нясеце, браткі?— жалліва спытаў ён.

Зіна, ідучы з Машкіным наперадзе, прыпыніла крок, аглянулася. Яна ўпершыню пачула гаворку гэтага байца і ўзрадавалася, што, магчыма, яму стала лепш. Яна паімкнулася загаварыць з хворым, але Грыцко апярэдзіў яе.

— У шпіталь едзем, — сказаў ён спакойным голасам, — у шпіталь, браце.

— Не трэба мяне нікуды несці,— стаў прасіць хлапец,— не трэба мучыцца. Усё роўна ўжо...

І пасля гэтага ён зноў прыціх. Зіна чакала, што баец скажа яшчэ што-небудзь, але ён пачаў стагнаць цяжэй, як раней.

— Мабыць не ачуньваюць людзі, калі іх параніла ў галаву?— задумліва прамовіла Святлана.

Грыцко адразу адказаў:

— Самая цяжкая рана — гэта ў жывот, а ў галаву нічога. Галава ў чалавека моцная.

— Калі і выжыве,— працягвала Святлана,— то можа калекам застацца: уздурнее або яшчэ што...

— Хто?

— Ну вось ён.

— Нічога кепскага з ім не будзе,— упэўнена сказаў Грыцко.— Бывала мы на скачках колькі разоў пералятаі цераз галовы коней і чорт нас не браў: цэлымі заставаліся і мазгі варылі.

— Дык то на скачках,— не згаджалася дзяўчынка.

— А што на скачках?— пачынаў ужо ісці на спрэчку Грыцко.— Ты яшчэ не ведаеш, што часам бывае на скачках. Бывае там горш, як на фронце. Аднаго разу наш камандзір узвода Бандарэнка так грымнуўся разам з канём, што думалі — канец. А паляжаў крыху ў санчасці і ўстаў. Каня больш лячылі, чым яго.

— «Лютага»? — нясмела спытала дзяўчына.

— Не, тады ён быў на другім кані. «Люты», ого! «Люты» не спаткнецца. У яго ногі, як у чорта. Хату пераскочыць і не пачуеш, седзячы на ім. Ты, нябось, часта ўспамінаеш «Лютага», га?

Святлана маўчала, Грыцко адчуў, як пры яго пальцах задрыжала яе рука.

— Чаму ты нічога не кажаш?

Дзяўчынка ўздыхнула і прызналася, што Зіна просіць не распытваць пра вайсковы гарадок.

— Гэта яна баіцца, — сказаў Грыцко. — А чаго тут баяцца? Я вось таксама ўсё не мог з табой пагаварыць, хоць адчуваю, што ты чакаеш гэтага. Гарадка ўжо няма, вядома, а людзі ёсць. Людзей нашых не так лёгка знішчыць. Твой бацька, напрыклад, жыў і здароў. Сам бачыў, як ён лётаў на кані між казармаў і аддаваў распараджэнні. Бачыў, пакуль разанула мне па вачах, а потым чуў яго голас. Ты надта не бойся за свайго бацьку. Чалавек ён смелы, адважны, а смелых і кулі не бяруць. Помніш Чапаева?

— А Бандарэнка як?— ціха спытала дзяўчынка.— Ці не бачылі вы Бандарэнкі?

— Як-жа не бачыў,— ахвотна пачаў расказваць Грыцко.— Разам былі. Ты толькі добра трымайся, а то тут ужо няроўна пад нагамі: жыта скончылася. Бярыся за маю руку, калі хочаш. Разам мы былі з камандзірам узвода, і абодвух нас адным махам аглушыла. І абодвум нам павязло, трэба сказаць. Мне хлопцы памаглі выбрацца, а Бандарэнку — «Люты». Калі загарэліся канюшні,— гэта мне байцы потым расказалі,— «Люты» сарваўся з прывязі і з дзікім гігатам пачаў насіцца па гарадку, шукаць свайго гаспадара. Байцы злавілі яго, падвялі да параненага Бандарэнкі. «Люты» ўбачыў ляжачага камандзіра, ціха заржаў і апусціўся перад ім на пярэднія калені. Памаглі камандзіру сесці, і «Люты» ўстаў, раздзьмуў ноздры, выцягнуўся і плаўна, але віхрам памчаў на выхад, хоць там рваліся бомбы і ўсё было зацягнута дымам. Вынес камандзіра з агню, а там наша санітарная машына падабрала яго. Машына пайшла па шашы, а «Люты» з усёй сілы пусціўся за ёю. Памчаў так, што толькі і бачылі яго. Так што ты не бойся і за Бандарэнку.

Святлана ішла моўчкі, стараючыся больш глядзець пад ногі, каб не спатыкацца і не штурхаць насілак. Твару яе не відно было, таму Грыцко

не мог вызначыць, паверыла яна яго словам ці не. Яму вельмі хацелася, каб яна паверыла, хоць і цяжка было гаварыць дзяўчынцы няпраўду і шкада было яе за тое, што яна так уважліва слухае і ўся дрыжыць ад хвалявання.

— Дзе-ж цяпер «Люты»?— нібы спытала, нібы так сабе сказала Святлана.

— «Люты»?..— Грыцко быццам не адразу расслухаў пытанне.— Гэты конь не прападзе. Вярнуўся, пэўна, у часць, ваюе цяпер. Такіх коней мала.

Падышлі да балотца, паклалі насілкі на зямлю, таму што Зіне і Святлане трэба было скінуць абутак. Адпачылі хвілінку і пайшлі далей. Шлёпаў Грыцко мокрымі ботамі па балоту і ўсё думаў: добра ён зрабіў, што расказаў Святлане нешта падобнае на байку, ці нядобра? Сам ён быў упэўнены, што і камандзір палка і Бандарэнка загінулі.

* * *

Больш за месяц жылі байцы непадалёку ад дарогі. Спачатку ў тым хмызнячку, куды перабраліся ў першую ноч, а потым знайшлі яшчэ больш зручнае месца. Па дарозе сунулася, плыла фашысцкая зграя. Сунулася яна да таго самаўпэўнена, што амаль не азіралася па баках. Удзень з-за той жытнёвай горкі, што аддзяляла хмызнячок ад дарогі, можна было наглядаць клубы пылу, калі машыны і ўсялякая іншая тэхніка кранала шынамі абочыну. У лясок далятаў лязгат гусеніц і гул матораў. А начамі амаль заўсёды было ціха і быццам-бы нават спакойна. Спакой гэты непакоіў і хваляваў хлопцаў горш, як недалёкія стрэлы, як узрывы бомбаў. Людзі, адарваныя ад усяго свету, ледзь не пазбаўленыя слыху, зроку, руху, палохаліся гэтай цішыні. Нахлыналі цяжкія думкі, з'яўляліся жудасныя здагадкі. Калі ўсюды гэтак ціха, то можа няма і супраціўлення ворагу, можа ўсе нашы байцы ляжаць вось так у розных месцах, хто паранены, а хто забіты, можа ўся наша тэхніка ляжыць вось гэтак-жа на дарогах, як тая машына, на якой яны не так даўно ехалі. Дзе-ж цяпер фронт, куды зайшоў вораг?

У гэтыя зманлівыя па сваёй цішыні ночы, а часам і ўдзень Зіна і Святлана выходзілі з лагера. Зіна завязвала тады чорную хустку, падарунак адной бабулі, каб на людзях выглядаць старэйшай, каб Святлану маглі прызнаваць за яе дачку. Хадзілі яны ў бліжэйшыя вёскі, а іншы раз наведваліся і ў далёкія. Перад некаторымі людзьмі яны былі проста бежанцамі, а перад некаторымі — самі сабой. Толькі яны маглі здабыць для раненых кавалак хлеба і сёе-тое да хлеба, толькі яны маглі знайсці такіх людзей, да якіх можна было потым наведацца Грыцку, Машкіну або шафёру. Праз гэтых людзей іншы раз удавалася ўлавіць якую-небудзь вестку з фронта. Цяжка было верыць ёй, аднак-жа, калі гэта была прыемная вестка, то не трэба было ў той дзень для раненых лепшага лякарства.

У вялікай трывозе і напружанасці праходзілі дні. Тыя, што трымаліся на нагах, і тыя, што павінны былі хутка стаць на ногі, трывожыліся за сяброў, раны якіх не гаіліся. Такога доктара, як машыністка Зіна, мала было для гэтых хворых. Трывога і боль за блізкіх сяброў зліваліся з трывогай і болем за сяброў далёкіх, за родныя хаты, за бацькоў і матуль, за ўсю Радзіму. А становішча ў лагеры ўсё горшала і горшала. Мала таго, што кожную гадзіну трэба было думаць, як хавацца, як здабываць харчы і самыя неабходныя медыкаменты, дык неўзабаве дайшло да таго,

што трэба было і хараніць сваіх сяброў. А хто на свеце быў бліжэй за тых, з кім было пражыта хоць некалькі такіх суровых дзён?

Калі памёр чарнявы баец, ранены ў галаву, Святлана так прыняла гэта да сэрца, што за яе самую станавілася страшна. Спачатку дзяўчынка плакала, а потым стала скардзіцца на боль у галаве. Ёй не толькі шкада было хлопца, якога яна больш за ўсіх даглядала, як магла і чым магла, лячыла,— у яе знікла надзея на тое, што загоіцца свая рана, што не пакіне яна ніякага следу на галаве або нават і ў галаве. Колькі гора было Зіне ад гэтага; колькі гадзін адарваў ад неабходнага сну Грыцко, каб суцешыць дзяўчынку, каб вярнуць ёй хоць трохі спакою.

Што далей, то ўсё больш і больш лагер прымаў абжыты выгляд. Даволі ўтульнымі станавіліся нізкія, добра замаскіраваныя буданчыкі, мякчэлі ў іх пасцелі для раненых. Была зроблена ў зямлі такая печка, дзе на малым агні можна было грэць ваду, сёе-тое варыць, пячы. Быў нават выкапаны свой калодзеж. Але-ж, калі непадалёку з'явілася і свежая магілка, то некаторым пачало здавацца, што ўсе буданчыкі падобны на яе. Потым буданчыкаў станавілася ўсё менш, а магілак больш. Іх цяжка было абысці тым, хто нёс пэўную службу і выходзіў, скажам, па грыбы або па ягады. Адкуль-бы ён ні падыходзіў, усё роўна нейкая сіла натыкала яго спачатку на магілкі, а потым на буданы. Яшчэ цяжэй было ляжаць тут людзям нерухомым, тым, якія яшчэ не ведалі, вылезуць яны калі-небудзь з будана самі ці можа іх вынесуць адтуль. Калі-ж вынесуць, то ўжо вядома куды. Гэтыя людзі не бачылі магілак, але нібы адчувалі іх побач з сабою і па начах снілі або бачылі ў трызненнях тых сваіх сяброў, якія яшчэ зусім нядаўна ляжалі побач з імі.

Спалох смерці вітаў над лагерам, аднак жыццё брала сваё. Як ні цяжка было часам да ўсходу сонца, а першы летні прамень весяліў вочы нават тых, якія мала глядзелі на свет, рассейваў пакутлівыя сны, праганяў галаўны боль у Святланы. І людзі папраўляліся. Магутны арганізм беларуса, зінінага земляка, хутка пераадольваў вялікую знямогу ад ран. Ногі яго паступова выпростваліся, набывалі пруткасць. Грыцко ужо даўно зрабіў яму кастылі, але яны ляжалі пакуль што ля боку хлопца і чакалі свае пары.

— Ты, Міхал, лішне не залежвайся,— часта гаварыў байцу Грыцко.— Ты не думай аб тым, як ты дзе ляжаў і колькі ляжаў, а ўспамінай, як ты на вечарынках аджарваў гапака. Скакаў ты гапака?

— Яшчэ як, — усміхаўся Міхал.

Мабыць ва ўсякім жыцці, нават у самым цяжкім, бываюць свае прасвятленні, свае радасці. Для лагера было сапраўды незабыўнай радасцю тое, што Міхал нарэшце моцна абхапіў рукамі грыцковы кастылі, устаў і хоць з вялікай цяжкасцю, але ступіў некалькі крокаў па траве.

— Лявоніху! — у захапленні скамандаваў Грыцко і, усхапіўшыся, палез у кішэню свайго кавалерыйскага галіфэ па расчоску. Ён зайграў нешта дробнае, нястрымнае і так завіляў сваімі кароткімі, трохі выгнутымі з сярэдзіны нагамі, што нават нежывы не мог-бы ўстаяць.

Міхал скалануў пажаўцелай ад доўгага ляжання ў цяньку галавой, затрос плячамі і паваліўся, як толькі падняў нагу, але смяяўся і лежачы, бо адчуваў, што будзе танец калі не сёння, дык заўтра. Смяяліся і ўсе астатнія.

Шафёр ужо даўнавата перастаў скакаць на адной назе, бо пачала даставаць зямлю і другая. Машкін зняў з шыі павязку,— рука яго ўжо

сама магла апускацца і падымацца. Ачуняла і яшчэ некалькі хлопцаў. У лагерным жыцці не было ўжо тых асабліва цяжкіх гадзін, калі Грыцко, Машкін і шафёр ішлі куды-небудзь па харчы, а Зіна са Святланай заставаліся адны. Усе тут былі кволыя, бездапаможныя. Каб наткнуўся на лагер хоць які-небудзь прыблудны немец, дык і нічога з ім не зрабілі-б, бо ні сілы амаль што ніякай не было, ні зброі. Цяпер хоць нават некалькі байцоў і выходзіла на разведку ці на пошукі харчавання, зброі, усё роўна ў лагеры не было боязна: хлопцы ўжо самі неслі службу, маглі, калі-б на гэта была патрэба, і пастаяць за сябе. З'явілася цвёрдая надзея. А гэта было якраз тое, чаго іншы раз не хапала лагернікам. Набліжаўся канец шпітальнаму жыццю, набліжаўся паход, магчыма цяжкі, самаахвярны, але непазбежны. Набліжалася самая рашучая і бязлітасная барацьба. Усе былі прасякнуты гэтай думкай, гэтай рашучасцю. Падрыхтоўка вялася і днём і ноччу, бо работы было многа. Трэба было любымі намаганнямі стварыць хоць невялікі запас харчавання, вады хаця на першы пераход, а галоўнае — найлепш узброіцца, мець дастаткова боепрыпасаў. Гэтым быў заняты кожны баец, і ўсім прыемна было ад таго, што маленькі лясны шпіталёк, без урача, без спадзяванняў на папраўку паступова ператвараўся ў баявую адзінку.

Перад самым выхадам Зіна са Святланай пайшлі на досвітку ў далёкую дзённую разведку. Ім трэба было выканаць цяпер складаную задачу ўжо зусім вайсковага характару. Неабходна было выведаць, дзе стаяць немцы і дзе іх няма, якімі дарожкамі і якімі сцежкамі трэба прабірацца, каб не наткнуцца на ворага хаця-б у наступную ноч. Уся група чакала ў гэты дзень дзяўчат яшчэ з большай трывогай, як часта Зіна са Святланай чакалі Грыцко ці Машкіна, калі тыя доўга не вярталіся ў лагер. Вядома, што ад гэтай разведкі залежала вельмі многае. Калі пачало хіліцца к вечару, Грыцко ніводнай хвіліны не мог уседзець на месцы: ён усё выцягваўся на сваіх каржакаватых нагах і паверх кустаўя ўглядаўся ў даль. Усе хлопцы больш трывожыліся за Святлану. Яна, яшчэ не зусім здаровая пасля ранення і кантузіі, ды наогул нязвыклая да вялікіх пераходаў, магчыма, прыстала дзе-небудзь на дарозе.

— Не трэба было пускаць дзяўчынку,— нібы сам сабе выказаў думку Грыцко.

— А яна — галоўная разведчыца, калі хочаш ведаць,— не згадзіўся Машкін.— Без яе Зіна ўсяго не выведае ды і засыпацца можа хутчэй. Малое пралезе ўсюды.

— А калі прыстане, то на руках нясі,— не згаджаўся Грыцко.

Шафёр бліснуў сваёй рэдказубай усмешкай.

— Трэба было табе самому пайсці,— сказаў ён Грыцку.— Зняў-бы свае галіфэ, дык якраз за малога сышоў-бы.

— Не балбачы! — агрызнуўся хлопец, а Машкін незадаволена глянуў на абодвух і загадаў:

— Праз гадзіну каб усё было гатова да выхаду! Давайце без лішніх размоў!

Шафёр сеў на пяньчук і стаў моўчкі завязваць свой паходны мяшок, а Грыцко з хвіліну яшчэ ўглядаўся, а потым, нібы хто падпёк яго знізу, падскочыў, на хаду перамахнуў высокі ядлоўцавы куст і памчаў у той бок, куды толькі што глядзеў. Неўзабаве ён вярнуўся з Зінай і Святланай. Разведка прайшла добра, не было нават якіх-небудзь надта складаных перашкод,— толькі стомленасць скавала ногі, ісці далей разведчыцы не маглі-б.

— Адпачніце, — сказаў ім Машкін. — З гадзіну можаце адпачыць, а як толькі змеркне, у дарогу.— Ён, нібы ўпотай, глянуў спачатку на Святлану, а потым на насілкі.

— Мы пойдзем! — упэўнена сказала Святлана, і Машкіну стала няёмка.

— Адпачывайце, — паўтарыў ён, а сам адышоў да буданчыка, дзе ляжалі сабраныя за час лагернага жыцця боепрыпасы.

Грыцко прынёс дзяўчатам па поўкацялка ячнага крупніку. У гэты дзень ён быў дзяжурным па лагеру і сам варыў гэты крупнік, сам потым падтрымліваў у пячурцы цяпло, каб страва не надта астыла. Усе хлопцы ўзяліся за апошняе, што было неабходна перад паходам, — за чыстку і змазку зброі, а Грыцко нечакана для ўсіх выцягнуў аднекуль вялікія, што авечак стрыгуць, ножны, задрынкаў імі, заляскаў аб расчоску і, падышоўшы да пеньчука, падаў голас:

— Хто хоча не прыстаць у дарозе ад цяжасці на галаве і ад свербу, падыходзьце сюды! Пакуль нашы разведчыцы і праважатыя з'ядуць крупнік, абгалю ўсіх не горш як у гарадской цырульні!

Першы падышоў без пілоткі і сеў на пень шафёр. Грыцко загарнуў расчоскай проста ад ілба яго жорсткую рыжаватую чупрыну і лёгка, нібы толькі ўзмахнуўшы ножнамі, зняў яе. Праз некалькі хвілін шафёр трохі нагадваў стрыжанага барана, але быў надта задаволены, паціраў далонямі галаву і ўхмыляўся. Услед за ім сеў на пяньчук Міхал, потым адзін узбек падставіў сваю да бляску чорную галаву, за ім — астатнія байцы. Апошнім падстрыгаўся Машкін, бо ён увесь гэты час быў заняты рознымі падрыхтоўчымі справамі.

— А хто-ж цяпер мяне аголіць?— спытаў Грыцко і, запусціўшы тоўстыя пальцы ў свае злямчаныя валасы, адцягнуў на лоб пасму і адрэзаў.

— Давай я,— падручыўся Міхал.— Ты сам сабе яшчэ вуха адрэжаш.

Астрыгшы Грыцка, Міхал абцёр аб салдацкія штаны ножны, аддаў іх гаспадару, а сам пачаў збіраць у жменю валоссе, што align рознакаляровым дыванам ляжала вакол пня.

— Каб не балелі ва ўсіх галовы,— нібы жартам, нібы ўсур'ёз гаварыў ён, укленчыўшы каля пня, — трэба зграбці ўсё гэта і закапаць. А то калі агледзіць якая птушка ды зацягне ўсё багацце ў сваё гняздо...

— Гэта ты ад сваёй бабкі чуў? — страсаючы з-за вушэй валасяную сечку, спытаў Грыцко. Галава яго пасля стрыжкі зрабілася круглай, як гарбуз, лоб стаў больш высокі, а рот — больш шырокі.

— І ад бабкі,— згадзіўся Міхал,— і ад дзеда.

Гэты хлопец наогул мала калі з кім спрачаўся. Натуры ён быў ціхай і памяркоўнай. Калі не падабаліся яму чые словы, дык ён толькі моўчкі круціў галавой, а ў сварку не лез. Пакуль ён ляжаў амаль заўсёды падагнуўшы ногі, усе думалі, што гэта кволы і маларослы хлопец, а цяпер ён так выпрастаўся, так увайшоў у сілу, што стаў ледзь не вылучацца сярод усіх. Ростам ён быў лічы што на дзве галавы вышэй за Грыцка, статны, спрытны ў рухах. За якую работу ні браўся, яна гарэла ў яго руках. Нават гэтыя валасы збіраў ён так акуратна і хораша, што Зіна міжвольна прытрымала ля вуснаў лыжку з крупнікам і зірнула на яго рукі.

Перад самым адыходам Машкін пастроіў свой атрад. Каманда яго прагучала няўпэўнена, крокі, калі ён прахаджваўся ля строю і аглядаў кожнага байца, былі няцвёрдымі. Мала яшчэ камандаваў Машкін, бо



толькі нядаўна скончыў палкавую школу. Аднак, паколькі сярод раненых ён адзін меў камандзірскае званне, то неяк само сабою выйшла так, што ўсе прызналі яго старшым, і ён ужо даўно нёс на сабе гэты крыж.

З усходу, нібы наўмысля для таго, каб заглянуць хлопцам у твары, каб потым асвятляць ім дарогу, выплыў амаль яшчэ зусім поўны месяц. Забялелі вяршынкі ядлоўцу пад яго святлом, у хлопцаў заблішчалі рулі вінтовак і карабінаў за плячамі, рукаяткі гранат на паясах. А буданчыкі, — тыя буданчыкі, у якіх, як здавалася ўсім, пражыта самая важная частка жыцця, — выглядалі пад месяцам адзінока і сіратліва. Уваходы ў іх былі адкрытымі, адтуль віднелася свежае сена і, напэўна, пахла прывабна і зазыўна. «Перананачуйце яшчэ хоць ночку»,— быццам-бы гаварылі буданы. Зіна, стоячы збоку і трымаючы за руку Святлану, з жалем глядзела на свой нізенькі, надзіва прыгожы і ўтульны буданчык. Колькі мазалёў нагнаў Грыцко, пакуль зрабіў гэты буданчык! Не давядзецца больш у ім начаваць і можа ніколі ўжо не ўбачыш яго, як не ўбачыш свае роднае хаты, свае роднае сям'і. Такія думкі мільгнулі ў дзяўчыны, але адразу і зніклі, бо стала думацца аб тым, што калі-б нават і праз дзесятак год давялося пабываць у гэтых мясцінах, то ўсё роўна ў першую чаргу пацягнула-б да гэтых незабыўных буданчыкаў.

— Развітаемся, сябры, са сваім лагерам,— сказаў Машкін з вайсковай халаднаватасцю, нібы ён не адчуваў у гэты момант таго, што адчу-

вала Зіна і, бадай, усе хлопцы. — Развітаемся таксама з тымі, хто застаўся тут.

Дасюль глядзелі на буданчыкі, на ўсё тое блізкае, дамашняе, што з'явілася за гэты час у лагеры, а цяпер перад зрокам кожнага паўсталі магілы, хоць іх і не відно было адсюль.

— Шагам марш! — скамандаваў Машкін і сам пайшоў наперадзе.

Байцы строем падышлі да могілкаў. На некаторых магілах пачала прабівацца трава, на ёй блішчалі скупыя кроплі расы, а большасць насыпаў яшчэ жаўцела зверху глыбінным жвірам. Байцы знялі пілоткі, застылі ў жалобным страі. Машкін стаў з аднаго боку магілак, Зіна і Святлана — з другога.

Машкін адчуваў, што трэба нешта сказаць, ды не знаходзіў слоў. Адчуваў ён таксама, што не трэба тут доўга стаяць, бо толькі разжалобіш байцоў, аднак не ведаў, колькі часу адвесці на гэта. Стаяў моўчкі, як і ўсе.

Прайшла хвіліна, другая. Цішыня і спакой у ляску, цішыня і поўная нерухомасць у страі. Яшчэ праз хвіліну нехта з байцоў паварушыўся, у яго пад нагою трэснуў сучок. Машкіна гэта падштурхнула падаць каманду, а Зіна гатова была нават падысці да яго ды папрасіць, каб не спяшаўся. Ёй хацелася яшчэ хоць поўхвілінкі пабыць тут. Кожнага, хто тут ляжыць, яна лячыла, кожнага даглядала. Колькі прайшло цяжкіх, пакутлівых дзён, колькі бяссонных начэй. Дзіцячыя слёзы Святланы ліліся над галовамі гэтых байцоў. Ныла сэрца ад таго, што каб было ўсё патрэбнае для лячэння, калі-б была Зіна сапраўдным урачом, то, магчыма, многія з гэтых нежывых стаялі-б цяпер побач.

— Пайшлі, — раптам зусім ціха і зусім не па-вайсковаму сказаў Машкін.

Байцы самі павярнуліся і сталі адзін за адным. Зіна са Святланай выйшлі наперад. Машкін надзеў пілотку, прапусціў паўз сябе маўклівую калону і з сумам падумаў: «Малая ў мяне каманда, вельмі малая. Большасць людзей засталася тут».

* * *

Ішлі байцы доўга і прайшлі, здавалася, нямала, а лініі фронта ўсё яшчэ не адчувалася і ніхто пэўна не ведаў, дзе яна была, гэтая лінія. Ішлі ў большасці выпадкаў начамі, да ўсходу сонца, а ўдзень адпачывалі ў жыце або ў лесе. Хада, такім чынам, была не вельмі спорнай, і выходзіла, мабыць, так, што фронт ішоў хутчэй.

Зіне са Святланай было цяжэй у гэтым паходзе, як усім астатнім. Пасля начных маршаў па лясах, па балотах (добра, калі дарога ляжала праз жыта) дзяўчатам трэба было ўдзень праведваць дарогу на наступную ноч. Яны-ж увесь час выручалі групу і ў самым галоўным, у харчаванні. Маладая бульба-скараспелка ўжо сям-там пракідалася на полі, але-ж не заўсёды лёгка было яе напячы, ды і не працягнеш доўга на адной такой бульбе. Зіна нейкім інстынктам адчувала, да каго трэба зайсці, каб распытаць дарогу, у каго папрасіць чаго-небудзь з харчоў або з адзення. Вясковыя людзі амаль заўсёды даверліва сустракалі яе і дапамагалі, чым маглі. У Святланы была цяпер свая шэрая хустка і нават світка. Праўда, усё гэта хатняга гатунку, але-ж Святлане цяпер і зручней было выглядаць тутэйшай дзяўчынкай.

Аднаго разу (гэта было ўжо больш як праз месяц пасля выхаду групы са свайго шпіталя) байцы спыніліся на адным грудку сярод балота і рашылі дні два адпачыць, агледзецца. На другі дзень пад вечар дзяўчаты пайшлі ў бліжэйшую вёску мяняць на прадукты сякія-такія салдацкія рэчы. Разведчыцы ўжо адзін раз наведваліся ў гэтую вёску, немцаў там не было, дык яны ішлі без асаблівай перасцярогі. Што там за рэчы ў іх былі! Вядома, не каштоўнасці якія-небудзь, а тое, што байцы з апошняга маглі адарваць ад сябе: некалькі пар ануч, некалькі ўціральнікаў. З пустымі рукамі цяжэй было хадзіць сярод белага дня, ды і выпрошваць у людзей не надта лёгка. Лепш ужо, вядома, прапанаваць мяну якую-небудзь, тым больш, што шлях групы ішоў праз заходнія вобласці Беларусі, а людзі тут былі ўсякія.

Непадалёку ад той вёскі, куды ішлі дзяўчаты, стаяў хутар, добра абгароджаны дзе высокім каменем, а дзе пілёнымі плашкамі. Учора дзяўчаты прайшлі паўз гэты хутар не спыняючыся, а сёння спыніліся, бо ўбачылі на брамцы нейкую аб'яву. Не паспелі яны прачытаць і першага радка, як з двара выйшаў пажылы кіслагубы чалавек і, зняўшы кепку, прывітаўся з Зінай:

— Добры вечар, пані.

— Я не пані, — рэзка адказала дзяўчына.

— Дык гэта я..., — чалавек лагодна засмяяўся і кіслагубасць яго адразу знікла. — У нас, ведаеце, так было нядаўна, а можа яно так і будзе. Дык я гэта, ведаеце, па старой звычцы.

— Так ужо не будзе! — рашуча сказала Зіна і ў гэты-ж момант падумала, што дарэмна ўступіла з гэтым чалавекам у спрэчку. Хто ведае, што гэта за чалавек. Ёй трэба было зусім не паказваць тут сябе, але інстынкт пратэсту міжвольна ўзяў верх. Зіна раптам адчула, што вось зараз яна яшчэ больш нагаворыць гэтаму шляхцюку, калі толькі ён пачне даказваць сваё. Але чалавек не палез глыбей у спрэчкі і нават не пакрыўдзіўся на дзяўчыну за яе грозны тон.

— Усё ад бога, усё ад бога, пані, — дробна і абыякава загаварыў ён. — Можа так яно будзе, а можа іначай, — святы ведае. А мы пажывем, убачым. Я не пра гэта хачу ў вас спытаць. Можа вы, часам, прадаеце што ці мяняеце? Учора я таксама бачыў, праходзілі вы тут з клуначкам.

— Нічога ў нас няма, — недаверліва азвалася Зіна і ступіла крок ад брамкі.

— Ну, калі няма, дык няма, — адразу згадзіўся чалавек. — Я толькі думаў папытаць. Чым несці вам што-небудзь у вёску, то ці не лепш пакінуць тут. У мяне, дзякуй богу, ёсць і хлеб і да хлеба. Магу даць пляцёнку цыбулі або вясельца сушаных грыбоў. А ў вёсцы сёння неспакойна, лічу сваім абавязкам вам сказаць. Зранку найшло туды многа немцаў.

Зіна глядзела чалавеку ў твар і не ведала, што яму сказаць. Твар гэты быў непрыгожы, абраслы чорна-сівым шчаціннем, аднак у ім не відно было прыхаванай хітрасці ці яшчэ чаго-небудзь пагрозлівага. Чалавек проста хацеў выменяць што-небудзь і больш нічога. Мабыць, не першы раз ён пераймаў тут бежанцаў.

На брамцы, за яго бронзавай ад загару шыі, бялела аб'ява. Зіна перавяла на яе вочы, але чалавек стаў бліжэй да брамкі і закрыў аб'яву спіной. «Няўжо ён наўмысля? — падумала Зіна. — Што-ж там такое на-

пісана?» Але чалавек раптам адышоў ад брамкі, нібы гаворачы: «Чытай сабе, калі хочаш». Зіна паспрабавала прачытаць, не падыходзячы блізка, але было ўжо цемнавата, цяжка было разабраць не надта выразны рукапіс.

— Дык згаворымся? — спытаў чалавек і паказаў рукою на зінін клуначак.

— Ёсць у мяне дзве пары ануч, — нібы толькі для таго, каб адчапіцца, сказала Зіна, — хочаце, магу вам іх аддаць за хлеб.

— Дык мне вельмі трэба анучы! — задаволена прамовіў чалавек, — давайце зойдзем у хату. У гаспадарцы, ведаеце, усё патрэбна. Зойдзем, пасядзіце, адпачнеце. Скажу старой, то малака па шклянцы нальле, якраз карову падаіла. Малая, нябось, сасмагла. Гэта дачка ваша?

Зіна моўчкі кіўнула галавой.

У хаце было ўжо амаль зусім цёмна. Пахла сапраўды свежым малаком, хоць гаспадыня, дарэчы, зусім яшчэ маладая, дзябёлая жанчына, відаць, ужо даўно ўладкавалася з сырадоем, а цяпер толькі паласкала гарачай вадой дайніцу. За сталом сядзелі і аблізваліся, як сытыя кацяняты, двое малых дзяцей: хлопчык і дзяўчынка, гадоў па тры, па чатыры кожнаму. У абоіх у руках былі бязвухія жасцяныя кубкі, відаць ужо зусім пустыя. Дзеці ўставіліся на незнаёмых круглымі, як у сыча, вачамі, і мурзатыя тварыкі іх застылі ў нейкім чаканні.

— Брысь на печ! — зыкнуў на іх бацька, падышоўшы да стала.

Дзеці спалохана пакідалі на стол кубкі, адно за адным шмыганулі з-за стала і ў той-жа момант апынуліся каля запечку. Дзяўчынка, як большая, трохі лягчэй узабралася на даволі высокую, з роўнымі кантамі, печ, а хлопчык, баязліва аглядваючыся на бацьку, сяк-так ускарабкаўся на мяшок з пашнёю, што стаяў на лаўцы ля печы, і павіс жывоцікам на гэтым мяшку. Нейкі час ён узбіраўся далей, старанна махаў пульхнымі ножкамі, а потым выбіўся з сілы і пачаў плакаць. Дзяўчынка падпаўзла на край печы і падала яму рукі.

Гаспадар выйшаў у сенцы, чутно было, як ён там заляскаў цяжкай завалай, потым шчыльна прычыніў за сабою хатнія дзверы і замкнуў іх на ўнутраны замок. Паклаўшы доўгі, як шворан, ключ у кішэню, сеў ля стала.

— Сядайце! — кінуў ён дзяўчатам і, зірнуўшы на дзверы, дадаў: — Гэта я для большай пэўнасці. Ходзяць тут усякія...

Зіна, не падаючы выгляду, што ў яе з'яўляецца падазронасць, села на лаўку каля мыцельніка і прыцягнула за руку да сябе Святлану. Дзяўчынка ўстрывожана глянула Зіне ў вочы, але, убачыўшы там спакой, падсела на лаўку ўпэўнена і вольна, нібы дома. Клуначак з рук Зіны яна паклала сабе на калені.

— Дык паглядзім, што там у вас, — пачаў гаспадар і на твары яго ўжо не з'яўлялася ніякай усмешкі, а кіслагубасць набывала прыкметы варожасці.

— Паглядзім ды пагаворым заадно. Тут нам ніхто не перашкодзіць. Калі праўду сказаць, то ніякія вашы анучы мне не трэба, сваіх жонка натчэ. Мне трэба ведаць, адкуль вы прыйшлі і хто вас сюды паслаў. Скажаце праўду, пойдзеце з богам сваёй дарогай, а не скажаце, то прыдзецца пагаварыць з вамі іначай, а потым здаць абедзвюх нямецкім уладам.

— Мы здалёк ідзем,— стрымліваючы хваляванне, сказала Зіна.— З-пад самай польскай граніцы.

— Няпраўда, — ледзяным голасам, але быццам-бы яшчэ без злосці сказаў чалавек. — Учора цэлы дзень сачыў за вамі. Не здалёку вы прыходзілі і не далёка назад пайшлі. Сёння зноў тут. Думаеце, усе дурныя, а толькі вы ўдзвюх разумныя. Або кажыце ўсё, або...— Чалавек пазверску зыркнуў на гаспадыню, і тая паспешна адышлася да печы, к дзецям.

— Нам няма чаго больш гаварыць,— спакойна сказала Зіна і ўстала. — Вы вось будзьце чалавекам, адамкніце нам дзверы і мы пойдзем.

— Не-э, галубка,— мякка засмяяўся гаспадар і зайшоў ад дзвярэй. — Гэтага не будзе, не на такога ты натрапіла. Калі-б я нават і выпусціў цябе з хаты ці каб сама вырвалася, то ўсё роўна далёка не зайшла-б. Пад кожным вуглом і пад вокнамі ў мяне пастаўлены свае людзі. Паглядзім-ткале, што ў гэтым клуначку.

Ён ступіў да Святланы, але раптам выгнуўся і схапіў Зіну за рукі.

— Лейцы, — крыкнуў ён гаспадыні.

Зіна моцным штуршком вырвала рукі, кінулася да акна і, мабыць, больш галавой, чым рукамі, выціснула раму.

— Святланка! — ледзь толькі паспела прамовіць яна, як нешта жорсткае і, здавалася, пякучае здавіла ёй шыю.

— Я некалі шалёных коней лавіў, — цадзіў гаспадар скрозь зубы, заціскаючы вяроўку на зінінай шыі, — на дзікіх звяроў хадзіў...

Зіна паваліліся на падлогу. Дзеці на печы заплакалі, гаспадыня адскочыла ўбок.

— Вяжы ёй ногі! — крыкнуў чалавек жонцы і адкінуў ад сябе доўгі канец лейцаў.

— Міканор, — жаласліва прамовіла жанчына, аднак падышла і пачала скручваць ляйчынай пасінелыя зініны ногі. Другім канцом лейцаў чалавек звязваў дзяўчыне рукі і смяротнымі штуршкамі пад дыхавіцу паварочваў яе так, каб яна ляжала бокам. У гэты момант Святлана схапіла ў мыцельніку дайніцу, з усёй сілы выцяла ёю чалавека па галаве, а сама шмыганула ў акно.

— Дзяржы гэтую! — закрычаў чалавек жонцы, а сам, ухапіўшыся за галаву, кінуўся за Святланай. На двары было ўжо змрочна. Чалавек нешта згледзеў перад сабою, схапіў на бягу палена, папусціў у кусты і здаецца пацэліў. Падбег да таго месца,— нідзе нікога няма. Пачаў шарыць па кустах, каля платоў: «Не павінна-ж шчанё далёка забегчы». Але ўсюды было ціха, нішто нідзе не варушылася, не падавала ніякага голасу. Чалавек рашыў не траціць на гэтыя пошукі часу, а хутчэй бегчы ў вёску. Калі на яго шчасце там сапраўды спыніліся немцы, то далажыць ім, што злавіў большэвіцкую разведчыцу, а калі няма немцаў, то прывесці ў хату хоць свайго браценіка, якога немцы нядаўна паставілі старастам, ды яшчэ каго-небудзь.

Пакуль гаспадар бегаў, жонка яго сцерагла ў хаце Зіну. Дзеці палахліва ўсхліпвалі, зашыўшыся ў куток печы, хлопчык раз-по-раз зваў: «Мама, хадзі сюды». Але мама не рашалася адысціся ад мужавай ахвяры і стаяла каля выбітага акна, трымаючы ў руках канец вяроўкі. З акна патыхала свежым начным паветрам, і гэта памагло Зіне аддыхацца, прыйсці да поўнай свядомасці, калі гаспадыня зусім расслабіла вяроўку

на яе шыі. У змроку, бо гаспадыня не запальвала агню, Зіна заўважыла, што кіслагубага блізка няма, сэрцам адчула, што нешта здарылася са Святланай, і ціха паклікала яе.

— Гэта вы сваю дзяўчынку завеце? — ласкава спытала гаспадыня.

— А дзе яна? — Зіна паспрабавала паварушыцца, устаць з падлогі, але адчула востры боль у галаве, у баку, страшэнна нылі таксама рукі і ногі.

— Дзяўчынка ўцякла з хаты, — нібы нават з уцехай сказала гаспадыня. — Выскачыла вось сюды. Можа вам вады падаць?

Жанчына стала на падлогу каленямі і нахілілася над Зінай. Зусім блізка над сабою Зіна ўбачыла яе ўстрывожаны, але добры твар, чорныя, бліскучыя ў цемнаце вочы .

— Развяжыце мяне, — папрасіла дзяўчына. Яна сказала гэта і сама не верыла, што так сказалася, што яе пачулі, што зноў не пачнуць біць і давіць.

— Не магу я так, мілая, — азірнуўшыся на акно, ціха загаварыла жанчына. — Вернецца ён, то прыб'е і мяне і вас. Гэта-ж ён за вашай дзяўчынкай пабег. Вы яшчэ і падняцца не паспееце, як ён можа вярнуцца. Я хіба вас сама папрашу: скажыце вы яму што-небудзь, каб адчапіцца. Можа якіх палонных дзе тут паблізу бачылі, можа якіх камуністых? Гэта-ж прыйшлі пазаўчора, сказалі, вунь і напіска на брамцы вісіць, што калі хто падкажа, дзе хаваюцца палонныя або камуністыя, таму немцы дадуць дзялянку добрай зямлі ды яшчэ і грашыма прыплацяць. За гэтым мой так і стараецца і злуецца. Каму-ж гэта не хочацца мець лішні загончык зямлі. А вы яму скажаце, ён вас і пусціць. І дзяўчынку вашу пусціць, калі толькі ён яе дагнаў.

Зіна насцярожліва глядзела на жанчыну і ў першую хвіліну не магла зразумець, як прымаць гэтыя словы. Няўжо гэта такая лісіная хітрасць? І гаспадар пачынаў з гэтакіх-жа слоў.

Аднак вочы жанчыны быццам-бы не хітравалі, у іх свяцілася жаллівасць, спачуванне, хоць спалох і разгубленасць засланялі ўсё гэта. Хлопчык усё мацней і настойлівей клікаў маму. Ён, відаць, падпоўз на самы край печы, бо плач яго чуўся бліжэй і яшчэ больш жалобіў душу.

— Іду, сыночак, іду-у, — прамовіла жанчына, і нават у цемры Зіна ўбачыла, што па смуглых шчоках гаспадыні пацяклі буйныя кроплі слёз, гэтакія-ж бліскучыя, як і яе вочы.

— Зразумейце мяне, — паспешліва зашаптала Зіна. — Зразумейце, як жанчына з добрым сэрцам, як маці вось гэтых дзяцей. Я не магу сказаць яму нічога, ніводнага слова. Няхай нават загіну, а не скажу.

Зіна крыху падняла галаву, каб быць яшчэ бліжэй да гэтай жанчыны, лепш бачыць яе твар, яе слёзы. Дзяўчына рада была-б абняць яе за шыю, прытуліць да сябе, ды звязаны былі рукі, цяжка было паварушыцца...

Гаспадар прыбег амаль што праз поўгадзіны.

Усунуў раскудлачаную галаву ў выбітае акно, чыхнуў, як кот, з'еўшы чужое мяса, потым успёрся рукамі на падаконнік і палез у хату. Улезшы, адразу пабег адмыкаць дзверы. Следам за ім у хату ўвайшлі два плячыстыя мужчыны з дубальтоўкамі. У хаце было зусім ціха, не чутно было ні стогну, ні плачу дзяцей. Гаспадар паклікаў жонку, але яна не азвалася. Тады ён запаліў запалку і ўбачыў ля сваіх ног зблытаныя лейцы...

Калі праз некаторы час разам са Святланай прыбегла на хутар уся група байцоў, у хаце ўжо не было ні гаспадара, ні тых плячыстых мужчын з дубальтоўкамі. На падлозе валяліся лейцы, толькі яны ўжо былі мокрыя і месцамі ў крыві. Побач з лейцамі ляжала і ціха, зняможана стагнала гаспадыня. Каля яе сядзелі заплаканыя і да смерці напалоханыя дзеці.

* * *

З першага дня вайны не было ў хлопцаў нетурботнай ночы, а гэтая выдалася самая трывожная, самая небяспечная. Усе разумелі, што хутаранец са сваімі дубальтоўшчыкамі збег з хаты не так сабе, што ён можа навесці сюды немцаў ці якую іншую ўзброеную погань. Можа нават і цяпер ён прытаіўся недзе тут у засадзе і чакае зручнага выпадку, каб нашкодзіць. Але трэба шукаць Зіну. Хіба можа нават мільгнуць у каго думка, каб яе пакінуць? Што вядома хлопцам пра Зіну? Толькі тое, што на бягу расказала ім Святлана. Пра далейшае амаль нічога. Удалося выціснуць два словы ў знявечанай гаспадыні. Яна сказала, што развязала Зіне рукі і ногі, што памагла ёй вылезці праз акно, а больш нічога жанчына не ведае і шмат чаго не памятае. Можа гаспадар са сваімі падручнымі злавіў дзяўчыну каля хутара і пацягнуў у вёску, можа дзяўчына не мела сілы далёка ісці і звалілася недзе тут у кустах? Усё гэта магло быць, але што-б ні было, што-б ні здарылася, байцы павінны выратаваць свайго шчырага таварыша.

Не надта далёка было ўжо да летняга світання. На траве і на густых альховых кустах ляжала самая буйная раса, у далёкім беразаку ўжо разоў два цінькнула самая ранняя птушка. Машкін даў каманду агледзець усё ўсюды каля хутара, а потым сабрацца на паляначцы за кустамі. Святлану ён пакінуў пры сабе. Яна так стамілася, так перахвалявалася, бедная, што ледзь трымалася на нагах. Праз некалькі хвілін хлопцы былі на ўказаным месцы і кожны з іх далажыў, што нідзе нічога не знойдзена. Параіліся ўсе разам і потым быў аддадзены загад асноўнай групе ісці фронтам паабапал дарогі аж да таго месца, дзе быў часовы лагер. Ісці і аглядваць кожны куст, кожную імшаліну. Грыцку-ж і Міхалу трэба было прабрацца ў вёску і выведаць, што чутно там.

Ішлі да лагера марудна, старанна прыглядаліся, прыслухоўваліся. Святлане спачатку здавалася, што яна пад кожным кустом бачыць Зіну ў чорнай хустцы, у Міхалавай кофтачцы, з абрыўкамі вяроўкі на руках і нагах. Сэрца падказвала дзяўчынцы, што Зіна абавязкова павінна быць недзе тут, што яна не падалася ў рукі ворагу. Калі хоць трохі ў яе заставалася сілы, то яна ўцякла ад хутаранца, і калі потым нават падкасіліся ногі, то недзе хоць паўзком, а ўсё-ж дабіраецца да месца.

Аднак прайшлі байцы і агледзелі ля дарогі ўсё кустаўё, мінулі беразак, пачалі ўжо набліжацца да свае стаянкі, а Зіны нідзе не было. Заставалася яшчэ надзея на лагер. Можа дзяўчына апярэдзіла іх і прыйшла на месца раней?

На світанні прыйшлі на сваю часовую стаянку. Грудок, зарослы маладымі дубкамі, крушынай і алешнікам, кішэў ужо жвавымі, клапатлівымі птушкамі; іх свіст і цілíканне разносіліся адсюль на ўсё балота. Прасохлыя шкілеты мінулагодніх будак касцоў жаўцелі сярод свежай зелені. Вярхі іх былі наспех накрыты пачарнелым сенам, якое сабралі байцы на пракосах. Не шмат было тут пракосаў, ды і тыя ўжо зараслі

атавай. Відаць, не давялося людзям размахнуцца тут з касой, перашкодзіла вайна. У будках таксама ляжала сена, сухое, яшчэ нават пахучае. Так-бы хацелася прылегчы на гэтым сене ды хоць трошкі паспаць, хоць да таго часу, пакуль узыдзе сонца ды зліжа расу, якая радуе вока, аднак вельмі мочыць і ацяжарвае абутак. Але-ж ці можна думаць пра сон, пра адпачынак? Машкін з шафёрам агледзелі будку, узбек і яшчэ тры байцы аббеглі навакольны зараснік і вярнуліся мокрыя, нібы з ракі. Машкін пайшоў на рызыку і нягучна, аднак выразна паклікаў Зіну. Нідзе ніхто не азваўся.

Цень разгубленасці мільгануў на твары камандзіра. Ён адчуваў, што трэба прымаць неадкладна рашэнне, і не ведаў, што сказаць. Заставацца тут і чакаць хлопцаў з вёскі вельмі рызыкоўна, — немцы, напэўна, ужо ведаюць пра іх стаянку. Адыходзіць-жа адсюль таксама нельга. Байцы заўважылі гэтую разгубленасць Машкіна і апусцілі вочы, ніхто з іх не мог нічога падказаць. Аднак выйсце ўсё-такі павінна быць. Як заўсёды у надзвычай цяжкіх выпадках, падступілі байцы адзін к аднаму і адразу стала крыху лягчэй. Каб не вельмі пакутаваць у маўчанні, шафёр пачаў аглядаць свой карабін, падсумак з абоймамі, гранаты. Нібы следуючы яго прыкладу, нібы інстынктыўна адчуваючы такую неабходнасць, і астатнія байцы пачалі аглядаць сваю зброю. У гэтую-ж хвіліну Машкін аддаў загад: заняць абарону на ўскраіне грудка, наспех акапацца і чакаць звароту Грыцка і Міхала. У Святланы задрыжалі павекі ад гэтага загаду, але яна нічога не сказала, ні аб чым не спытала, толькі цясней завязала вузялок сваёй шэрай хусткі пад барадою ды на ўсе гузікі зашпіліла паношаную, хлапчуковую світачку — падарунак адной добрай бабулі. Машкін ціха сказаў ёй:

— Не бойся, Света, ты будзеш са мною.

Бегчы на ўскраіну, выбіраць зручнае месца, акопвацца, — усё гэта было не цяжка. А вось ляжаць нерухома пасля зморанасці, ды яшчэ перад усходам сонца, ды яшчэ ў цяпле, гэта сапраўдныя пакуты. Тут можа задрамаць нават сам генерал, а не толькі радавы баец. І ўсё-ж трэба вытрымаць. Машкін можа і не ведаць пра гэта, але сумленне загрызе, калі спусціш вочы.

На шчасце, ляжаць моўчкі доўга не давялося. Не паспелі хлопцы яшчэ добра ўгледзецца ў працілеглы лясок, што сінеў за балотам, як з-за недалёкіх кустоў вынырнулі і падскокам пусціліся па балоце два ўзброеныя чалавекі. Па кароткіх нагах і шырокіх плячах байцы адразу пазналі Грыцка, а Міхал ужо сам сабою разумеўся. Машкін даў сігнал збору. Грыцко і Міхал паведамілі, што на світанні ў вёску найшло многа немцаў з танкамі і бронемашынамі, усюды ў ваколіцы выстаўлены пасты, таму прабрацца ў вёску не ўдалося. Гаварылі яны толькі з адным пастушкомпадлеткам, які ішоў некуды з торбай і пугай, а ніякага статку пры ім не было. Пастушок сказаў, што бачыў хутараніна ў вёсцы, але чужой жанчыны пры ім не бачыў.

— Трэба ісці, — шэптам, каб не пачула Святлана , сказаў адзін з байцоў, — а то канец тут будзе ўсім.

Грыцко так глянуў на гэтага байца, што ён гатоў быў скрозь зямлю праваліцца. Святлана па губах пазнала, што ён прашаптаў, зірнула на Машкіна, і пад сэрцам у яе пахаладзела. У шэрых вачах камандзіра зноў мільгнула разгубленасць. Тут і кожнаму было-б не лёгка прыняць рашэнне, а Машкіну тым больш. Не было ў яго яшчэ звычкі хутка і самастойна ацэньваць усё, што здаралася.

— Я не пайду адсюль, — прыглушана сказала Святлана і заплакала. — Я застануся шукаць Зіну.

— І я застануся, — нібы падхапіў яе словы Грыцко. — Ціха, Святлана, не плач, ніхто без Зіны не пойдзе.

Было вырашана абшукаць увесь лес повідну, у выпадку варожай аблавы агню не адкрываць, а хавацца. Кожнаму байцу — пэўны ўчастак. Сігнал сувязі — такі, а сігнал збору — такі.

Грыцку выпала ісці самым левым флангам і далёка ад дарогі. З ім пайшла і Святлана. Не прайшлі яны і сотні крокаў, як дзяўчынка раптам спынілася і схапіла Грыцка за руку.

— Вунь, глядзіце! — прашаптала яна, паказваючы рукою лявей ад сябе.

Грыцко прыставіў да ілба далонь, стаў шарыць вачыма па кустах вербалозніку, што рос ускрай балота. Большыя з гэтых кустоў стаялі яшчэ да палавіны ў сінявата-мутным прадусходнім тумане, а некаторыя з меншых танулі поўнасцю.

— Нічога не бачу, — з жалем сказаў Грыцко.

Святлана маўчала, відаць, і яна ў гэты момант нічога не бачыла. Вочы яе міжвольна наплывалі слязамі. Грыцко апусціўся рукамі на купіну, стаў глядзець паверх травы.

— А што ты там бачыла, Света? — даверліва спытаў ён.

Дзяўчынка напружана глядзела ў тое месца, якое хвіліну таму назад так узрадавала яе, і гатова была заплакаць ад роспачы, ад таго, што цяпер там нічога, акрамя кустоў, не відно.

— Мне здалося, што я там зініну хустку ўбачыла.

Грыцко падняўся, моўчкі ўзяў Святлану за руку.

— Пойдзем, мілая, — спачувальна сказаў ён. — Так з многімі бывае. Мне вось таксама здавалася, што бачу Зіну, калі ішоў сюды з вёскі.

Прайшлі яшчэ некалькі крокаў, і Святлана зноў спынілася, рука яе задрыжала. На гэты раз і Грыцко пачуў, што з-за тых кустоў, на якія паказвала дзяўчынка, данёсся слабы, працяглы голас. Нехта клікаў Святлану. Грыцко падаў знак хлопцам і што было сілы памчаў да вербалозніку.

Зіна ляжала пад кустом у балотнай твані. Зняможанасць, пакутлівы боль у галаве і ва ўсім целе затрымалі яе ў дарозе. З апошняй сілы дзяўчына намагалася да світання прыйсці ў лагер, ды сама не заўважыла, як узяла ў лесе не той напрамак, заблудзілася. Калі пачало світаць, яна зразумела, што ідзе не ў той бок, але ўжо знікала і тая сіла, што была, ногі падкошваліся, перад вачыма ўсплывалі жоўтыя кругі. Нечакана трапіўшы у балотную іржу, Зіна ўжо не магла выбрацца адтуль.

Да лагера байцы перанеслі Зіну на руках, а там шафёр адразу-ж успомніў свае ранейшыя абавязкі. Ён збегаў да старога адонка, выцягнуў адтуль дзве сухія жардзіны і за некалькі хвілін зладзіў насілкі.

Выйшлі са свайго часовага лагера перад самым усходам сонца. Першыя ласкава-вясёлыя праменні засвяцілі байцам у вочы, як толькі яны перайшлі балота.

* * *

Зіна не магла сама ісці некалькі дзён, яе неслі байцы на насілках. Да яе зняможанасці пасля той жудаснай ночы падпала нейкая хвароба: не валодалі ў дзяўчыны рукі і ногі, страшэнна балела галава. Усе гэтыя

дні байцы самі хадзілі на разведку, а ў найбольш небяспечныя месцы, куды самім нельга было дабрацца, пасылалі Святлану. Дзяўчынка нібы нават пасталела за гэты час. Калі яна адчула, што вельмі патрэбна групе, што яна па-сапраўднаму дапамагае байцам, смялей і энергічней сталі свяціцца яе блакітныя і чыстыя, як яснае неба, вочы. Яна, здавалася, не адчувала ні стомленасці, ні страху, заўсёды была ўпэўнена, што ўсякая перашкода скорыцца перад ёю. Зіне радасна было глядзець на яе. У пагодлівыя дні Святлана нават развязвала сваю хустку, і яе светлыя валасы ззялі на сонцы залатым адлівам.

Цяпер Святлана не саромелася здымаць з галавы сваю хустку. Ранка яе зажыла, і хоць на тым месцы, дзе глыбока была садрана скура, цяпер не растуць валасы, гэта ўжо не надта турбуе дзяўчынку. Калі зарасла рана, то, нябось, вырастуць і валасы. Пасля таго, як Грыцко з усім сваім стараннем пахадзіў каля Святланы з ножнамі, прычоска яе стала нават прыгожай, з ёй можна было-б жыць не толькі ў лясах ды ў балотах, а і ва ўсякім горадзе.

— Няхай-бы і вас Грыцко падстрыг, — сказала яна тады Зіне, гледзячыся ў маленькае шклячко люстэрка. Яна падняла гэтае люстэрка ў адной вёсцы на сметніку. Яно так ярка і прывабна блішчала на сонцы, што яна не магла яго не падняць.

У Зіны валасы былі намнога цямнейшыя, як у Святланы, магчыма, што і не такія прыгожыя, але яна не хацела абрэзваць іх. Усё роўна ёй мала калі даводзілася хадзіць без хусткі, да таго-ж цяпер не аб гэтым клопат. Душу грызла пакута ад таго, што занемагла ў такі суровы час, што робіць многа небыту хлопцам у гэтакім складаным паходзе. За Святлану таксама балела сэрца. Вельмі-ж многа яна цяпер ходзіць усюды, многа рызыкуе. На гэтых днях прынесла нават гладыш кіслага малака.

— І з гладышом табе аддалі? — спытала Зіна.

— Не, гладыш трэба занесці, — адказала дзяўчынка. — Я сказала



бабулі, што мая мама, гэта значыць вы, — усміхнулася Святлана, — засталася непадалёку на дарозе, бо захварэла і не можа ісці.

Калі, не тут кажучы, здарыцца што-небудзь з дзяўчынкай, загінем тады. І цяпер ужо хлопцы нямаведама на каго падобны: учарнелыя ад непасільных пераходаў і ад голаду, абадраныя і абшарпаныя, некаторыя амаль зусім босыя. Ды з такой разведкай, якая вядзецца цяпер, далёка не скочыш. Хоць амаль цэлымі суткамі байцы ідуць, хоць адпачынак зведзены да самых неабходных хвілін, усё роўна спорнасці ў руху мала, бо трэба на хаду рабіць разведку, вызначаць маршрут. Трэба, нарэшце, і харчавацца чым-небудзь, піць чыстую ваду. Пасля таго, як узбек папакурчыўся жыватом ад балотнай вады, Машкін забараніў набіраць у біклажкі ваду з розных лужын і канаў.

Адным словам, Зіна разумела, што калі так ісці ўвесь час, то могуць насцігнуць асеннія халады, тады прапалі ўсе намеры. Па вачах, па асобных асцярожных рэпліках яна заўважала, што і некаторыя хлопцы гэтага баяцца, толькі хаваюць свае думкі і ад сяброў і ад саміх сябе. Таму самае важнае — папраўіцца, стаць на ногі, а астатняе ўяўлялася нібы нават няцяжкім, нескладаным. Тады і за сабою можна будзе лепш прыглядзець, і за байцамі, а разведку даць такую, што можна будзе ісці хутка і без меншых перашкод. Пасля цяжкага выпрабавання, якое давялося перажыць на тым злопамятным хутары, усё цяпер уяўлялася нястрашным, расла ўпэўненасць, што больш ужо ніякаму д'яблу не ўдасца перахітрыць.

І вось прычакаўся той дзень, калі Зіна ўпершыню пасля хваробы пайшла на разведку. Радасны гэта быў дзень. Байцы сядзелі ў густым зарасніку і з хвіліны на хвіліну чакалі яе. Кожны бачыў на сабе або на сваім сябры такія з'явы, што толькі ўздыхаць-бы ды пакутаваць ад іх. У каго ногі пабітыя і абадраныя так, што глядзець на іх страшна, у каго плячук голы і спаласаваны сухім веццем. Аднак цяпер усё гэта амаль не заўважалася. Усё наладзіцца, калі Зіна ўзялася за справу, усё пойдзе на самы лепшы лад.

Не відно было ніякай бадзёрасці толькі на твары Міхала. Ён сядзеў трошкі ў баку ад групы і моўчкі плёў з ядлоўцавай кары лапці. Не надта трывалыя былі лапці з гэтай кары, іх ледзь хапала на адзін добры пераход, але-ж затое многа ўсюды было такога матэрыялу і здабываць яго было няцяжка: ядловец лупіцца ўсё лета. Чаго быў невясёлы Міхал, ніхто пэўна не ведаў, аднак заўважылі хлопцы, што ўжо з учарашняга дня яго даўгаваты сухі нос паглядваў усё больш пад ногі, вочы рабіліся хмурымі і невыразнымі.

Калі вярнулася Зіна, хлопец на нейкі час павесялеў, стаў прыслухоўвацца, пра што яна дакладвае Машкіну. Але хутка зноў задумаўся, і яго падплётка пачала хадзіць у руках марудна і няўпэўнена.

— Хочаце, я і вам спляту вось такія лапцікі, — прапанаваў ён Зіне, калі група збіралася ўжо ісці далей.

Ён наўмысля не глянуў на зінін абутак: здавалася яму, што дзяўчына можа засароміцца, пачырванець.

— Дзякую, — адказала Зіна і сапраўды пачырванела, калі зірнула на свае ногі. — У мяне яшчэ моцныя чаравікі, дарма што трохі падвязаныя знізу. Я-ж колькі дзён не хадзіла.

— Спляту ў запас, — паабяцаў Міхал. — Вось няхай толькі яшчэ спынімся.

У дарозе ён увесь час трымаўся каля Зіны, усё нібы памыкаўся нешта сказаць, нечым падзяліцца з ёю, нарэшце няёмка закхекаў, быццам нешта засела ў яго горле, і нерашуча спытаў:

— Ці каля той вёскі, што вы нядаўна назвалі, каля Забалоцця, мы недалёка будзем ісці?

Зіна прыпыніла крок, з цікаўнасцю глянула на хлопца.

— Зусім блізка, — адказала яна. — А што?

— Ды так,— сумеўшыся, прамовіў Міхал.

Хвілін колькі Зіна не задавала больш пытанняў, не спрабавала штонебудзь угадаць, толькі неўпрыкметку паглядвала на хлапца. Калі Міхал заўважаў гэтыя позіркі, то, напэўна, вельмі хваляваўся, бо ў іх былі і жаль, і загадкавасць, і здзіўленне, і нават падазронасць. Хто яго ведае, можа і заўважаў ён усё гэта.

Нарэшце, калі яны крыху адсталі ад групы, Зіна сказала:

— Ваша вёска будзе, прыблізна, у кілометры ад нас.

— Адкуль вы ведаеце, што мая? — уражаны нечаканасцю, спытаў Міхал.

— Адчуваю,— сказала Зіна,— ды і помню нашу размову ў першыя дні знаёмства.

— Так, гэта мая вёска,— шчыра загаварыў Міхал.— Маё Забалоцце! Двое сутак ужо аб гэтым думаю, чую пах сваіх лясоў, свайго балота, а не гавару хлопцам, баюся, каб не падумалі чаго дрэннага, каб не сталі кідаць на мяне падазроныя позіркі.

— Немцаў у Забалоцці няма, — яшчэ сама не ведаючы, для чаго гэта трэба, паведаміла Зіна.

Міхал насцярожыўся, яго жывыя чорныя вочы ўсхвалявана заблішчалі.

— Ну дык што, калі няма? — узбуджана запытаў ён. — Ну дык што? Няўжо вы думаеце?...

Зіна ўзяла яго за руку і супакойліва пацiснула.

— Я нічога кепскага не думаю,— ціха сказала яна і міжвольна прыслухалася да свае душы: ёсць там гэтакае перакананне ці няма.

— У мяне толькі маці ўвесь час перад вачыма,— працягваў Міхал.— Каб, здаецца, можна было хоць на адзін момант убачыць яе ці хоць даведацца, жывая яна ці не... Але я ўжо цвёрда рашыў, што не звярну з дарогі, не пайду. Няхай сэрца баліць, а не пайду, не затрымаю хлопцаў.

— Праведаць то трэба было-б,— разважліва сказала Зіна.— Хочаце, я сама скажу Машкіну. Ён дазволіць.

— Не трэба,— адмовіўся Міхал.— Пойдзем наперад калоны, вам-жа трэба дарогу паказваць.

Доўга баец ішоў моўчкі, утупіўшы вочы сабе пад ногі. На вузкай лясной дарожцы ўжо сцямнела і цішыня запанавала такая, што, здавалася, самы асцярожны крок чуцён быў далёка. У такія часы і ўся група больш намагала на слых, чым на зрок. Міхалу ўяўлялася, што вось ужо зусім хутка, калі яны параўняюцца з яго вёскай, ён пачуе хоць якія-небудзь гукі, з маленства знаёмыя, незабыўныя. Магчыма, хто-небудзь з суседзяў захоча ў гэты час набраць у калодзежы вядро вады нанач. Заскрыпіць жураўель, і Міхал адразу скажа, чый гэта жу-

равель. А можа якраз матуля выйдзе па ваду, тады Міхал пазнае скрып свайго жураўля...

Чым бліжэй падыходзілі да вёскі, тым усё больш Міхал хваляваўся, усё больш насцярожваў слых. Аднак ад вёскі не даносілася нічога, быццам яе тут і не было. Змрочная цішыня навакол і маўчанне Міхала пачалі наганяць сум і на Зіну. Пранікнёна глянуўшы на байца, яна зноў прапанавала:

— Давайце я ўсё-такі скажу Машкіну. Хоць прыпынімся тут на які час.

— Не трэба, я вас прашу,— запярэчыў Міхал.— Не хачу я, каб хоць адну хвіліну хлопцы трывожыліся за мяне. Хапае трывогі і без гэтага. Галоўнае-ж, не хачу, каб вы трывожыліся.

— Я не буду трывожыцца,— ледзь чутна сказала Зіна, але ў голасе яе прагучала цяпер поўная шчырасць, і гэта Міхал адчуў.

— Я вельмі жадаю, каб вы ва ўсім верылі мне,— з удзячнасцю сказаў ён.— Мне тады будзе лягчэй.

Зіна спытала нібы толькі для таго, каб схіліць размову трохі ў другі бок:

— У вас толькі адна маці і засталася дома?

— Яшчэ сястра была,— адказаў Міхал.— Меншая за мяне.

— А больш нікога? — Тут у Зіны вырваўся чыста дзявочы смяшок, але ён не пакрыўдзіў Міхала. Наадварот, яму нават радасна стала, што за ўвесь час знаёмства яна ўпершыню так загаварыла з ім.

— Больш нікога,— шчыра прызнаўся Міхал.— Зусім нікога.

Зіна зноў усміхнулася:

— А вось гэтая кофтачка, што цяпер на мне, усё-ж такі не для мацеры куплялася. Праўда? Вельмі-ж яна вясёлая для старой жанчыны.

— Дальбог для мацеры,— запэўніў баец.— Гэта ў мяне такі густ неважнецкі.

— Ну, нічога,— прыпыніла Зіна няёмкую спрэчку. Гэта я проста так, каб разагнаць ваш смутак. Скончыцца вайна, тады ўсё будзе проста і ясна. Знойдзем і мацярок сваіх, і знаёмых, і каханых. Усіх пазнаходзім.

— А ў вайну?

Міхал доўга чакаў адказу, але дзяўчына маўчала. Ён таксама ішоў моўчкі і глыбокі роздум зноў пачынаў авалодваць ім. Забрахаў за лесам сабака, і баец спыніўся, пачаў старанна прыслухоўвацца. Яму здалося, што гэта іхні «Шарык» падаў голас, і сэрца радасна, усхвалявана затрапяталася.

— Чаго ты? — спытаў Грыцко, ледзь не наступіўшы хлопцу на пяты.

— Нічога,— адказаў Міхал і цвёрдым крокам пайшоў далей.

* * *

Яшчэ тыдняў праз два напружанай, амаль бесперапыннай хады байцы сталі заўважаць, што чым далей, тым усё больш і больш траплялася на дарозе немцаў, самалёты раўлі над лесам і ўдзень і ноччу. Часта проста над галовамі байцоў адбываліся паветраныя баі. Ісці ўжо нельга было так, як раней: разведку трэба было рабіць вельмі асця-

рожна і дасканала, падавацца ў глыбокія абходы, кожную ноч прабірацца праз густыя лясы, мясіць непралазныя балоты, пераплываць рэкі. Часта здаралася так, што тут ужо недастаткова было разведчыцкага вопыту Зіны і Святланы, трэба было браць праваднікоў.

На ўсё жыццё застануцца ў памяці байцоў гэтыя простыя, сумленныя людзі — праваднікі. Колькі вытрымкі і мужнасці даводзілася праяўляць групе ў часе паходу, а ўсё гэта выглядала малазначным у параўнанні з той самаахвярнасцю, на якую здольны былі праваднікі. Ідзе сабе чалавек наперадзе і крок яго цвёрды, вочы гараць рашучасцю. Ён ведае, што кожную хвіліну можна наткнуцца на ворага, што першая куля пападзе яму, але ідзе без ніякіх хістанняў. Прапануй яму вярнуцца — не вернецца, пакуль не давядзе да належнага месца. А што гэта былі за людзі? Гэта звычайныя беларускія калгаснікі, у пераважнай большасці дзяды або жанчыны, маткі дробных дзяцей.

Па ўсяму духу на сцежках і дарогах байцы адчувалі, што фронт ужо недалёка. Аб гэтым гаварылі і праваднікі. Прыбаўлялася хвалявання, але радасна было, што фронт прыпыніўся, што запаветная мэта, дзеля якой гэтулькі ўсяго перажыта, была ўжо не за гарамі. Цяпер трэба было выкарыстоўваць кожны, хоць крыху зручны, момант, каб як мага бліжэй падысці да франтавой лініі, выведаць самае тонкае месца ў гэтай лініі і там прарвацца. Няхай дзе ні будзе гэтая лінія: у лесе, на балоце ці хоць нават на суцэльным вадзяным плёсе. Усякую мясцовасць група гатова была пераадолець і да ўсякай магчымасці прарыву рыхтавала сябе. Можна будзе прабрацца цішком — прабірацца, паўзці, плысці, бегчы; трэба будзе брацца за зброю — дык прабівацца кулямі і гранатамі.

Прыйшла нарэшце тая ноч, якая павінна была вырашыць усё. Гэта была яшчэ летняя ноч, хоць раса на траве і вада ў балоце былі ўжо халаднаватымі, хоць на плёсе ляснога лужка ці азярца можна было заўважыць пры месяцы шызы асінавы лісток або жоўты бярозавы. Байцы прабіраліся забалочанымі зараснікамі. Ціха было ўсюды, хоць некалькі гадзін таму назад з левага боку адсюль ішоў, відаць, вельмі жорсткі бой: чуліся частыя выбухі снарадаў, залпы нямецкіх гармат, далятала з ветрам і залівістае сакатанне кулямётаў. Цяпер толькі ракеты ўспыхвалі над лесам, і чорт ведае каму патрэбна было іх гэтае халоднае, трапяткое святло.

Па ўсіх вестках, якія былі ў групе, за гэтым непралазным зараснікам павінна пачынацца так званая нейтральная паласа, калі можна ўявіць такую наогул, а там далей, за глыбокім ярам,— пазіцыі нашых войск. Калі-б зараснікі ішлі да самага яру, то больш зручнага месца для пераходу нельга было-б і ўявіць, але там ёсць адна прагалінка і абмінуць яе нельга: з левага боку нямецкія ўмацаванні, а з правага — вялікае возера. Пашукаць чаго-небудзь лепшага цяпер ужо не было калі, ды і сэнсу ў гэтым ніякага: тут хоць на вузкім прамежку, па ўсіх вестках, няма варожай заставы, а ўзяцца правей, на другі бок возера, то там, магчыма, немец на немцу сядзіць.

Пакуль дабраліся да канца зараснікаў, стала набліжацца к світанню. Гэта і добра, бо ў такую пару акупанты любяць спаць, але гэта-ж і дрэнна: калі цяпер выйдзе хоць невялічкая затрымка, то разрэдзіцца змрок і немцы могуць заўважыць пластуноў на прагаліне.

Дрыжучы за кожную хвіліну, за кожны момант, хлопцы выпаўзлі з густога кусцістага лазняку, наскрозь мокрыя, абшарпаныя, адсапліся

крыху, агледзеліся і радком, крокаў на тры адзін ад аднаго, паплылі па шчодрай перадсвітальнай расе далей. Зіна са Святланай паўзлі пасярэдзіне. Яны трымаліся бліжэй адна аднае.

Кожны локаць наперад болем і радасцю аддаваўся ў сэрцы. Набліжалася мэта, набліжалася і самая страшная небяспека можа за ўвесь час шляху. А світанне, як-бы нічога не ведаючы пра такое становішча байцоў, не марудзіла, хутка падплывала з усходу, падбельвала і рассейвала туман, надавала снежны колер расе. Што-б яму трохі пачакаць!

Палявая канюшынка, пырнік, пераспелае шчаўе і розная іншая поросль на прагаліне, якая, відаць, нядаўна засявалася, была густой, спорнай, але невысокай. Святлана, паўзучы, хапалася рукамі то за кусцік шчаўя, то за канюшыну, туліла ў зелень галаву і перажывала дзяўчынка, што ўсе расліны разам не маглі схаваць не толькі ўсю яе, а нават адну галаву. Бадай што ўпершыню паўзла яна па такім адкрытым месцы. Дзе ні даводзілася раней паўзці, усюды былі хоць якія-небудзь кусцікі, купіны, дрэўцы, хоць якое-небудзь прыкрыццё, а тут няма нічога. Здавалася Святлане, што калі вось-вось трэсне нешта збоку або ззаду, то абавязкова пацэліць ёй па галаве. З часу першага ранення ў дзяўчынкі кожны раз было такое адчуванне.

Узвілася непадалёку ракета, зрабіла высокую дугу над прагалінай і ўпала, ужо мала што асвяціўшы. Машкін нават пачуў стрэл ракетніцы. Стрэл гэты не толькі яшчэ больш насцярожыў яго, а і ледзяной жудасцю аддаўся ўнутры. Калі адсюль так добра чуцён слабы стрэл, значыць немец зусім блізка, значыць адно з двух: або іхнія весткі былі недакладнымі, або нанач падышла сюды новая застава. Шчасце, калі немец, дрэмлючы, пусціў гэтую ракету. А калі ён сочыць за прагалінай, то ў кожны момант можа ўзняць трывогу.

— Хутчэй наперад! — падаў Машкін каманду па свайму ланцужку.

Хоць да яра было яшчэ далёка, яму здавалася, што ён ужо нават бачыць яго, мільгала нават думка, што можа і не варта доўга паўзці, а лепш падняцца, узляцець і адным рыўком апынуцца ў яры. Што-б ні здарылася, а група будзе ў яры! Такое рашэнне авалодала ўсёй яго істотай, і ніякая сіла не прымусіць адступіцца ад яго. Ці ад таго, што так пагрозліва навісала небяспека, ці проста ўжо так моцна закалілася сэрца, але ў гэтыя хвіліны Машкін не адчуваў якога-небудзь здранцвення, разгубленасці ад страху. Усімі сіламі ён намагаўся своечасова ўсё заўважаць, правільна ацэньваць і быў гатовы пры неабходнасці аддаваць такія загады, якія абавязкова выратуюць групу.

Яшчэ адзін ракетны стрэл даляцеў да яго вушэй. На пластунскім ходу Машкін павярнуў галаву, паглядзеў на сіняватае ўжо неба. Проста над ім, нібы злашчасная зорка, стаяла ракета. Машкін яшчэ больш намогся, каб паўзці хутчэй, бо яму здалося, што калі хоць крыху прамарудзіць, то ракета ўпадзе яму проста на плечы. Гэта, мабыць, ужо апошняя ракета; дрэмле немец перад золкам і пускае. А як толькі расплюшчыць бельмы, то ўбачыць, ліха яму, што ракеты цяпер ужо мала памагаюць, што, добра вылупіўшыся, ужо можна агледзець прагаліну і без ракет.

Гэтыя думкі Машкіна перабіў яшчэ адзін стрэл, але больш гучны, чым з ракетніцы. Следам за ім другі і трэці, і нават пачулася Машкіну, што нехта дзіка закрычаў ззаду.

— За мною! — падаў Машкін каманду, ускочыў і, прыгнуўшыся, пабег у напрамку яра. Ён не бачыў, а адчуваў, што за ім пабеглі ўсе. Яшчэ момант, яшчэ. Не чутно пад сабою ног, не чутно, як шуміць рэз-

каваты ветрык паўз мокрыя ад расы вушы. Першая кулямётная чарга. Яе таксама быццам-бы не чутно, толькі сам сабою паскараецца рывок, вочы шукаюць наперадзе яра. Пасля другой, вельмі доўгай чаргі Машкін глянуў управа ад сябе і спачатку адчуў, а потым ужо ўбачыў, што бягуць не ўсе.

— Лажыся! — скамандаваў ён, зразумеўшы, што рывок не ўдаўся.

Байцы пападалі і ўжо без каманды, а проста па прыкладу камандзіра пачалі хутка выбіраць хоць трошкі зручнейшыя месцы для абароны. На шчасце іх, мясціна была ўжо крыху ніжэй той, дзе яны былі хвіліну назад. Як толькі глянулі на поле, перш чым націснуць на спускавыя кручкі вінтовак, убачылі на прагаліне перад сабою Зіну і Святлану. Яны ляжалі нерухома на самай высокай мясціне гэтай прагаліны. Таксама без каманды Міхал і Грыцко папаўзлі туды. Нямецкі кулямёт біў цяпер кароткімі чэргамі, але прыцэльна то па аднаму байцу, то па другому. На той узгорак, дзе ляжалі Зіна і Святлана, цяпер кулі не ляцелі, відаць немцы рашылі, што гэтыя ахвяры ўжо нікуды не дзенуцца. Аднак, як толькі туды сталі падпаўзаць байцы, агонь па ўзгорку ўзнавіўся. Вінтовачныя залпы ў адказ крыху насцярожылі ворага, але вельмі хутка туды, відаць, прыйшло падмацаванне, бо стралялі ўжо некалькі кулямётаў.

Калі Грыцко і Міхал падпаўзлі бліжэй да ўзгорка, то адразу заўважылі, што Зіна і Святлана жывыя, толькі варушыцца ім нельга, бо тут яны проста на прыцэле. У час кароткага прамежку паміж кулямётнымі чэргамі Грыцко пачуў, што Святлана цярпліва, сціснуўшы зубы, плача, — і ў сэрцы яго заныла.

— Што ў вас? — крыкнуў ён Зіне, каб тая пачула і ў шуме.

— Святлана паранена ў нogi,— адказала Зіна.

— А вы?

— Я не, але трэба выратаваць Святлану.

— Паўзіце ўніз! — як толькі мог сурова загадаў Грыцко. Ён стаў асцярожна, нібы ўціскаючыся ў зямлю, падпаўзаць да Святланы, а Зіна ўсё ляжала і не варушылася.

— Я вам дапамагу,— устрывожана сказаў ёй Міхал. Яму падумалася, што Зіна таксама раненая, ды не гаворыць аб гэтым пакуль што. Аднак, калі ён, глытаючы зямлю ад блізкіх куль, наблізіўся да дзяўчыны, яна раптам узяла рэзка ўбок і засланіла сабою Святлану, якую ў гэты час Грыцко цягнуў за сабою. Зіна паўзла за акрываўленымі нагамі дзяўчынкі. Яна чула, як пры кожным намаганні Грыцка Святлана глуха, жаласліва ўсхліпвала, бачыла, як змешваліся з роснай травою яе светлыя, адросшыя за гэтыя тыдні валасы (хустка недзе згубілася ў трывозе), а больш нічога не бачыла і не чула. Перапаўзла яна так узгорак, яшчэ трохі прапаўзла, а потым, што далей, то ўсё больш і больш квола сталі перасоўвацца яе локці. Міхал кінуўся на дапамогу...

У яры Машкін працёр мокрым і, здавалася, горкім ад парахавога дыму рукавом вочы, глыбока ўздыхнуў і паклікаў да сябе байцоў. Таму, хто хутка падбег, загадаў:

— Зараз-жа выступаць, бо адкрыюць агонь з мінамётаў.

Падбеглі далёка не ўсе. Машкін заўважыў гэта, але ў душы дараваў тым, хто не выканаў яго загаду. Ён разумеў, што калі Грыцко і Міхал не падбеглі, значыць яны не маглі гэтага зрабіць. Нядобрае нешта і з дзяўчатамі, калі яны не з'явіліся. Ідучы, прыгнуўшыся, па цвілым ад

вільгаці яры, камандзір паглядзеў у твар шафёру, узбеку, яшчэ тром байцам і па іх вачах зразумеў, што яны выйшлі з бою цэлымі. Міхал з Грыцком былі трохі ўбаку. Грыцко паспешліва круціў з лазы жгуты і перавязваў імі Святлане ногі вышэй кален, а Міхал стаяў, нахіліўшыся над Зінай. На каго яны цяпер былі падобныя? Мокрыя і брудныя, па многу разоў прастрэленыя лахманы звісалі з плячэй, з рукавоў, ад міхалавых ядлоўцавых лапцяў не засталося і звання. У Грыцка нават паясны рамень быў скрозь пабіты асколкамі ад разрыўных куль.

З глыбокай трывогай і болем у сэрцы падыходзіў Машкін да гэтых людзей. Падышоўшы, моўчкі стаў каля Зіны на калені, спалохана глянуў Міхалу ў вочы. Баец плакаў...

...Выходзілі з яра перад самым усходам сонца. Міхал нёс на руках Зіну, а Грыцко — Святлану. Дзяўчынка трымалася за грыцкову шыю, а зініна правая рука, працятая многімі кулямі, як і ўсё яе цела, бездапаможна звісала і амярцвела матлялася. За Міхалам і Грыцком ішоў Машкін, шафёр і ўсе астатнія байцы. Яны ішлі шчыльна адзін каля аднаго, каб пры неабходнасці засланіць сваімі спінамі тых, што былі наперадзе. Яшчэ хвіліна, і павінен заззяць першы сонечны прамень, яшчэ хвіліна, і павінны паказацца свае пазіцыі.





**Хведар ЖЫЧКА**

Хведар Жычка нарадзіўся ў 1927 годзе ў вёсцы Марс на Жлобіншчыне. З 1945 па 1951 год служыў у радах Ваенна-Марскога флоту, дзе і пачаў пісаць вершы. Цяпер працуе ў рэдакцыі газеты «Піонер Беларусі» і адначасова займаецца на завочным аддзяленні літаратурнага інстытута імя А. М. Горкага пры СП СССР.

Вершы Жычкі друкаваліся ў часопісах «Полымя», «Беларусь» і ў газеце «Чырвоная змена». Ніжэй мы змяшчаем новыя творы паэта.

# ДЭВІЗЫ МОЛАДЗІ



Гэта-ж вельмі лёгка — устрымацца,
Калі вырашыць твой голас можа:
Праўда ці няпраўда пераможа.
Хочаш добрым ты для ўсіх застацца?
Гэта-ж вельмі лёгка — устрымацца.

Гэта-ж вельмі лёгка — адмаўчацца,
Калі спрэчка жорсткая ідзе
Двух варожых думак, двух ідэй.
Хочаш ты разумным паказацца?
Гэта-ж вельмі лёгка — адмаўчацца.

Гэта-ж вельмі лёгка — дачакацца
Новаму агульнага прызнання:
Дасць начальства зверху указанне,—
Вось тады за справу можна ўзяцца.
Хочаш ты на чын вышэй падняцца?
Гэта-ж вельмі лёгка — дачакацца.

Гэта-ж вельмі проста — захавацца
За спіну таварыша ў баю.
Хочаш выратаваць галаву сваю?
Гэта-ж вельмі проста — захавацца
За спіну таварыша ў баю.

Мы ідзем не торнаю дарогай.
Многа на шляху ў нас перашкод.
І не лаўры сцелюць нам пад ногі
Тыя, каго страшыць наш паход.

Мы ідзем праз штормы і вятры,
Ў твар парой сячэ і дождж і снег.
Мы ідзем праз рэвальверны брэх,
Як паэт калісьці гаварыў.

Хто там, хто там апускае кнізу
Наступу вялікага дэвізы:
«Баязлівасць — кожнае ўстрыманне!»
«Шкодніцтва — халоднае маўчанне!»
«Дэзертырства — ўсякае чаканне!»
«Здрада — за спіну другіх хаванне!»

Гэта — племя мужнага дэвізы,
Змагароў, шукальнікаў дэвізы.
Моладзь!
На ўзбраенне іх вазьмі!

## ВЯСЕННІ ВЕЦЕР



За палямі,
За лясамі,
Дзе імкнуцца ў неба горы,
Кузні дзіўнай чутна рэха.
Гэта — казачны каваль
Велізарным поўным мехам
Раздзьмухае сонца-горан
І ў снягах гартуе сталь.

Працаўнік каваль заўзяты,
Малады ён,
Нежанаты.
Тых краёў усе дзяўчаты
Чуб яго бялявы сняць.
А дзяўчат там толькі тры —
Тры свавольніцы-сястры:
Зіма,
Восень
і Вясна.
Каваля яны кахаюць,
Часта ў кузню заглядаюць,
Стукаюць у дзверы.
Восень просіць серп скаваць,
А Зіма — сякеру.
Просьба у сястры найменшай —
Плуг зрабіць пяцілямешны.

Моўчкі хлопец серп куе,
Па кавадлу злосна б'е.
І заказчыца дарэмна
Хоча з ім загаварыць.
Не, не любіць ён старэйшай,
Толькі-б серп хутчэй зрабіць,
Адчапіцца ад нямілай.
І ён горан злосна, з сілай
Раздзімае поўным мехам,
Аж ляціць па свету жар,
Загараюцца палі
І ўсе дрэвы на зямлі.
Восень выскачыць: «Пажар!»
А каваль зальецца смехам.

А Зіма адчыніць дзверы:
— Скуй мне, золатка, сякеру,
Загартуй і навастры.

Доўга хлопец раздзімае
Горан свой вялікім мехам.
Сівы попел замятае
Ўсе дарогі, сцежкі, стрэхі...
Але горан не гарыць.
... І сярэдняе сястры
Хлопец, бачце, не кахае.

Сэрцу-ж любая адна —
Яснавокая Вясна.

Варта ёй за клямку ўзяцца, —
Робіцца другім каваль.
Азараецца усмешкай
Малады, прыгожы твар.
Весялей рукі узмах,
Захадзіў раўней рычаг,
Заспявала жэрла меха,
І паветраны струменьчык
Раздзьмухае хутка жар.

... Яшчэ ў полі снег ляжыць,
На двары мароз трашчыць,
Ў інеі стаяць лясы.
Але раптам прабяжыць
Над палямі,
Над садамі

Вецярок такі ласкавы,
Вецярок такі рахманы,
Нібы рунь палёў і травы
Прыляцеў ён калыхаць.

Ведай, —
гэта для каханай
Хлопец плуг пачаў каваць.

* * *



Не тулі ў каракуль цёплы
Твар прыгожы малады.
Дождж? Ды гэта толькі кроплі,
Пойдзе дождж, то што-ж тады?

Ці-ж цябе вучылі ў школе
Гнуцца ветру, як трысцё.
Ціхім перакаці-полем
Пракаціцца праз жыццё?

Не, не гэтаму за партай
Навучалі ўсе цябе,—
Каб была заўсёды ўпартай
У жыцці, у барацьбе.

Каб настойліва і смела
Шляхам выбраным ішла,
Каб не тлела, а гарэла
І ніколі не старэла —
Маладой душа была.

Каб патоп, не толькі кроплі,
Не заліў юнацкіх мар...
Не тулі ў каракуль цёплы
Малады прыгожы твар!

## ДЗЯКУЙ!



На славу гучную прэтэнзіі не мела
Сялянка-маці.
Выхоўвала сына, як умела,
У цеснай хаце.
Пякучай розгаю ад веніка старога

І ласкай шчырай,
Сумленнай працай прабіваць дарогу
Мяне вучыла,
Казала:
«Хлеб падораны, дармовы
Не мае смаку.
Прыемна толькі ад людзей браць
слова
Святое — «дзякуй!»
... Гусцее за спіной гадоў суквецце.
Мне ўжо вядома,
Што дарма гэта слова не даецца
Нідзе нікому.
Рукой мазольнай зарабіць імкнуся
У людзей падзяку.
За тое, што я лёсу не каруся,
Матуля, дзякуй!



Іван ШАМЯКІН

# ШТО ЁН СТРАЦІЎ?

**Апавяданне**

Мал. Л. Дубра.

На вуліцы абласнога горада сустрэліся два чалавекі. Сустрэліся шумліва і радасна, абдымаліся, пляскалі адзін аднаго па плячы, трэслі рукі. Адразу відаць было, што гэта добрыя сябры і што не бачыліся яны, магчыма, шмат год. Забыўшыся на ўсё вакольнае, яны стаялі пасярод тратуара, і ўсе з усмешкамі абміналі іх — людзей заўсёды радуюць праявы сапраўднай дружбы.

— Пачакай, дай я на цябе пагляджу. Як ты трапіў сюды, Анатоль? Знімі акуляры, а то я не прывык бачыць цябе ў акулярах. Ах, чорт!

Той, якога бадай што можна было-б назваць тоўстым — чырванатвары, загарэлы чалавек у палатнянай кепцы, у ботах і галіфэ, якія шчыльна абцягвалі па-кавалерыйску крывыя мускулістыя ногі, — адступіў на крок і з камічным здзіўленнем аглядаў сябра з ног да галавы.

— Інтэлігент да мазга касцей! Акуляры... Капялюш. Ану, знімі капялюш. Лысіны няма? Няма. Але будзе. Будзе, браце, па ўсім бачу. Куды знікла твая сялянская закваска, Анатоль? Адрываешся ад зямлі, дружа...

Анатоль, больш стрыманы ў выяўленні сваіх пачуццяў, неяк вінавата ўсміхаўся і моргаў блізарукімі вачамі, нібы прасіў прабачэння за свой выгляд. А выглядаў ён сапраўды тыповым гаражанінам: бледнатвары, старанна паголены, акуляры ў пазалочанай аправе, карычневы гарнітур быццам толькі што з-пад праса, а на жоўтых чаравіках — ніводнай пылінкі.

— Не, ты скажы, якім чынам ты апынуўся тут. Ты-ж быў недзе ў Гродні. У камандзіроўку прыехаў?

— Не, працую.

— У нас? Дзе?

— У абласной пракуратуры. Дзе-ж больш працаваць юрысту!

— Охо-хо! — рагатнуў яго тоўсты сябра. — А дзе я працую? Юрыст! І даўно ты ў нас?

— Месяцы два.

— Два месяцы! Ну, гэта хамства з твайго боку, далібог. Два месяцы — і ні гугу. Ты што-ж, не ведаў, што я тут, побач?..

Анатоль адным пальцам тыкнуў у дужку акуляраў і зноў неяк вінавата заморгаў.

— Ведаў. Чаму не ведаў! Жыць у вобласці і не чуць пра Сцяпана Ластаўку — нельга. Ты высока ўзляцеў. Здалёк відзён і чуцён.

Сцяпан задаволена зарагатаў на ўсю вуліцу, быццам праехаў па бруку на каваным возе — ажно ўзняліся вераб'і, што скакалі па брудным праездзе. А людзі спыніліся і здзіўлена паглядзелі на яго.

— Высока ўзляцеў Ластаўка! Ха-ха! Ты па-ранейшаму афарызмамі сыплеш. Жартаўнік. Не, брат, яшчэ невысока, яшчэ толькі набіраю вышыню... разгон... Да патрэбнай вышыні яшчэ далёка, — ён агледзеўся навокал, як-бы шукаючы нечага ці запамінаючы месца. — Аднак трэба-ж нам адзначыць недзе нашу сустрэчу...

Анатоль пераклаў свой новенькі жоўты партфель з адной рукі ў другую, потым заціснуў яго пад паху, нібы раптам спалохаўся, што можа згубіць.

— Я не магу, Сцёпа. Давай пасля. Увечары ты будзеш у горадзе? Я мушу ісці яшчэ ў пракуратуру. Няёмка.

Але Ластаўка падчапіў яго пад руку і амаль сілком цягнуў за сабой цераз дарогу ў той бок, дзе віднелася шыльда «Кафэ-рэстаран».

— Хто табе сказаў, што няёмка? Абедаў чалавек — выпіў сто грамаў. Каму забаронена? А начальніка твайго я ведаю — ён сам не адным квасам праганяе смагу. Не, скажаш? Мне вось яшчэ ў абком ісці, да першага на прыём. І то я не баюся. Няхай нават заўважыць. Няхай не вытрымае — скажа. Ён гэта можа! Дзядзька гэты, я табе скажу, прасцецкі, але розуму — палата... Прыжмурыцца так, ведаеш, і з гумарком спытае: «Што, клюнулі, Сцяпан Карнеевіч?» І што думаеш — буду адмаўляць, хавацца? Не! Узяў, скажу, Ілья Фаміч, сто грамаў, друга сустрэў, разам вучыліся, на адным ложку спалі... Як не адзначыць такі выпадак! Думаеш, не зразумее? Зразумее... Магчыма, скажа агульнавядомую і старую, як свет, ісціну: «Што-ж, выпіць, канешне, не грэх, галоўнае — розуму не прапіваць». А што я розуму ніколі не прап'ю — у гэтым ён упэўнены. Дык чаму мне баяцца?

— Табе — безумоўна... — усміхнуўся Анатоль з хітра схаванай іроніяй, ветліва прапускаючы ў дзвярах сябра наперад: — Калі ласка... Тваё становішча іншае... А я — чалавек маленькі...

Кафэ было пустое, і яны, як гэта заўсёды бывае, калі вольных месц многа, добрую хвіліну разважалі, дзе лепей прымасціцца. Селі каля адчыненага акна. На дварэ верасень ужо даволі шчодра пазалаціў дрэвы, і на тратуар, на брук лажыліся лісты з ліпаў і каштанаў. Было незвычайна цёпла, нават горача. Уласна кажучы, Сцяпан не столькі шукаў больш утульнага месца, колькі — чысцейшага абруса. Але і на тым століку, за які яны селі, абрус усё адно быў брудны — па плямах на ім можна было чытаць усё меню рэстарана.

Сцяпан зморшчыўся.

— Калі гэта прывыкнуць людзі да культуры! — ён паклікаў афіцыянтку і грубавата патрабаваў замяніць настольнік. Дзяўчына наважылася пярэчыць, але глянула на Анатоля, убачыла, як ён адным пальцам паправіў свае пазалочаныя акуляры, плюснуў вачамі і далі-

катна зняў са стала свой новенькі партфель, і адразу пабегла на кухню. Праз хвіліну на стале ляжаў беласнежны накрухмалены абрус.

Сцяпан разгладзіў далонямі складку на ім і задаволена сказаў:

— Аказваецца, усё маюць, чэрці, але прывыклі, што наведвальнік наш непатрабавальны, прывык жыць па формуле, як у Чэхава — помніш? — «лопай — што даюць».

Анатоль ледзь прыкметнаківаў галавой у знак згоды і ўсміхаўся аднымі вачамі з-пад акуляраў.

Зрабіўшы заказ, Сцяпан раптам вярнуўся да таго, што Анатоль сказаў у дзвярах:

— Чалавек ты не маленькі — не прыбядняйся. Справа іншая, што мы — больш на віду. Нас цяжка падабраць, каб гаспадары былі; ніякі інстытут не падрыхтуе добрых старшынь... Але калі ўжо натрапілі на гаспадара, то яго падтрымліваюць, яго ведаюць ажно ў ЦК, з ім лічацца. Вунь такі, як Арлоўскі, на ўсю краіну грыміць. Мы — сіла... Мы кормім народ...

Анатоль зноў усміхнуўся, зноў тыкнуў пальцам у дужку акуляраў і неяк нясмела заўважыў:

— Я асабіста заўсёды лічу, што народ корміць... цябе... мяне... усіх нас... І ты пісаў так...

— Ты мяне на слове не лаві. Вядома — народ... Хто гэта можа аспрэчваць? Любы прыхільнік культу асобы не адважыцца... Я проста не так сказаў... Добры старшыня калгаса, вядома, сіла, ад яго шмат што залежыць... Але галоўнае — народ, ён — тварэц свайго дабрабыту. Я, брат, гэта вельмі добра разумею. Ты-ж чытаў мой артыкул? Ведаеш, з чаго я пачаў у калгасе? Вось яно як!

Афіцыянтка прынесла заказаныя поўлітра гарэлкі і халодную закусь: кілбасу, селядца. Анатоль, як і пры заказе, зноў скрывіўся:

— Многа ты заказаў.

— Не палохайся, я меру ведаю. — Сцяпан наліў па першай чарцы. — Узялі!..

Анатоль падняў сваю чарку павольна, нават неяк урачыста і раптам загаварыў:

— Добра, давай... За народ... І за тое, каб мы, яго выхаванцы, яго служкі, ніколі не забывалі, што ён, народ, нас корміць і поіць.

У Сцяпана варухнулася брыво — ён здзівіўся такому красамоўству сябра: Анатолю, заўсёды такому ціхаму, сціпламу і дакладнаму, зусім не ўласціва была такая ўзнёсласць і паэтычнасць.

Анатоль выпіў сваю чарку, хутка закусіў селядцом і, пакуль Сцяпан быў заняты закускай, спяшаўся выказаць сваю думку:

— Прызнаюся, я спачатку здзівіўся, калі даведаўся, што ты і іншыя з вышэйшай адукацыяй пайшлі старшынямі... Мне здавалася, што гэта неразумна: рыхтаваць пятнаццаць-шаснаццаць год спецыяліста-юрыста, інжынера, і раптам — у калгас... А потым даведаўся, як ты працуеш, прачытаў твой артыкул і сказаў: правільна! Калі хочаш ведаць, то, можа, гэта і ёсць той подзвіг, пра які мы некалі гаварылі...

— А ты думаеш, мне лёгка было развітвацца з пасадай раённага пракурора? Я таксама думаў, як ты: вучыўся, атрымаў пасаду... А Клава як узбунтавалася: не паеду! Колькі слёз было! А цяпер — задаволена! Я і не думаў, што я — такі гаспадар! Сам дзіўлюся. Скажу

табе шчыра: падабаецца мне быць такім гаспадаром... Кажуць, у каго эканоміка — у таго улада. Але не думай, што ўлада мне падабаецца. Не.— Сцяпан наліў па другой чарцы.— Па-чалавечаму прыемна, калі бачыш вынік сваёй працы не ў выглядзе папер, пратаколаў ці прамоў, а ў выглядзе засекаў са збожжам, бітонаў з малаком, капцоў з бульбай і рахунку ў банку...



Анатоль ціха і задаволена смяяўся і зноў першы ўзняў чарку.

— Вось за гэты хлеб, за малако і за рахунак з сямі лічбаў! — Ён выпіў і, замест таго каб звыклым рухам папраўіць акуляры, зняў іх зусім. Ад гэтага твар яго стаў маладзейшым і больш простым, магчыма, таму, што адкрыліся блізарукія, але добрыя ўлюбёна-ласкавыя вочы.— Ты — малайчына... Ты правільна пачаў... Адразу падумаў аб людзях... Галоўнае — клопат пра чалавека... Калі чалавек адчувае, што пра яго думаюць, што ўсё, што робіцца,— гэта для яго... дык ён горы пераверне... Здорава ў цябе сказана ў артыкуле!.. Смела... І прыклады якія! З хатамі, з агародамі... У нас не ўмеюць так пісаць... Суха, казённа: «выканалі, перавыканалі, недавыканалі»...

— Але, брат, мне ўдалося знайсці гэтае галоўнае звяно. Магчыма, што дапамагла наша прафесія... А што ты думаеш? Нашай прафесіі бюракратызм — злейшы вораг... Пракурор не можа кіраваць агулам... Наша работа канкрэтная: лёс чалавека... Я кажу — наша... Твая работа!.. Мая цяпер іншая... Мне цяпер трэба думаць аб лёсе двух тысяч чалавек...

Сцяпан засмяяўся і, чакаючы гарачай стравы (халодную закуску ён усю з'еў), узяў анатолевы акуляры, пільна агледзеў іх і, начапіўшы на свой мясісты пачырванелы нос, паглядзеў праз іх на вуліцу, дзе ішлі людзі і шумелі на ветры ліпы.

— Што гэта яна нам адбіўных не нясе? Вось што, Толя, тэарэтычныя размовы — убок. Давай пяройдзем да практыкі. Ты скажы мне: калі ты будзеш маім госцем? Ці думаеш хавацца па-ранейшаму?

— Буду... прыеду абавязкова. Мне цікава паглядзець...

— Толькі таму, што цікава паглядзець? Ну, ты — свіння, Толя. Ты помніш, як я, — Сцяпан нахіліўся над сталом і круціў у руцэ акуляры,— цябе любіў, я цябе лічыў найлепшым сябрам... І ты будзеш у нас самы дарагі госць. Мы з Клавай цябе часта ўспаміналі... І калі я скажу Клаве, што бачыў цябе, яна мяне заб'е... сур'ёзна заб'е: чаму не прывёз? Ты-ж, па сутнасці, наш сват... Гэта-ж ты нас пазнаёміў... Помніш? Ты ўсіх жаніў... Як у песні той, усіх жаніў, а сам... Не, чакай... Што сам? Халасты, жанаты?

Анатоль хутка узяў з яго рук акуляры і схаваў пад імі вочы, якія пачалі збянтэжана моргаць.

— Халасты? Вось дык дзіва! Сапраўды — як у песні! А Ліза?

— Давай, Сцёпа, пра гэта — пасля як-небудзь, — Анатоль уздыхнуў і паправіў акуляры.

— Пасля, дык пасля. Але скажы, калі ты прыедзеш да нас?

— Прыеду.

— Калі?

— Цяжка сказаць...

— Не, ты скажы... Мы з Клавай павінны сустрэць цябе... Ведаеш, як мы сустрэнем цябе!..

— Навошта?

— Гэта не твая справа.

— Я напішу вам.

— Глядзі-ж... Будзем чакаць... А не — самі да цябе прыедзем!

Нарэшце афіцыянтка падала вялікія, на ўсю талерку, румяныя кавалкі адбіўной свініны, духмянай, смачнай.

Сцяпан праглынуў сліну і задаволена засмяяўся:

— Во гэта лапці! Трэба-ж па сто грамаў да іх!

— Многа, Сцёпа,— запярэчыў Анатоль, на якога адбіўныя зрабілі зусім іншае ўражанне.

— Нічога. Мне яшчэ ў абком ісці і то я не баюся. Ну, выпіў... Так і скажу: выпіў за сустрэчу з лепшым сябрам...

Яны выпілі яшчэ, і Сцяпан апетытна знішчыў сваю адбіўную. Убачыўшы, што Анатоль амаль не дакрануўся да яе, ён, адчуваючы крыху няёмкасць, непрыязна падумаў: «Інтэлігенцік... хлюпік»...

— Ты што — чэрава баішся адгадаваць? Бегай столькі, колькі я бегаю па полі,— ніколі жывата не будзе...

Анатоль ап'янеў, ён без патрэбы праціраў акуляры і без іх глядзеў на сябра добрымі, ласкавымі вачамі.

— Ты — герой, Сцёпа... Я разумею цябе... І я схіляю... схіляю галаву... Гэта — мужнасць... Мужнасць! Вучыўся, працаваў... Пракурор!... І раптам — туды, дзе ты больш патрэбны людзям... І артыкул твой мужны... Вось так... на поўны голас... Клопат аб людзях — галоўнае!.. Вядома, галоўнае! Чаму некаторыя гэтага не разумеюць? Хоць на словах усе разумеюць, на справе...



«Раскіс... Слабец... Трэба яго на кватэру адвесці... На работу яму паказвацца не варта. Дзе ён жыве?

Калі разлічваліся, Анатоль палез у кішэню, але Сцяпан далікатна затрымаў яго руку і заплаціў адзін.

— Мая ініцыятыва — і я плачу... Запросіш ты...

Анатоль уздыхнуў.

— Я? Я жыву ў гасцініцы... Трэці месяц у гасцініцы,— ён неяк адразу, у адзін міг, як-бы працверазеў: змоўк, заціснуў пад пахай свой партфель.

Сцяпан прытаіў уздых палёгкі: «Добра, што нікуды адводзіць не трэба... А можа і самому адпачыць у яго нумары? У абком не пайду... Не варта трапляць на вочы начальству ў такім выглядзе».

Развітваючыся ў вестыбюлі гасцініцы, Анатоль моцна сціснуў руку сябра і ціхім, з мальбою голасам папрасіў:

— Не зазнавайся толькі, Сцёпа.

Ластаўку гэта рассмяшыла, і ён зарагатаў на ўвесь будынак, ажно з цырульні выглянулі майстры з брытвамі ў руках і з мыльнай пенай на пальцах...

— Ідзі... кладзіся... А я ў абком. Не забывай — чакаю ў госці.

* * *

На двары ішоў снег — той добры першы снег, які ляціць лёгкімі пушынкамі, сцелецца роўна і прыносіць прыемны спакой і дрымоту. Стары калгасны бухгалтар раз-по-раз кляваў носам у тоўсты «гросбух». Яго памочніца з гарачымі шчокамі — хоць запалкі чыркай аб іх — паглядала на старога і лагодна ўсміхалася. У канцылярыі, чыстай, цёплай, якой шматлікія, відаць, нядаўна абноўленыя плакаты і дыяграмы надавалі нейкі ўрачыста-святочны выгляд, больш нікога не было. Толькі з кабінета старшыні, дзверы ў які былі прыадчынены, даносілася мармытанне і лёгкі свіст. Сцяпан Ластаўка і мясцовы фельчар, стары чалавек з лысай, падобнай на грушу, галавой гулялі ў шахматы.

Старшыня высвістваў нейкую імправізацыю, у якой чуліся асобныя матывы папулярных песень, высвістваў аднолькава роўна і пры ўдалым ходзе і тады, калі трапляў у цяжкае становішча. Фельчар, калі рабіў удалы ход і бачыў, што «праціўнік» задумаўся, нязменна спяваў бадзёра і гучна салдацкую песню —

Ой, ты зімушка, зіма,
ты халодная была!

Калі-ж самому прыходзілася «варушыць мазгамі», ён адразу «мяняў пласцінку» і мармытаў па-ўкраінску:

Луччэ було-б, луччэ було-б не хо-о-дыты...
Луччэ було-б, луччэ було-б не ходыты...

Дзяўчына-рахункавод заглянула ў дзверы і паведаміла:

— Сцяпан Карнеевіч, відаць, зноў нейкі ўпаўнаважаны ідзе... з партфелем...

— Ах, чорт іх носіць... Спакою няма,— зморшчыўся старшыня.

Фельчар адразу ўзняўся.

— Здаешся? Не? Адкладзем. Давай на шафу пастаўлю.

— Дагуляем. Пехатой — драбяза якая-небудзь... нарыхтоўшчык, мусіць...

— Усё адно гульні не будзе, — фельчар асцярожна падняў дошку з фігурамі і паставіў на шафу, потым адразу нацягнуў на сваю галаву-грушу шапку з апушчанымі вушамі.— Я пайшоў.

Усе ведалі яго слабасць — боязь начальства. Стары кідаў усё і сыходзіў нямаведама куды, як толькі дазнаваўся, што ў вёску прыехаў хто-небудзь з раёна ці з вобласці. Таму старшыня груба пажартаваў:

— Схавайся за грубкай, Яўменавіч, а то сустрэнешся тварам у твар.

Госць стукаў ужо ў калідоры, відаць, абіваў з ботаў снег. Фельчар, насунуўшы шапку на вочы, нырнуў у дзверы і нават не зачыніў іх за сабой. І тады на парозе з'явіўся госць — чалавек у паліто з шэрым каракулевым, быццам яшчэ заснежаным, каўняром і гэтакай-жа шапцы. На двары вочы яго прывыклі да бляску снегу, і цяпер ён з напружанасцю ўглядаўся праз акуляры ў поўзмрок пакоя. Але шкельцы акуляраў, напэўна, адразу запацелі, як толькі на іх дыхнула цеплынёй, і чалавек мусіў зняць іх.

Сцяпан пазнаў Анатоля і, радасна выгукнуўшы, пайшоў насустрач, абняў сябра.

— Толя! Вось нечаканасць!.. Ты са станцыі? Чаму-ж ты не паведаміў? Я пад'ехаў-бы...

— А мне сказалі, што дарога ідзе лесам. І мне захацелася прайсці па лесе... І сапраўды, я даўно не меў такой прыемнасці... Снег... Цішыня... Хораша!

— Паэт ты! Таварышы, гэта мой лепшы сябра... Аднакурснік... Анатоль Пятровіч... — сказаў Сцяпан бухгалтару і дзяўчыне-рахункаводу. Ён шчыра ўзрадаваўся прыезду Анатоля: сумна ў доўгія зімовыя вечары ў вёсцы.

Анатоль ветліва паціснуў прысутным рукі.

— Распранацца я цябе не запрашаю,— мітусіўся Сцяпан.— Гайда да мяне! Эх, як узрадуецца Клава! А я ўжо быў страціў надзею, што ты прыедзеш... Клава папракае: «Дрэнна ты запрашаў»...

Анатоль паклаў на стол па-ранейшаму новенькі, быццам толькі што з магазіна, жоўты партфель, прысеў каля бухгалтарскага стала, працёр хусцінкай акуляры.

— А ведаеш... не крыўдуй... я папрасіўся сюды, каб наведаць цябе. Але ёсць і справы...

— Якія справы! — засмяяўся Сцяпан.— Злодзеі ў нас перавяліся — судзіць няма каго. Усе справы — на пасля... Не сакрэт — што за справы?

— Не, не сакрэт. Ажыццяўляючы пракурорскі нагляд, хочам праверыць становішча дзяцей-сірат, якія на патранажы...

Сцяпан неяк дзіўна хмыкнуў, але выразу твару яго ў гэты момант Анатоль не ўбачыў, бо той, апранаючы паліто, адвярнуўся. Аднак Анатолю не падабаўся гэты гук, і ён, тыкнуўшы пальцам у дужку акуляраў, спытаў:

— Ты — што? Лічыш, што гэта няважная справа?

— Ды не, усякая справа важная. Але калі казаць пра тое, наколькі яна тэрміновая... Давай адкладзем яе на заўтра.

— А можа лепш сёння, Сцёпа? Тут усяго ў вас тры чалавекі,— пасяброўску шчыра і проста папрасіў Анатоль і расшпіліў партфель, каб дастаць патрэбныя паперы.

— Што-ж... Сёння, дык сёння. Галя! — звярнуўся старшыня да дзяўчыны-рахункавода.— Бяжы да маёй жонкі і перадай: будзе абедаць дарагі госць... Каб на стале была індзюшка і ўсё, што ёсць у хаце...

Анатоль дастаў паперы.

— Вось тут першая... Лапатка Люба... дванаццаць год.

Старшыня звярнуўся з немым запытаннем да бухгалтара. Той паціснуў плячамі і ў сваю чаргу звярнуўся да рахункавода, якая ўжо накінула кажушок і намервалася выходзіць.

— Лапатка Люба? Ды гэта-ж унучка бабкі Лапаціхі. Во — побач тут... У той хацінцы, пра якую вы, Сцяпан Карнеевіч, казалі, што трэба раскідаць яе, каб не псавала выгляду вёскі.

Хацінка, хоць і была амаль у цэнтры вёскі, але стаяла адзінока. Суседнія хаты, вялікія і новыя, як-бы грэбліва адступілі ад яе, як адсоўваюцца багатыя ад жабрака, адступілі ў бакі і высунуліся ўперад, а хацінка засталася недзе ззаду, на гародзе. Каля яе не было ні хлеўчука, ні паркана, адзінокае акенца на вуліцу глядзела з снежнай нішы сваімі белымі шыбінкамі. Снег, прыгожы, пушысты, заносіў сляды старой сцежкі, што вяла з вуліцы да хацінкі. Не мела гэтая сіраціна ні калідорчыка, ні сенцаў. Дзверы яе ад снегу і ветру прыкрываў прымітыўны буданчык з прытуленых да сцяны сасновых галін.

Сцяпан і Анатоль ледзь пралезлі ў шчыліну паміж сукаватымі галінамі.

Старшыня, не пастукаўшы, адчыніў дзверы. У хаце стаяў поўзмрок — шыбы зараслі тоўстым пластом інею.

— Хто там? — азваўся з печы танклявы дзіцячы галасок.

— Мы,— недарэчна адказаў Сцяпан, нібы гэтае «мы» адразу ўсё вытлумачвала.

Вочы паступова прызвычаіліся да поўзмроку, і Анатоль убачыў, што з-за коміна выглядае худы тварык з цікаўнымі вачанятамі. Уласна кажучы, убачыў ён адны гэтыя вачаняты ды нос, бо ўсё іншае на твары было закрыта вялікай белай хусткай.

— Гэта ты — Люба Лапатка? — спытаў Анатоль.

— Я. А што?

Анатоль не адказаў — «што». Ён убачыў белую пару, якую выдыхаў,— у хаце было холадна. Яшчэ тады, калі ён убачыў гэтую хаціну і асабліва сасновае галлё над дзвярамі, у душы яго ўзнікла нейкае непрыемнае пачуццё да Сцяпана. Цяпер гэтае пачуццё ўсё больш акрэслівалася. Ён ужо добра адчуваў, што гэта — злосць і гнеў. І разам з гэтым — боль, глыбокі душэўны боль, ад якога сціскала дыханне

і рабілася салёна ў горле. Ён аглянуўся і ўбачыў у куце кучу бульбы. Ён нахіліўся і падняў адну бульбіну. Яна была мёрзлая. Невядома на што паклаў гэтую бульбіну ў кішэню. Гаварлівы старшыня маўчаў, відаць, таксама ўражаны выглядам хаты. На печы цяжка ўздыхнула старая, але самое яе не відаць было, толькі куча нейкіх рызманоў.

— Ты ў школу ходзіш? — спытаў у дзяўчынкі Анатоль глухім дрыжачым голасам.

— Хаджу. Але я тры дні не была... Бабуля захварэла... Яна слабенькая... Я ляжу з ёй і грэю... Баюся, калі я пайду, яна застыне і памрэ...

— А ў печы вы паліце?

— Учора палілі. Цётка Ганна прынесла бярэмак дроў, і мы палілі... Печка і сёння яшчэ гарачая... А вы з раёна?

— А чаму вы не возьмеце каня і не прывезяце дроў? — незадаволеным сухім голасам спытаў Сцяпан.

— А я прасіла ў вас, дзядзечка. А вы паслалі мяне да брыгадзіра. А ён кажа, што нас павінен забяспечыць сельсовет, што мы пенсію атрымоўваем...

Анатоль больш не мог трываць. Ён прарывіста, з гукам, падобным на ўсхліпванне, уздыхнуў і, нічога больш не сказаўшы, выйшаў з хаты.

Калі Сцяпан дагнаў яго на вуліцы, дзе ўсё ўрачыста ззяла ад снежнай белізны, ён прашаптаў з болем і гневам:

— Якая ганьба! Ганьба!

Сцяпан узяў яго пад руку, быццам намерваючыся падтрымаць на слізкім месцы:

— Дарагі мой, згадзіся, што за ўсім не ўгледзіш, усяго не ўбачыш... Ёсць больш важныя справы...

Анатоль вырваў руку, павярнуўся да Ластаўкі, сарваў свае акуляры і, размахваючы імі, амаль крыкнуў:

— Знесці гэтую хаціну, каб не псавала выгляду,— пра гэта ты падумаў, гэта ўбачыў. А хто там жыве? Як жывуць гэтыя людзі? За два гады ты не здолеў убачыць. Гэта табе няважна. У цябе ёсць больш важныя справы. Крычаць ва ўсіх газетах, што галоўнае ў тваёй працы— клопат пра чалавека. Вось твае клопаты! Дэмагог!

На другім баку вуліцы спынілася жанчына, прыслухоўваючыся, што гэта так абурана кажа незнаёмы старшыні. Сцяпан убачыў жанчыну і настойлівым шэптам папрасіў:

— Не крычы. Людзі чуюць.

Анатоль махнуў рукой і шпарка пайшоў па вуліцы. Сцяпан ішоў ззаду — след у след, здзіўлена ківаў галавой і ўсміхаўся, як усміхаюцца дарослыя з учынкаў дзяцей.

Каля калгаснай канцылярыі ён зноў спыніў сябра — спытаў жартаўліва-іранічна:

— Што-ж, таварыш пракурор, цяпер і ў госці не пойдзеш?

Анатоль крута павярнуўся, вочы яго бліснулі з-пад акуляраў, на шкельцы расталі сняжынкі, затуманілі іх, і ён бачыў Сцяпана як-бы здалёк.

— Есці тваю індзюшку? Не, не пайду! Як прайсці ў сельсовет?

— За тым вунь калодзежам — направа. Там убачыш.

— Дзякую.

Анатоль не развітаўся, не падаў рукі, павярнуўся і пайшоў далей.

Сцяпан таксама не знайшоў, што сказаць. Ён стаяў і глядзеў услед сябру, які ўсё аддаляўся ў снежную каламуць.

Снег усё гусцеў і хутка засыпаў сляды. Калі Анатоль павярнуў у завулак, Сцяпан раптам адчуў боль у сэрцы і цяжкі смутак на душы. Што гэта? Чаму? Ён прыслухаўся... Яшчэ поўгадзіны назад было так лёгка, спакойна, весела. Ён гуляў у шахматы і ні пра што не думаў. «Глупства ўсё гэта... Наіўны ідэаліст... Інтэлігенцік. Залатыя акуляры начапіў... Садзіся на маё месца... паглядзім, як ты пакіруеш... як паклапоцішся пра ўсіх... Што я, нянька?»

Але дарэмна ён супакойваў сябе. Адчуванне, што ён страціў нешта вельмі дарагое, вельмі каштоўнае, усё расло. Што ён страціў? Дружбу? А хіба яму так неабходна была гэтая дружба? Хіба не была яна проста прыемным успамінам аб далёкіх студэнцкіх гадах? Ды што-ж ён страціў? А можа знайшоў? Знайшоў нешта нязвыклае, незвычайнае, ад чаго спачатку становіцца страшна?

Снег гусцеў... Сцяпан Ластаўка падняў каўнер паліто і нерашуча, павольна, аглядаючыся, паклыпаў у той самы бок, куды імкліва пайшоў Анатоль.





Антон **АЛЕШКА**

# ПЯЦЬ СУТАК

**Апавяданне**

Мал. Ф. Бараноўскага.

## 1

Сёння палкоўнік Гаёў устаў вельмі рана. Хутка сабраўся і выйшаў з дому. Пад нагамі скрыпеў снег, а востры вецер апякаў твар. Палкоўнік паправіў папаху.

«Гэты год марозы ды завеі зусім прыкончаць нас», — падумаў ён, накіроўваючыся ў казармы.

Палкоўнік ведаў, што яго людзі сёння добра намерзліся за цэлую ноч на такім сіверы. Нідзе не станеш на полі ў зацішак пакурыць — дзьме і дзьме... Яшчэ ў калідоры абдаў Гаёва спецыфічны, ледзь улоўны дух казармы, у якім спрактыкаваны нюх адрозніў пах ружэйнага масла.

«Вечарам чысцілі аўтаматы», — беспамылкова пазнаў ён. Дзяжурны па часці ў файэ гучна адрапартаваў палкоўніку і саступіў убок, даючы дарогу. Гаёў агледзеў адзін пакой казармы, потым другі і не знайшоў, за што можна было-б ушчунуць сённяшні нарад. Праўда, ён і не збіраўся тут затрымлівацца. Даведаўся толькі, што ўзлётная паласа падрыхтавана к чатыром гадзінам, а зараз рота чысціць рулёжныя дарожкі.

Палкоўніка сёння цікавілі сувязісты. Позна вечарам яму званіў камандзір палка і скардзіўся на сувязь. Гаёў абяцаў неадкладна разабрацца. Што там такое здарылася, што абурыла камандзіра палка, Гаёў нават не ўяўляў. Сувязісты яго заўсёды выдатна працавалі, а гэта нядаўна прыехаў новы камандзір роты і ўжо калі ласка — скаргі... Значыць, справа, мусіць, не ў людзях, а ў іх камандзіры.

Гаёў па вузкім калідоры трапіў у роту сувязі і адразу зайшоў у канцылярыю. Камандзір роты выйшаў з-за стала і далажыў, што робяць людзі роты, а пра сябе сказаў, што ён вядзе гутарку з салдатам Драбышэўскім, які ўчора на палётах дрэнна трымаў сувязь. Замест таго, каб адразу самому даць сувязь камандзіру палка, Драбышэўскі чакаў каманды. Чакаў і спазніўся...

Гаёў толькі цяпер убачыў, што з левага боку ад яго стаяў салдат. Самы звычайны салдат.

— Вы Драбышэўскі?

— Так точна!— хутка адказаў палкоўніку салдат.

— Ну, што здарылася?— зірнуў Гаёў на камандзіра роты маёра Лукашова.

— Драбышэўскі прызнаўся, што ён вінаваты. Не даў сувязь у тэрмін, калі камандны пункт пераехаў на новае месца.

Гаёў зірнуў на Драбышэўскага.

— Так точна, вінаваты!— пацвердзіў салдат.

— Прыйдзецца арыштаваць вас так сутак на трое, і тады вы будзеце ведаць, як павінен несці службу сувязіст,— закончыў гутарку з салдатам маёр Лукашоў.— Дазвольце адпусціць салдата?— звярнуўся ён да палкоўніка. Гаёў кіўнуў галавой.

Шчоўкнулі абцасы ботаў салдата, скрыпнулі дзверы канцыляры роты. Гаёў сеў каля стала. Поруч стаяў маёр Лукашоў, малады яшчэ афіцэр. Густыя чорныя бровы рэзка выдзяляліся на прыгожым бялявым твары.

— Вашы людзі ўсе паснедалі?— запытаўся Гаёў.

Лукашоў здзіўлена зірнуў на насупленыя бровы Гаева, на яго намаршчынены лоб, на папаху, якую ён зняў і палажыў на стале.

— Усе паснедалі ў сталоўцы, а дваім адправілі на дзяжурства.

— Хто сёння дзяжурыць?

Лукашоў выняў запісную кніжку і сказаў прозвішчы дзяжурных сувязістаў.

— Добра...

Потым палкоўнік пацікавіўся, калі яго рота была ў лазні, калі салдатам выдалі рукавіцы і ватнікі, а ў казарме глянуў на тэрмометр, папрасіў маёра Лукашова паказаць, як адчыняецца фортка ў акне. І калі яны зноў вярнуліся ў канцылярыю, Гаёў сказаў:

— У такім прыблізна плане, але значна больш вы павінны патрабаваць ад камандзіраў узводаў. Гэта ясна? Цяпер далей. Вы самі вучылі салдат роты, як трэба даваць сувязь?

— Да мяне іх тут вучылі. Мусіць і паказвалі таксама...

— А вы паказвалі?

— Не паспеў яшчэ...

— Гаворачы між намі, вы людзей яшчэ не вучылі, не паказвалі ім нічога як трэба, а ўжо паабяцалі арыштаваць салдата на трое сутак. Я не ўмешваюся ў вашу дысцыплінарную практыку — калі ласка, вы камандзір роты. Аднак, каб я быў на вашым месцы, пачаў-бы не з гэтага. Першым чынам я навучыў-бы роту, а пасля ўшчуваў-бы...

— Слухаюся! Сёння ў мяне па раскладу заняткі ў полі...

— О, гэта добра...

— Я правяду спачатку днём практычна, а потым і ноччу...

— Яшчэ лепш.

З аэрадрома прыйшоў нампаліт падпалкоўнік Лебедзеў. Халодны, абветраны, але жвавы. На брывах паблісквалі маленькія кропелькі інею. Ён пачаў расказваць палкоўніку аб недахопах, якія выявіў учора на аэрадроме ў часы палётаў, а Гаёў надзеў папаху, паказаў у бок Лукашова.

— Што тут гаварыць пра аэрадром. Я ўжо ўсё ведаю. Вам, маёр, раю вывучаць і дасканала ведаць душу салдата, клапаціцца аб салдатах па-бацькоўску і тады...

— Слухаюся!— адказаў Лукашоў.

Гаёў пайшоў. У канцылярыі засталіся Лебедзеў і камандзір роты. Лебедзеў з аднаго слова Гаёва зразумеў новага ротнага камандзіра. І сам ён учора на аэрадроме бачыў, як камандаваў Лукашоў, і парашыў з ім сёння гаварыць. Не секчы з пляча, як ліхі кавалерыст, падначаленых, а вучыць салдат, афіцэраў, паказваць ім практычна, як трэба працаваць на новай тэхніцы.

— Сядзем,— прапанаваў Лебедзеў Лукашову.— Якія ў вашай роце радыёстанцыі?— пачаў ён.

І пайшла гутарка...

А калі Лебедзеў выйшаў з роты, задаволены, што Лукашоў вельмі добра ведаў тэхніку, навінкі яе, то сам камандзір роты нездаволены спыніўся каля акна, абыякава пазглядаў на аснежаны двор. «Чаго яны хочуць ад мяне? Я ўзяў крута? Не! Яны гэтага не сказалі. Дысцыпліна ёсць дысцыпліна. І Гаёў не адмяніў майго намеру арыштаваць салдата»,— Лукашоў кусаў ніжнюю губу і адчуваў якуюсьці ўнутраную непрыемнасць. Было такое пачуццё, што ён зрабіў дрэнна, але з яго за гэта не пытаюцца, лічаць, што чалавек сам паправіцца. А ці-ж гэта так?

Лукашоў любіў вайсковую службу. Яго паважала камандаванне як валявога афіцэра, здольнага цвёрдай рукою наводзіць дысцыпліну і дасягаць мэты, якая ставілася перад ротай.

Праўда, там былі другія ўмовы, пяхота, а тут — авіяцыя... Лукашоў пастаяў некалькі хвілін. «У авіяцыі дысцыпліна павінна быць яшчэ лепшая. Гэтулькі тут складанай тэхнікі... А што датычыцца людзей, то Гаёў падкрэсліў. Стары на гэтым зубы з'еў... Я гэта ўлічу ў сваёй рабоце. Эх, ротны камандзір, хто цябе не вучыў?»— весела падумаў маёр і выйшаў з канцылярыі.

## 2

Салдат Драбышэўскі апынуўся ў калідоры і вольна ўздыхнуў. Можна сказаць, з самага вечара, як толькі ўчора прыйшлі з аэрадрома, ён чакаў, што яго паклічуць да Гаёва. Аднак прайшоў вечар, мінула ноч, а нечаканая сустрэча ў канцылярыі з Гаёвым зусім расчаравала яго. Ён чакаў, што палкоўнік пакарае яго, як аб гэтым гаварылі салдаты, «на ўсю жалезку»...

І таму гутарка маёра Лукашова, вострая і патрабавальная, нікольні не кранула і не спалохала Драбышэўскага. Што-ж сталася з палкоўнікам? Ён нават не накрычаў на яго. Вось гэта і прымусіла задумацца салдата. «Палкоўнік парашыў, што са мной не варта гаварыць»,— з'явілася думка ў Драбышэўскага. Яна адначасова і пакрыўдзіла яго.

«Старшына не пагаварыў, а паслаў адразу да ўзводнага. Узводны не разабраўся і проста да камандзіра роты накіраваў. Ротны новы чалавек, яму толькі і сварыцца. Усе пагражалі, крычалі... Калі яны не пагаварылі, то чаго-ж палкоўнік будзе размаўляць? Дзівак чалавек!» Драбышэўскі выйшаў з казармы і ўбачыў, што рота строілася на пляцы.

— Бягом!— падаў яму каманду старшына роты Месяц.

Драбышэўскі выбег на пляц, далажыў старшыну і стаў у строй апошнім.

— Сягоння ў нас дзень вучобы. Камандзір роты сам правядзе з намі заняткі. Займацца будзем на аэрадроме. На занятках не лавіць варон, а паказаць, што сувязь — гэта нервовая сістэма войска. І здаровая сістэма. Ясна?— старшына Месяц прайшоў паўз строй з аднаго фланга

на другі.— Не забывайце, што наша рота ў часці заўсёды была першай. Ясна?— старшына спыніўся.— Салдат Іваноў, зайдзіце да мяне і замяніце боты.— Месяц стаяў насупраць салдата-радыста, у якога ён штосьці ўбачыў на абутку, а згледзеўшы ротнага ў дзвярах казармы, узняў голас:

— Рота-а, смірна-а!..— І пабег да камандзіра. Далажыў, вярнуўся назад.

Неўзабаве крануліся. Драбышэўскі сёння быў замыкаючым і, пакуль ішлі па вайсковым гарадку, цешыў сябе салдацкай прымаўкай: «Замыкаючы салдат самы лепшы», а калі выйшлі ў поле, уважліва пазіраў на аснежаныя палеткі, якія рассцілаліся да цёмна-сіняй сцяны лесу. І тут яму ўспомніліся родныя мясціны, Свіслач-рэчка і лес. Лес, вяршаліны якога гавораць з небам. Успомніўся дзед, былы кавалерыст-будзёнавец, бацька-партызан, сястрычка-школьніца, маці...

— Левай! Левай!— падлічваў старшына.— Усе ідуць у нагу, адзін Драбышэўскі не ў нагу...

Драбышэўскі змяніў нагу.

— Вось так! Рота, запявай песню!

Рота прыйшла на аэрадром з песняй. Разышлася па ўзводах, і пачаліся заняткі. Радысты займаліся сваёй справай у спецыяльных машынах, а лінейшчыкі засталіся на снезе.

Маёр Лукашоў выскачыў з радыёмашыны, падышоў да ўзводнага. Паказаў на сіні кусцік па той бок аэрадрома.

— Даць сувязь на камандны пункт камандзіра роты, які знаходзіцца каля арыенціра нумар адзін. Па ўзлётнай паласе хадзіць небяспечна. Дзейнічайце!

— Слухаюся!

І вось ужо круцяцца шпулькі з тэлефонным кабелем, і яго чорныя лініі леглі на снезе.

Драбышэўскі, узваліўшы на сябе дзве шпулькі, аж угінаўся пад іх цяжарам. Падстаўляў твар востраму ветру, імкнуўся не адстаць ад ефрэйтара, які служыў ужо ў арміі другі год.

— Драбышэўскі, не адставаць, — азірнуўся ефрэйтар, калі яго шпулька апусцела.

Лукашоў праверыў работу лінейшчыкаў, пазваніў па тэлефоне, стоячы левым каленам у снезе.

— Клён, як мяне чуеце? Добра? Што?— і зірнуў на лінейшчыкаў.— Ёсць пашкоджанне лініі — знайсці.

І пабеглі лінейшчыкі шукаць, дзе пашкоджана сувязь. Драбышэўскі і не прыкмеціў, як хутка прабег час. Рота зноў выстраілася каля спецыяльных машын, і маёр Лукашоў паабяцаў, што такія заняткі ў полі будуць у іх часта. Адзначыў добрую работу радыстаў, пахваліў лінейшчыкаў.

— Я сам пачынаў службу лінейшчыкам на фронце. Справа была на Курскай дузе,— успамінаў маёр.— Гарачыя былі дні, калі мы, маладыя салдаты, прыбылі на фронт... І мы давалі сувязь пад разрывамі снарадаў і мін. Мой дружбак Янка Беразняк даваў сувязь на камандны пункт дывізіі. У час атакі немцаў сувязь была пашкоджана. Ён папоўз па лініі, і скора тэлефон зазваніў. Атака немцаў была адбіта. Беразняка няма і няма. Тады я пайшоў па лініі. Выткнуўся з-за кусцікаў і здзівіўся. У пярэстым маскіровачным адзенні поўз фашыст. Спыніўся, выняў кінжал... Я аўтамат з грудзей і рэзнуў чаргою... Падпаўзаю. У чатырох

кроках ад забітага фашыста ляжыць Янка з перабітымі рукамі, ледзь дыхае... Ён быў непрытомны, а перасечаны кабель сашчапіў зубамі і трымаў сувязь. Вось так працавалі сувязісты ў час Айчыннай вайны. Цяпер Беразняк маёр, камандуе батальёнам.

Драбышэўскі слухаў камандзіра роты і нечакана для самога сябе заўважыў, што камандзір роты зусім не злосны чалавек, самы звычайны афіцэр, толькі больш патрабавальны. І зусім ён не задзіраецца, як аб гэтым думаў пра яго раніцой. А на вайне, пэўна, і ён быў не апошні, хоць пра сябе нічога не казаў. Калі Беразняк — дружбак яго — быў герой, то і Лукашоў гэтакі самы. Не разгубіўся, секануў фашыста, які ўжо выняў кінжал...

Драбышэўскі ўбачыў, што і другія салдаты задумаліся пра свайго ротнага камандзіра. Цяпер маёр гаварыў з камандзірамі ўзводаў, а салдаты ўважліва прыслухоўваліся.

— Старшына Месяц, вядзіце роту,— загадаў Лукашоў.

Старшына выйшаў наперад.

— Рота, слухай маю каманду. Ша-агам марш!

Драбышэўскі, як і другія салдаты, шкадавалі, што камандзір роты так мала з імі пагаварыў, мала расказаў пра вайну.

— Левай! Левай!— падлічваў Месяц.— Рота, запявай песню!..

3

Дзяжурным лінейшчыкам на начныя палёты быў назначан салдат Драбышэўскі. Старшына Месяц даў інструкцыю яму, апытаў, як ён будзе дзейнічаць, калі пераменяць старт, калі, скажам, сапсуецца апарат, запытаў пра іншыя нечаканасці, якія бываюць у сувязі. Драбышэўскі бойка адказваў, і відно было, што чалавек гэты мае нядрэнную знаходлівасць. Гэтыя якасці спадабаліся старшыні роты. Пра сябе ён нават падумаў, што не прыкмячаў раней гэтага салдата. На твары яго была нездаволенасць, і ён на хвіліну апусціў вочы. Цераз некалькі хвілін ён яшчэ раз паглядзеў на салдата. Тонкія рысы твару з чорнымі бліскучымі вачамі гаварылі, што салдат споўніць сваё слова. У яго заўсёды свежы белы падкаўнерык, адзежа на ім ляжыць, нібы шылі на яго па мерцы.

— Я не ўпэўнены...— пачаў было, расцягваючы словы, Месяц, але салдат яго перабіў.

— Дзяжурства правяду... як вучылі. Будзьце ўпэўнены,— сказаў Драбышэўскі.

Другім разам старшына не ўтрымаўся-б, каб не навучыць салдата не перабіваць, калі гаворыць старэйшы, але сёння ўжо было пазнавата, нарад выехаў на дзяжурства, ды прытым салдат сказаў слушнае. Кануў самалюбства старшыны. Сказаў — як вучылі... Эйш, арол! А хто ў першую чаргу вучыў яго, навабранца, з беленькім пушком пад носам? Старшына роты! Хто зрабіў з яго спрытнага салдата, на якога глядзець ды не наглядзецца? Старшына роты! Хто глядзіць салдата, як маці? Старшына роты! Гаспадар роты! У халодным позірку старшыны з'явіліся цёплыя агеньчыкі.

Месяц выйшаў з-за стала, акуратны, шырокаплечы, як на малюнку. Твар яго чыста паголены. Прыцішаным голасам сказаў:

— Дзяжурства на палётах — баявая задача. Праверу, як вы будзеце дзяжурыць. А той выпадак я памятаю,— намякнуў старшына аб тым, калі Драбышэўскі быў спазніўся даць сувязь. — Як вы апрануты?— Прыдзірліва праверыў, што было ў Драбышэўскага пад ватнікам, загадаў скінуць валёнак і памацаў анучу.

— Можаце ісці...

— Слухаюся!

Драбышэўскі з радасцю выбег з казармы. На спадарожнай машыне з суседняй роты хутка заехаў на аэрадром. Адразу знайшлася работа. Ён ахвотна дапамагаў радыстам запускаць рухавік і, каб прыйшлося, цяпер адзін запусціў-бы яго, а потым трымаўся некаторы час каля дзяжурнага тэлефаніста. Нарэшце выйшаў з радыёмашыны. Цемра ахутала зямлю. Аббыўшыся на двары, Драбышэўскі ўбачыў, што белы снег відзён нават на рулёжнай дарожцы. А калі асвяцілі пасадачную паласу і заблішчаў срабрысты самалёт, які, як начны матыль, ішоў на пасадку, узнімаючы за сабою пыл снегу, блакітнага і блішчастага,— было вельмі прыгожа і нават жудаснавата. Пражэктары раптам пагаслі. Драбышэўскі яшчэ доўга пазіраў на асветленую агнямі паласу, як на казачны праспект, а потым узняў позірк на Млечны шлях у цёмным небе. Яму на момант нават здалося, што ён, гэты высокі і светлы шлях з мноствам вялікіх зорак, ёсць адлюстраванне небам агнёў узлётнай паласы на іх аэрадроме.

Навокал усё гудзела, дрыжала зямля пад нагамі, а гул рэактыўных самалётаў далятаў са старту, як простае шорганне аднаго ліста фанеры аб другі.

І Драбышэўскі зараз чамусьці ўспомніў школу, якую ён лёгка скончыў. Прайшоў дзесяць класаў, нібы па вуліцы прашпацыраваў. Не слухаў бацькі, які хацеў, каб сын скончыў школу медалістам. Паспрабаваў у адзін інстытут, зайшоў у другі, трэці — не бяруць дакументаў, нават ветліва ўсміхаюцца. У атэстаце сталасці ў Драбышэўскага — адны тройкі. І зразумеў ён тады ўсё, не мог сабе дараваць сваёй лёгкадумнасці... Яму і зараз сорамна за сваю вучобу ў школе.

Далей Драбышэўскі падумаў, што цяпер робяць дома. Дзед, пэўна, чытае газету, асядлаўшы акулярамі сіняваты нос, сястрычка рашае задачы. Яна хітрая, вучыцца выдатна. А маці, як заўсёды, сядзіць у запечку задумлівая...

Эх, мама, мама, не адзін сівы волас у цябе праз мяне, былога непаслухмянага вучня! Ты думаеш зараз, што твой Кастусь дзе-небудзь мерзне з аўтаматам у руках, пільна ўзіраецца ў цемру ночы, стоячы ў каравуле. Не! Мне зусім не холадна і я дзяжуру на палётах!

Лагодна плылі думкі салдата, і яму марылася, што ён паступіў ужо ў авіяцыйнае вучылішча, скончыў і збіраецца лятаць ноччу.

— Салдат Драбышэўскі!— абудзіў яго голас дзяжурнага па сувязі.

— Я-а-а!— крыкнуў Драбышэўскі.

— Да мяне! А-а, вы тут? Ведаеце, дзе знаходзіцца цір?

— Ведаю...

— Недзе пашкоджана лінія, якая ідзе на маяк, у прамежку між камандным пультам і цірам. Прашу прazваніць лінію...

— Слухаюся!

Драбышэўскі закінуў на плячо рамень тэлефоннага апарата і рушыў

па лініі. Ён аддаляўся ад узлётнай паласы і звяртаў увагу на яе, калі цемень ночы велічна і казачна прабівалі пражэктары. Адсюль, з узгорка, нават віднеўся лес за аэрадромам, далёкі і прыгожы, прысыпаны снегам. Потым Драбышэўскі зайшоў за грудок і так заняўся работай, што ўжо не азіраўся. Праз нейкі час заўважыў, што вецер узмацніўся, а потым пайшоў снег. Чуўся гул рухавікоў у паветры, а святла пражэктараў ужо не відно было.

— Арыс, як мяне чуваць?— запытаўся Драбышэўскі, падключыўшыся да лініі.

— Добра чую...

— Ліпа, як чуеце мяне?— каторы раз пытаўся Драбышэўскі, седзячы каля апарата. Ліпа маўчала. Драбышэўскі пайшоў далей.

Завіруха круціла ўсё мацней, вецер збіваў з ног. Ён апусціў вушы шапкі-вушанкі, завязаў іх пад барадою і пабрыў наперад. Ужо і гулу рухавікоў не чутно. Наўкола стаяў манатонны свіст ветру. Снег ляпіў у твар, шыўся ў рукавы і за каўнер.

— Ліпа! Ліпа! Як чуваць?— хрыпла крычаў у халодную трубку Драбышэўскі, але адказу не было.

Сувязіст падбадзёрваў сябе і ішоў далей. Вецер валіў яго з ног, але салдат уставаў і бокам ішоў наперад. Вось ён апынуўся ў нейкай яме. Што тут было? Мажліва, капанір для машыны, а можа што другое. Тут зацішна і нават цёпла. Хацелася крыху адпачыць, пасядзець і паназіраць, як зверху сыплецца снежны пыл. Успомніў, што сёння казаў старшына, і адразу ўстаў, пайшоў далей. На ветры заўважыў, што рукі яго сталі цяжкія, не слухаюцца. Нарэшце Драбышэўскі падышоў да адзінокай грушы-дзічкі. Пазнаў яе і ўзрадаваўся, як даўно знаёмаму чала-



веку. Адсюль ужо рукою падаць да ціра. Трэба спяшацца. Вецер скуголіў у голай вершаліне грушы. Драбышэўскі ступіў некалькі крокаў уперад і знайшоў пашкоджанне. Звязаў кабель, пачаў званіць.

— Арыс, як мяне чуваць?

— Добра чуваць...

— Ліпа! Ліпа!

— Я — Ліпа... — раптам адказаў маяк.

— А я поўзаю па полі, звязваю вам кабель...

— Хто гэта? Драбышэўскі? Кастусь, гаворыць Сіняўскі. Я перад завірухай выехаў з гарадка. І ведаеш што?

— Ну што?

— Твая маці прыехала. Бачыў я яе каля прахадной будкі. Мы сказалі, што ты на дзяжурстве і будзеш дома раніцою. Яна заначавала ў гарадской гасцініцы.

— Дзякуй, Сіняўскі!— адказаў Драбышэўскі.

Што яшчэ гаварыў таварыш, ён не слухаў. Драбышэўскаму здалося, што на двары стала святлей і нават завіруха пачала сціхаць.

Ён ускінуў апарат на плечы і хутка пайшоў. Ішоў мо' пяць мінут, а мо' і дзесяць. Ціра нідзе не было. Тады ён павярнуўся плячыма ў бок ветру. Вецер пачаў снегам біць у твар... І куды ні паварочваўся, вецер з сілай дзьмуў, сыпаў снегам у твар. Салдат вырашыў вярнуцца на лінію, па якой ён нядаўна ішоў... Прайшоў, як яму здалося, каля дзесяці мінут, а лініі сувязі не было. Тады Драбышэўскі сеў на снезе. Ён стаміўся. Адпачываў, думаў і гадаў, у якім кірунку трэба ісці. Што-небудзь убачыць наперадзе ён ужо не спадзяваўся: за адзін крок нічога не відно. Аднак чамусьці Драбышэўскаму карцела, што трэба ісці ў левы бок. Чаму так здавалася, ён і сам не ведаў. Вецер аднолькава скуголіў і свістаў як з левага, так і з правага боку. Але чаго ён сядзіць? Няўжо так доўга трэба думаць? Тут іншая справа. Яму ўжо стала цёпла. Ён знямогся, яго пачаў ахінаць сон. А свіст ветру зусім не моцны, нейкі далёкі і, здаецца, прыемны. Драбышэўскі ўзняў галаву, з сілай устаў і пайшоў. Цяпер ён ішоў у адным напрамку і ўжо больш не супыняўся. Скора шуснуў у снег па самы жывот і папоўз. «Нейкі роў трапіўся, ды глыбокі,— падумаў ён і стаў з яго вылазіць. — А гэта што? Нешта вельмі цвёрдае?»

У гэты самы момант бліснула святлю нейкім жаўтаватым кругам і спынілася літаральна ў яго пад носам. Бразнулі дзверцы.

— Хто там?— спытаў строгі голас.

— Я...— адказаў Драбышэўскі і здзівіўся, што не пачуў свайго голасу.

Моцная рука ўзяла салдата за плячо.

— Хто такі?

Голас Драбышэўскаму добра знаёмы, але ён ніяк не мог сабе ўявіць, што каля яго стаяў палкоўнік Гаёў.

— Салдат Драбышэўскі...

— Дык гэта вы Драбышэўскі?

— Так точна!

— Што вы тут робіце?

— Даваў сувязь з каманднага пульта на маяк, а цяпер выходжу на дарогу...

— У такую завіруху... сувязь...

— На вайне цяжэй бывала і то сувязь трымалі...

— Малайчына Драбышэўскі. Сядайце ў машыну — падвязу дамоў. Палёты ўжо закончыліся...

4

Пакуль ехалі ў ваенны гарадок, Драбышэўскі зусім адагрэўся і, выйшаўшы з машыны, падзякаваў палкоўніку, што ён яго падвёз. Завіруха прыкметна аслабела, чыста выбеліла двор перад казармай. Драбышэўскі пастаяў, азірнуўся, ён нібы не пазнаваў свайго пляца, на якім так многа займаліся страявікі. Потым увайшоў у казарму. Днявальны ўбачыў, кіўнуў яму.

— Маці прыходзіла вечарам. У гасцініцы, казала, будзе...

— Ведаю. Мне Сіняўскі званіў. Старшыны няма ў казарме?

— Няма...

Драбышэўскі задумаўся і выйшаў з казармы.

Завіруха сціхла.

«Збегаю на поўгадзіны да маці ў гасцініцу»,— вырашыў ён і шпарка пайшоў у горад. Мінуў шлагбаум ваеннага гарадка, прайшоў па вуліцы квартал і павярнуў за вугал фабрыкі. І тут насустрач — патрулі. Ні назад павярнуць, ні збочыць куды-небудзь.

— З якой часці?

Драбышэўскі адказаў і адразу пахаладзеў. Зразумеў, што папаўся.

— Запіску на звальненне?..

Драбышэўскі сунуў руку ў кішэню, а потым выняў яе.

— Няма...

— Пайшлі ў камендатуру...

Тут ужо нічога не скажаш, калі ёсць такая каманда. Патрулі нічога не будуць слухаць. Забралі салдата і павялі. Каля ганка камендатуры Драбышэўскі пакаўзнуўся і крышку затрымаўся. Белабровы патруль таксама затрымаўся.

— І не думай уцякаць,— прыцішаным голасам папярэдзіў патруль. Увайшлі ў вялікі светлы пакой. Драбышэўскі, увайшоўшы знадворку, сляпіўся і не адразу ўбачыў, што за сталом сядзеў падпалкоўнік — камендант, якому ўжо дакладваў патруль.

— У поўнач да Марфы пусціўся?— запытаўся камендант...

— Маці прыехала ка мне...

— Маўчаць!

От і ведай, як сябе тут трымаць. Сам пытаецца, нават глупства гаворыць гэты камендант, а калі сабраўся вытлумачыць — крычыць, каб маўчаў.

— Бадай, уцякаць намерваўся...— працягваў патруль.

— Ведаем мы іх...

— Я пакаўзнуўся быў...

— Маўчаць! Вельмі жорсткі трапіўся. Дваццаць сутак,— смакуючы, адрэзаў камендант, нібы што добрае даў. І не стаў больш гаварыць, слухаць. Драбышэўскага павялі. Бразнулі цяжкія дзверы, а потым са

стукам зачыніліся за ім... А раніцой Драбышэўскага з камендатуры забраў нампаліт часці падпалкоўнік Лебедзеў. Успомніў, як сам быў салдатам, і нават крыўдна стала, што трапіўся яму такі салдат.

«Няўжо ён ужо згублены чалавек? Дзе-ж яго свядомасць?»— падумаў нампаліт. Пакрысе разгаварыўся, гутарыў, як з роўным, і ўсё больш пра дом пытаўся. А што дома? Дзед, бацька... Адзін — будзёнавец, з шабляй насіўся па франтах грамадзянскай вайны, а другі — славуты партызан часоў Айчыннай вайны. Напіша нампаліт дамоў, і тады не паказвайся ў родны дом.

Ні бацька, ні дзед па галоўцы не пагладзяць за такую службу. Самі былі акуратныя службісты, узнагароджаны медалямі і ордэнамі. А сын і ўнук — арыштаваны на дваццаць сутак. Сорам!

Кепска слухаюцца ногі Драбышэўскага. А нампаліт ужо цікавіўся, чым цяпер займаюцца бацькі, якія яны, што пішуць. Пытаўся, хто яму яшчэ піша пісьмы, хто таварышы тут, што будзе рабіць, калі адслужыць свой тэрмін у арміі...

Усё выведаў Лебедзеў і глянуў на салдата. Драбышэўскі стаяў і плакаў. Слёзы самі ліліся.

— Чаго вы плачаце?— запытаўся азадачаны Лебедзеў.

— Са мною вы першы так гаворыце...

Змоўк салдат, а Лебедзеў задумаўся.

— Вы мяне выслухалі, а я вас. Вы пагаварылі, як бацька. Мне ўспомнілася нават, што я дрэнна рабіў яшчэ да арміі. Цяпер я зразумеў усё...

— Хадзем да каменданта — прасі, каб ён дараваў,— прапанаваў Лебедзеў.

Зайшлі да каменданта. Лебедзеў далажыў, а Драбышэўскі стаяў і калаціўся, як асінавы ліст.

— Я болей не буду,— і пачаў прасіць, каб камендант дараваў.

Камендант-жа сядзеў нерухома. І цяжка было зразумець, верыў ён Драбышэўскаму ці не. Вельмі строгі і, здаецца, нельга да яго даступіцца.

— Я таксама прашу, каб вы сваё спагнанне знялі,— сказаў Лебедзеў. — Драбышэўскі — малады салдат, але слова сваё стрымае. За гэты выпадак мы самі ў часці яго пакараем...

Камендант маўчаў, цягнуў чамусьці з адказам, але прыкметна з твару перамяніўся, стаў крышку весялейшы. Драбышэўскі нічога добрага ад яго не чакаў.

«І колькі спраў адбылося нечакана. Чаго толькі я не натварыў. Пасадзяць зараз, і буду ведаць, як трэба служыць. Дзесятаму закажу»... — мільганула ў галаве салдата.

— Калі вы так кажаце, калі сам салдат абяцае,— зірнуў камендант на нампаліта Лебедзева, то я сваё пакаранне здымаю. Спадзяюся, што вы болей да мяне не трапіце,— і глянуў на салдата.

— Ніколі...— сказаў Драбышэўскі.

І яны выйшлі з камендатуры.

А праз гадзіну маёр Лукашоў у калідоры штаба сустрэў палкоўніка Гаёва.

— Як справы, маёр?

Лукашоў падумаў, што Гаёў цікавіцца Драбышэўскім.

— Я ўжо разабраўся з салдатам Драбышэўскім. Думаю пасадзіць яго на пяць сутак...

— На пяць сутак?

— Так точна! Яму камендант даў быў дваццаць...

— Маёр, у арміі трэба галавою думаць,— паказаў Гаёў на папаху. — Вы дайце Драбышэўскаму водпуск на пяць сутак. Да яго прыехала маці. Зараз-жа выпішыце дакументы...

— Слухаюся!— казырнуў маёр Лукашоў, здзіўлена зірнуўшы на Гаёва.

«О, гэта камандзір»,— падумаў ён, шкадуючы, што не сам дадумаўся да гэтага.





**Іван КАЛЕСНІК**

Іван Калеснік нарадзіўся ў 1932 годзе ў вёсцы Грытчына Дзержынскага раёна, Мінскай вобласці ў сялянскай сям'і.

У 1954 годзе скончыў Мінскае педвучылішча. Цяпер працуе ў рэдакцыі газеты «Чырвоная змена» і завочна займаецца на аддзяленні журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя В. І. Леніна.

Вершы паэта друкаваліся ў часопісах «Полымя», «Беларусь», «Маладосць», «Вожык», газетах «Калгасная праўда», «Чырвоная змена», «Піонер Беларусі».

Ніжэй мы змяшчаем новыя творы І. Калесніка.

## НА ПЛОШЧЫ Ў МІНСКУ



З суровых франтоў і дарог
Мой сябра вярнуцца не змог.
І ордэн, што ён заслужыў,
Зусім на грудзях не насіў.

Той ордэн на плошчы у Мінску
Далёка відзён з абеліска.

## НАРАЧАНКА



Не дыхае хвалямі Нарач:
Прыціхлі ў знямозе вятры.
Бяскрайняя водная далеч
У стужках вячэрняй зары.

І чайка, ледзь крылы ускіне,
У небе плыве і ў вадзе.
Па беразе ў белай хусціне
К прычалу дзяўчына ідзе.

Яна не звярнула да клуба,
Хоць кліча гармонік-дружбак.
На беразе возера любай
Прызначыў спатканне рыбак.

Загойдала Нарач маторку,
І рокат плыве над сялом.
Дзяўчына хусцінай на ўзгорку
Махае, бы чайка крылом.

І хлопец выходзіць рыбачыць
З сябрамі на цэлую ноч.
А раніцай зноў ён пабачыць
Азёрную сінь яе воч.

## КАЛІ Я БЫЎ ДАЛЁКА АД ЦЯБЕ



Калі я быў далёка ад цябе,
Здавалася,
Прыеду — расцалую.
Хай час разлукі свой паскорыць бег,
Каб нашу дружбу змацаваць былую.

Вось разам мы.
Чуваць, як за сцяной
Твая сястра
Рашае прыклад вусны.
Ты ціха, шчыра гутарыш са мной,
Я-ж не магу
Тваіх крануцца вуснаў.

Рашучасці, адвагі нестае,
Нялёгка мне ў любві табе прызнацца.
Пачуцці невядомы мне твае,
Магчыма будзеш крыўдзіцца, злавацца.

А воддалі
Гамоняць цягнікі,
У кожнага ў жыцці —
Нямала станцый...
Напэўна зноў
Пры поціску рукі
Без пацалунка прыйдзецца расстацца.



С. Селіханаў. 3 серыі «Партрэты людзей Народнага Кітая». Акварэль.

* * *



Які ўжо раз праходжу каля хаты,
А ты ў акно чамусьці не глядзіш,
Яшчэ пяюць за возерам дзяўчаты,—
Няўжо ты спіш?

Даўно сяброўкі да каханых выйшлі,
А ты ў пакоі вечарам сядзіш.
На лаўку квецень асыпаюць вішні, —
Няўжо ты спіш?

На маладзік не хочаш наглядзецца...
А вокала мяне — такая ціш,
Што нат' чуваць, як сэрца б'ецца,—
Няўжо ты спіш?

## СЯННО



Дзе-б ні быў, а мяне ўсё адно
Кліча сэрца наведаць Сянно.

Гэты кут не змагу я забыць:
Тут знаёма мне ўсё да драбніц.

Край туманных азёр, валуноў
І густых валакністых ільноў;

І празрыстых крыніц, і гаёў,
Дзе на золаку спеў салаўёў.

Тут заслонаўцаў слава жыве,
Край далёка адвагай слыве.

Зведаў іншыя я гарады,
Але кліча ўсё сэрца сюды.

З домам тым, што стаіць ля бяроз,
Назаўсёды звязаў мяне лёс.

І напэўна нідзе ўсё адно
Мне з табой не расстацца, Сянно!



**Алесь САВІЦКІ**

# БЕЛЫ ГАРЛАЧЫК

**Апавяданне**

Мал. Б. Аракчэева.

## 1

Васіліна, лежачы на канапе, гартала кнігу ў чырвонай вокладцы і неахвотна, з ноткамі крыўды ў голасе, пярэчыла сваёй сяброўцы.

— Во прычапілася! Мо' сто разоў казала — не паеду. І ўсё...

Адэля — сяброўка Васіліны — прыладжвала вялікую брошку да блакітнага плацця. Яна ўважліва паглядала ў люстэрка і абыякава кінула:

— Ну і ляжы сабе. Сама ведаеш — пад ляжачы камень... Ага, нарэшце зашпіліла. Цяпер... цяпер...

Адэля дастала з маленькай скрыначкі перад люстэркам «Белы бэз», — гэтыя духі вельмі падабаліся ёй,— адліла трошкі на далонь і ўзялася прыгладжваць валасы. Рукі ў яе былі каштанавыя ад загару.

Кожны раз, бачачы адэліны прыхарошванні, Васіліна здзіўлялася: што толькі рабілася з гэтай дзяўчынай у блакітнай сукенцы! У паласатай хустачцы і заплямленым камбінезоне, які ад вапны і цаглянага пылу страціў свой даўнішні зеленаваты колер, Адэлю на рабоце нялёгка было пазнаць сярод іншых тынкоўшчыц брыгады, дзе яна працуе разам з Васілінай. Затое ў блакітным плацці яна ніяк не магла згубіцца сярод сяброўак: хлопцы так і паглядалі на яе.

Гледзячы на адэліны старанні, з якімі тая збіралася на гарадскую маёўку ў лес, Васіліна адчула слабую непрыязнь да сяброўкі. У яе вачах на нейкі момант запалілася злосная зайздрасць: «Бэз! Хлопцаў і так не адбіцца». І адразу-ж пагасла: «Харошая яна, адкрытая». Зноў варухнулася ў сэрцы сумненне. Можа, паехаць і мне? І ўсё яшчэ вагаючыся, сказала:

— Застаюся!

І дадала павесялеўшым голасам, дабрадушна смеючыся:

— Навошта губы фарбуеш? І туфлікі гэтыя... Пашкрабаеш у лесе. Яны-ж не ідуць да светлага...

Адэля махнула рукой:

— Дзівачка! Хлопцы толькі на гэта і глядзяць. Ім падабаецца. Ну, бягу!

Застаўшыся адна, Васіліна доўга ляжала на канапе, не кранала кніжку. Думкі апанавалі Васіліну.

Людскі тлум у калідорах будтрэстаўскага інтэрната сцішыўся: маладыя рабочыя паехалі ў лес на маёўку. Паехала туды і Адэля. І нічога не змянілася ў пакоі пасля таго, як зачыніліся за ёй дзверы. Стаяць два ложкі з высокімі падушкамі. Скрозь фіранкі прабіваецца сонечнае святло: на падлозе ўзорыстая мярэжка.

За акном расце стары ясакар. Вецер гойдае галіны, і таму мярэжка на падлозе варушыцца, амаль няўлоўна для зроку мяняе свае абрысы. Здаецца, бягуць белыя ад пены хвалі. І Васіліна ўяўляе сабе Дзвіну: раптам яны ператвараюцца ў вялікія шэрыя і няроўныя плямы, нагадваючы тынкоўку, калі яе пакінуць на ноч у скрыні. Так зрабіла Васіліна ў першыя дні працы ў трэсце. Брыгадзір сварыўся тады на маладых тынкоўшчыц, і болей за ўсіх дасталося Васіліне, хоць была яна вінавата меней, чым хто.

Васіліна пачынае глядзець на столь. Там таксама мільгаюць шэрыя няроўныя плямы, святлеюць, расплываюцца, зноў гусцеюць і раптам зліваюцца ў абрысы нейкага твару. Кучаравыя валасы варушацца, бровы дрыготка выгінаюцца: па ўсяму твару блукае лагодная ўсмешка. «Якая прыгожая дзяўчына,— думае Васіліна,— але чаму ў роце цыгарка? Не, гэта — хлопец. Вядома-ж!»

Сэрца пачынае стукаць гулка, быццам нехта пстрыкае сагнутым пальцам па вокладцы кніжкі, што ляжыць на грудзях. Васіліна ўглядаецца ў абрысы незнаёмага твару на столі, але там ужо няма ніякіх абрысаў, а толькі скачуць дрыготкія цені. Гэта вецер наляцеў на дрэва, галіны выгінаюцца, лісце трапечацца.

Пад гамонку лісця нараджаюцца ў Васіліны тужлівыя думкі: «Непаблажлівы твой лёс, Васіліна. Непаблажлівы. Зрабілася выдатнай тынкоўшчыцай — добра. Прэмію далі перад святам — таксама добра. Але навошта тая прэмія, і ці ў гэтым шчасце? А калі не ў гэтым, то ў чым-жа? У дваццаць чатыры гады трэба гэта ўжо ведаць... Дзяўчаты паехалі на маёўку ў лес. Там весялосць, хлопцы. Адэля казала, што сёння будзе танцаваць толькі з Міколам, каб Сцяпан дужа не задаваўся і нос угару не задзіраў. Шанцуе людзям... А ўсё прыгажосць! Адэля прыгожая, дык хлопцы ля яе ўвіваюцца. А Васіліна нават не ведае, што такое пацалунак... Яе ніхто з хлопцаў не запрашаў на гулянкі, ніхто не чакаў дзе-небудзь у садочку ці ля ракі. І, відаць па ўсім, чакаць не будуць... Васіліна непрыгожая.

Раней, калі вучылася, такіх думак не было: яна ведала, што знойдзе сваё шчасце, выйдзе замуж, будзе мець сям'ю, дзяцей. Нічога гэтага няма. Тое вялікае і незразумелае, але чаканае з дня на дзень, не прыйшло і, здаецца, ужо не прыйдзе. Гэтулькі дзяўчат панарасло!.. Маладыя, прыгожыя. І вучоба скончана. І працуе Васіліна ўжо даўно. Яе ніхто не пакахаў. Што-ж застаецца? Чакаць? Чаго? Каго? І адкуль? Да трыццаці гадоў?..

Васіліна злосна загортвае кнігу.

— І няхай. Мне ніхто не патрэбен. Ніхто!

На столі скачуць сонечныя плямкі, Васіліна толькі цяпер думае здзіўлена пра тое, адкуль маглі з'явіцца яны на столі. «Сонца свеціць зверху, а цені таксама на столі? А-аа! Люстра кладзе адбітак...»

Цені нагадваюць Васіліне Дзвіну ў паводку. Яна заплюшчвае вочы і выразна бачыць раку, крыгі, што наплываюць адна на другую і пеняць вакол сябе ваду. Мільгаюць у думках цудоўныя малюнкі, ад якіх трошкі кружыцца галава, соладка і прыемна замірае сэрца. Можа-ж здарыцца такое, што на крызе апынецца маленькая дзяўчынка. Тады Васіліна смела кінецца ў ваду, выратуе яе, але сама захварэе і памрэ. Усе збяруцца вакол труны, будуць хваліць яе ўчынак, шкадаваць, што не заўважалі раней такой мужнай дзяўчыны. Нават заплачуць некаторыя, асабліва той хлопец з шостага ўчастка, які працуе там кранаўшчыком. У сэрцы Васіліны гэта ўсё роўна не выклікае спагадлівасці: так і трэба... Няхай!..

Столь зноў зрабілася аднолькава белай, плямкі і цені зніклі: сонца асвятляе толькі падаконнік. Васіліна перавяла позірк на кнігу. З вокладкі зірнулі на яе прыгожыя літары назвы — «Вяснянка». Гэтую аповесць яна чытала некалькі разоў, але заўжды, калі робіцца тужліва, яна перагортвае старонкі і знаходзіць нешта такое, што імпануе яе пачуццям. Галоўную гераіню кнігі — ганарлівую і смелую дзяўчыну — таксама завуць Васілінай. Ёй часта здаецца, што гэтая кніга напісана пра яе, Васіліну Хацько, якая працуе тынкоўшчыцай і жыве ў адным пакоі з Адэляй. Яна стараецца быць падобнай на тую Васіліну, што ў кнізе, хоць і ведае, што гэта немагчыма. Тая дзяўчына хораша так гаворыць, дужа прыгожая.

Васіліна прыціснула кніжку да грудзей і падышла да вялікага люстэрка. Такіх люстэркаў прывезлі ў інтэрнат нямнога. Даведаўшыся, што на ўсе пакоі іх усё роўна не хопіць, Адэля пабегла да каменданта. Яна гаварыла потым, што той і слухаць не хацеў, казаў, вялікія люстэркі будуць даваць для пакояў, дзе жывуць па тры чалавекі, але потым памякчэў і сказаў, што дзеля прыгожай дзяўчыны ён можа крышачку змяніць загад свайго начальства. Адэля дамаглася свайго: люстэрка паставілі ім. Васіліна-ж пэўна не змагла-б зрабіць гэтак. «Так, так, не змагла-б. З табой ён нават і размаўляць-бы не стаў,— маўкліва кіўнула ёй галавой другая Васіліна з люстэрка.— Ты паглядзі толькі на сябе. Валасы чорныя і прамыя, як пруткі. Твар схуднелы, а нос... Вочы — вугольчыкі: калючыя, злосныя...»

Васіліна ўздыхнула: «Не, у кніжцы іншая!»

За акном пачуліся дзіцячыя галасы. Пад дрэвам забаўляліся дзеці. Хлопчык у кароткіх штоніках цягнуў за вяровачку чырвоны грузавічок з пяском. У кузаве былі пасаджаны дзве лялькі. Хлопчык, склаўшы губы гудочкам, заўзята надзімаў шчокі і гучна, быццам нехта замінаў яму ехаць, трубіў. За грузавічком ішлі тры маленькія дзяўчынкі ў запэцканых плацейках; адна несла вялікую ляльку, для якой, відаць, не хапала месца ў грузавічку, а другія трымалі ў руках маленькія букецікі кветак. Дзяўчаткі нешта спявалі, але іх спеў заглушала дужае і ганарыстае гудзенне хлопчыка.

Яна захінула фіранку. Па краях губ ляглі зморшчкі, а ў вачах—памякчэўшых і ўсё яшчэ радасных—нарадзіўся водсвет пакрыўджанасці: дзіцячы грузавічок нагадаў ёй Адэлю і сяброваk, якія паехалі на машынах у лес.

Зашамацела фіранка. У твар Васіліны дыхнула цёплым паветрам, і ёй здалося, што яна стаіць у кузаве машыны, трымаючыся за кабінку. Дарога ў сонечным бляску. Спяваюць дзяўчаты, хусцінкі трапечуцца, як

крылы. Уся істота спявае, і сэрца рвецца наперад, у блакітную далеч, адкуль ляціць свежы і пругкі вецер...

Васіліна падбегла да шафы, усміхаючыся зняла з вешалкі стракатае летняе плацце. Спакавала ў чамаданчык рэчы, якія маглі-б спатрэбіцца на рацэ, але пайшла з пакоя не адразу: пастаяла трошкі, разважаючы аб нечым. Ёй здалося: нешта такое дужа важнае не зроблена. Позірк упаў на паліцу з кнігамі. «А-аа! Вунь што. Ледзьве не забылася». Яна адкрыла чамаданчык і паклала туды кніжку, у якой апавядалася пра цудоўную дзяўчыну Васіліну.

2

Даехаўшы да лесу на аўтобусе (машыны рэйсавалі спецыяльна на гэты дзень), Васіліна доўга шукала сваіх сяброўак. Яна шукала іх ля столікаў, пастаўленых проста ў засені ялін, ля шэрых бочак, у якіх стаялі вялікія бляшанкі з марожаным, пераходзіла палянкі, дзе пад гармонік танцавалі на траве. Адэлі нідзе не было, і Васіліна, ужо зусім страціўшы надзею знайсці яе ў гэтым вялікім па-святочнаму стракатым натоўпе, зноў выйшла на гасцінец. Але ўбачыла яшчэ больш позніх пасажыраў, якія, смеючыся і размахваючы клуначкамі, выскаквалі з аўтобусаў. Васіліна ўзрадавалася, што не апошняй прыехала на лясное свята.

За гасцінцам пачынаўся сасновы гай. Дрэвы раслі рэдка, сонца добра прыпякала шурпатыя, таўшчэразныя ствалы, і ад іх аддавала гарачынёй, моцна разагрэтай смалой. Сосны цягнуліся да самага яру, у гэтых месцах крутога і высокага, апавітага вузлаватымі, пад колер чырвонай гліны, карэннямі. Ля вады, як і ў лесе, стракацелі хусткі дзяўчат, на чаўне іграў гармонік.

Стаміўшыся ад доўгіх пошукаў, Васіліна знайшла сабе месца на беразе і легла на гарачым ад сонца пяску. Побач са смехам і жартамі кружыліся вакол каменя дзяўчаты. Яны паклікалі яе на дапамогу, і Васіліна ахвотна пайшла да іх.

Вывернуўшы камень, дзяўчаты адкацілі яго ўбок і паселі на ім. Васіліне за асаблівую стараннасць далі першае месца. Камень быў халодны, быццам з жалеза зроблены. Потым дзяўчаты пабеглі купацца. Разам з усімі Васіліна пырскалася вадой, з падробленым жахам войкаючы ад халодных кропель, гушкалася на хвалях, якія пакінуў за сабой кацер, гуляла ў валейбол, каб сагрэцца.

Мячык быў цяжкі і коўзкі — дзяўчаты паспелі ўжо намачыць яго ў рацэ. Васіліна даўно не была на валейбольнай пляцоўцы і таму гуляла з нейкім смешным пачуццём сарамлівасці за гэты дзіцячы занятак. І ўсё-ж ранейшы спрыт жыў у яе руках: пальцы на кароткае імгненне дакраналіся да мяча, і ён узлятаў высока ў паветра. Нехта, ударыўшы няўдала, выбіў мячык за круг. Васіліна павярнулася, хутка і лёгка, нібы вавёрка, скочыла ўслед за ім. Падаючы на пясок, яна кароткім ударам перахапіла мячык, і ён зноў узляцеў у самую сярэдзіну ігракоў.

Хлопцы, што стаялі непадалёк, заварушыліся. Адзін з іх заўважыў:

— Спрытна!

Ён стукнуў па шакаладных ад загару грудзях, зухавата насунуў квадратную белую шапачку, зробленую з насоўкі, і дадаў:

— Нешта цыганскае... Аго-оонь дзяўчына! Пайшлі знаёміцца...

Дзяўчаты дазволілі стаць хлопцам у круг. Васіліна гуляла цяпер і хвалявалася, як гэта часта было на экзаменах у школе, а калі гульня скончылася, ёй зрабілася нават трошкі крыўдна. Хлопец у белай шапачцы падышоў да Васіліны і сказаў ні то жартам, ні то сур'ёзна:

— Вы добра гуляеце. Пазайздросціць можна...

— Што вы! — Яна адчула, што чырванее.— Зусім дрэнна... Развучылася...

Знаёмячыся з хлопцам, Васіліна назвала сваё імя і адразу-ж адчула, што разгубленасць знікла. У пахвальных словах яна пачула ненатуральнасць і глыбока захаваную кпіну. Погляд яе зрабіўся падазроным і недаверлівым. А хлопец ёй спадабаўся адразу-ж! У яго быў загарэлы твар, і таму вялікія сінія вочы здаваліся незвычайна светлымі і зубы, калі ён усміхаўся, таксама незвычайна белымі, бялявымі былі і бровы. І імя ў яго трошкі смешнае — Віцька. Ён так і сказаў «Віцька», папрасіў гэтак зваць яго, дадаўшы, што ён да таго прывык і ўсе ягоныя сябры іншага імя за ім не прызнаюць.

У горад яны вярталіся разам. Час быў яшчэ ранні. Васіліна ахвотна адмовілася ехаць на аўтобусе і згадзілася ісці берагам ракі. Гэта, праўда, трошкі далей, але затое цікава. Ды і як было адмовіцца, калі Віцька так настойліва прасіў...

Яна ішла басанож па пясчанай стужцы, што намыла вада на прыберазе. Туфелькі нёс у чамаданчыку Віцька. Часам хвалі колка казыталі ногі, і яна смяялася. У маленькім заліўчыку, сярод рознага багавіння, якое размерана гойдалася ад плыні, Васіліна ўбачыла белую кветку.

— Глядзіце, гарлачык! Белы гарлачык!

Віцька храбра рынуўся ў ваду, дастаў гарлачык, абтрос яго і падаў Васіліне:

— Шчаслівыя! Такія гарлачыкі на рацэ рэдка стрэнеш...

Сарамліва і ўдзячна ўсміхаючыся, яна ўзяла з віцькавых рук кветку. Белыя пялёсткі, запакаваныя ў зялёныя крышачкі, яшчэ развінуліся слаба, сярэдзіна гарлачыка была закрыта. Васіліне здалося, што яна трымае ў руках цудоўную казачную скрыначку, аздобленую смарагдамі, якую нельга адчыняць і глядзець, што там у сярэдзіне, бо тады, як гэта гаворыцца ў казцы, сама скрыначка знікне. Асцярожна кратаючы пялёсткі, яна папрасіла:

— Будзем шукаць. Можа яшчэ знойдзем...

Сярод багавіння тырчаў светла-зялёны, падобны на сліву, гарлачыкавы пухірок. Віцька хацеў сарваць і яго, але яна сказала, што рваць няможна, трэба пачакаць некалькі дзён. Ён згадзіўся. Расцвіўшых гарлачыкаў больш нідзе не было. Ля берага расла востраканечная асака, якая ад сонечнага бляску здавалася жаўтаватай і шамацела на ветры, як пасохлы чарот увосень. З нейкім жалобным крыкам лёталі над вадой птушкі. Васіліна прыслухоўвалася да гэтых птушак і адчувала: у сэрцы то знікае, то паяўляецца незразумелая дваістасць, падазроная недаверлівасць да Віцькі і баязлівасць таго, што ён можа знікнуць і яна застанецца адна.

Ля другога ручая, што стрэўся на іх шляху, вербалозы і чаромха спляліся ў суцэльны гушчар. Віцька прапанаваў:

— Пойдзем пасядзім у засені...

Васіліне здалося, што ён падміргнуў правым вокам:

— Адпачыць не пашкодзіць. Гэткі шлях прайшлі...

Яна паглядзела на гушчар. Густое лісце варушылася неяк загадкава і змрочна, нібы шаптала: «Не ідзі туды!» І вада ў рацэ быццам пацямнела, страціўшы сваю ранейшую срабрыстасць. Яны толькі ўдваіх! Рашуча сказаўшы сабе «не пайду», Васіліна спалохана падумала: «Ліха яго ведае, што ён за чалавек, возьме што-небудзь благое зробіць і ў ваду кіне. Ці скочыць з чамаданчыкам у хмызняк. А ў чамаданчыку туфлі...»

Ад гэтых думак ёй зрабілася страшна. Яна папрасіла ў Віцькі чамаданчык, знарок пакорпалася ў ім, на запытальны віцькаў позірк адказала з падробленай узрадаванасцю:

— Здалося, кніжку ў лесе згубіла, а яна тут ляжыць. Ха-ха! Ай, глядзіце, што гэта там за птушачка...

Васіліна запыталася пра гэта, каб адцягнуць віцькаву ўвагу, сабрацца з думкамі аб паводзінах у далейшым. Чамаданчык яна ўжо больш Віцьку не аддала, паскорыла хаду і ўвесь час прыслухоўвалася з трывогай да крокаў за спіною.

Яна так і не паспела дадумацца, што ёй рабіць у выпадку віцькавага нападу. Зялёны гушчар скончыўся і наперадзе, у сіняватай смузе, узніклі белыя гмахі горада. Па рацэ, кіруючыся ў іх бок, плылі чаўны. Васіліна ўздыхнула з палёгкай і вінавата паглядзела на Віцьку: ёй зрабілася сорамна за благія думкі аб ім.

Праз поўгадзіны яны падышлі да горада. На рагу вуліцы, што вяла да замчышча і ўзвышалася над берагам ракі, Васіліна сцішыла хаду і нясмела, крыху бянтэжачыся, заўважыла:

— Вось мы і дома. Мне тут непадалёчка, праз замчышча. Дзякую!

Яна вымаўляла словы і не ведала, навошта гаворыць іх. Сэрца поўніла іншае пачуццё. Ёй хацелася, каб Віцька ішоў з ёй далей і, увогуле, не пакідаў яе адну. Яна злавалася на самую сябе за тое, што схлусіла яму і не змагла сказаць праўду.

Вецер варушыў палын на схілах замчышча. Лісцё паварочвалася то адным, то другім бокам, і ад гэтага палыновыя купінкі хутка мянялі колер — то рабіліся бледна-зялёнымі, то сівелі, быццам пасыпаныя попелам. Васіліна адчувала гаркаваты пах палыну, змешаны з пылам, а таму яшчэ больш рэзкі і непрыемны, і ліхаманкава думала, каб сказаць што-небудзь разумнае, сур'ёзнае. Перад вачыма вагалася сівая палыновая гара, і Васіліна сказала, каб толькі не маўчаць:

— Палын. Разагрэўся на сонцы. Увечары ён пахне, а цяпер...

І адразу-ж прыйшла думка, ад якой Васіліне зрабілася няёмка. Віцька можа падумаць, што яна дагаворваецца з ім пра вечар. Але ён толькі затрымаў яе руку і, паглядаючы ў вочы Васіліне, запытаў глухавата, нібы загадваючы:

— Заўтра ў кіно пойдзем. На другі сеанс. Буду чакаць ля тэатра...

Васіліна адчула, што дужка чамаданчыка зрабілася гарачай, рука з ёю спацела. Вейкі ў яе здрыгануліся, і яна, зрабіўшы выгляд, што нешта трапіла ў вока, узялася церці яго. Нечаканая прапанова ўзрадавала, але Васіліна наважылася было, як гэта вучыла яе Адэля, згадзіцца не адразу. Падумаўшы пра тое, яна спалохалася, што Віцька можа пакрыўдзіцца, змяніць свой намер, і адказала таропка:

— Добра. Я прыйду.

Віцька ўсміхнуўся весела. Яна развіталася сарамліва, не ўзнімаючы вочы, а калі адышлася, то азірнулася, паглядзела яму ўслед. Віцька крочыў па вуліцы, хістка паводзячы плячыма, быццам матрос, які нядаўна пакінуў карабель і сышоў на зямлю. З пачуццём ласкавасці, якое раптоўна

прыйшло да яе, Васіліна падумала: «Харошы». І ад таго, што нават у думках адважылася на такое, яна спалохалася, дакранулася рукамі да шчок: «Ай, што гэта я... Ці-ж можна?!»

Узбіралася яна на замчышча хутка, лёгка пераскакваючы прыступкі лесвіцы.

3

Брыгада, у якой працавала Васіліна, атынкоўвала фасад жылога дома. З рыштаванняў ёй быў добра відзён горад у зяляніне дрэў, што пышна забуялі ў апошні год і кідалі на зямлю шырокі цень. За цэнтральнай плошчай, ля замкавай гары, стужкай лягла Дзвіна, якая адсюль, з рыштаванняў, здавалася зусім не блакітнай, а крышачку зеленаватай, пад колер лісця. На павароце-ж рака была шырокай. Здаецца, адтуль яна ўбачыла горад, калі ішла разам з Віцькам.

Прайшло ўжо амаль з тыдзень пасля таго дня. Сустракалася яна з Віцькам кожны дзень. Яны забіраліся ў самыя зацішныя куткі скверыкаў і сядзелі там да змрокаў. Яна саромелася людзей і толькі ўвечары, калі яны шпацыравалі па алеях скверыка, дазваляла яму ўзяць яе пад руку.

Віцька расказваў пра рамонтны завод, дзе працуе шафёрам.



Ён быў дужа ласкавы, і яна пачынала верыць кожнаму яго слову. Смешнымі здаваліся ёй жахі тады, на рацэ. Адэля, праўда, не хваліла яе за такія паводзіны і сказала, што трэба даведацца спачатку, што гэта за хлопец такі, а потым ужо нешта рашаць. Васіліна не слухалася такіх перасцярог, яна казала, што Віцька слаўны, не такі, як іншыя. А сябе ўпікала: «Навошта я пахвалілася знаёмствам. Віцька правільна папярэджваў, каб яна нікому не казала. Цяпер Адэлі ні слоўца яна не скажа. Досыць!»

Аднойчы, скончыўшы працу, яна хуценька паабедала ў трэстаўскай сталоўцы і пабегла ў інтэрнат. Прыбегла ў свой пакой і адразу-ж стала пераапранацца. Адчыніла шафу, дзе віселі плацці, і задумалася: «Мо' гэтае, у кветкі? Не, надзявала яго ўчора. Касцюмчык ужо трошкі паношаны. Для тэатра ён не падыдзе...»

Віцька запрасіў яе сёння ў тэатр. Яна рыхтавалася да гэтага вечара, адчуваючы нешта вялікае і сур'ёзнае. Позірк спыніўся на шаўковым плацці, якое было пашыта да майскага свята, але Васіліна ў ім так і не была на вуліцы. Ад радасці яна пакруцілася і заспявала.

— Ха-ха-ха!— засмяялася Адэля.— Вось як гіне наша сястра! Памятаеш, што раіла мне ў нядзелю? «Плацце прасцей... Туфлікі пашкрабаеш...» А сама?.. Ха-ха-ха!

— Ай, сціхні!.. Што, як не спадабаюся яму сёння?

— У гэтай сукенцы? Дзівачка. Ён — твой цяпер. Павер мне. Які-ж ён, растлумач!

— Ён?.. Ведаеш...Ну, я-ж табе казала — шафёр.

— Не, ты мне падрабязней. Які з твару...

— Ну... Вочы ў яго такія светлыя, харошыя!

— Давай лепш «бэзам». У мяне рука на хлопцаў шчаслівая. А твайго мне-б паглядзець адным вокам. Я табе ўсё пра яго адразу скажу,— пырскаючы духамі, раіла Адэля.— А ты дзеўка нішто, калі прыбралася...

«Паглядзець? Бачыш! Пакажы, а ты адаб'еш яго ў мяне»,— раўніва падумала Васіліна, расчэсваючы непаслухмяныя валасы.

— Досыць! Досыць! Куды ты льеш столькі! — смеючыся, казала яна, і ўвесь час на яе твары блукала радасная ўсмешка, а вочы блішчалі.

Гэты ўзнёслы настрой цяжка было схаваць. Васіліна ішла па вуліцы, і ўсе людзі здаваліся ёй вясёлымі.

Віцьку, які стаяў непадалёк ад тэатра і чытаў афішу, яна пазнала адразу. Ён быў у шэрым касцюме, жоўтых туфлях на тоўстай гумавай падэшве і трымаў у руках невялічкі пакунак, загорнуты ў газету. Вітаючыся з ім, яна папрасіла дараваць за спазненне і таму не заўважыла, што Віцька таксама крыху бянтэжыўся, здзіўлена аглядаючы яе з галавы да ног. Але калі яна ўзняла вочы, ягоны твар ужо быў вясёлы і трошкі самаўпэўнены.

— Гэта мне прабачэння прасіць. Білетаў не дастаў. Раскупілі... Можа проста пойдзем куды-небудзь?

Васіліна ўзрадавалася, што білетаў няма. Толькі цяпер яна падумала пра тое, аб чым раней не разважала. Калі яны пойдуць у тэатр, прыйдзецца ўваходзіць у залу, дзе на іх будуць усе глядзець, магчыма, знаёмыя, прыйдзецца саромецца, адказваць на прывітанні, нешта казаць пра Віцьку. Гэтага яна не хацела і згадзілася ісці з ім, каб застацца адзін-на-адзін. Яна была рада за тое, што ён зразумеў яе пачуцці і прапанаваў пайсці з тэатральнай плошчы.

Ідучы разам з Віцькам па вуліцах, Васіліна неяк таропка адказвала на запытанні, пра нешта пярэчыла, але спрачалася неахвотна, нясмела і адчула сябе вольна толькі тады, калі яны, даехаўшы аўтобусам да прыгарада, выбраліся на палявую дарогу, зрэзаную глыбокімі, але прасохлымі калдобінамі.

Ішлі павольна. Сонца яшчэ высока стаяла над лесам. Сярод бярозавага ўзлесся, куды яны трапілі, збочыўшы з дарогі ля масточка, стаяла цішыня, якая бывае пасля гарачага летняга дня. Дзве ялінкі, кучаравыя, з доўгімі і густымі лапкамі, ганарліва выглядалі з бярэзнічку.

— Глядзіце, ялінкі-сястрынкі! — узрадавалася Васіліна і пабегла да іх.

Віцька пакрочыў услед. Ён падышоў да ялінак, па-гаспадарску агледзеўся вакол і пачаў ламаць бярэзнік.

— Нашто вы? — абурылася Васіліна. — Такая бярозка была...

— Шкада? Ха-ха! На наш век іх хопіць! Затое пасядзець добра... Ох-оо-о! — засмяяўся Віцька і шмякнуўся на бярэзнік.

Ён скінуў пінжак і хуценька, каб не заўважыла Васіліна, сунуў нешта пад ялушку. Падсцілаючы пінжак, ён гаварыў не ўзнімаючы галавы, і таму голас яго быў трохі хрыплаваты:

— Слаўна тут. Мой пакуначак нам ай як спатрэбіцца. Згода?

Ніякай пэўнай думкі наконт гэтага ў Васіліны не было. Яна не разважала над тым, што за пакунак у Віцькі, і цяпер здзівілася, калі ўбачыла, што Віцька цягне з пакунка гуркі, каўбасу і сыр, нарэзаны тоненькімі лустачкамі. Чамусьці адразу і ёй захацелася есці. Яна праглынула сліну— гэта не засталося па-за ўвагай Віцькі — і пачырванела пры думцы, што прыйдзецца есці яго пачастунак. Каб схаваць сваю ніякаватасць, Васіліна нахілілася да ялінкі і пакратала пальцамі шыпулькі:

— На поўвяршка выцягнуліся. А мя-яякенькія...

Віцька сунуў руку пад ялінку, гучна забразгаў там нечым і, хітравата прыплюшчыўшы вочы, дастаў бутэльку віна. Ён урачыста паставіў яе пасярод газеціны. Увесь выгляд яго быццам казаў: «Гэта жартачкі! Але-ж задумаў я няблага»...

Віцька разрэзаў гурок напалам, выскраб нажом сярэдзіну і ператварыў агурковыя кавалкі ў кілішкі. Потым ён падрэзаў ім донцы, паставіў на стары пяньчук і пачаў наліваць віно.

Васіліна рашуча запярэчыла: «Што вы, піць я не буду», хоць у думках была ўзрадавана і віцькавай гаспадарлівасцю, і кілішкамі, і тым, што дужа хочацца есці.

Васіліна згадзілася выпіць адзін кілішак, даўшы строгае абяцанне, што ні кропелькі больш. Потым Віцька ўзяўся даводзіць, што кілішак зусім маленькі — дзве лыжкі, не больш. Яна агледзела яго, убачыла, што ён гаворыць праўду, і зноў згадзілася на кілішак, але каб Віцька выпіў тры, бо ён-жа мужчына і сорамна піць віно аднолькава з ёй. Віцька не пярэчыў.

Бутэлька незаўважана апусцела. Апошні кілішак ён паклаў проста ў рот, гучна захрумкаў і спытаў: «Кілішак я з'еў, можа і бутэльку?» Васіліне зрабілася дужа весела. Яна паспрабавала зрабіць тое-ж самае, але кілішак, у якім было трохі віна, аказаўся непамерна вялікім, прыйшлося падрэзаць яго.

Яна сама сабе заўважыла, што ўсё вакол — і неба, і дрэвы—смяюцца

і патроху вагаюцца. Напоўлежачы на віцькавым пінжаку, яна закінула галаву і гучна засмяялася. Галава зрабілася нейкай дужа цяжкай і сама апусцілася долу. Васіліна сашчапіла рукі, паклала іх пад галаву і зноў засмяялася, адчуваючы салодкую млявасць ва ўсім целе.

Над яе тварам навіслі тонкія лапачкі ялінкі. Васіліна прыкрыла павекі. Сіняе неба над галавой стала подобным на вялікае возера, шыпулькі склаліся ў абрысы нейкага карабельчыка. Вось ён пагойдаўся, пагойдаўся і паплыў морам. І раптам чорная калматая хмара напаўзла на яго, праглынула. Васіліна расплюшчыла вочы і войкнула ад жаху: па шыпульках поўз вялікі чорны жук:

— Ай, Віценька! Жук, які страшэнны!.. Во ён, во, на шыпульках...

Віцька даў жуку пстрычку. Жук адляцеў некуды ўбок. Ёй зрабілася шкада жука, і яна лёгка, сама здзіўляючыся сваёй смеласці, кранула віцькаву руку:

— Навошта? Ён-жа нічо...

Яна не дагаварыла, адчуўшы на сваіх вуснах губы; спалохалася, заплюшчыла вочы і ляжала нерухома, баючыся нават пакратаць рукой, прыслухоўваючыся да таго незвычайнага, што робіцца ў сэрцы. Гарачыня разлілася па твары. Васіліне здалося, што нехта дужы ўзняў яе і нясе да вялікага вогнішча, ад якога патыхае гарачынёй і цяжка дыхаць...

Віцька цалаваў яе ў шчокі, бровы, шыю. Яго рукі паспешліва гладзілі валасы, расшпільвалі плацце... Васіліна расплюшчыла вочы, адштурхнула Віцьку:

— Не трэба, не трэба! Што вы робіце?

Ён цягнуў яе да сябе, гладзіў, прасіў сесці. Васіліна баранілася ад яго рук і паўтарала, быццам просячы прабачэння:

— Навошта гэта? Не трэба, не трэба!

Нечакана Віцька прыўзняўся, тузануў яе за руку, злосна вылаяўся:

— Недатычкай якой прыкідваецца! Глядзі ты! Насатая...

Яна паглядзела на яго, разгублена міргаючы. За адно кароткае імгненне пранеслася ў думках усё тое, што адбылося за апошнія дні. Ясакар пад акном. Пярэстая мярэжка на стале. Знаёмства ў лесе. Бляск сонца і вады. Коўзкі мячык. Белы гарлачык і, падобны на сліву, пухірок сярод рачнога багавіння. Сівы палын на замчышчы. Вечаровы шэпат лісця ў скверыку. Ласкава ўсміхаецца высокі хударлявы хлопец. Ён сарамліва гаворыць, што білетаў няма. Але чаму такая дваістасць у ягоных вачах?

Васіліна палахліва ўбачыла, што віцькаў твар змяняецца. Усе такія родныя абрысы адплываюць некуды далёка, далёка, знікаюць і нараджаюцца другія вочы. Не, гэта ўжо незнаёмы ёй чалавек. Недзе яна бачыла такі твар. Але дзе? Ліхаманкава круціліся ў галаве думкі... Не, прыгадаць цяжка... І зноў цягнуцца гэтыя рукі... Яна адштурхнула яго і закрычала:

— Сорамна гэта! Брыдка!

Штуршок быў не так што моцны, але Віцька, які цягнуўся да Васіліны, не чакаў гэтага і паваліўся пад ялінку.

Васіліна кінулася бегчы. Слёзы туманілі ёй шлях. Адна і тая-ж думка штурхала яе ў плечы, прымушала бегчы, не спыняючыся: «Якое ён мае права? Якое?..»

Усё яшчэ сінявае неба вісела над зямлёй. На траву клалася раса. Сцежка скончылася. Вось той масток, дзе яны збочылі. Васіліна ўзбегла на

дарогу. Чорныя туфлікі абляпіў густы пыл, і яны зрабіліся вялікімі і непрыгожымі. Яна хацела абцерці іх, сарвала жмуток травы. Удалечыні паявілася віцькава постаць. Васіліна кінула траву і шпарка, не аглядаючыся, пакрочыла ў бок горада.

* * *

Прайшло некалькі дзён. Васіліна нічога не сказала сваёй сяброўцы Адэлі пра выпадак, што адбыўся ў лесе. Але думкі аб ім штохвілінна кружыліся ў галаве. Думаючы пра той вечар, яна прыгадвала сіняе неба, маладыя ялінкі, усміхалася і шукала апраўданне паводзін Віцькі. Калі яна ўжо зусім наважвалася ва ўсім дараваць яму, у памяці ўсплывалі словы абразы, і рашэнне прападала.

Учора брыгадзір пасварыўся на яе за дрэнна зробленую тынкоўку. Адэля заўважыла неяк жартам, што Васіліна гаворыць ноччу скрозь сон. Яна спагадліва маўчала і зрабілася надта клапатлівай. Ад гэтага Васіліне было яшчэ цяжэй, а расказваць пра ўсё сяброўцы яна не жадала.

У суботу праца была асабліва цяжкая. Васіліна ішла ў інтэрнат, схіліўшы галаву, адчуваючы ў руках і плячах цяжкую стомленасць. Дзверы пакоя былі незамкнёныя. Адэля некуды пайшла. Васіліна падумала, што на раку па ваду сёння не пойдзе. Рачная вада патрэбна была ёй на тое, каб даліваць у шклянку, дзе стаяў белы гарлачык, які дастаў тады Віцька на рацэ. Яна ведала, што гэта не можа ажывіць кветку і ўсё-ж хадзіла на раку штодня, змяняла ваду ў шклянцы і сумна паглядала на гарлачык. Гарлачык ужо не цвіў, пялёсткі засыхалі патроху. Але сэрца не хацела пагадзіцца з гэтым. Недзе глыбока ў ім жыло чаканне нечага вялікага і харошага.



Сяргей ГРАХОЎСКІ

# МАМА



Калі пушок прабіўся над губою,
І ў сны прыйшло дзявочае імя,
Я ні аб чым не раіўся з табою,
Матуля адзінокая мая.

Мне сорамна здавалася часамі
Сярод хлапцоў — цыбатых забіяк —
Цябе назваць, як у маленстве, «мама»,
Таму часцей не называў ніяк.

І вечарамі, слова не сказаўшы,
Ішоў блукаць каля чужых варот,
А да світання у акенцы нашым
Снавала цень і ледзь дыміўся кнот.

Не спала ты асеннімі начамі,
Хоць і хілілася ад зморы галава,
Глядзела ў змрок вільготнымі вачамі
Прывычная да гора удава.

Ты прала кужаль, ты капала гліну,
А ў час жніва зусім не чула ног,
Ды гаварыла ласкава пра сына:
«Хай падрасце, няхай паспіць сынок».

Ты ўсё сама рабіла адмыслова,
А ў валасах гусцела сівізна:
«Хоць-бы сказаў ён ласкавае слова,
Хоць-бы, як калісь, мамаю назваў».

І думала: «Хаця-б зусім не страціць,
Хаця-б ніхто не здолеў адабраць».
Усё, усё сцярпець умее маці,
Усё умее сыну даравань.

Прайшлі гады. Мы пасівелі самі,
І, мабыць, крыўдна мне не аднаму,
Што гэтае святое слова «мама»
Сказаць цяпер ужо няма каму.

## ПЕРШАЯ ПЕСНЯ

Адаму РУСАКУ



Я не апошні і не першы
Складаў крадком калісьці вершы.
Дазнаўся нехта, стаў строіць кпіны —
Я чырванеў, казаў «пакіну»,
Казаў «не буду», а праз гадзіну,
Узяўшы кошык, блукаў па лесе,
Шукаў арэхаў, шукаў маліну,
Але знаходзіў радкі для песні.
Знайшоўшы слова, баяўся страціць,
Нёс асцярожна, нібы расінку.
Зірнуўшы ў кошык, казала маці:
«Ты, мабыць, збіўся з дарогі, сынку.
Вунь колькі ягад прыносяць людзі,
З цябе-ж, як бачу, дабра не будзе.
Ну, хоць-бы меншым, хоць-бы для смеху
Прынёс ці ягад, ці тых арэхаў».

Я кожным ранкам хадзіў далёка
Па росных сцежках у чорналессе —
Збіраў маліну, спяваў, галёкаў,
І раптам выйшла такая песня,
Што сам здзівіўся, пачуўшы рэха
Канца той песні. А дзесь дзяўчаты,
Што абіралі з кустоў арэхі,
Ужо спявалі яе пачатак.

Я чуў, як песня ішла паволі
Ў чужыя вёскі, ў чужыя хаты,
Па пералесках, па жытнім полі
Яе панеслі у свет дзяўчаты.

Ляцелі гусі далёка ў вырай,
Вятры маліну даўно абтрэслі,
А вечарамі спявалі шчыра
У кожнай хаце ўсё тую-ж песню,
Яна хадзіла ў лугах зарэчных,
Па вечарынках, па сенажацях.
Яе у доўгі зімовы вечар
Спявала разам са мною маці.

Яна патрэбна, як голас мове,
Як цёплы дожджык на прадвесні.
Патрэбна шчырасць у кожным слове,
Патрэбна радасць у кожнай песні.

* * *



Не пойдзем сёння ні ў кіно, ні ў госці —
Такая ноч, такая ў небе сінь!
І уздыхаць, каханая, пакінь,
Што больш ужо не вернеш маладосці.

А лепей пойдзем па старым бульвары,
Дзе да вясны не падмятаюць снег,
Дзе толькі ходзяць закаханых пары,
Нібы у казцы ці ў дзівосным сне.

У іх марозам пабяліла скроні,
А іх у нас завеялі гады.
Дык пойдзем, любая.
Няхай і сёння
Сябе адчуе кожны маладым.

Не будзем больш з табою уздыхаць.
Зірні, як ноч дарогі снегам мосціць.
І ў сорак год патрэбна так кахаць,
Як некалі кахалі ў маладосці.

## СНЕЖАНЬСКІ РАНАК



Дзень сінее. За ноч завіруха
Пабяліла слупы і платы.
У завулку і пуста і глуха,
Але зараз сустрэнешся ты.

Я не ведаю, хто ты такая,
А калі пачынае світаць,
Я заўсёды цябе сустракаю,
І няёмка ужо не вітаць.

Я у замеці сцежку шукаю,
Знікла сцежка амаль у ваччу.
Не бядуй, да прыпынка трамвая
Я другую табе пратапчу.



Лорэнс ДЖЭЛЕРТ

# МАЯ БАВОЎНА ПЕРШ ЗА ЎСЁ

### Дыялагі амерыканскага Поўдня

Мал. П. Калініна.

*Лорэнс Джэлерт многа разоў быў на поўдні ЗША, ён ездзіў запісваць негрыцянскую народную музыку, асабліва песні пратэсту.*

*Наступныя дыялагі не выдуманы — аўтар іх чуў сам ці яму аб іх расказвалі.*

1

## Цесныя чаравікі

— Я прынёс назад чаравікі, бо яны мне занадта цесныя.

— А адкуль ты ведаеш, што яны цесныя? Ты ў іх хадзіў?

— Не, сэр. Я ў іх не хадзіў. Паглядзіце, яны зусім чыстыя — як і тады, калі вы мне іх прадалі.

— Я ўжо табе казаў, калі ты прыходзіў учора, што мы не можам браць назад чаравікі, якія ты надзяваў на ногі.

— Але-ж я іх не насіў. Яны мне не падыходзяць, я не магу ніяк імі карыстацца.

— А чаму не паспрабаваў каму-небудзь прадаць?

— Містэр, за іх амаль што нічога не даюць.

— Гэта вельмі дрэнна.

— Але мне патрэбны чаравікі, якія-б я мог насіць.

— Я прадам табе другую пару.

— У мяне няма больш грошай, белыя людзі. Я аддаў вам усё, што ў мяне было. Калі ласка, вазьміце гэтыя ў абмен.

— Не магу. Калі мае пастаянныя пакупнікі даведаюцца, што я дазваляю неграм бадзяцца тут з маімі чаравікамі на нагах, то, як ты думаеш, ці не хутка я вылечу ў трубу?

— Але-ж я не магу хадзіць босы, містэр, ды яшчэ заплаціўшы свой апошні грош за пару чаравікаў...

— Не магу нічым дапамагчы. І не тырчы ты тут. Ужо і так адняў у мяне шмат часу.

2

## Містэр

— Мне патрэбен начальнік пошты, сэр.

— Нашто?

— Я пачаў нерэгулярна атрымліваць пошту, сэр.

— А адкуль ты ведаеш?

— Я ўжо даўно напісаў Беласу Хесу, каб ён прыслаў па каталогу тое-сёе для маёй жонкі, і адаслаў грошы, але-ж нічога не атрымаў.

— А даўно ты паслаў?

— Думаю, каля трох тыдняў будзе...

— А тваё імя?

— Роберт Дэйл, сэр.

— Эй, Джордж! Што-небудзь прыбывала для Роберта Дэйла?

— Нешта павінна было тут быць. Пачакайце хвілінку. Здаецца, знайшоў. Вось яно.

— Ага. Як ты назваў сваё імя?

— Роберт Дэйл, сэр.

— Ну, дык гэта не для цябе.

— Не для мяне? Вось тут маё імя. Гэта якраз тое, чаго чакае мая жонка.

— Не, гэта не для цябе. Цябе зваць Роберт Дэйл. А на гэтым пакеце напісана «Містэру Роберту Дэйлу». Таму ён і не быў табе дастаўлены.

— Але, калі ласка, сэр...

— Аддадзім мы яму на першы раз, Джордж, а? Добра, пазбаў нас ад клопатаў адсылаць яго назад. Але ніколі больш не смей атрымліваць што-небудзь з надпісам «містэру». Зразумеў?

— Так, сэр. Але-ж як мне гэта зрабіць?

— У наступны раз, калі будзеш што-небудзь заказваць, напішы ім, што ты не містэр. Зразумеў? А то і сам паедзь да іх, і няхай яны паглядзяць на цябе, тады яны будуць ведаць.

3

## Мая бавоўна перш за ўсё

— Ты нешта пазбягаеш мяне, Моз.

— Не, сэр. У мяне проста не было часу заходзіць да вас, вось і ўсё.

— Але-ж я не магу траціць час, ганяючыся за табой.

— Што вы, містэр Грэйвз! Вам і не трэба ганяцца за мною.

— Ты ведаеш, я-б гэтага не рабіў, калі-б ты мне не быў патрэбны. Здаецца, ты стаў нос задзіраць.

— Не, сэр.

— Добра... Дык ты мне патрэбен, каб сабраць бавоўну з майго поля, што каля ручая.

— Цяпер не магу, містэр Грэйвз.

— Чаму-ж не? Табе за гэта заплоцяць.

— Тое-ж самае вы гаварылі мне і тады.

— Ах так! Я і забыўся, што вінен табе тое-сёе за мінулы год. Дык я заплачу цяпер, калі ты закончыш работу.

— Ды ліха з ім, містэр Грэйвз. У мяне ў самога ёсць поле, якое мне патрэбна даглядаць.

— Ах, д'ябал. Але-ж я не бачыў, каб у цябе была бавоўна. Скора пойдуць дажджы, і мне абавязкова трэба сабраць ураджай.

— Дык вось і мне трэба сабраць бавоўну.

— Ты думаеш, што твая бавоўна такая-ж важная, як і мая?

— Не, сэр, але...

— Можа ты яшчэ думаеш, што ты такі-ж самы, як і белыя людзі?..

— Не, сэр. Я ўжо сказаў вам, містэр Грэйвз, што не магу...

— Калі ты хочаш утрымацца тут, ты павінен быць больш таварыскім.

— Так, сэр, але...

— Ды не «алекай» ты! Завёў! Мая бавоўна перш за ўсё. Твая можа пачакаць.

— Я ўжо гаварыў вам, містэр Грэйвз, не магу...

— Дык дамовіліся. Заўтра раніцай, да сонца. І чорт пабяры, табе лепей там быць!

## 4

## Гэты новы негр

— Гэй ты там!
— Вы мяне клічаце?
— Чорт пабяры, цябе... Я нешта раней цябе тут ніколі не бачыў.
— Так.
— Ты, негр, гавары: «Так, сэр».
— Так, сэр.
— Адкуль ты?
— Дык...
— Ты з Поўначы?
— Не... сэр.
— Адкуль-жа-ж?
— З Каліфорніі.
— Гэта-ж на поўнач адсюль?
— Адна частка на поўнач, другая не.
— Ты новы негр?
— Так, сэр.
— І спадзяешся спыніцца недзе тут?
— Магчыма...
— Тады табе трэба нешта ведаць. Інакш ты тут доўга не затрымаешся.



Паглядзі, як ходзяць другія негры. Ты не ўбачыш, каб яны праходзілі міма белых і ўтаропліваліся-б ім у вочы, як ты. Трэба прыветліва ўсміхацца ці сказаць: «Добры дзень, белыя людзі» і скінуць шапку. І яшчэ адно... Перастань ты, праклятаы негр, сціскаць і расціскаць гэты свой кулак, а то я выб'ю з цябе божы свет! А цяпер падзякуй за тое, што я навучыў цябе добрым манерам.

— Дзякую.

— «Дзякую, сэр».

— Дзякую, сэр.

— Добра, можаш ісці. І помні — рабі, як я казаў, калі ты спадзяешся затрымацца тут хоць ненадоўга.

5

# Прадай усё

— Я наконт падатку, містэр Палмер.
— Ага, якраз у пару. Спадзяюся, цяпер ты заплоціш?
— Ды не... тут нешта няправільна.
— Нічога няправільнага я тут не бачу.
— Як-жа-ж гэта выйшла, што мне трэба плаціць удвая больш, чым у мінулым годзе?
— Так яно і трэба.
— Але-ж я сабраў не больш, чым летась... усё гэтыя праліўныя дажджы і доўганосікі...
— Гэта вельмі дрэнна, але не мае ніякіх адносін да падатковага рахунку.
— Што-ж мне рабіць з ім, белыя людзі?
— Ці гаварыў табе містэр Гэйнс, што хоча купіць тваю дзялянку?
— Так, гаварыў.
— Ты збіраешся прадаваць?
— А дзе будзе жыць мая сям'я?
— О, містэр Гэйнс не абдзеліць цябе. Ён пакіне цябе на здольшчыне, як і большасць нашых тут, у Ботамсе.
— Ён амаль нічога не дае за яе.
— Што-ж я магу зрабіць? Але трэба ўсё-ж плаціць падаткі.
— Далібог, ну дзе-ж мне сабраць гэтыя няшчасныя грошы ў гэтую пару года?
— Нічога добрага не будзе нават, калі і заплоціш сёлетнія даўгі.
— Не? Чаму?
— У наступным годзе падаткі будуць удвая большымі. А калі ты наскрабеш іх, дык праз год яны падвояцца... падвояцца...
— Чаму-ж мне так плаціць?.. Таму, што містэру Гэйнсу патрэбна мая дзялянка? Гэта таму?
— Вось, вось. Ты вельмі кемлівы.
— Ці не містэр Гэйнс выпісаў мой рахунак?
— Для негра ты задаеш нешта шмат пытанняў. Прымі маю параду: прадай усё містэру Гэйнсу. Ідзі да яго зараз-жа, не траць марна часу. Калі ты занадта доўга будзеш марудзіць, ён можа перадумаць і зусім не заплоціць — прагоніць цябе. А тады дзе ты прытулішся?

6

# На выбарах

— Чаго табе тут трэба, гэй, ты?
— Вось я...
— Ну?
— Сёння дзень выбараў.
— Ну дык што?
— Я прыйшоў галасаваць.
— Не гаварыце! А ты ў спісках ёсць?
— Так, сэр.

— А як цябе зваць?
— Сэм Колінс.
— Зараз пагляджу. Калмерс, Кāмптан, Кілдрэс, Лілард... Ты ўпэўнены, што хочаш галасаваць?
— Так, сэр.
— Ты многа думаў аб гэтым?
— Так, сэр.
— ...Морган, Невінс, Нортан...
— Вы прапусцілі маё прозвішча.
— Праўда?! Я запытаўся ў цябе, ці многа ты думаў, перш чым пайшоў галасаваць.
— Я ўжо сказаў, што многа.
— А можа ты і не думаў? Хочаш яшчэ падумаць?
— Не, сэр. Не магу. Я павінен вяртацца на работу.
— А твой бос ведае, што ты тут?
— Не, сэр.
— А як яго імя?
— Гэта да справы не датычыцца....
— Так. Але я ўсё-ж пытаю.
— Вы хочаце пазваніць яму і сказаць, што я прыйшоў галасаваць.
— А калі і так?
— Тады я страчу работу. Вы не маеце права прымушаць мяне гаварыць.
— Не маю права, а? Думаеш, мы, белыя людзі, не маем права штонебудзь рабіць, калі мы дазволілі вам, неграм, галасаваць і мець работу? Так ці не?
— Так.
— Ва ўсякім разе, я нешта не знаходжу твайго прозвішча ў гэтым спісе.
— Яно там. Я сам бачыў. Дайце пакажу.
— Адыдзі, негр. Стань убок, пакуль я не абслужу гэтага джэнтльмена.
— Я не магу чакаць — я павінен ісці на работу.
— А хто цябе тут трымае? Ідзі ты лепш адсюль. І асмелься толькі прыйсці зноў...

7

## Негры вінаватыя

— Выбачайце, містэр Расел. На тым тыдні я не мог пайсці да вас працаваць.
— Ты абяцаў, што прыйдзеш. Ты быў мне патрэбен.
— Гэта так, містэр Расел. Але я не мог. Я быў слабы і ледзьве стаяў на нагах пасля тых пабояў.
— Зноў з кім-небудзь біўся?
— Не, сэр. Гэта містэр Світсер, вялікі белы чалавек. Ён наляцеў на мяне ў той панядзелак. Я ўвесь час пасля таго быў хворы.
— Ты адважыўся задрацца з ім?
— Не, сэр. Я не ведаю, як гэта можна з кім-небудзь задзірацца. Не, сэр. Не я. Ён проста падышоў і пачаў мясіць мяне.
— За што?

— Не ведаю — ён выбіў з мяне памяць раней, чым я паспеў запытацца ў яго.

— Напэўна, была-ж якая-небудзь прычына.

— Можа і так. Але не магу прыпомніць, каб я што-небудзь зрабіў гэтым белым людзям. Я амаль і не ведаю іх. Я толькі сказаў: «Добрай раніцы, сэр» і «Добрае надвор'е, сэр».

— Без прычыны ён-бы гэтага не зрабіў... Ты ўпэўнены, што нічога такога не было?

— Так, сэр.

— Калі ты, негр, ілжэш, я сам выб'ю з цябе мазгі.

— Я гавару вам святую праўду, містэр Расел!

— Добра, я хачу дабрацца да ісціны сам. Тэлефаністка, дайце мне нумар 0371. Містэра Світсера, калі ласка. Містэр Світсер? Гэта Расел. Боб Расел. Паслухайце, у мяне ёсць негр, і яго так раскалашмацілі... Што ён зрабіў? Думаю, ён сказаў аднаму з вашых неграў, што я плачу на дзесяць цэнтаў за гадзіну больш,чым вы. Толькі, бачыце, я раблю гэта, калі ў мяне спешная работа. І вось гэтага негра, лепшага за ўсіх маіх неграў, так пакамечылі, што ён месяц не зможа працаваць. Дык трымайце свае праклятыя рукі далей ад маіх неграў, інакш я пры першай-жа магчымасці выб'ю госпада-бога з кожнага вашага негра, які пападзецца мне па дарозе.

8

## Надзейнае сховішча

— Паслухай, сто пяць долараў занадта многа грошай, каб мець іх пры сабе і ўвесь час дрыжаць за іх. Давай я іх захаваю для цябе. Вось два долары, ты можаш зараз-жа патраціць іх сам.

— Не, сэр Містэр Робертс, гэтыя грошы ад урада за маю службу ў арміі, і яны мне патрэбны ўсе цалкам.

— Ты абавязкова трапіш у бяду, калі будзеш мець пры сабе ўсе грошы. Прап'еш, аддасі жанчыне ці сустрэнеш дрэнных белых людзей... Ты ведаеш, Джэксан, у мяне тваім грошам больш надзейна.

— Але вы даўно забралі і дэмабілізацыйныя грошы, і я не змог з іх нічога атрымаць.

— Таму што тут многа было работы. Ты атрымаеш гэтыя грошы, калі зноў настане цяжкая пара, і тады табе непатрэбна будзе дапамога—яна-ж ідзе з падатковых збораў, і мы павінны забяспечыць сябе ад гэтых бездапаможных, безграшовых неграў, якія растрачваюць усе свае грошы і спадзяюцца, што графства будзе клапаціцца аб іх.

— Але ўсё роўна мне патрэбны гэтыя грошы, містэр Робертс. Яны-ж мае.

— Паслухай, Джэксан. Я хачу, каб усё было культурна. Вось я дам табе пяць долараў, і ты можаш ісці сабе і добра правесці свой час.

— Не, сэр. На гэты раз яны мне патрэбны ўсе.

— Ну, я трохі ўжо стаміўся ад тваіх «дайце, дайце». Па-першае, ты скора раззлуеш мяне. Лепш ідзі адсюль і не шумі. І не забудзься прыйсці як-небудзь праз месяц, і я дам табе яшчэ трошкі грошай — вядома, калі ты будзеш добра працаваць, а не загараць на сонцы.

9

## Негр — не сведка

— Ці быў хто трэці, калі вы з ім гаварылі?
— Пэўна не магу прыпомніць. Ах, так! Ну, зразумела, там увесь час быў Джым Бэйлі.
— А гэты Джым Бэйлі ваш сваяк?
— Ну што вы, ён-жа негр!
— Я пытаю аб магчымых сведках, а не аб неграх.
— Але-ж Бэйлі можна было-б прымусіць сказаць, што там было.
— Вы думаеце, слова негра важыць на судзе столькі-ж, колькі слова Прэта?
— Не. Маё слова супроць слова Прэта. А Джым будзе толькі лішняй вагой для майго слова, вось і ўсё.
— Не, не будзе. Гэта толькі паверне справу супраць вас.
— Але Бэйлі не ўмяшаецца сам. Калі вы загадаеце яму прыйсці і сказаць аб тым, што ён чуў, увесь суд зразумее, што ён не суне шыю ва ўсё гэта проста так, а ведае напэўна, што яго словы — святая праўда.
— І поле застанецца за адвакатам супраціўнага боку.
— Чаму-ж?
— Чаму? Калі на трыбуне для сведак паявіцца негр, той так усё размалюе і раззабавіць усіх больш, чым дзіцянё са сваёй хлапушкай. Не, мая прафесіянальная рэпутацыя не каштавала-б і поўгроша, калі-б я дазволіў негру ўзысці на трыбуну для сведак.
— Дык як-жа?
— Магчыма, я знайду за што ўхапіцца. Але хрыстом малю, забудзьцеся на неграў. Я ўжо займаюся юрыспрудэнцыяй тут больш за сорак год і нешта не прыпомню, каб была выйграна хоць-бы адна грамадзянская справа з неграм у якасці сведкі.

10

## Цяжкі клунак

— Дык вось, Саул, чаму я пазваў цябе сюды...
— А што такое, містэр Прэстан?
— Бач ты, нейкі негр меў нахабнасць напісаць дырэктару Парксайдскай школы, што, калі белыя людзі вырашылі дапусціць неграў у свае школы, ён хоча мець гонар быць дапушчаным першым і г. д. Можа, яшчэ наняць духавы аркестр і са сцягамі пайсці праводзіць яго ў школу?
— А пры чым тут я, містэр Прэстан?
— Дык гэты-ж негр назваў цябе сваім бліжэйшым сваяком.
— Я і не ведаў гэтага.
— А кім ён табе прыходзіцца?
— Думаю, нешта накшталт траюраднага брата. Але я аб ім чую ўвесь час. Ён дасціпны хлопец і добра вучыцца. Прапаведнік Браун гаварыў неяк, што ён самы разумны ва ўсёй школе. Можа, гэты прапаведнік Браун хоча, каб ён вучыўся і далей.
— З чаго гэта ён захацеў, каб хлопец марна траціў час?
— Навучанне — гэта не марная трата часу, містэр Прэстан.
— Для белых не.

— Але, сэр, негрыцянскі хлопчык таксама хоча чаму-небудзь навучыцца.

— Яно толькі сапсуе яго, і больш нічога.

— Не, яно можа зрабіць яго трошкі лепшым.

— Ну не! Навучанне зробіць яго толькі занадта фанабэрыстым для той работы, якую яму могуць даць. Ты думаеш, я пацярплю, каб негр з партфелем, акулярамі і з кніжкай у руцэ цягаў мне тут мае скрыні? І ці будзе ён сам рады ўсё цягаць і цягаць іх? Ды чорта з два!

— Можа, ён знойдзе другую работу?

— А хто дазволіць яму ўзяцца за работу белага чалавека? Лепш няхай і не спрабуе. Мабыць, ты ўжо ведаеш гісторыю аб тым, як бог болей мільёна гадоў таму назад прызваў да сябе белага і негра і сказаў: «Вось у мяне два клункі, па аднаму на брата — у іх каштоўныя рэчы, і я хачу, каб вы імі карысталіся». Адзін клунак быў вялікі, а другі маленькі. І бог сказаў негру: «Ты выбірай першы — я ведаю, чаму дазваляю табе рабіць гэта раней за белых людзей ,— ну дык бяры любы, які хочаш». І негр, у якога былі вялікія, бліскучыя, прагныя вочы, у адно імгненне, як маланка, ухапіў вялікі клунак. І тады бог сказаў беламу чалавеку, што другі клунак яго. А калі яны раскрылі свае клункі, белы чалавек знайшоў там пяро і чарніла, і з таго часу ён на гэтым свеце павінен займацца пісанінай. А што ты думаеш знайшоў негр у сваім вялікім клунку? Нічога, акрамя сякеры і рыдлёўкі. І бог сказаў яму: «Цяпер памятай, ты сам зрабіў сабе выбар — ніхто сілай не навязваў табе гэтага. Таму каб ты не бурчаў мне, калі з гэтага дня будзеш увесь час працаваць кіркай і рыдлёўкай. І ніколі нават і не спрабуй што-небудзь мяняць ці адмаўляцца ад работы».

— Безумоўна, гэта добрая гісторыя, містэр Прэстан. Але я чуў яе трохі інакш. Гэта было так...

— Няважна. Мне яна больш падабаецца, як я расказваю. І мне ўсё падабаецца якраз так, як яно ёсць. Непатрэбна нічога мяняць. І пакуль кожны з нас займае сваё месца, якое сам бог вызначыў для нас, мы абавязкова будзем квітнець. Ты думаеш інакш?

— Так, сэр містэр Прэстан...

— Дык што-ж ты думаеш рабіць з гэтым тваім турботным родзічам?

— А што мне рабіць?

— Гэта-ж твой пракляты сваяк ці не? Выбі з яго д'ябла. Вымый яму рот лізолам. Утапі яго. Зрабі з ім, што хочаш, але закрый яго фанабэрысты рот, пакуль ён сапраўды не ўзяўся за тое, чаму ўжо толькі нехта большы за мяне, цябе ці яго зможа пакласці канец.

— Але я нічога не ведаю аб гэтым, містэр Прэстан.

— Ты і цяпер плоціш за яго стол і кватэру там, дзе ён жыве, я чуў. Ты-ж плоціш маімі грашыма, і я збіраюся скончыць з гэтым. Дык вось, калі ты хочаш працаваць на мяне і надалей і мець мае добрыя грошы, глядзі, каб больш гэтага не было. Болей я не хачу нават і чуць аб глупствах гэтага негра. Хадзіць у школу для белых, бач ты! А скора ён, ходзяць чуткі, уздумае яшчэ, каб мы аплочвалі яго навучанне і ў каледжы, дзе вучацца белыя... Чаму-ж не!.. Якія-небудзь белыя людзі і за мільён міль адсюль вырашаць дапусціць яго ў нашы каледжы... Ведаеш, калі-б хто сказаў гэта даволі гучна там, на Карнуольскіх могілках, то мой бедны стары тата, які памёр амаль пяцьдзесят гадоў назад, устаў-бы са сваёй магілы, але зараз-жа зноў зваліўся-б мерцвяком ад смеху з таго відовішча — негр ідзе ў каледж для белых... ха, ха, ха, ха!

Пераклаў з англійскай мовы С. ДОРСКІ.



# ЯНКА КУПАЛА

## 1882—1957

**Анатоль ВЯЛЮГІН**

* * *

Стала песня славаю народа.
Што ёй бронза, мармур ды музей!
У душы прапісаны, заўсёды
ты жывеш, паэт, сярод людзей.

Чэрвень зноў... за годам год мінае...
Не гады — стагоддзі пражывеш.
Мне здаецца:
сёння з Кустаная
прывязе Купала добры верш.

З любасцю
усюды паўтарае
бацькаўшчына любае імя.
На зажынкі ў Вязынку чакае
земляка арцельная сям'я.

Баявыя строфы «Партызанам» —
з беларускай мовы пераклад —
як абоймы,
дзесьці пад Фузанам
беражэ далёкі смуглы брат.

Стала песня славаю народа.
Што ёй бронза, мармур ды музей!
У душы прапісаны, заўсёды
ты жывеш, паэт, сярод людзей.

# ВЯЛІКІ ДРУГ

Калі я цяпер успамінаю аб нашым Янку Купале, то перш за ўсё ўяўляю яго сярод калгаснікаў вёскі Ляўкі. Вось ён прыйшоў у поле і гутарыць з касцамі, жнеямі, брыгадзірам. Ідзе на луг, дзе пасвіцца статак, і пачынае размову з пастухамі. Выступае на агульным сходзе і дае парады на самыя розныя тэмы — і па будаўніцтву жывёлагадоўчых памяшканняў, і па рамонту плаціны; падказвае, як лепш арганізаваць працу, напамінае аб доглядзе пасеваў. Звычайна ён не прапускаў ні аднаго калгаснага сходу. Парады Івана Дамінікавіча па агратэхніцы былі настолькі змястоўнымі і з веданнем справы, што нашы сяляне доўгі час думалі, што ён мае спецыяльную агранамічную адукацыю.

Дзе быў народ — на прызбе, у хаце, на таку, у полі, — там заўсёды бываў і Купала. Асабліва ахвотна гутарыў ён з перадавікамі, якія паказвалі прыклад у калгаснай працы. Цікавіўся, як яны атрымліваюць высокія вытворчыя паказчыкі, і тут-жа даваў парады, як зрабіць, каб было яшчэ лепш.

Наведваў паэт вясковую школу, знаёміўся з навучаннем, прыглядаўся, ці добра вучацца дзеці, якая школе патрэбна дапамога.

За шэсць гадоў, якія Янка Купала пражыў у Ляўках, ён стаў для нас, калгаснікаў, вялікім другам, блізкім і родным чалавекам.

**Сямён БАРАЗНОЎ,**
**калгаснік сельгасарцелі**
**імя Карла Маркса.**

**Вёска Ляўкі.**



Бровар, на якім працаваў Я. Купала ў маладосці.

# НЕЗАБЫЎНЫЯ СУСТРЭЧЫ

Мая першая сустрэча з Купалам адбылася ў калгасным садзе. Тады я працаваў садоўнікам. Быў разгар вясны, і паэт прыйшоў, каб палюбавацца буйным цвіценнем яблынь, вішань, сліў. Ён доўга гутарыў са мной, расказваў аб вялікім пераўтваральніку прыроды І. В. Мічурыну. З гэтага незабыўнага дня нашы сустрэчы зрабіліся частымі. Іван Дамінікавіч заходзіў да мяне ў дом, я бываў у яго на дачы, якая была размешчана на беразе Дняпра, непадалёку ад Ляўкоў.



Янка Купала ў гады працы ў лясніцтве.

Летам таго-ж 1935 года ў госці да Купалы прыйшла група актыву нашага калгаса — старшыня, брыгадзіры, даяркі і іншыя. У ліку іх быў і я. Мы прынеслі свой скромны падарунак — хлеб-соль, мёд, кветкі. Доўга працягвалася цёплая сяброўская гутарка аб калгасным жыцці-быцці. Было бачна, што сустрэча зрабіла на паэта моцнае ўражанне. Праз некалькі дзён ён прачытаў нам свой верш «Госці».

Вельмі любіў Купала на невялічкім участку ля дачы займацца гародніцтвам, даглядаць сад. Мне ён падарыў на памяць грушу «Бэра мічурынская», якая і цяпер расце на маёй сядзібе.

У абыходжанні з калгаснікамі Купала быў вельмі просты, любіў гутарыць са старымі і маладымі. Больш пытаўся, чым гаварыў сам, і ўважліва слухаў, што казалі калгаснікі. Чытаў свае вершы, а іх у Ляўках ім было напісана нямала. Праяўляў вялікія клопаты аб калгасных дзіцячых яслях і часта наведваў іх.

У гутарках з хлебаробамі Янка Купала, успамінаючы цяжкі час царскага прыгнёту, часта гаварыў аб тым, што векавыя мары беларускага народа аб свабодным, шчаслівым і заможным жыцці здзейсніліся. Шчасце народнае было для яго галоўным і аб ім былі ўсе яго думкі і мары.

**Міхаіл СТАРАВОЙТАЎ,**
**калгаснік сельгасарцелі**
**імя Карла Маркса.**

**Вёска Ляўкі.**

І. ЖЫДОВІЧ

# ПЯСНЯР ПРАЦЫ, БАРАЦЬБІТ ЗА МІР

Янка Купала ўвесь свой бліскучы паэтычны талент аддаў служэнню народу. У дарэволюцыйныя гады яго паэзія, якая выкрывала несправядлівыя парадкі буржуазна-памешчыцкай Расіі, была палымяным заклікам да змагання з эксплуататарамі. Вершы і паэмы Купалы аб гаротнай долі і беспрасветным жыцці беларускага сялянства былі абвінаваўчым актам супраць царызма, супраць прыгнёту народа.

Пасля перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэволюцыі Янка Купала разам з усім народам змагаецца за перамогу сацыялізма ў нашай краіне. Яго творчасць савецкага перыяду — гэта праўдзівае і глыбокае адлюстраванне жыцця савецкай краіны. Мір і праца — гэтыя дзве арганічна звязаныя паміж сабою тэмы праходзяць праз усю пасля-кастрычніцкую творчасць паэта.

Аб чым-бы ні пісаў Я. Купала — аб новай калгаснай вёсцы, аб сацыялістычным будаўніцтве, аб героях краіны, аб Чырвонай Арміі, аб магутнай Савецкай Радзіме — ва ўсіх творах ён услаўляе мірную стваральную працу савецкіх людзей. У хвалюючым вершы «Песня будаўніцтву» паэт выказвае ўпэўненасць, што гісторык будучага цёпла і шчыра раскажа маладому пакаленню аб нашай цудоўнай сучаснасці.

Маладому свайму пакаленню
Ён апіша з палётам арліным,
Як бліскотна з бетону, з камення,
З цэглы, з сталі, з жалеза,
ў праменнях
Тут за гмахам рос гмах на руінах.

Як, узняўшыся слаўна ў вышыні,
Соцспаборніцтва, ўдарніцтва ўдала
Здабывала багацце краіне,
Гарады будавала ў пустынях
І пустынную ноч асвятляла.

Як за трактарам трактар выходзіў
На сялянскія стужкі — палоскі,
Каб у дружным, як войска, паходзе
Нішчыць межы, машыны заводзіць,
Будзіць спячыя сёлы і вёскі.

Паказваючы мірную працу савецкіх людзей, Купала заклікае ўмацоўваць магутнасць сваёй Радзімы — аплоту міру і дэмакратыі ва ўсім свеце.

Паэт актыўна выступаў у абарону прагрэсу і культуры, ускрываючы ўсю гніласць і асуджанасць капіталізма. У вершах «Дыктатура працы», «Настане такая часіна» і многіх іншых ён гаворыць аб тым, што народы адолеюць цёмныя сілы, знішчаць «культуру хамства і далара», створаць радаснае і шчаслівае жыццё.

Закон і права ў долі роўнай
Для ўсіх народаў, для ўсіх нацый
Рукой жалезнай, непакорнай
Напішаш, дыктатура працы.
Жыццё без цемры і цярпення,
А ў ясным сонцы, як у байцы,
Для ўсіх вякоў і пакаленняў
Збудуеш, дыктатура працы.

З нянавісцю гаворыць паэт аб ворагах чалавецтва, падпальшчыках вайны, якія на крыві працоўных хочуць множыць сваё багацце. Задоўга да другой сусветнай вайны Я. Купала папярэджваў народы свету аб пагражаючай небяспецы, заклікаў іх да барацьбы з фашызмам. У вершы «Старыя акопы» ён пісаў:



Я. Купала і А. Новікаў-Прыбой.

Зборнік твораў Я. Купалы на кітайскай мове.

Ой вы, мае акопы з бліндажамі!
Агідна робіцца на сэрцы і душы,
Што там — за пагранічнымі
слупамі —
За войнаў будучых п'юць подла
барышы.

Што там яны — сапегі, радзівілы,
Разгром забыўшы ля дняпровых вод,
Свае ў Расіі свежыя магілы, —
Крычаць віваты за паход на ўсход!
Што гітлеры і герынгі з Берліна,
Культуру нішчачы, што кінулі вякі,
І ў божышча ўзвёўшы гільятыну,
На край савецкі точаць шаблі
і штыкі.

Але паэт упэўнены ў неперамажнай сіле Савецкага Саюза. Ён услаўляе мудрую Камуністычную партыю, якая аб'яднала народы нашай краіны ў адну дружную сям'ю.

Мірная стваральная праца савецкага народа ва ўмовах капіталістычнага акружэння немагчыма без моцнай арміі, гатовай адказаць сакрушальным ударам на прошукі падпальшчыкаў вайны. Купала заклікае да ўмацавання абароназдольнасці Радзімы. Ён верыць у сілу свабоднага народа, у несакрушальную моц арміі-вызваліцельніцы.

Стаім скалою на фарпосце.
Заставы нашы, як граніт.
Сталёвая пільнуе варта
Спакой савецкае зямлі,
Байцы не дрэмлюць, поўны гарту,
На крыллях — нашы патрулі.

Многа цудоўных песень і вершаў прысвяціў паэт Чырвонай Арміі, яе байцам.

З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны Я. Купала аддае ўсю сілу свайго паэтычнага таленту барацьбе з ненавісным ворагам, справе вызвалення сваёй Радзімы. Ён часта выступае на мітынгах, па радыё і ў друку, заклікаючы да ўсенароднай барацьбы супраць фашысцкіх захопнікаў. У сваіх вершах-закліках, адрасаваных беларускаму народу, паэт з гневам і нянавісцю выкрывае крывавых захопнікаў, якія хацелі знішчыць краіну сацыялізма, а савецкіх людзей ператварыць у нявольнікаў. Купала паказвае, што на барацьбу з ворагам падняўся ўвесь народ, гатовы да канца змагацца за сваю любімую Айчыну.

Паэт раскрывае ў сваіх творах высокія маральныя якасці свабодалюбівага і мужнага беларускага народа, яго адданасць справе Камуністычнай партыі, яго любоў да Радзімы. Нянавісць савецкага народа да фашысцкіх захопнікаў ярка выражана ў вершах «Беларускім партызанам», «Паўстаў народ» і іншых. Разумеючы, што фашызм можна знішчыць толькі ў мужнай, усенароднай барацьбе, паэт, звяртаючыся да народных мсціўцаў, заклікае:

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!
За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны.
Клічу вас я на пабеду,
Хай вам шчасцем свецяць дні,
Выразайце людаедаў,
Каб не стала іх і следу
На святой нашай зямлі.

На беларускай зямлі, дзе палыхала полымя партызанскай барацьбы, гэтыя

Зборнік твораў Я. Купалы на грузінскай мове.

вершы паэта завучваліся напамяць, друкаваліся ў шматлікіх падпольных газетах і лістоўках.

Звярынае аблічча фашызма Купала выкрываў і ў гнеўных публіцыстычных артыкулах, адозвах, у прамовах і выступленнях па радыё.

У прамове на Першым Усеславянскім мітынгу ў Маскве Купала з вялікім пачуццём і глыбокім задавальненнем расказваў прадстаўнікам брацкіх народаў Савецкага Саюза аб гераічнай барацьбе беларускіх партызан.

Цвёрда і непахісна верыў Купала ў надыходзячую перамогу, у хуткае і немінучае вызваленне Беларусі з нямецка-фашысцкай няволі.

Ачысцім нашы лес і поле
Ад Гітлера, ад яго бандаў,
Зноў будзем шчасце мець і волю
У сваіх адноўленых прысадах.

Загоім раны, адбудуем
Свае сялібы зруйнаваны,
Сваю краіну маладую
Святлом асвецім нечуваным.

Зірнуць зноў нашы ў высь палацы.
Святочна прыбяруцца людзі,
Як красаваўся, красавацца
Чырвоны сцяг над намі будзе.

«Надыдзе час, — гаварыў ён у студзені 1942 г., — калі мы зноў збярэмся ў шчасці і радасці, вялікай сваёй сям'ёй на роднай зямлі, для вялікай працы аднаўлення і творчасці».

Да апошніх дзён жыцця, нягледзячы на хваробу, не спыняў Купала сваёй плённай дзейнасці паэта-грамадзяніна, паэта-змагара, трыбуна. У гады Вялікай Айчыннай вайны ён працаваў у Прэзідыуме Усеславянскага камітэта, выступаў са сваімі вершамі і прамовамі на мітынгах. Ён рабіў усё, каб народ змог зноў вярнуцца да мірнай стваральнай працы.

Вялікі пясняр добра разумеў ролю і значэнне савецкага народа як авангарда ў барацьбе супраць фашызма, за мір. Ён услаўляў мудрую знешнюю палітыку Савецкага ўрада, накіраваную на ўмацаванне дружбы паміж народамі. Творы Я. Купалы і сёння знаходзяцца на ўзбраенні нашага народа ў яго барацьбе за пабудову камунізма. Яны выкрываюць падпальшчыкаў вайны, зрываюць з іх маску міралюбства, клічуць актыўна змагацца за мір і дэмакратыю, супраць падпальшчыкаў імперыялістычных войнаў.

*Давайце пагаворым...*

Надзея КЛІМОВІЧ

# ЧАМУ ЯНЫ РАЗЫШЛІСЯ?

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

**Дарагая рэдакцыя!**

Вельмі прашу адказаць на пытанні, якія мяне хвалююць. Справа ў тым, што з тыдзень назад мая лепшая сяброўка Дзіна разышлася са сваім мужам. Я дасюль ніяк не магу зразумець, што здарылася? Чаму раптам распалася сям'я? Хто тут вінаваты? Няўжо так хутка і недарэчна можа прайсці каханне?

Мне вельмі шкада Дзіну і яе мужа. Яны так кахалі і цяпер яшчэ кахаюць адно другога. Але кожны лічыць, што ён ніколі не зробіць кроку да прымірэння. А мне здаецца, што гэта няправільна.

Я пастараюся пра ўсё расказаць падрабязна, нічога не ўтойваючы. Толькі прашу вас, не пішыце іх сапраўдных прозвішчаў, бо, шчыра кажучы, пра свой намер напісаць у рэдакцыю я нават Дзіне не сказала.

Вось як усё было.

Мы жывем у горадзе, працуем на фабрыцы. Дзяўчаты нашы вясёлыя, бойкія. У гэтым, на нашу думку, няма нічога дрэннага; бойкасць яшчэ не азначае, што мы трымаем сябе непрыстойна.

Але ёсць у нашым горадзе людзі, якія на фабрычных дзяўчат пазіраюць скоса і нават забараняюць хлопцам прыходзіць да нас у клуб. Убачыць такая маці свайго сыночка з фабрычнай дзяўчынай і пачынае лемантаваць: «З кім ты дружыш? Ды яна-ж з фабрыкі! Фабрычныя ўсе такія: самі хлопцам на шыю вісную».

Нам гэта вельмі крыўдна слухаць, але мы стараемся не звяртаць увагі на мяшчанскія выдумкі. Мы сабе цану ведаем.

Жывем мы весела. У нас ёсць гурткі мастацкай самадзейнасці, пры фабрычным доме культуры — клуб дзяўчат. Камітэт камсамола часта наладжвае танцы, маладзёжныя вечары, а разы два-тры ў месяц да нас прыязджаюць артысты. Народу ў доме культуры заўсёды многа.

На адным з такіх вечароў мая сяброўка Дзіна і пазнаёмілася з Міхаілам. Было гэта летась, у пачатку года. Міхаіл нядаўна прыехаў у наш горад і ўпершыню быў у нашым доме культуры. Дзіна яму адразу спадабалася. Увесь вечар ён танцаваў з ёю, а потым праводзіў нас дадому. Калі мы падышлі да інтэрната я хацела пакінуць іх удваіх, але Дзіна мяне не пусціла, і мы з гадзіну стаялі ля дзвярэй і вельмі весела размаўлялі.

Калі ён развітаўся і пайшоў, я сказала Дзіне:

— Ён, відаць, добры хлопец, і ты спадабалася яму.

Дзіна прамаўчала, а калі клаліся спаць, яна нечакана для мяне прамовіла:

— І ён мне спадабаўся.

— Тады, — кажу я, — і пільнуйся яго.

Дзіна ўсміхнулася.

— Няхай ён мяне пільнуецца, — і выключыла святло.

Дзіна прыгожая, яна добра танцуе, спявае, і ў кампаніі з ёю ніколі не бывае сумна. Таму хлопцам яна падаба-

лася, і многія ёй прызнаваліся ў каханні.

Але Дзіна з усімі гуляла аднолькава. Яе можна было бачыць то з адным, то з другім, то з трэцім. З гэтым ідзе ў кіно, з другім — ходзіць на лыжах, з трэцім — танцуе. Так у некаторых узнікла ўяўленне аб ёй, як аб несур'ёзнай і нават лёгкадумнай дзяўчыне, хоць на самой справе яна такой не была.

Дзіна ўсё часцей і часцей сустракалася з Міхаілам.

Міхаіл заканчваў работу на гадзіну раней, чым мы. Бывала, выходзім за вароты фабрыкі, а ён ужо стаіць, чакае Дзіну. Прачнемся ў нядзелю — бачым: Міша шпацыруе па тратуары насупраць нашага дома, чакае Дзіну. І на вечарах ён заўсёды быў побач з ёю. Кожнаму было відаць, што Міша закаханы ў Дзіну. І яна кахала Мішу, але выгляду не падавала. І я лічу, што Дзіна рабіла правільна, бо дзяўчына павінна быць стрыманай і не выказваць сваіх пачуццяў адразу.

Міхаіл палічыў, што дзяўчына яго не любіць, і пачаў раўнаваць яе да кожнага, з кім толькі ўбачыць. Напэўна, у іх былі нейкія размовы наконт гэтай рэўнасці, але я пра іх не здагадвалася. Таму першая сварка мяне здзівіла. Адбылася яна вось чаму.

Дзіна вельмі любіць хадзіць на лыжах. Адзін час яна нават трымала першынство сярод дзяўчат нашай фабрыкі. Дзіне даўно хацелася навучыцца слалому. У тую зіму ў нас пачаў працаваць новы інструктар фізкультуры Валеры, які сам займаўся слаламам. Удваіх з Дзінай яны кожны выхадны, а часта і ў будні дзень, калі Дзіна працавала ў начную змену, ездзілі за горад на трэніроўкі.

Бывала, Міхаіл прыйдзе, а Дзіны няма. Ён сядзіць, размаўляе з намі. Але мы-ж бачым: хлопец вельмі хвалюецца, што няма дзяўчыны.

Аднойчы я сказала Дзіне:

— Навошта ты здзекуешся з Мішы? Ён-жа цябе кахае, а ты з другім ездзіш за горад катацца.

— Ну і дзівачка ты,—адказала мне Дзіна. — Што-ж я, па-твойму, не павінна навучыцца слалому? Няхай Міша возьме лыжы ды разам з намі едзе. Будзем утраіх катацца.

— Дык вось ты яму так і скажы,— параіла я Дзіне.

— А хіба сам дадумацца не можа? На рэўнасць дык вельмі здатны...

Я падумала: «Калі ты не хочаш, дык я падкажу Мішу. Сапраўды, чаму-б яму не паехаць на лыжах за горад».

Але тут здарылася тое, чаго я не чакала.

Да Дзіны заляцаўся наладчык нашай фабрыкі Віктар. Але яна не захацела з ім нават сустракацца. Ён прыгразіў, што адпомсціць Дзіне. Мы толькі пасмяяліся. І вось цяпер ён пачаў распускаць пра Дзіну і Валерыя розныя плёткі.

Вось тады і адбылася першая сварка. Міша патрабаваў, каб Дзіна больш не хадзіла на лыжах. Яна сказала, што вучыцца слалому будзе, нягледзячы на яго забарону. Міша пагарачыўся і сказаў, што яна вучыцца слалому толькі таму, што шукае спакойных мясцін для спаткання з Валерыем. Дзіна не вытрымала і ўдарыла яго па твары.

Пра гэта я даведалася пазней. А ў той вечар Дзіна прыбегла дадому, кінулася на ложак і ўсю ноч плакала. У нядзелю яна не паехала на трэніроўку і нават сказала, што больш слаломам не цікавіцца.

— Ты, Надзя, не ведаеш, што здарылася з Дзінай? — запытаўся ў мяне інструктар.

Я расказала.

— Добра, я з ім пагавару. Вось дзівак! Няўжо ён мог паверыць у такую бязглуздзіцу?

Дні праз два Міша прыйшоў у інтэрнат, папрасіў у Дзіны прабачэння.

Але такія сваркі ўзнікалі часта. Неяк хлопцы з нашага цэха запрасілі мяне і Дзіну ў кіно, а потым праводзілі нас дадому. Назаўтра Міхаіл зноў пасварыўся з Дзінай: чаму яна пайшла ў кіно без яго.

Дзён праз колькі яны зноў памірыліся.

Так у іх і павялося: яны мірыліся, кляліся ў каханні, абяцалі адно другому больш не сварыцца. Пасля адной такой сваркі настала прымірэнне, а за ім — ЗАГС і вяселле. Мы ўсе былі рады за гэтую маладую пару.

І сапраўды ўсё спачатку было добра. Міша сам не раз смяяўся з сваёй недаверлівасці. Але неўзабаве зноў пачалася сварка.

Рашаючую ролю тут адыграла Тамара — дачка мішавай мачыхі. Працуе яна ў вячэрняй школе настаўніцай. Тамара вельмі не хацела, каб Міша ажаніўся з Дзінаю.

— Ты мог-бы знайсці лепшую жонку,— не раз гаварыла яна Мішу.

І вось нядаўна зноў папаўзлі самыя неверагодныя плёткі. Я не скажу, што ўсе іх выдумляла Тамара. Але, бясспрэчна, што яна дапамагала іх разносіць. Дзіне «прыпісваліся» ўсе хлопцы, з якімі яна хоць калі-небудзь і дзе-небудзь размаўляла. Але Дзіна не думала нават звяртаць на гэта ўвагі. Яна запісалася ў танцавальны гурток, і калі ёй даручылі з адным нашым хлопцам падрыхтаваць цірольскі вальс, дык яны рэпетыравалі ўдваіх у адным з пакояў

клуба. І спортам яна займалася паранейшаму.

Міхаіл запатрабаваў, каб Дзіна кінула танцавальны гурток і заняткі спортам. Яму дапамагала ў гэтым і Тамара.

— Паслухай, мая любачка, — гаварыла яна Дзіне. — Замужняй жанчыне непрыгожа танцаваць з чужымі хлопцамі або бегаць у трусіках па стадыёну.

Але Дзіна рабіла па-свойму, хоць вельмі цяжка пераносіла такія размовы. Усё часцей і часцей яны спрачаліся з Міхаілам. Дзіна папракала яго ў тым, што ён не верыць ёй. Міхаіл абураўся яе паводзінамі, гаварыў, што яна яго кампраметуе, што з яго смяюцца заводскія хлопцы. Ён спачатку прасіў яе не дружыць ні з кім, а потым пачаў нават ёй пагражаць.

І вось нядаўна ў час экзаменаў у вячэрняй школе адбыўся такі выпадак. Дзіна папрасіла Васіля дапамагчы ёй разабрацца ў некаторых пытаннях па трыганаметрыі. Васіль ведае трыганаметрыю, і з ахвотаю згадзіўся дапамагчы Дзіне. Яны прыйшлі ў школу, знайшлі незаняты клас і пачалі рыхтавацца да экзаменаў.

Праз некаторы час дзверы гэтага класа з грукатам расчыніліся. На парозе стаяў раз'юшаны Міхаіл. Ён падбег да Дзіны, ударыў яе, затым кінуўся на Васіля.

Як потым высветлілася, Тамара пазваніла Міхаілу і сказала:

— Прыходзь, палюбуйся, як твая жонка весела час праводзіць...

А няўжо што-небудзь ёсць дрэннае ў тым, што замужняй жанчыне дапамагае таварыш? Чаму ў нас некаторыя глядзяць на таварыскія адносіны мужчыны і жанчыны як на нешта непрыстойнае і бруднае?

І вось Дзіна пакінула Міхаіла. Цяпер ёй вельмі цяжка. Але яна не хоча ісці на прымірэнне, бо лічыць, што Міхаіл яе абразіў і што далей жыць у атмасферы недавер'я немагчыма.

Гаварыла я з Міхаілам. Ён лічыць, што пагарачыўся, што Дзіна — сумленная, але, маўляў, з яго ўсе смяюцца і ў гэтым вінавата яна сама.

Цяпер у нас на фабрыцы толькі і гаворкі, што пра дзініна гора. Адны асуджаюць яе, другія — Міхаіла.

Гавораць пра гэта і ў камітэце камсамола, але паколькі ні Дзіна, ні Міхаіл не падавалі заявы, ніхто не хоча ўмешвацца ў гэтую справу.

А сям'я распалася, людзі пакутуюць. І ніхто ім не прыходзіць на дапамогу, ніхто не параіць, што рабіць. Затое пляткаркі задаволены. Яны сваю брудную справу зрабілі.

Вось я і прашу вас, падкажыце, што рабіць? Як мне дапамагчы Дзіне і Мішу?

Чакаю вашага адказу.

З таварыскім прывітаннем Надзея Клімовіч.

Ад рэдакцыі: Мы друкуем гэты ліст Надзеі Клімовіч, каб чытачы самі далі адказы на пытанні, якія ў ім пастаўлены.

С. КУХАРАЎ

# ШЧЫРАСЦЬ

**Нарыс**

1

Ульяна не была маўклівай, але не лішне кідалася расказваць пра сябе. Яна наогул не паважала тых людзей, якія стараюцца пры зручным выпадку пакрасавацца сабой, выставіць напаказ свае заслугі і здольнасці.

Прадстаўнік з райкома, які рэкамендаваў барунскім калгаснікам за старшыню комуністку Ульяну Крышталевіч, сам расказаў пра тое, што ў маленстве яна працавала наймічкай у кулакоў, у час вайны была адважнай партызанкай-падрыўнікам, а потым на ўсіх пасадах — сакратара райкома комсамола, намесніка старшыні райвыканкома, загадчыка раённай планавай камісіі — добра спраўлялася і праявіла сябе як прынцыповы і здольны таварыш. Той-жа прадстаўнік сказаў, што Ульяна сама, па загаду свайго сэрца, згадзілася ехаць у вёску з горада Браслава, дзе ў яе добрая ўтульная кватэра і добрая пасада.

Ульяна моўчкі сядзела за сталом у прэзідыуме, падпёршы маленькай касцістай рукою драбнаваты, у вяснушках твар. У сваім простым цёмным жакецiку і ў лёгкай у гарошынку хусцінцы яна выглядала танклявай, як дзяўчынка. Каб не вочы — вялікія, чыстыя, з мяккім сіняватым цяплом, што глядзелі на людзей шчыра і весела, дык можна было-б падумаць, што жанчына гэтая спалохалася сваёй ранейшай смеласці.

Зараз у яе не было сумнення: ісці ці не ісці ў калгас. Жанчына даўно цвёрда рашыла, — як тады, у партызанскім атрадзе: не ў зацішша, а на лінію агню!..

А думала яна пра іншае.

... Белагаловая дзяўчынка Улька ў доўгай даматканай сукенцы ўцякае дамоў, у сваю вёску Зачарэўе з хутара, куды яе аддалі ў нянькі. Сукенка замінае бегчы, яна падае, падхопліваецца і бяжыць, азіраючыся назад, і моцна трымае ў руках лусту хлеба...

Ульку аддаюць у наймічкі да вясковага кулака Іванова-Дрыля, Дзень пры дні яна поле грады, мые падлогу, няньчыць дзяцей. Хоць-бы хутчэй вярнуўся бацька

з тых заработкаў ды прывёз-бы ёй і сястрычцы гасцінцаў. У дрылёвым садзе ўжо другі раз паспадаў цвет з яблынь, а бацькі ўсё няма. Неяк Улька падслухала, як лупатая дрыліха гаварыла: «Мусіць-жа таго галетніка добра-такі ўпяклі». Гэта пра улінага бацьку.

А бацька яе — падпольшчык, прыхільнік КПЗБ. Хаваючыся ад паліцыянтаў і правакатараў, Феакціст Каралінскі жыў воддаль ад дому, шклютаваў у лесе — рабіў шчапу, дранкі... Калі-ж на кароткі час прыязджаў, то збіраў знаёмых хлопцаў, і яны аб нечым шапталіся, прыладжвалі навушнікі і ўпотай слухалі Маскву, паціху спявалі савецкія песні. Схаваўшыся дзе-небудзь у пуньцы ці ў вішняку, Ульяна з сяброўкамі запявала «Кацюшу», і ў яе маленькім, яшчэ дзіцячым сэрцы загаралася невыказна радаснае пачуццё.

Але, бадай, самае незабыўнае, што запомнілася на ўсё жыццё, — гэта сонечны вераснёвы дзень, калі Савецкая Армія прыйшла на дапамогу сваім братам, якія пакутвалі ў панскай няволі.

Ульяна бачыла, як па вуліцы бегла праставалосая цётка і, махаючы чырвонай хусткай, нібы сцягам, крычала: «Бальшэвікі ідуць!» Бацька, які ў гэты час быў дома, без шапкі выскачыў на вуліцу, гукнуў мужчын, і ўсе з песнямі, з хлебам-соллю выйшлі за аселіцу.

У сакавіку 1941 года Ульяна атрымала камсамольскі білет, а ў чэрвені пачалася вайна. І дзяўчына ідзе па сцежках, якімі некалі хадзіў яе бацька, становіцца падпольшчыцай, партызанскай сувязной. У лёгкім дублёным кажушку з пісталетам у кішэні яна прарываецца з засады паліцыянтаў. Трэснуў стрэл, адзін, другі, а яна бяжыць і бяжыць. Толькі ў лесе адчула, што апякло бок, і звалілася на снег пад заінелай бярозкай. Расплюшчыла вочы ў хаце, на цёплай пасцелі. Над ёю схіліўся знаёмы смуглявы твар.

— Мікола!

Гэта быў той самы Мікола Крышталевіч з-пад Пераброддзя, з якім яна сябравала. Дазнаўшыся, што паліцыянты пагналіся за Ульянай, ён забыўся пра ўсё на свеце, стрымгалоў кінуўся на дапамогу. Потым ён-жа даглядаў сяброўку, пакуль не ачуняла.

Зноў Ульяна бачыць сябе той Улькай-партызанкай, якая ішла на заданне ў латышскую вёску Стара-Рачава, каб узарваць варожы эшалон. Адзін хлопец-перасмешнік, які ішоў наперадзе, тады ўсё кпіў з дзяўчыны. «Ну, няхай я іду, дык хоць мяшок з толам нясу, а якая з цябе карысць? Сядзела-б ты ў будане ды сарочкі хлопцам лапіла...» А як потым спатрэбілася падрыўнікам паслаць каго ў вёску, каб выявіць абстаноўку, дык лепшай кандыдатуры, як Уля, не знайшлося.

Скончылася вайна, але дзяўчыне не давялося быць у зацішку. Ды Ульяна яго і не шукала. Неспакойная праца камсамольскага работніка прыйшлася ёй па душы. З вёскі ў вёску ездзіць дзяўчына на райкомаўскім веласіпедзіку, а дзе праехаць нельга, ідзе пешшу, гутарыць з такімі-ж, як і сама, вясковымі дзяўчатамі, з хлопцамі аб усталяванні новага жыцця.

А потым...

Ульяна ўзняла свае глыбокія, як азёрная сінь, вочы і стрэлася позіркам з Міколам. І ён, значыць, не ўседзеў, прыйшоў на гэты сход, хоць спачатку адмовіўся, застаўся ў хаце таго дзядка, дзе яны спыніліся, прыехаўшы ў Баруны. «Не хачу глядзець на гэтыя твае заручыны, — з сумнай усмешкай сказаў Мікола, калі Ульяна запрасіла яго на калгасны сход. — У мяне, як толькі цябе

пачынаюць куды-небудзь выбіраць, найвялікшая рэўнасць узнікае...»

Бач ты, не ўседзеў чалавек, прыйшоў! Але чаму-ж ён такі задуменны, сумны? Няўжо і ён не верыць, што жонка адолее новую ў жыцці вышыню, апраўдае давер'е партыі, давер'е гэтых людзей, рукі якіх зноў з надзеяй падымаюцца ўгору?

— Таварышы, — устала Ульяна пасля таго, як за яе прагаласавалі. — Таварышы! Абяцаю вам, што ваша давер'е апраўдаю...

Нейкі момант стаяла ў нерашучасці, нібы крыху разгубіўшыся, хоць для яе выступаць — прывычная справа. Потым па звычцы адкінула з ілба непакорную пасму валасоў і прамовіла:

— А цяпер, таварышы, параімся, дзе знайсці кармы жывёле, чым абсеяць поле.

... Ішлі дадому позна. Ульяна маўчала, паглыбіўшыся ў свае думкі, а можа нічога і не думала, а ў маўчанні знаходзіла сабе спачын ад гэткага нядаўняга ўзрушэння. Моўчкі стомлена крочыў Мікола, цаляючы ісці ў нагу з жонкай, на поўныя грудзі ўдыхаў першыя кволыя пахі вясны. Набліжаючыся да павароткі, Мікола крануў за руку жонку:

— Чуеш?

Ульяна спынілася. Ля брамы, насупроць вуліцы, застылі дзве чалавечыя постаці. Адтуль даносілася прыглушаная гаворка. Нехта ціха, але гулка, як у парожнюю бочку, бубніў:

— Гэтае дзяўчо накорме ўжо хлебам — чакай!

— Дык мо' хоць прапівалам гэтым канец які будзе, — пярэчыў другі, танчэйшы голас. — Бо ўжо-ж зайшлі былі, што далей нельга...

У адказ той прабубніў:

— Як сляпы казаў, пабачым...

Ульяна парывіста ступіла на сярэдзіну вуліцы, звонка крышучы пад нагамі тонкую наледзь. За ёю ледзь паспяваў высачэзны, танклявы Мікола, чмыхаючы ад нейкай, вядомай можа толькі яму самому, няёмкасці.

Праворны месяц, нечакана выплыўшы з-за хмар, асвяціў пукатыя хаты, вузлаватыя галіны дрэў над стрэхамі і дзве постаці пасярод вуліцы: адну маленькую — жаночую і другую вялікую — мужчынскую.

## 2

Былы старшыня Сафонаў, аддаючы Ульяне Крышталевіч пячатку ў зашмальцаваным мяшочку, схіліўся ў нейкай жаласлівай пакорнасці і з сумнай ухмылачкай прамовіў:

— Вось — калгасная ўлада. Бярыце і, як той казаў, уладарце. — Нахіліўшыся яшчэ ніжэй, амаль на самае вуха зашаптаў: — Глядзі, даражэнькая, у абодва вокі, бо аб'ягораць, як і мяне аб'ягорылі. Штукары!

Што адказаць гэтаму пажыломý, відно, сумленнаму, але слабаму духам, бесхарактарнаму чалавеку? Сафонаў — тутэйшы жыхар, маладосць сваю правёў у беднасці. Савецкая ўлада дала яму пуцёўку ў жыццё, але сам ён не праявіў цвёрдасці, а можа не па сіле ўзяў ношку. І вось стаіць зараз жаласны, дачасна пастарэлы, з адтапыранай ніжняй губою, міргае бялесымі вейкамі...

Ульяна паклала ў кішэню пячатку, а мяшочак вярнула Сафонаву і пачала крадкомназіраць за ім.

— А што-ж вы, дзядзька Сафонаў, думаеце рабіць? — зусім спакойна запыталася яна, хоць у сэрцы шчымела нейкая прыкрасць.

— А мне што, — узварухнуўся Сафонаў і пацягнуўся дрыготкімі вузлаватымі пальцамі да галавы, паскроб патыліцу. — Пажывем — пабачым...

Хацелася крыкнуць гэтаму чалавеку: «Як гэта можна, вы-ж комуніст! Ды гэта проста несумленна — адседжвацца ў такі час, сеяць-жа трэба!» Але змоўчала і зусім спакойна сказала бухгалтару.

— Я паеду ў брыгаду, у Лукшы.

З чаго пачаць? Дзе тое звяно, за якое трэба ўхапіцца аберуч, каб выцягнуць увесь ланцуг?

Трэба сеяць, а насення мала, ды і тое як мае быць не ачышчана. Згодна зводкі, торфу і гною нарыхтавана тысячы тон, а на полі не відаць ні аднаго бурта. З першай брыгады прыходзіў ужо брыгадзір і гаварыў: «Калёсы, плугі парасцягалі. Ды і наогул я больш не магу быць брыгадзірам, бо залічаны на механізатарскія курсы».

З фермаў весткі: няма корму, хоць па кнігах значыцца, што план нарыхтоўкі перавыканан; жывёлу няма чым карміць.

Што-ж рабіць?

Прыйшла ў Лукшы — гэта першая брыгада, найбольш моцная, дзе раней быў самы заможны калгас імя Панамарэнкі. Гэтым імем назвалі і ўзбуйненую гаспадарку. Ля свірна сустрэўся брыгадзір Франц Алёхна, маленькі, рыжаваты, як альховы корчык, чалавек з вострымі, хітраватымі вочкамі, шылаватым носікам.

— Як справы, Франц Францавіч?

— Ды што справы, — кашлянуў у кулак Алёхна і шмаргануў папружку на падхлябістым жываце. — Я ўжо не брыгадзір. Мяне-ж на курсы адпусцілі.

— А каго-ж на ваша месца?

— Можна... Бізню Аўхіма...

Прыйшлося самой сабраць людзей, каб выбраць брыгадзіра. Разам тут-жа, ля свірна, распрацавалі канкрэтны план: прайсці па дварах і паглядзець, што ў каго не абагулена з інвентару, падрамантаваць, што трэба, і неадкладна выехаць у поле.

— А чым поле ўгнойваць? — кінуў нехта. — Гною няма.

— Наконт гэтага трэба параіцца, — акінула цёплымі вачамі ўсіх Ульяна і, заўважыўшы ў натоўпе камлюкаватага чарнявага мужчыну (яна з ім пазнаёмілася надоечы на сходзе), запытала: — А як вы думаеце, таварыш Вышакоўскі?

Той азваўся:

— Я думаю, таварыш старшыня, мажа-б з двароў зачапіць крыху гною...

— А соткі чым угнойваць? — злосна выгукнуў нехта, але на яго шыкнулі:

— Маўчы ты, Дамецы!

Грамада загудзела, заварушылася. Ульяна назірала, як раззварушыліся, загаманілі гэтыя людзі, і думала: «Які-ж ты дзівак, Сафонаў! Ды з гэтымі-ж людзьмі можна не толькі калгас узняць — горы можна варочаць».

Хутка дамовіліся наконт звеннявога ільнаводчага звяна, вылучылі жанчын на ачыстку насення, далі строгі наказ конюху, каб, пакуль брыгада адсеецца, не даваў нікому коней і даглядаў іх як найлепш.

Адыходзячы, Ульяна заўважыла, што брыгадны свіран састаўлены неяк дзіўна: колішнія вясковыя клеці як-бы прылеплены адна да другой. Усміхнуўшыся, яна спытала:

— Чаму гэта ў вас такі нязграбны свіран?

Мужчыны пераглянуліся. Вышакоўскі, які некалі тут быў за старшыню, адвёў убок вочы; у натоўпе пранёсся стрыманы смяшок. Вышакоўскі растлумачыў:

— Ды гэта-ж усё той лятун Эдзік Лукша пастараўся. Казаў: «Я зраблю так, што кожны гаспадар свой свіронак у любы час зможа вярнуць».

— А цясляр ён добры, гэты Эдзік? — нечакана спытала Ульяна.

— Ого, такі дом адштукуе, што трымайся. Толькі грошы любіць, чорт!..

Старшыня хадзіла пешшу, ездзіла з брыгады ў брыгаду на недалужнай кабылцы Кузьцы, знаёмілася з людзьмі, прыкідвала, каго куды можна паставіць, прыглядалася да кожнага, хто да чаго здатны. І ўсё больш упэўнівалася, што людзі залатыя, толькі трэба да кожнага падыход мець, знайсці той ключык, якім можна было-б адамкнуць чалавечую душу.

На першым партыйным сходзе (Ульяна імкнулася перш, чым што важнае прыняць на праўленні, заўсёды параіцца з комуністамі) было абмеркавана пытанне аб калгасных кадрах. Неабходна было змяніць загадчыка жывёлагадоўчай фермы, некаторых брыгадзіраў, звеннявых.

Калі абмяркоўвалі, каго выбраць на адказную пасаду загадчыка жывёлагадоўчай фермы, то ўсе спыніліся на кандыдатуры Міколы Крышталевіча, ульянінага мужа.

— Няхай Мікола Кандратавіч будзе,— аднадушна згадзіліся і члены праўлення.— У яго тут ні сватоў, ні братоў. Потым-жа ён — комуніст. Справіцца!

Ульяна тут-жа, пры людзях, адкрыта, рэжучы сухарлявай далонню паветра, заявіла:

— Глядзі, Крышталевіч, работа адказная, на тое, што муж старшыні, не спадзявайся, скідак не будзе!

Мікола, які сядзеў ля сцяны на лаўцы, усё выціраў пот з твару і ўзрушана паўтараў:

— Добра, добра! Пастараюся.

## 3

Ульяна зазірнула ў справаздачу папярэдняга года і ўздыхнула: агульны даход калгаса — 401 тысяча рублёў. Запыталася ў бухгалтара:

— Колькі грошай у касе?

Тая доўга поркалася ў паперах, ляскала лічыльнікамі, нарэшце сумна прамовіла:

— Ні капейкі. А вось доўгу — парадкам...

Сабраліся члены праўлення, калгасны актыў:

— Што будзем рабіць, таварышы? — як звычайна сваім ціхім, мяккім голасам спыталася Ульяна.

— Ты-ж старшыня, табе лепш ведаць,— кінуў хтосьці. І зноў маўчанне, толькі чутно пачмокванне цыгарак.

— Дамовімся, таварышы, у канцылярыі не курыць. Зразумела?

— Зразумела,— пазяхнуў каранасты Аўхім Барун, брыгадзір чацвёртай брыгады, і са свістам зацягнуўся, пусціўшы моцны струмень едкага дыму.

— А вас, таварыш Барун, яшчэ папярэджваю, каб выпіўшы на пасяджэнне не прыходзілі. Паўторыцца — крыўдуйце на сябе.— І ўстала, нахмурыла бровы, адкінула левай рукой непаслухмяную бялявую пасму.— Яшчэ ўмовімся: аб'явіць вайну гэтым праклятым выпіўкам — самую бязлітасную вайну!

Мікола Крышталевіч заліўся чырванню: сёй-той з жывёлаводаў яго ўжо запрашаў на свежанінку, але ён адмовіўся — не хоча ганьбіць і свайго і жончынага аўтарытэту.

— Нікому не будзе літасці: ні брыгадзірам, ні радавым работнікам.— Ульяна паклала на стол маленькі свой кулак.— Даю слова, што першы, хто пападзецца з самагонкай, будзе асуджаны самым бязлітасным чынам. Перадайце пра гэта ўсім, хто яшчэ псуе хлеб на гэтае зелле.

— Гэта правільна! — выгук-

нула ззаду пажылая цётка і таўханула ў бок сваю суседку.

Мужчыны загадкава пераглянуліся. Але ўсе шчыра прызналі:

— З самагонкай трэба скончыць!

Загаварылі пра тое, што неадкладна патрэбна перавезці зерне, якое пазычыла дзяржава, вырашылі аднавіць будаўнічую брыгаду і наказалі, каб будаўнікі браліся вывозіць лес на свінарнік, бо далей так трымаць свіней нельга. Грунтоўна абмеркавалі і работу трактарнай брыгады. У Барунах яшчэ часта можна было пачуць: «Наша зямля бачыце якая — узгоркі, яры, яміны, камення многа. Тут не толькі што з трактарам, але і з плугам не разгонішся...»

— Я агледзела поле,— сказала Ульяна, — і ўпэўнілася: у кожнай брыгадзе ёсць плошчы, дзе можна пусціць машыны. Араць і сеяць будзем не дзедаўскім спосабам, а па-новаму, машынамі,— і ўсміхнулася сваёй адметнай стрыманай усмешкай.— Можа-ж мы не бедакі-аднаасобнікі, а калгаснікі, гаспадары!

Ішлі дні, поўныя турбот і неспакою. Вясна расквеціла, прыбрала ў зялёны ўбор зямлю. Пад вокнамі ў хаце дзеда Лаўрыновіча, дзе кватаравала сям'я Крышталевічаў, зазеляneў купчасты бэз. Вясновае паветра дыхала свежасцю. Колькі разоў Лаўрыновіч напамінаў, што час і пра свае соткі падумаць, няхай-бы старшыня, калі ўжо забылася пра свой гарод, які адведзен ёй побач, дык дала-б каня хоць яму, усё-ж яна жыве ў яго хаце. Кожны досвітак пачынаў ён гэтую сваю байку.

— Нічога, дзядуля, бульба ваша вырасце,— супакойвала Ульяна дзядулю. — Не спозніцца. Вунь калгаснае поле засеем спачатку, а потым і за соткі возьмемся.

Ужо на парозе цалавала сваю дачушку Ніначку і наказвала старой матулі:

— Не пускайце, мама, дзяцей на возера, ды глядзіце, каб Коля не крыўдзіў дзяўчынку. Найстражэй з імі!..

— Ды ўжо-ж, — уздыхала старая і спагадліва дадавала:— Вазьмі-ж сабе ў кішэню хоць хлеба, бо зноў забавішся.

— Вярнуся да абеду! — чулася ўжо з двара.

Свой працоўны дзень звычайна Крышталевіч пачынала з прыходу ў канцылярыю. Падпісвала сякія-такія дакументы, праглядала пошту, знаёмілася з бухгалтарскімі справамі. Адразу-ж, як толькі заступіла старшынёй, патрабавала, каб без яе нічога не выпісвалася, бо дагэтуль бухгалтар сама ўсё рашала, а старшыня потым падпісваў разам усе квіткі. Як што там прыходвалася, ён зусім не ведаў. А бухгалтар тая была, відаць, добрая круцелька. Гэта хутка прыкмецілася.

— Чаму гэта вы, Аня, апрыходавалі сем пар гумавых ботаў,— запыталася Ульяна, гартаючы ўліковы журнал.— Мы-ж купілялі толькі пяць?

— Хіба пяць? — вырачыла вочы бухгалтар.— Гэта я забылася.

Старшыня ведала ўжо, што бухгалтар без яе ведама, насуперак указанню, выпісала 400 кілаграмаў насеннага ячменю з кладоўкі Івана Корсака. «Цікава, ці трапіў той ячмень на поле?»

Старшыня паспяшалася ў Дзерукі, да кладаўшчыка. Корсак, пажылы дробнатвары, зарослы рыжаватым шчаціннем чалавек, сустрэў яе пахмурна, з нейкай затоенай непрыязнасцю. У кладоўцы — непарадак, бруд, на падлозе парассыпана зерне, параскіданы мяшкі. Ля свірна, на гразкай зямлі, — сартыроўка. Кругом яе мякіна папалам з зернем.

— Вы, здаецца, пры чыстцы

спісваеце на кожную тону 90 кілаграмаў збожжа? — праглядаючы ўліковую кнігу, запыталася Ульяна ў кладаўшчыка.

— Дзевяноста, — пазяхнуў кладаўшчык. — А што?

— А чаму, скажам, не трыццаць? — зноў спакойна спытала яна, хоць грудзі аж распірала злосць. — Гэта, каб дабро таптаць пад нагамі!

— Як хочаце, можна і трыццаць, — буркнуў Корсак.

Ульяна памаўчала хвіліну, падумала, а потым адразу-ж прыняла рашэнне:

— Кладзіце ключы і ідзіце да брыгадзіра, няхай дасць вам іншую работу.

— Можна і пайсці, — ухмыльнуўся Корсак, але стаяў у нерашучасці.

— Ідзіце, ідзіце.

Пасля, як выклікалі Корсака на праўленне, ён памякчэў, прызнаўся і пра тыя чатырыста кілаграмаў, што яшчэ не паспеў сумесна з бухгалтаркай «сплавіць», і вельмі прасіў, каб яго не здымалі. Корсака, вядома, у кладоўцы не пакінулі, як не пакінулі ў бухгалтэрыі і Аню Сяргееву.

Ужо ўвосень, стоячы ля малатарні, Корсак пры сустрэчы са старшынёй простадушна гаварыў:

— Убіла ты мяне, прадсядацелька. Каб мне тады на тую ачыстку ніводнага кілограма не скінулі, дык я і так жыў-бы, абы быць у кладоўцы...

Ульяна шчыра засмяялася.

4

Канчаўся першы год работы на новым месцы. Ульяна з хваляваннем узяла ў рукі справаздачу, нібы тая першакласніца табель з першай адзнакай. Звычайныя калонкі лічбаў. Але, каб лічба ўмела гаварыць, колькі-б яна расказала! За кожнай лічбаю — жывыя людзі, іх цяжкая, упартая праца!

З алоўкам у руках сама пачала падлічваць, аналізаваць гэтыя лічбы, што ланцужком выстраіліся ў калонках каштарысу. Атрымліваўся такі малюнак: хоць валавы збор зерня і мала павялічыўся (было засушлівае лета), але затрачана працадзён менш. Затое зрушылася з месца жывёлагадоўля. Грашовы даход павялічыўся ў два разы. Здаецца, нямнога, але-ж трэба ўлічыць, што гэта быў першы год працы па-новаму.

— Цікава, як мы гаспадарылі? — сказала старшыня і папрасіла ў Чэсі Ваштаковіч, новай бухгалтаркі, чысты лісток паперы, заўзята пачала рабіць падлікі сабекошту прадукцыі. Яна даведалася, што на адзін цэнтнер жыта затрачана 9 працадзён ці 88 рублёў 10 капеек, на адзін цэнтнер мяса — 79,3 працадня ці 760 рублёў 90 капеек.

— Дрэнныя мы яшчэ гаспадары, — дала сабе ацэнку старшыня, — цяжка нам даецца гэта ўсё, як з бою. — Але сэрцам адчувала: першая атака выйграна.

На справаздачным сходзе, дакладваючы калгаснікам пра работу за першы прайшоўшы год, Ульяна выказала свае думкі наконт рэзерваў, якія не кожны бачыць.

— Што нам трэба, каб атрымаць больш збожжа, бульбы, кукурузы, больш малака, мяса? — пыталася ў людзей старшыня і выказвала сваё меркаванне: — Трэба, па-першае, шырэй механізаваць працу як у паляводстве, так і ў жывёлагадоўлі; па-другое, вывезці на поле ды здабрыць гноем тысяч 15—20 тон торфу не на паперы, як было раней (Сафонаў, які заступіў старшынёю ў сельсовеце і сядзеў у прэзідыуме, крактануў, апусціў галаву), па-трэцяе, перагледзець нормы выпрацоўкі, скараціць упраўленчы апарат, падзешавіць яго. І яшчэ

нам трэба падумаць пра нашы калгасныя кадры. Гэта-ж нікуды не варта, што з пяці брыгадзіраў ніводзін не мае нават сямігадовай адукацыі. Да нас прыехалі аграном Марыя Усачова і зоатэхнік Марыя Ярушчанка. Дзяўчаты байкія, комсамолкі. Ім і кніжкі ў рукі — няхай вучаць людзей па-навуковаму гаспадарыць.

— Каб не думалі, што ваш старшыня — балбатун, — закончыла Ульяна, — прапаную: скараціць памесячную аплату ў працаднях старшыні калгаса, бухгалтара, агранома, зоатэхніка, рахунковых работнікаў, учотчыкаў у брыгадах. Прапаную таксама ліквідаваць пасаду намесніка старшыні калгаса.

Вядома, што такая думка была прынята з вялікім і дружным адабрэннем. Людзі ўбачылі, што намеціўся пералом далейшага, і прасвятлелі, нібы той падарожнік, што нарэшце выбіўся з густога зарасніку на чыстую, залітую святлом паляну.

... Наступны год прынёс калгаснікам новыя радасці. Зямля тая-ж, а ўраджай іншы; каровы тыя-ж, а малака даюць у тры разы больш; працадзень таксама такі-ж, а плата за яго большая.

Зноў-жа, калі прывесці лічбы, дык яны, можа, і не ўразяць калгасніка, скажам, з магілёўскага калгаса «Комінтэрн», дзе ўсё гэта ўжо даўно дасягнута, але тут, дзе людзі робяць першы крок угору, — гэта заслужаная перамога.

У 1956 годзе сярэдні ўраджай збожжа ў калгасе склаў 9 цэнтнераў, бульбы — 125 цэнтнераў, кукурузы — 120 цэнтнераў, ільнасемя — 4,5 цэнтнера з гектара.

Перадавыя брыгады даказалі, што гэтыя паказчыкі — толькі прыступкі для новых поспехаў. Той-жа Франц Алёхна, які спачатку спужаўся і не паверыў у новага старшыню, пасля вярнуўся ў калгас і зноў узяўся за брыгадзірства, са сваімі людзьмі вырасціў выдатны ўраджай пшаніцы, бульбы і ільну.

Жывёлагадоўля, пра якую тут нядаўна думалі, што іменна праз яе ўся нястача, не толькі акупіла сябе, але і ўпершыню стала даваць адчувальныя прыбыткі. Перш за ўсё, павялічыліся надоі. Малака надоена было ў два разы больш супраць папярэдняга года — на 100 гектараў зямельных угоддзяў 72,4 цэнтнера. І не толькі таму, што дойны статак папоўніўся малочнымі пародзістымі каровамі з суседняй Латвіі. Інакш сталі даглядаць кароў, на ферму прыйшла новая сіла — моладзь.

Цяпер узят цвёрды курс на адкорм свіней. Калі раней у асноўным збывалі парасят і лічылі, што гэта найбольш выгадна, то зараз адкормам займаюцца няспынна, круглы год.

Праўда, большая частка леташняга гадавога даходу — 1.516.346 рублёў — была выручана за лён, але-ж на другім месцы прыбытак ад жывёлагадоўчай прадукцыі. Нават пры такім, небагатым прыбытку калгас змог разлічыцца з даўгамі, шырока разгарнуць будаўніцтва і рэзка павялічыць натуральную і грашовую аплату працадня. (Грошай выдадзена па шэсць рублёў на працадзень.)

На эканамічнай канферэнцыі, якая праводзілася мінулай зімой у Браславе па ініцыятыве райкома партыі, шмат гаварылася аб тым, што ў баруноўскім калгасе гаспадарыць разумна, удумліва, з алоўкам у руках.

Там прыводзілі такі прыклад. Калі баруноўцы дазналіся, што адзін цэнтнер свініны іхняму калгасу каштуе 1.112 рублёў, або 109 працадзён, схапіліся за гала-

ву: «Як-жа гэта, столькі працы, а выгады ніякай».

Праўленне задумалася над тым, як падзешавіць сабекошт свініны. Пачалі з таго, што пабудавалі добры свінарнік, устанавілі там механізаваны кормазапарнік, стварылі лепшыя ўмовы для працы даглядчыкам, далі жывёле ўдосталь рознастайных кармоў, потым скарацілі тэрміны і парадак адкорму. Раней адкормлівалі парасят, а цяпер — падсвінкаў. Праз год, у 1956 годзе, цэнтнер свініны стаў каштаваць амаль напалавіну менш — 657 рублёў. Па малаку і збожжу зніжэнне сабекошту яшчэ большае, не кажучы ўжо аб тым, што і якасць усёй прадукцыі палепшылася.

Сёння і гэтыя паказчыкі не задавальняюць старшыню баруноўскага калгаса. Прыгожымі, цудоўнымі думкамі і планамі поўніцца галава.

Да глыбіні душы ўсхвалявала і захапіла Ульяну Крышталевіч і ўсіх калгаснікаў прапанова першага сакратара ЦК КПСС Н. С. Хрушчова аб тым, каб у бліжэйшыя гады дагнаць Злучаныя Штаты Амерыкі па вытворчасці мяса, масла і малака на душу насельніцтва. Як толькі Ульяна вярнулася з нарады раённага партыйнага актыву, дзе абмяркоўвалася гэтае пытанне, адразу-ж з Міколам пайшла да сакратара партыйнай арганізацыі Міхаіла Клімянкова, потым паклікалі заатэхніка Марыю Ярушчанку і агранома Марыю Усачову і селі за разлікі. Старанна ўсё абмеркаваўшы, узважыўшы эканамічныя магчымасці, прыйшлі да адной думкі, што пастаўленая задача зусім рэальная. Чаму-ж не рэальная, калі ўжо сёлета калгас дасць на 100 гектараў угоддзяў 140 цэнтнераў малака і 35 цэнтнераў мяса!

З гэтай прапановай азнаёміліся члены праўлення, калгасныя камуністы, камсамольцы, калгаснікі. Яны ўсе ў адзін голас сказалі:

— Падтрымліваем. Зробім!

## 5

Здаецца, і людзі тыя, але праца пайшла па-новаму. Чаму-б гэта? Не, змяніліся людзі, інакш сталі глядзець на свой грамадскі абавязак, на калектыўную працу.

Ульяна слухае, як счапіліся паміж сабою дзябёлы, з вялікімі ўчэпістымі рукамі, як карчасты дуб, стары Пятро Бізня, які ўзяўся са сваёй жонкай вырасціць гектар ягад-клубнічак, і маленькі, быстравокі Уладзімір Ражок, брыгадзір паляводчай брыгады, — і ўсмешка задаволенасці кранае яе ўчарнелы ад сонца і ветру твар, збірае вясёлыя маршчынкі ля вачэй.

Прыгадалася, як у першы год яе старшынёўства гэты самы Пятро Бізня адносіўся да калгаса: «Я ўжо стары і жонка мая хворая, нінавошта я ўжо не здатны, хіба што мяшок патрымаць, каб зерне не прасыпалася...»

А потым вычытаў у газеце, што праўленне можа канчатковай сваёй уладай кожнаму члену арцелі зменшыць прысядзібны ўчастак альбо павялічыць, зможа накласці падатак альбо вызваліць, і прыйшоў у кантору калгаса.

— Вось, прадсядацелька, — пачаў Бізня. — Бяруся даць калгасу 60 тысяч. — і растлумачыў: — Для пачатку бяруся вырасціць клубнічкі гектар — пэўныя грошы. Вы-ж ведаеце...

Многія калгаснікі на сваіх гародах садзяць клубніку і атрымліваюць ад яе велізарнейшы прыбытак. Чаму-ж калгасу не паспрабаваць?

— Яшчэ і садок калгасны бяруся даглядаць, — падахвоціўся стары. І вось цяпер наступае на брыгадзіра, патрабуе і ўгнаенняў, і каня, і воз, адным словам —

увагі клубнічнаму палетку. Гэта добра, калі такія, як Бізня, адчулі, што яны патрэбны калгасу. Нялёгка, вядома, з такімі людзьмі. Іх словам не пераканаеш, ім трэба выкласці ўсё на стол...

Вось насустрач Ульяне спяшаецца жвавая моцная кабеціна, на хаду завязваючы белую хусцінку. Як падбегла, адразу загаласіла:

— Старшыня, далібог, як-жа быць з садам?

— З якім садам?

— Ды вось-жа соткі мае аддалі суседу,— жанчына паказала на чалавека ў выцвіўшай сарочцы, які поркаўся ля плота.— А дзецям-жа неяк трэба хоць яблык адарваць...

— Канешне, сваім садам вы можаце сёлета карыстацца, — тлумачыць старшыня, — а потым ужо не: участак ад вас адрэзаны. — І нечакана запытала: — А хіба вы перадумалі, вы-ж, здаецца, збіраецеся на жыццё ў Браслаў?

— Там-жа яму, майму мужу, яшчэ ўчастак не адвялі,—жанчына ўсё яшчэ робіць выгляд, што плача.— Я пайду на працу ў калгас!..

— Гэта добра, калі пойдзеце,— гаворыць старшыня.— Але нам важна, каб ваш Эдзік прыйшоў.

Ульяна паглядзела на новы на мураваным падмурку дом Эдзіка Лукшы, на малады садок за дваром і падумала: «Нікуды ты адсюль, цясляр Лукша, не паедзеш. Вернешся. А ў калгасе тваіх рук чакае слаўная работа!»

Не можа быць, каб не вярнуўся. Вунь учора разбіралі заяву Гараські Сірацёнкі. Доўга чалавек аціраўся па гарадах, выгадваў, дзе лепш, а цяпер папрасіўся. А калі папрасіўся, то і калгас пайшоў яму насустрач: сядзібу нарэзалі такую, як і ва ўсіх старых калгаснікаў, дапамаглі насеннем, грашыма. Толькі працуй, старайся!

Вярнуліся ў калгас і Арсень Барун, і Андрэй Куцан... Вернуцца ўсе, хто некалі ўцёк з родных вёсак.

А работы хопіць. Іх чакае сапраўды цікавая, захапляючая работа. Родныя мясціны, як ні кажы, прыцягваюць, просцяць, хоць ты калі-небудзь і адбіўся ад іх, шукаючы нечага лепшага, цікавейшага.

Ульяна спынілася на ўзгорку, на скрыжаванні дарог, і ў захапленні абвяла зачараваным позіркам мясціны, якія ёй ужо сталі роднымі.

Неўзабаве, сёлетнім летам, сюды прыйдуць першыя машыны і падводы, нагружаныя лесам, каменнем. Пачнецца ссяленне хутароў, што яшчэ шэрымі копамі параскіданы паміж узгоркаў і пералескаў на дзесяткі кіламетраў.

На ўзгоркавай палянцы, побач з цяперашнім жывёлагадоўчым гарадком, працягнуцца шырокія вуліцы новага калгаснага пасёлка. Тут будзе і школа-дзесяцігодка, і клуб, і лазня, і яслі, і дом старшыні. Ульяна надумала будаваць не сабе асабіста хату, як робяць іншыя, а дом таму, хто старшынюе ў калгасе.

І яшчэ трэба, каб у Барунах было электрычнае святло, каб электрыка пілілa дрэва, круціла машыны, малола зерне, свяціла на вуліцах і ў хатах...

Можа з-за таго і неспакойная такая Ульяна: сама не спіць і прыспешвае іншых. Можа з-за такой сваёй шчырасці не ўзяла сабе і адпачынку, хоць, як і ўсякая маці, вельмі любіць сваю другую дачушку — Волечку-малышку і ў кароткія хвіліны сустрэч не нацешыцца ёю.

Шчырае сэрца не ведае спакою!

## У свеце мастацтваў

Алесь ЕСАКОЎ

# ЗА МОЛАДЗЬ ТРЭБА ЗМАГАЦЦА

Тэатр павінен шукаць свайго драматурга не толькі сярод пісьменнікаў-драматургаў, але і сярод празаікаў, паэтаў і нават крытыкаў. Гледачу патрэбна новая п'еса, таму што ён шырэй і глыбей хоча пазнаць рэчаіснасць. Чалавека дапытлівага, неспакойнага, цікаўнага цягне да новай п'есы, як добрага чытача да новага пісьменніцкага імя, кніжкі ці твора, які выходзіць упершыню. А можа якраз яна, гэтая новая п'еса, скажа тое запаветнае слова, якога чакае наш глядач ад тэатра.

З такою добраю цікавасцю сустрэта п'еса маладога драматурга Івана Мележа, пастаўленая тэатрам імя Янкі Купалы.

Перш чым пачаць гаворку аб п'есе І. Мележа, нам хацелася-б спыніцца на той добрай традыцыі, якая працягвае жыць на сцэне купалаўцаў. Гэтай добрай традыцыяй з'яўляецца сумесная работа тэатра з беларускімі пісьменнікамі над стварэннем арыгінальнага рэпертуара. Тэатр пачынаў сваю дзейнасць з купалаўскіх п'ес, заяўляючы аб тым, што перш за ўсё яго цікавіць жыццё свайго народа. Потым ён паставіў фальклорную п'есу Міхася Чарота, затым пайшлі п'есы Е. Міровіча. У тую пару (мы маем на ўвазе дваццатыя гады) у тэатры імя Я. Купалы працаваў адзін з першых яго кіраўнікоў рэжысёр Еўсцігней Афінагенавіч Міровіч. Ён здолеў выхаваць такіх драматургаў, як Я. Рамановіч, Р. Кобец, Д. Курдзін, В. Гарбацэвіч (апошні цяпер працуе настаўнікам у вёсцы Дукоры). У 30-я гады на сцэне тэатра ішлі п'есы К. Чорнага, К. Крапівы, З. Бядулі, М. Клімковіча, В. Шашалевіча.

Плённае супрацоўніцтва тэатра з пісьменнікамі не спынілася і пасля вайны, калі меркаваць па п'есах К. Крапівы, К. Губарэвіча, А. Кучара і А. Макаёнка.

Аднак за апошні час работа з беларускімі драматургамі ў Беларускім акадэмічным тэатры імя Я. Купалы была некалькі занядбана. Здаралася, што п'еса маладога аўтара ляжала ў тэатры больш года. Безумоўна, што чалавек, які напісаў свой першы драматычны твор, сам



«Пакуль вы маладыя». Галя — М. Захарэвіч, Андрэй — Б. Уладамірскі.

далёкі ад думкі, што твор гэты—вяршыня дасканаласці. З такім аўтарам можна спрачацца, патрабаваць ад яго перараобак, але класці яго твор у доўгую шуфляду—справа нікуды не вартая.

Няўважлівасць да работы з маладымі кадрамі драматургаў садзейнічала таму, што ў рэпертуары тэатра заходнееўрапейская п'еса заняла цяпер большае месца, чым савецкая. На нашу думку, асноўнае месца ў рэпертуары тэатральных калектываў павінна займаць беларуская п'еса, бо, па-першае, лепш, чым нашы тэатры, яе ніхто не паставіць; па-другое, арыгінальны сучасны рэпертуар—адна з адметных рыс нашага нацыянальнага тэатра.

Але вернемся да асноўнай нашай тэмы.

Празаік Іван Мележ вядомы чытачу як раманіст і аўтар некалькіх кніг добрых апавяданняў. У жанры драматургіі, калі не лічыць аднойчы напісанай аднаактоўкі, І. Мележ выступае ўпершыню. «Пакуль вы маладыя»—яго першая п'еса, прысвечаная жыццю і працы тэхнічнай інтэлігенцыі.

Становучы бок п'есы ў тым, што пафас сцверджання ў ёй займае пераважнае месца. Гэта добра паказана на прыкладзе маладых інжынераў, якія, перамагаючы цяжкасці, дасягаюць сваёй мэты. Яны не толькі вынаходзяць новы станок. У працэсе жыцця фармуецца іх псіхалогія, выпрацоўваецца правільны погляд на рэчаіснасць. Моладзь разумее, што чалавек у грамадстве павінен жыць не дзеля сябе, а дзеля справы, дзеля грамадскай карысці. Гэтыя калектывісцкія сцверджанні проціпастаўляюцца ў п'есе эгаізму і мяшчанскаму індывідуалізму, якія, на жаль, маюць яшчэ месца ў асяроддзі нашай моладзі.

Паказваючы адносіны моладзі да працы, аўтар разам з тым не забывае і аб каханні, аб адносінах да старэйшых, карацей кажучы, аб тых жыццёвых праблемах, якія хвалююць нашых юнакоў і дзяўчат. Калі дадаць да гэтага, што драматург стварыў рознастайныя па свайму характару, жыццёва праўдзівыя вобразы, дык стане зразумела, што мы маем справу з цікавым творам.

П'еса напісана жывой гутарковай мовай. Дыялаг у ёй востры. Для больш глыбокага раскрыцця перажыванняў герояў драматург карыстаецца маналогам. І трэба сказаць, што ён добра гучыць у п'есе. У апошні час у нашых драматургаў маналог чамусьці выйшаў з моды, як быццам наш герой не разважае, не раіцца сам з сабою. Маналогі ў п'есе І. Мележа надаюць героям сур'ёзна-разважлівы характар, раскрываюць іх духоўны воблік. Гэта адрознівае п'есу Мележа ад іншых п'ес, у якіх пераважае вонкавае дзеянне.

Калі гаварыць аб жанравых і мастацкіх асаблівасцях гэтага драматычнага твора, дык яго можна аднесці да псіхалагічных драм. Тут і гумар трошкі стрыманы, афарбаваны сарказмам, і ўзаемаадносіны людзей не такія простыя, як гэта часам бывае ў «хадавых» п'есах.

Нам зразумела, чаму Л. Мазалеўская ўзялася за пастаноўку новай п'есы «неапрабіраванага» драматурга. Яна любіць працаваць з новымі аўтарамі, вельмі ўважліва прыглядаецца да іх творчасці і смела ўводзіць іх у тэатральнае жыццё. Таму ў Тэатры юнага гледача, якім яна кіруе, часцей, чым у іншых, можна ўбачыць п'есы маладых аўтараў. Дарэчы, гэтыя п'есы ідуць з поспехам і ствараюць тэатру неблагую славу.

Так атрымалася і з п'есай І. Мележа «Пакуль вы маладыя». Паўтара года яна праляжала ў тэатры імя Я. Купалы. Яе абмяркоўвалі, але далей гэтага справа не пайшла, таму што рэжысура да працы не прыступала. А між тым, п'еса, як літаратурны твор, ужо існавала. Яна была надрукавана ў часопісе «Полымя». Аўтару заставалася толькі працаваць з рэжысёрам.

Тэатр—мастацтва калектыўнае, там шмат дарадчыкаў. Нявопытны пісьменнік часам можа заблытацца ў гэтых парадах, калі яму на дапамогу не прыйдзе рэжысёр. Працу з аўтарам добра разумелі рэжысёры Е. Міровіч, М. Міцкевіч, К. Саннікаў. Іх традыцыі ў нейкай ступені працягвае і Л. Мазалеўская.

Даючы п'есе сцэнічнае жыццё, рэжысёр павінен перш за ўсё зыходзіць з таго матэрыялу, які дае яму п'еса, развіваючы і пашыраючы аўтарскую задуму сцэнічнымі сродкамі, рэалізуючы яе праз акцёра. Ад вобраза чалавека, ад характару рэжысёр ідзе да вырашэння праблем, падпарадкоўваючы гэтаму ўсе выяўленчыя сродкі сцэнічнага мастацтва.

Як выхавальнік маладых акцёраў, Л. Мазалеўская з захапленнем працуе з імі. Гэта відаць па тым, як пастаўлена першая карціна спектакля, поўная бадзёрасці, маладога аптымізму. У ёй удзельнічае моладзь тэатральнага інстытута, дзе Мазалеўская працавала педагогам, і прадстаўнікі малодшага пакалення купалаўцаў.

Тут правільна акрэслены псіхалагічны малюнак кожнага персанажа. Цікава распрацаваны мізансцэны: кожная з іх адпавядае настрою персанажа і дапамагае раскрыццю яго душэўнага стану. Кампазіцыя спектакля грунтуецца на псіхалагічнай аснове вобразаў; гэта адпавядае і стылю п'есы. Значыць у творчых по-

глядах на п'есу рэжысёр цалкам сыходзіцца з драматургам.

Пастаноўшчык паверыў аўтару, і адчуваецца, што працаваў з ім з ахвотай. Аднак, нам здаецца, што рэжысёру неабходна было разам з драматургам выправіць лінію прафесара Грачова, каб яна больш арганічна ўвайшла ў спектакль. Гледачу не зусім зразумелыя ўзаемаадносіны Грачова з Аляксандрай Сцяпанаўнай—загадчыцай заводскай лабараторыі. У сюжэтную канву п'есы гэтая лінія арганічна не ўведзена, а выкарыстоўваецца, як у празаічным творы, для параўнання і знаходзіцца, фактычна, па-за асноўнай дзеяй.

Мастацкае афармленне спектакля (мастак Б. Грубін) таксама падначалена аўтарскай задуме. У ім пераважаюць лірычныя колеры. Гэта адпавядае агульнаму настрою спектакля, у якім лірыка-драматычная лінія займае даволі значнае месца. Пастаноўшчык падначаліў сваёй задуме ўсе кампаненты спектакля, клапоцячыся аб тым, каб кожная дэталь адпавядала сэнсу і мастацкаму кірунку сцэнічнага твора.

Плённае супрацоўніцтва драматурга і рэжысёра дало добры вынік, спрыяла з'яўленню карыснага і цікавага спектакля. Рэжысёр правільна зразумеў аўтара, калі ён канцэнтруе сваю ўвагу на той думцы, што за моладзь трэба змагацца. Як-жа канкрэтна ўвасоблена гэтая думка ў спектаклі?

Звернемся да выканаўцаў, асноўных творцаў спектакля, якія нясуць думку драматурга і рэжысёра да гледача.

Гаворку аб выканаўцах хацелася-б пачаць з маладой актрысы, якая ў тэатры імя Я. Купалы выконвае першую ролю. Мы гаворым аб студэнтцы Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута М. Захарэвіч, якая ў спектаклі «Пакуль вы маладыя» іграе ролю маладога інжынера Галі Жураўка.

Здавалася, што ўпершыню працуючы над роляй маладой дзяўчыны, актрыса будзе іграць самую сябе. Але, на шчасце, гэтага не здарылася.

Маладая артыстка добра зразумела псіхалагічную структуру вобраза Галі. Абставіны галінага жыцця складваліся так, што ў яе заўсёды сутыкаліся дзве лініі паводзін—радасць і сум. З аднаго боку, яна кахае таленавітага Ігара, а з другога—не можа з ім паехаць, бо ў яе хворая маці. Гэта засмучае яе. Галя—чалавек вельмі даверлівы. Гэтая яе наіўная юнацкая даверлівасць і жыццёвая нявопытнасць не дазволілі зразумець сутнасці гнілой натуры Ігара. Жыццё значна складанейшае, чым яго ўяўляе Галя. І яно прынесла ёй такія горкія перажыванні, якіх дзяўчына і не чакала: Ігар у імя сваёй кар'еры ахвяраваў каханнем



«Пакуль вы маладыя». Анна Апанасаўна — Р. Кашэльнікава, Ігар—Ю. Шумакоў, Ала — Т. Аляксеева.

да яе. Галі падабалася тое, што яе каханага чалавека ўсе хваляць за здольнасці, што ён вучыцца добра. Вонкава Ігар прыгожы і нават далікатны. Гэта і падманула Галю, якая потым глыбока перажывае сваю памылку.

Між тым, Галю шчыра кахае таварыш па інстытуту Андрэй Дубкоў. Чалавек ён знешне непрыкметны, але ў яго добрая душа.

Не адразу зразумела ўсё гэта Галя, не адразу адмовілася яна ад свайго першага кахання. Гэта бадай што правільна, бо першае каханне вельмі моцнае пачуццё, і яно доўга жыве ў сэрцы чалавека. У маральных адносінах Галя паказала сябе чалавекам моцным, які можа захоўваць чысціню сваіх дзявочых пачуццяў. Яе размова з Аляксандрай Сцяпанаўнай надзвычай праўдзівая і пажаночаму шчырая, яна шмат чаго новага дадае да характару Галі. Актрыса правільна робіць, што характар сваёй гераіні раскрывае не адразу, а паступова.

Мы можам сумнявацца ў каханні Аляксандры Сцяпанаўны да Грачова, але ў нас не ўзнікае сумнення ў тым, што шчырая размова двух жанчын, якія памыляліся ў асабістым жыцці, тут прыведзена не толькі для таго, каб не памыляліся іншыя, але і для таго, каб паказаць, што для героя памылка не праходзіць бясследна. Калі пачынае выпраўляць сваю памылку Галя, адразу цяжка сказаць, але потым мы пераконваемся, што гэта адбываецца ў яе зблiжэнні з Андрэем.

Актрыса, як і пастаноўшчык, зразумела, што драматург не хоча адразу прымушаць сваю гераіню на раптоўны разрыў з Ігарам, а робіць гэта паступова.

Таму жыццёва законамернымі з'яўляюцца сцэны Галі і Ігара ў доме Грачовых і на дачы. Жыццё павярнулася так, што расстанне з Ігарам стала немінучым. Галя гэта зразумела, хоць ёй было і балюча.

Усе складаныя адценні настрою сваёй гераіні актрыса перадае не просталінейна, а з адчуваннем і разуменнем усёй глыбіні чалавечага перажывання.

Калі каханне паміж Галяй і Ігарам насіла некалькі адцягнена-рамантычны характар, дык узаемаадносіны паміж Галяй і Андрэем грунтуюцца на вялікай агульнай справе—вынаходніцтве новага станка. Гэта значыць, што іх звязалі не толькі вузкія асабістыя, але і грамадскія інтарэсы. Вось так даволі складана завязваюцца ўзаемаадносіны паміж маладымі людзьмі.

Мы нічога тут не гаворым аб працы Галі, бо яна паказана як фон, на якім фактычна адбываюцца ўсе падзеі.

Мне давялося глядзець спектакль «Пакуль вы маладыя» некалькі разоў. І я заўважыў, што з кожным разам М. Захарэвіч іграе лепш. Значыць, яна моцна палюбіла вобраз сваёй гераіні і ўвесь час удасканальвае выкананне яго.

Нам здаецца, што вобраз Галі быў-бы больш цікавым, каб Ігар Вазоўскі (арт. Ю. Шумакоў) быў не просталінейным, а чалавекам, які ў сілу сваіх эгаістычных прынцыпаў глыбока заблуджаецца і памыляецца. Для таго, каб сыграць гэтую ролю так, трэба тонка разумець драматычную прыроду гэтага індывідуаліста з дробнабуржуазнымі і мяшчанскімі звычкамі. Выканаўца адразу паказвае гледачу, што гэта адмоўны персанаж. Ён не адчувае тых псіхалагічных адценняў, якія ёсць у гэтым прыстасаванцу, а адразу размалёўвае яго ў цьмяныя фарбы. Аднастайнасць гэтая ідзе ў некаторай ступені ад тэатральнага штампу. Нам давялося ўбачыць Ю. Шумакова ў другім спектаклі—«Шлюб па сакрэту», дзе ён выконваў ролю любоўніка, у некаторай ступені камедыйную. Але, не адчуўшы гэтай камедыйнасці, акцёр увесь вобраз правёў на адным гучанні; гэта па сутнасці і разбурыла мастацкую тканіну сцэнічнага персанажа. Значыць акцёр не думае над сутнасцю сцэнічнага твора, а выходзіць з уласных трафарэтных меркаванняў.

Асобныя сцэны ў спектаклі «Пакуль вы маладыя» можа і ўдаліся Ю. Шумакову, але яны не могуць выратаваць прыніжанасць вобраза ў цэлым. З такім прымітыўным чалавекам, як Ігар, якога разгадаеш адразу, і змагацца значна лягчэй, чым з тым, чыю натуру разгадаць не так лёгка.

Інакш выглядае ў спектаклі вобраз Андрэя Дубкова ў выкананні артыста Б. Уладамірскага. Гэты сціплы і, на першы погляд, нічым не прыкметны чалавек пастунова становіцца героем спектакля. Багацце духоўнага свету, шчырасць пачуццяў робяць Андрэя вельмі прывабным.

У экспазіцыі гэтага вобраза акцёр ясна падкрэсліў, што яго герой—чалавек з гумарам і ніякія цяжкасці ў жыцці яго не палохаюць, ды нічога яму лёгка і не даецца.

У першай сцэне здаецца, што Андрэю няма чаго рабіць, ён толькі супакойвае сяброў, каб яны не хваляваліся, што іх далёка пасылаюць на працу. На каханне Галі і Ігара ён глядзіць некалькі саркастычна, з данінай таварыскага гумару. І вось гэты гумар вывеў вобраз з той статыкі, у якую, здавалася, ён быў пастаўлены ў экспазіцыйнай частцы спектакля. Але гэта толькі так здавалася, бо дзейсная лінія вобраза пачалася іменна ў студэнцкім калектыве, у гады вучобы Андрэя і Галі.

Традыцыйны драматургічны трохкутнік Ігар—Галя—Андрэй пастунова парушаецца. Андрэй спачувае Галі, калі, прыехаўшы да Ігара, яна даведваецца, што той яе не кахае. І дзяўчына, узрушаная да глыбіні душы, з сорамам выбягае з хаты. Эгаіст Ігар не знаходзіць у сваёй душы нават спачування да дзяўчыны, Андрэй з пачуцця таварыскасці і шчырай павагі пайшоў услед за дзяўчынай. Потым іх узаемаадносіны развіваліся і ўмацоўваліся на агульнай, блізкай ім абодвум справе—рабоце па вынаходству новага станка. Яршыстасць натуры не дазваляе Андрэю адразу выявіць свае лірычныя пачуцці, хоць яго каханне да Галі і так паказана пераканаўча.

Затое эмацыянальны малюнак вобраза ў дачыненні да вытворчай справы выяўлены больш ярка. Эмацыянальна насычанымі сцэнамі мы лічым сутыкненне Андрэя з Ігарам і Грачовым.

Андрэй—чалавек адкрыты, шчыры. Таму ён так проста і з запалам спрачаецца з Ігарам, які з кар'ерысцкіх меркаванняў пакідае калектыў канструктараў, не закончыўшы пачатай працы. Андрэй не можа ставіцца да Ігара абыякава—ён вядзе наступ на гэтага бессаромнага мешчаніна, змагаецца і заўзята спрачаецца з ім.

Вельмі напружаная сцэна, дзе Андрэй сустракаецца з прафесарам Грачовым. Ён павінен шчыра сказаць свайму настаўніку, што яго станок устарэў, і яны, маладыя інжынеры, узяліся зрабіць новы станок. Вучні закранулі аўтарытэт свайго настаўніка, і ён сустрэў іх трохі насцярожана і некалькі непрыветна. Але Андрэй ведае, што прафесар—чалавек добры, урэшце ён зразумее, што ў

гэтай спрэчцы—праўда на баку маладых інжынераў.

Нейк на абмеркаванні ў пісьменніцкім і тэатральным асяроддзі ўзнімалася пытанне аб тым, што наўрад ці маглі даручыць маладому канструктару такую адказную справу, як стварэнне станка новай маркі. У нашай краіне маглі гэта зрабіць, заахвочваючы таленавітую моладзь на творчыя справы. Недакладнасць тут не ў гэтым, а ў іншым.

У п'есе, ды і ў спектаклі, не ўдакладнены ўзаемаадносіны Андрэя з галоўным канструктарам завода ў Крутым Яры Далінюком (арт. П. Пекур). Яго дзейнасць зводзіцца да інфармацыі, таму Андрэй успрымае яго з'яўленне як звычайнае чарговае паведамленне. Тут дарэчы было закрануць пытанне дапамогі старэйшага пакалення малодшаму. Але гэтага не ўдалося зрабіць. Таму Андрэю і даводзіцца больш самому ці разам з Галяй вырашаць складаныя вытворчыя праблемы. Гэтыя сцэны выратоўвае тое, што ў іх удзельнічае абаяльная загадчыца лабараторыі Андрэйчык (артыстка І. Ждановіч).

Трэба сказаць, што аўтар ідзе не па лініі займальнасці сюжэта, а па лініі знаёмства гледача з новымі цікавымі людзьмі, як-бы гаворачы: глядзіце на іх і вучыцеся, як трэба абыходзіцца ў жыцці з людзьмі. Параўноўваючы і супроцьпастаўляючы іх, аўтар выказвае свае адносіны да таго ці іншага персанажа. Тут просты падзел на адмоўных і станоўчых герояў не падыходзіць. Паказваючы Галю, Андрэя і Ігара, драматург ясна сцвярджае, што яны самі выходзілі ў людзі. Ім часам было цяжка, але яны перамагалі цяжкасці, выходзілі ў жыццё сваімі шляхамі і станавіліся не нахлебнікамі, а ўладарамі свайго лёсу. Драматург дае магчымасць гледачу падумаць над іх жыццёвымі шляхамі. А калі ёсць над чым падумаць, значыць і ёсць на чым выхоўваць.

Яшчэ хочацца спыніцца на сям'і прафесара Грачова, якая выведзена ў п'есе дзеля параўнання, дзеля кантрасту, дзеля сцвярджэння, як не трэба выхоўваць дзяцей. Галоўным завадатарам у гэтай сям'і з'яўляецца жонка Грачова Анна Апанасаўна. Вобраз уладарнай асобы «прабітной сілы» даволі ўдала стварае артыстка Р. Кашэльнікава. Анна Апанасаўна па-свойму, па-абывательску, па-мяшчанску змагаецца за шчасце сваёй дачкі. Яна патурае яе капрызам, разбэшчанасці, імкнецца дамагчыся ўяўнага добрабыту, які разбураецца пры першых-жа цяжкасцях.

Вобраз мамчынай дачкі Алы ў вострай сатырычнай манеры стварае артыстка Т. Аляксеева. Ала выпадкова трапляе ў той інстытут, які не любіць, але вучыцца толькі таму, што тут працуе яе бацька, і таму ў яе больш шансаў скончыць гэтую навучальную ўстанову, чым іншую.



«Пакуль вы маладыя». Яўген — Л. Баранчык, Грачоў — Б. Платонаў, Аляксандра Сцяпанаўна — І. Ждановіч.

Фота І. Салавейчыка.

Да вучобы і да сваіх таварышаў па інстытуту Ала адносілася абыякава. Галоўная яе мэта—уладзіць сваё жыццё. Дзеля гэтага яна кідае свайго мужа і выходзіць за Ігара, дапамогшы яму ўладзіцца на працу ў міністэрства. Яна абстаўляе сваё жыццё так, каб можна было існаваць бестурботна. Аднак гэты мяшчанскі манеўр ёй не ўдаецца, таму што Ігар церпіць няўдачу.

Жыццё прафесара Грачова ў гэтай п'есе выглядае як асобная навела. Трэба сказаць, што артыст Б. Платонаў паказвае Грачова чалавекам неспакойным, творчым, напорыстым, які памыляецца, але разам з тым умее мужна прызнаць сваю памылку і выправіць яе.

Грачоў жыве з нялюбай жонкай, мае няўдалую сям'ю. Мусіць, адзіная яго ўцеха—гэта праца над сваімі праектамі і выхаванне будучай змены. Ён увесь час быў адданы працы, сваім інстытуцкім справам. А тым часам жонка выхавала дачку ў мяшчанскім духу. Да тэмы п'есы ўсё гэта, безумоўна, мае дачыненне, але з пункту гледжання драматургіі гэта больш празаічна, чым сцэнічна, бо некаторыя старонкі біяграфіі Грачова патрабуюць асобнага тлумачэння. Таму яго ўзаемаадносіны з Андрэйчык, а таксама з сынам Яўгенам выглядаюць у п'есе як-бы па-за галоўнай сюжэтнай магістраллю і ў некаторай ступені тармозяць развіццё сюжэта. Уся гэтая лінія толькі служыць пацвярджэннем той думкі, што Грачоў можа памыляцца. Але гэтая думка больш грунтоўна пацвярджаецца ў радзе другіх сцэн.

Можна лічыць, што разважанні аб спектаклі «Пакуль вы маладыя» скончыліся, але ў мяне засталіся некаторыя пытанні, якія я лічу патрэбным выказаць у маладзёжным часопісе. На мой пагляд, і драматург і тэатр высунулі ў сваім сцэнічным творы вельмі цікавую думку, што моладзь трэба не толькі выхоўваць, але і змагацца за яе. Калі сядзіш у зале, дык адчуваеш: глядач вельмі задаволены тым становішчам, што маладыя акцёры іграюць маладых людзей. Нехта трапна заўважыў: «На сцэну купалаўцаў хлынула маладосць». У пераважнай большасці гэта здольныя людзі. Яны прадаўжаюць добрыя традыцыі купалаўскага тэатра, слава якога выйшла далёка за межы рэспублікі.

У тэатры імя Я. Коласа таксама ёсць добрая традыцыя: студыйцы там і вучацца і адначасова прымаюць удзел у спектаклях, сумяшчаючы вучобу з практыкай, адразу як-бы ўваходзячы ў калектыў тэатра.

Ёсць драматычная студыя і ў тэатры імя Я. Купалы. Але вучэбны працэс тут некалькі адарваны ад штодзённай практыкі калектыва, у якім некаторыя яе выхаванцы збіраюцца працаваць. Кіраўнік студыі Л. Рахленка выказаў слушную думку аб тым, што, магчыма, варта было-б пасля заканчэння заняткаў у студыі стварыць філіял купалаўскага тэатра, які больш ездзіў-бы па перыферыі, чым сядзеў на стацыянары. Для выхавання новай змены, магчыма, варта выкарыстаць і такую форму, як тэатр-студыя. Вопыт гэты выпрабаваны. Калі мы звернемся да такіх вядучых рускіх тэатраў, як Маскоўскі мастацкі, Малы акадэмічны, імя Моссовета і інш., дык пераканаемся, што такі вопыт варта запазычыць, бо ён дае добры плён.

Калі мы хочам, каб тэатральная справа ў рэспубліцы развівалася паспяхова, дык павінны змагацца за кожнае новае імя драматурга, рэжысёра і акцёра. Толькі тады мы зможам дамагчыся поспехаў у нашай справе, бо будучае нашага мастацтва належыць моладзі.

# „Садко“

У канцы сёлетняга тэатральнага сезона калектыў Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балету ажыццявіў пастаноўку славутай оперы Н. А. Рымскага-Корсакава «Садко». Гэта адна з найбольш дасканалых па майстэрству опер, дзе з выключнай сілай выявілася творчая індывідуальнасць кампазітара.



У ролі Садко Г. Дзмітрыеў.
Фото В. Глазава.

У старадаўніх былінах пра Садко Рымскі-Корсакаў знайшоў сугучныя характару сваёй творчасці матывы бязмежнай адданасці, вернасці ў каханні і найвялікшай жыццерадаснасці.

Работа над операй была закончана ў 1896 годзе. Але паставіць яе на сцэне Марыінскага тэатра ў Пецярбургу не давялося. Нікалай II забараніў пастаноўку оперы. Толькі ў канцы наступнага года яна была пастаўлена Маскоўскай прыватнай операй. У далейшым сувязь кампазітара з гэтым тэатрам стала вельмі цеснай. Таленавітыя салісты оперы Секар-Ражанскі, Забела-Врубель, Растоўцава, Шаляпін, Карклін, Пятроў былі стваральнікамі незабыўных вобразаў Садко, Валхавы, Любавы, варажскага, індыйскага, ведзянецкага госцяў.

З 1906 года «Садко» ідзе на сцэне Вялікага тэатра ў Маскве, нязменна прыцягваючы да сябе ўвагу самых шырокіх колаў.

Опера «Садко» — складаны музыкальны твор. Не кожнаму тэатру ён пад сілу.

Не дзіўна таму, што артысты нашага тэатра браліся за работу над сваімі партыямі з некаторым хваляваннем і нават трывогаю. Рэжысёру - пастаноўшчыку А. М. Маралёву і галоўнаму дырыжору Л. В. Любімаву прыйшлося пераадолець і хваляванні, і сумненні, і скептыцызм асобных выканаўцаў. Як толькі пачаліся рэпетыцыі, ге-

ніяльная музыка, глыбокія па сваёй мастацкасці вобразы натхнілі акцёраў; умелая работа рэжысёра і дырыжора згуртавала, арганізавала калектыў, надала ўпэўненасці ў поспеху.

Праца над операй захапіла не толькі нас, артыстаў, але і ўвесь калектыў тэатра. Споўнілася, напрыклад, даўняя мара народнага мастака БССР Г. І. Нікалаева афарміць оперу «Садко» на беларускай сцэне.

Нам, артыстам, цяжка сказаць, наколькі поўна мы даносім да гледача вялікую музыку Рымскага-Корсакава, наколькі ўдалыя створаныя намі вобразы. Пра гэта скажуць гледачы. Але для нас вельмі важна тое, што ў гэтай оперы ўдзельнічаюць многія маладыя салісты, для якіх опера «Садко» стала своеасаблівым экзаменам на творчую сталасць.

Упершыню, напрыклад, такую складаную партыю, як Садко, выконваюць маладыя спевакі Герман Дзмітрыеў і Барыс Нікольскі. Побач з такімі вядомымі артыстамі, як І. Балоцін і Н. Ворвулеў, якія выконваюць партыю індыйскага і ведзянецкага госцяў, выступаюць маладыя артысты Валеры Глушакоў і Анатоль Генералаў. Партыю Валхавы выконвае маладая артыстка Нона Нікеева.

Акрылёныя першымі творчымі поспехамі, маладыя спевакі тэатра яшчэ з большым натхненнем будуць працаваць над новымі вобразамі.

**С. ГУЛЕВІЧ,**
**салістка тэатра.**

# Спектакль аб партыі

Гасне святло, і прамені пражэктараў выхопліваюць з натоўпу двух матросаў-вядучых. Яны звяртаюцца да нас — дзяцей і ўнукаў тых, хто рабіў Вялікую Кастрычніцкую рэвалюцыю, хто атрымаў перамогу ў грамадзянскай вайне.

Так пачынаецца спектакль «Аптымістычная трагедыя», пастаўлены Рускім драматычным тэатрам імя М. Горкага па п'есе Усевалада Вішнеўскага. Далей ідзе ўсхваляваны расказ аб тым, як з недысцыплінаваных, анархічна настроеных матросаў быў створаны рэгулярны полк марской пяхоты маладой Чырвонай Арміі.

Тэатр не без рызыкі браўся за пастаноўку такой складанай п'есы, маючы параўнальна невялікую трупу і маленькую сцэнічную пляцоўку. Рызыка, аднак, поўнасцю апраўдала сябе. Работа была праароблена велізарная і ў выніку спектакль па праву прызнаны адной з самых значных з'яў у тэатральным жыцці рэспублікі за апошнія гады.

Пастановачнаму калектыву на чале з рэжысёрам М. Співакам удалося перадаць дух і пафас эпохі першых год рэвалюцыі.

Спектакль па-сапраўднаму хвалюе. Асабліва ўдаліся масавыя сцэны. У іх няма статыстаў — кожны матрос сваім шляхам прыходзіць да разумення таго, што на свеце ёсць толькі адна — ленінская праўда.

Са складанай роляй камісара паспяхова справілася артыстка А. Клімава, якая нядаўна прыйшла ў тэатр.

Вобраз хітрага і моцнага ворага партыі — важака анархістаў стварыў артыст А. Кістаў.

Цікавы ў спектаклі Аляксей — чалавек, які пакутліва шукае і знаходзіць праўду (артыст Г. Некрасаў).

Спектакль з поспехам быў паказаны на заключным этапе фестывалю «Прыбалтыйская тэатральная вясна» ў Вільнюсе, а таксама ў сталіцы нашай Радзімы — Маскве.

**Б. МАРТЫНАЎ.**



Сцэна са спектакля «Аптымістычная трагедыя».

# Пад купалам цырка

У Мінску сёлетні сезон адкрыла Ірына Бугрымава са сваімі ільвамі.

Мінскі глядач не ўпершыню бачыць гэты захапляючы атракцыён.



Многа смеласці, мужнасці, нейкай звышчалавечай вытрымкі патрэбна для таго, каб прымусіць гордых і непакорных уладароў пустыні скакаць праз абруч, хадзіць па канату амаль над галовамі гледачоў, катацца на вялізным мячы. Вось па камандзе Ірыны Бугрымавай ільвы кладуцца на арэну, утвараючы жывы дыван. На іх лажыцца дрэсіроўшчыца, гладзіць сваіх выхаванцаў па грывастых галовах.



Калісьці цыркавыя акцёры ўсяляк падкрэслівалі цяжкасць свайго нумару. Цяпер, наадварот, нумар лічыцца поўнасцю падрыхтаваным толькі тады, калі ён праходзіць лёгка, хутка, без намаганняў. Вось на арэне артысты Бубновы. Блакітныя стракозы—так назвалі іх у Еўропе, дзе яны нядаўна вельмі паспяхова выступалі перад французскімі, бельгійскімі і англійскімі гледачамі. Высока пад купалам цырка чатыры артысткі— Елена Бубнова, Нона Запашная, Юля Астравінская і Ніна Парамонава — выконваюць складанейшыя практыкаванні.

Праходзіць дзесяць, пятнаццаць хвілін. Нумар закончаны. І напэўна нікому не прыходзіць у галаву, што для таго, каб падрыхтаваць яго, артысткам спатрэбілася два гады напружанай працы.

Складаны нумар падрыхтаваў Аляксандр Кірычукоў у супрацоўніцтве з Серафімам Тваленевым і яго дачкой Элеанорай. Нумар, праўда, яшчэ не зусім падрыхтаваны, але глядач не заўважае тых дробных недаробак, якія артысты наважаны выправіць у бліжэйшы час. Кірычукоў — наогул артыст патрабавальны. Апрацоўваючы капштэйн (акрабатычны нумар, калі артыст, падкінуты ўверх, павінен апусціцца на руку другога артыста галавой і ўтрымаць роўнавагу), Кірычукоў патрабуе ад шаснаццацігадовай Элеаноры дасканаласці рухаў, прыгажосці паставы, лёгкасці і зграбнасці. Нягледзячы на тое, што нумар рыхтуецца ўжо тры гады, Кірычукоў яшчэ незадаволены сваёй работай.

Новы музыкальны нумар прывезлі жанглёры-эксцэнтрыкі Герман і Людміла Атліванікі. Гэта вельмі цікавыя артысты. Яны нядаўна пачалі працаваць у цырку. Людміла, напрыклад, прыйшла на арэну з чэлябінскага завода, дзе яна працавала ў бухгалтэрыі. Спачатку ім не шанцавала. Іх нумар быў забракаваны. Настаці цяжкія дні. Атлі-



ванікам не дазвалялі нават займацца ў студыі. Але настойлівасць перамагла ўсё. І цяпер гледачы з задавальненнем глядзяць, як спрытна жангліруюць маладыя артысты.

Вельмі эфектны нумар падрыхтаваў Уладзімір Самахвалаў. На вышыні 4-х метраў ён робіць стойку на двух дошках, потым выкідвае іх з-пад сябе і спрытна апускаецца на вузенькую пляцоўку.

Цырк прадаўжае сваю работу. Наперадзе многа новых, захапляючых нумароў.

**А. ПУШКАРСКІ.**



Турненду Мукерджы (11 год). **Партрэт.**

# Дзеці Індыі — аб Індыі

Выстаўка выяўленчага мастацтва дзяцей Індыі, якая экспанавалася ў Мінску, выклікала глыбокую цікавасць з боку грамадскасці сталіцы.

У файэ Тэатра юнага гледача дзіцячымі малюнкамі аднолькава захапляліся і тыя, самыя юныя, якіх прывялі сюды за руку, і тыя, якія прывялі сваіх дзяцей, унукаў. У малюнках нашых далёкіх маленькіх сяброў ёсць якраз тое, што аднолькава дорага і даросламу, і дзіцяці — непасрэднасць успрыняцця жыцця, маляўнічасць і праўдзівасць. Погляд маленькіх мастакоў не толькі дапытлівы, але і шматгранны. Шматлікія партрэты захапляюць нас спеласцю псіхалагічнага аналізу, жанравыя сцэны — вастрынёй і праўдзівасцю перадачы бачанага, лёгкасцю вырашэння складаных кампазіцыйных задач, уменнем, якое часам набліжаецца да прафесіяналізма.

Тут і вулічныя сцэнкі, святочныя шэсці, заклінальнікі змей, праца простага народа, цудоўныя пейзажы сваёй радзімы і, зразумела, тое, што ўсімі дзецьмі аднолькава любіма — жывёлы... Колькі ва ўсіх гэтых малюнках жыцця, цеплыні і — што так часта адсутнічае ў творах дарослых — глыбокай шчырасці, аптымізму!

Шырока адкрытымі вачыма глядзяць дзеці далёкай Індыі на свет, і іх яшчэ няцвёрды, але моцны сваёй праўдзівасцю аловак гаворыць, што гэты свет — цудоўны. Няхай яшчэ не ўсе і не заўсёды сытыя, не ва ўсіх яшчэ на нагах чаравікі, але для ўсіх цвітуць кветкі і ўсім аднолькава цёпла свеціць сонца. І — галоўнае — чалавек, ён дастаткова моцны для таго, каб не даць цёмным хмарам засланіць гэтае сонца.



Харпрыт Сінгх Гіла (15 год). **Раніца.**



Т. Раві Варма (15 год). **Вясковая сцэнка.**

# Італьянская графіка расказвае...

Італьянскае выяўленчае мастацтва мінулага адыграла велізарную ролю ў развіцці мастацтваў Еўропы і Расіі. Рускія майстры жывапісу, скульптуры і архітэктуры высока цанілі мастацкую спадчыну Італіі, асабліва эпохі Адраджэння. Савецкі глядач ведае і любіць творы Мікельанджэла і Леанарда да Вінчы, Рафаэля і Ціцыяна. З вялікім поспехам ідуць на савецкіх экранах сучасныя італьянскія кінофільмы, не залежваюцца на паліцах кнігі італьянскіх пісьменнікаў.

Але што мы ведаем аб выяўленчым мастацтве Італіі нашых дзён? Вельмі мала. Выстаўка малюнкаў, афортаў і літаграфій сучасных мастакоў Італіі, якая арганізавана італьянскім таварыствам культурнай сувязі з СССР і экспанавалася ў некалькіх гарадах Савецкага Саюза, у тым ліку і ў Мінску, у некаторай ступені адказвае на гэтае пытанне.

Складзеная з параўнальна невялікай колькасці і, прытым, толькі графічных работ, выстаўка, вядома, не можа даць поўнага ўяўлення аб стане сучаснага мастацтва Італіі. Аднак нават пры самым беглым праглядзе работ становіцца зразумела: удзельнікі выстаўкі розныя не толькі па свайму індывідуальнаму почарку, узроўню майстэрства, але і па прынцыповаму падыходу да з'яў жыцця, па сваіх творчых і ідэйных поглядах. З аднаго боку — жыццё без прыхарошвання, такое, як яно ёсць, з другога боку—адыход ад сапраўднасці ў свет псеўданаватарства і фармалістычных хітрыкаў.

Вострая социяльная накіраванасць, глыбокая цікавасць да жыцця простага працоўнага народа, актыўная барацьба за лепшую будучыню характарызуюць творчасць лепшых графікаў Італіі. Такі змест твораў Підзінато Армандо («Забіты партызан», «Барыкада супраць фашыстаў»), Капэлі Джавані («Людзі на снезе», «Ранены партызан»), Атардзі Уго («Беспрацоўныя муляры», «Катастрофа»), Мукі Габрыэле («Партрэт прыхільніцы міру») і многіх іншых.



Ампеліо Тэтаманці. **«Адпачынак».**

Выстаўка красамоўна расказвае савецкаму гледачу аб тым, што большасць мастакоўграфікаў Італіі жыве аднымі надзеямі з простым народам, ідзе з ім у нагу ў барацьбе за мір, за лепшую будучыню.

**В. ГРАМЫКА.**



Уго Атардзі.
**«Беспрацоўныя муляры».**



Анна Сальватора.
**«Снеданне на Тыбры».**

**С. ГЕРАСІМАЎ,**
**народны артыст СССР**

# ЯК АЖЫВАЮЦЬ СТАРОНКІ РАМАНА

Вось ужо некалькі месяцаў наш калектыў працуе над пастаноўкай кінотрылогіі «Ціхі Дон» па раману М. Шолахава. Месцам сваёй работы мы выбралі горад Каменск. Выбар гэты быў зроблены згодна парады Міхаіла Аляксандравіча. І сапраўды, больш зручнага для здымкаў «Ціхага Дона» месца з такім багатым спалучэннем прыродных умоў і жадаць нельга. Гэтыя дзівосныя маляўнічыя мясціны на беразе Поўночнага Данца, гэтыя засмужаныя далі так нагадваюць створаныя ў рамане пейзажы, быццам пісьменнік змаляваў іх адгэтуль. Амаль такімі, якія ёсць тут, уяўлялі сабе чытачы і хутар Татарскі і сядзібу Лісніцкага. Выбар мясцовасці для здымкаў будзе садзейнічаць праўдзіваму паказу гістарычных падзей на Дану ў перыяд рэвалюцыі і грамадзянскай вайны.

Ідэя пастаноўкі кінотрылогіі «Ціхі Дон» не новая. У свой час была экранізавана першая частка рамана. Аднак і пастаноўшчыкі і артысты не змаглі поўнасцю перадаць багаты ідэйна-мастацкі змест твора.

Адна справа літаратура, другая—кінамастацтва. Праўда, кіно без літаратуры не можа існаваць. У аснове любога кінофільма ляжыць літаратурны твор — кіносцэнарый. Але калі глянуць на любую экранізацыю літаратурнага твора, дык няцяжка заўважыць, што адступленні ад кнігі бываюць вельмі вялікія.

Перш чым пачаць здымкі «Ціхага Дона», нам трэба было падабраць трыццаць новых акцёраў. Пры гэтым падборы з будучымі выканаўцамі роляў была праведзена немалая работа, каб кожны з іх не толькі розумам, але і сэрцам, усёй істотай адчуў і зразумеў шолахаўскіх герояў: Грыгорыя Мелехава—добрага і гнеўнага, бязлітаснага і пяшчотнага, справядлівага і надзвычай заблытанага, Аксінню — жанчыну верную і, як часам здаецца, няверную, палкую і задуменную. Гэта не проста імёны, а жывыя непаўторныя чалавечыя характары.

Але вось падабраны акцёры і размеркаваны ролі. Пачынаюцца рэпетыцыі спачатку асобных звенняў. У кіно не так, як у тэатры. Тут дзеянне разгортваецца на вялікіх прасторах, пры ўдзеле конніцы, у дыме бітваў і, калі трэба,—на заводах, на вуліцах гарадоў і сёл. Але асноўная работа рэжысёра ў нас праводзіцца гэтак сама, як і ў тэатры.

Як марудна ідзе гэтая работа! Тое, што вы бачыце за мінуту, здымаецца, як правіла, цэлы дзень,—па 27 метраў плёнкі ў мінуту.

Вось характэрны прыклад. У Каменску мы адшукалі стары дарэвалюцыйны млын, які нагадвае той, што так па-майстэрску апісаны ў рамане Шолахава. Каля гэтага млына мы збудавалі павеці, накрылі іх саломай, паставілі плятні; жалезныя і чарапічныя дахі дамоў, якія трапілі ў зону здымкаў, накрылі чаротам. Гэтая работа заняла ў нас два дні. Потым мы пачалі рэпетыцыі славутай бойкі каля млына, у якой пісьменнік паказаў класавую расслоенасць казацтва.

Успомнім тое месца з рамана, дзе гаворыцца: «На млыне завозна. Двор гус-









та застаўлены фурманкамі, каля вазоў ціскатня». Увесь дзень мы вазілі да млына мяшкі з апілкамі, застаўлялі двор фурманкамі, рэпетыравалі ціскатню каля вазоў, а потым і ўсю бойку. І тое, што мы потым убачылі, вельмі ўзрадавала нас. Пераапранутыя людзі, якія толькі што мірна размаўлялі, раптам, па ўзмаху чырвонага сцяжка, схапіліся загрудкі; у ход пайшлі аглоблі, пугі, шворны. Атрымалася жывая, запамінальная сцэна.

Чатыры дні мы рыхтавалі, рэпетыравалі, здымалі гэтую сцэну, якую вы прагледзіце за поўмінуты.

Наш вытворчы план—20—25 метраў плёнкі ў дзень. 20 метраў плёнкі негатыва абавязкова ўвойдуць у фільм. Але мы стараемся здымаць больш на пяцьшэсць метраў—гэта наша вытворчае дасягненне: на 15 метраў перавыконваем свой план. Нялёгка даюцца нам гэтыя метры. Вось уявіце сабе, як усё гэта адбываецца. Скажам, на першым плане—кулямётная каманда Бунчука. Да яе набліжаецца сотня Мелехава. Мелехаў размаўляе з Бунчуком і дагаварваецца аб аперацыі. Ён вядзе сваю сотню ў абход злева. У гэты момант паяўляецца сотня Голубава, а з глыбіні насоўваюцца ланцугі белаказакаў. І тут выяўляецца, што месца, выбранае для бою, не зусім зручнае, ад яго трэба адмовіцца. І зноў падрабязна, з усіх бакоў, як перад бітвай на сапраўдным полі бою, абмяркоўваецца і выбіраецца новае месца. Рэжысёр, аператар, мастак, асістэнт аглядаюць яго, выбіраюць пункт, з якога лепш можна бачыць гэтую бітву. Потым пачынаецца падрыхтоўка да здымкаў. На пэўны дзень трэба загрыміраваць, адзець, абуць «казакаў». Іх трэба навучыць ездзіць на конях, бо наша казацтва цяпер карыстаецца больш машынамі, чым коньмі. Кожнаму трэба наклеіць вусы, а многім—бароды.

Не расказаў я тут яшчэ пра многае іншае, што стварае немалыя цяжкасці пры здымках. Бывае, напрыклад, так, што ў самы рашаючы момант коні не хочуць слухацца не вельмі ўмелых ездакоў; сонца заходзіць якраз тады, калі яно павінна свяціць, або пачынае ісці зусім непатрэбны нам дождж. Гукааператар, які патрабуе абсалютнай цішыні, у самы апошні момант не можа зрабіць здымак: падняўся страшэнны вецер. У групе настае цяжкае маўчанне: усё ў апошнюю хвіліну зрываецца. Нарэшце, паляцелі ўверх сігнальныя ракеты, зусім як на

Кадры з кінофільма «Ціхі Дон».

вайне. Усё заварушылася. Здымкі прадаўжаюцца.

Наша задача—максімальна наблізіць фільм да рамана, перадаць яго непаўторную своеасаблівасць. У фільме мы пастараемся захаваць усе асноўныя сюжэтныя лініі, яркую вобразную мову герояў, поўнасцю ўключым многія дыялагі, якія цудоўна раскрываюць характары дзеючых асоб.

Цяпер раскажу аб асобных эпізодах фільма. Пастарайцеся ўспомніць гэтыя эпізоды па раману М. Шолахава.

...Восень. Атрады Каледзіна і Чаранцова ўварваліся на станцыю Глыбокая. Грыгорый Мелехаў, пачуўшы стрэлы, падняў сваю сотню і павёў яе да станцыі. На ўзгорку ён убачыў кулямётную каманду Бунчука. Дагаварыўшыся з ім, Мелехаў абходным манеўрам павёў сотню ў атаку. З другога фланга, у абход каледзінцам, рухалася лавіна казачай конніцы пад камандаваннем Фаміна.

Каледзінцы ў нерашучасці спыніліся, пачалі адступаць. Сотня Грыгорыя дагнала каледзінцаў, але ў гэты момант сакануў кулямёт. Ранены Грыгорый апусціў шаблю і выпусціў з рук павады.

Адгрымеў бой. Захопленыя ў палон каледзінскія афіцэры, сярод якіх быў і Чаранцоў (артыст Барыс Кордунаў), пад канвоем дастаўлены ў штаб рэўкома.

— Папаўся, гад!—дрыжачым нізкім голасам закрычаў Падцёлкаў.

— Здраднік казацтва! Погань!—скрозь сціснутыя зубы загаварыў Чаранцоў.

— Ну, ну-у!..—як прыдушаны, прахрыпеў Падцёлкаў, хапаючыся за эфес шаблі.

Грыгорый падняўся на тачанцы і ўбачыў, як Чаранцоў здрыгануўся, падняў руку над галавой—і ў той-жа момант над ім прасвістаў удар шаблі.

— Сячы іх! Усіх! Няма палону!—усіх канчай.

Адзін за другім прагучала некалькі залпаў.

Мелехаў, сабраўшы рэшткі сваіх сіл, саскочыў з тачанкі і, па-звярынаму прыкульгваючы на адну нагу, у некалькі скачкоў апынуўся каля Падцёлкава, на бягу расшпільваючы кабуру. Яго схапіў за рукі і абхапіў вакол тулава малады казак Мінаеў.

А Падцёлкаў, разгарачаны, злосны, павярнуўся да яго і, гледзячы проста ў вочы, глуха прагаварыў:

— А ты думаў як?

Праз некалькі дзён пасля гэтых здым-



Кадры з кінофільма «Ціхі Дон».

каў артысты студыі, а разам з імі і працоўныя горада Каменска—Шахцінскага, якія прымалі ўдзел у масавых сцэнах, праводзілі генеральную рэпетыцыю адступлення казацкіх сотняў і выратавання Грыгорыем Мелехавым раненага Сцяпана Астахава.

У густым дубовым лесе, дзе казакі сабраліся пасля адступлення, адбываецца размова Сцяпана Астахава з Грыгорыем Мелехавым. Астахаў расказвае Грыгорыю аб тым, што ён у момант наступлення тры разы страляў у яго.

— Ты мяне ад смерці выратаваў— дзякуй,—гаворыць Сцяпан.—А за Аксінню не магу даравaць, душа не дазваляе... Ты мяне не прынявольвай, Грыгорый.

— Я не прынявольваю, —адказаў яму Мелехаў.

Ролю Мелехава іграе артыст Тэатра імя Станіслаўскага Пётр Глебаў. Яго мы спачатку запрасілі на другарадныя ролі. Глебаў—малайчына. Ён не пагрэбаваў малапрыкметнымі ролямі, здолеў паказаць сябе ў маленькай справе. Цяпер ён—Грыгорый Мелехаў. Гэтым усё сказана.

Глебаў—малады, у яго многа творчай энергіі. Успамінаецца такі выпадак. Пасля чарговых здымкаў стомленыя, але радасныя акцёры вярталіся з хутара Дзічанскага ў Каменск. Памочнікі галоўнага аператара праявілі і зрабілі некалькі здымкаў, якія мы называем рабочымі кадрамі. Пётр Глебаў узяў некалькі фота, усміхнуўся і загаварыў з запалам.

— Гэта-ж цудоўна! Разумееце, цудоўна! Сапраўды я выглядаю тут намнога старэйшым.

Гутарка ішла аб трэцяй серыі кінотрылогіі. Грыгорый Мелехаў тут ужо не той, што ў пачатку фільма,—ён вельмі многа перажыў за гэты час.



Так здымаецца фільм «Ціхі Дон».

Бачыце, у чым справа: Глебаў баіцца за сваю маладосць, каб яна не перашкодзіла ў рабоце над вобразам Грыгорыя.

Амаль усе акцёры нашай кіноэкспедыцыі маладыя. Маладыя і кінорэжысёры, і гукааператары, і мастакі. Большасць з іх—выпускнікі і практыканты Дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі. Іх энтузіязм накладвае свой адбітак на ўвесь ход нашай працы.

Падабраць акцёраў было нялёгкай справай. Хацелася, каб яны не толькі падыходзілі для фільма па сваіх знешніх даных, але каб маглі глыбока і праўдзіва адлюстраваць багаты духоўны свет шолахаўскіх персанажаў, іх надзвычайна складаныя ўзаемаадносіны, увесь драматычны пафас твора. Трэба сказаць, што амаль усе ўдзельнікі фільма ўпершыню здымаюцца ў кіно. Іх—некалькі соцень. Гэта прафесійныя акцёры, а таксама карэнныя жыхары данскіх станіц.

Мы ўжо знялі многія сцэны з першай і другой серыі «Ціхага Дона». Зроблены здымкі адступлення казакаў з хутара Татарскага, зварот Грыгорыя з фронта, прыезд у Новачаркаск членаў рэўкома Падцёлкава, Крывашлыкава і Лагуціна для сустрэчы з членамі данскога ўрада Каледзіна.

На нашай плёнцы вы можаце ўбачыць усю сям'ю Мелехавых—сярдзітага Панцялея Пракоф'евіча Мелехава і няснелую, маўклівую Наталлю, прыгожую Дар'ю і свавольную Дуняшку. Можаце пазнаёміцца з галоўнымі героямі рамана — бунтуючым Грыгорыем Мелехавым і яго вернай сяброўкай Аксінняй.

Вось сцэна. Разгневаны Панцялей Пракоф'евіч даведваецца, што яго сын любіць Аксінню, і выганяе яго з дому.

На бягу нацягваючы на шырокія плечы новенькі кажушок, Грыгорый выбягае на баз. Услед за ім—заплаканая Наталля.

— Грыша, вярніся!

Грыгорый не азіраецца.

Толькі ў першай серыі фільма метраж натурных здымкаў складае каля паўтара кілометра, а ўсяго іх будзе больш пяці тысяч метраў.

Некалькі слоў пра выканаўцаў роляў. Грыгорыя Мелехава, як мы ўжо гаварылі, іграе артыст Пётр Глебаў, Аксінню—артыстка Эліна Быстрыцкая, Наталлю—артыстка Зінаіда Кірыенка, Ільінічну—артыстка А. Гар'іна-Філіпава, Дуняшку—артыстка Н. Архангельская, Панцялея Пракоф'евіча—артыст Д. Ільчанка, Прохара Зыкава—артыст В. Захарчанка, Пятра Мелехава — артыст Н. Смірноў,

Сцяпана Астахава—артыст А. Благавестаў, Міхаіла Кашавога—артыст Г. Харэкін, Яўгенія Лісніцкага—артыст І. Дзмітрыеў, Лясніцкага-бацьку—артыст А. Шатаў.

Мае памочнікі—рэжысёры комсамольцы Генрых Оганесян, Юры Грыгор'еў, Аляксей Салтыкоў і Владзімір Дорман. Галоўны аператар—В. Рапапорт, гукааператар—Д. Флянгольц, галоўны мастак-дэкаратар Л. Дулянкоў, мастакі-грымёры—А. Смірноў і Е. Сухавей. Дырэктар фільма—Я. Светагораў.

Жыхар горада Каменска Сямён Іванавіч Кудзінаў, які ўспамінаецца ў рамане Шолахава, запрошаны кансультантам здымкаў. Ён, як удзельнік адлюстраваных у кінотрылогіі падзей, комуніст з 1917 года, член Данскога Ваенна-Рэволюцыйнага Камітэта, вельмі добра спраўляецца са сваімі абавязкамі.

Першыя дзве серыі фільма вы ўбачыце ў дні святкавання саракагоддзя Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі. Апошняя, трэцяя частка фільма, выйдзе ў пачатку наступнага года.

Фільм здымаецца для звычайнага і для шырокага экрана на каляровай кіноплёнцы.

Больш нічога не магу сказаць. Хутка будуць гатовы дзве серыі і тады — слова за вамі.

Янка КАЗЕКА

# НАСТАЎНІК, ДАРАДЧЫК, ДРУГ

Многія беларускія пісьменнікі з вялікай пашанай называюць Кузьму Чорнага сваім настаўнікам. У артыкулах і ўспамінах аб гэтым выдатным мастаку слова не раз адзначалася, што ён па-горкаўску выхоўваў літаратурную змену, шмат часу і ўвагі аддаваў працы з пачынаючымі, вучыў іх творчаму майстэрству.

К. Чорны сапраўды багата зрабіў для выяўлення новых пісьменніцкіх імён. З празаікаў і драматургаў, якія ў 30-х гадах пачыналі свой шлях у літаратуры, ніводзін, напэўна, не абмінуў яго падтрымкі і дапамогі. Некалькі год К. Чорны працаваў у Кабінеце маладога аўтара пры Саюзе пісьменнікаў Беларусі і непасрэдна займаўся арганізацыяй творчай вучобы літаратурнай моладзі.

«У тую пару,—успамінае І. Грамовіч,— не адзін я звяртаўся за кансультацыяй да Кузьмы Чорнага. Многія пачынаючыя аўтары так, як і я, прыходзілі да яго... Ён лічыў гэтую працу як абавязковую і пачэсную. Да пачынаючых аўтараў адносіўся уважліва, клапатліва, як бацька» *.

«Гэта было добрае, чулае да людзей сэрца,—піша пра К. Чорнага І. Мележ.— Каму, як не яму, былі добра відны шматлікія пралікі і прамашкі няспелых твораў нявопытных пачынаючых, каму лягчэй было «зарэзаць» такі твор, а ён— шукаў крупінкі добрага, назіральнасці, роздуму, жыццёвага вопыту, крупінкі таленту» **.

* Газета «Літаратура і мастацтва» ад 23 лістапада 1946 г.

** Газета «Літаратура і мастацтва» ад 3 снежня 1955 г.

Калі перачытваеш артыкулы і выказванні К. Чорнага аб літаратуры, выразна бачыш яго шматгранную дзейнасць па выхаванню пісьменніцкай моладзі. Большую частку ўсіх сваіх выступленняў на літаратурныя тэмы ён прысвяціў творчасці маладых.

У 1927 годзе ў «Чырвоным сейбіце» з'явіліся напісаныя К. Чорным агляды празаічных твораў вясковых аўтараў. Аналізуючы апавяданні пачынаючых, К. Чорны ставіў перад сабой задачу «дапамагчы з гушчы вясковых літаратурных дапісчыкаў выявіцца сапраўдным пісьменнікам». З таго часу і да апошніх дзён жыцця ён пільна сачыў за творчасцю маладых аўтараў, дбайна збіраў «крупінкі таленту», якія маглі ўзбагаціць нашу літаратуру. І ў артыкулах, дзе асвятляліся некаторыя агульныя з'явы творчага жыцця, ён бадай заўсёды спыняўся на пытаннях выхавання і вучобы маладых. Здаецца нават, што і пра выдатнейшых беларускіх паэтаў і празаікаў ён пісаў з адзінай мэтай: няхай тыя, хто робіць першыя крокі ў літаратуры, на прыкладзе іх жыцця, на лепшых узорах іх творчасці вучацца самаахвярна служыць народу.

Жывая зацікаўленасць у лёсе роднай літаратуры адчувалася ва ўсёй дзейнасці К. Чорнага, які ніколі не замыкаўся ў кола ўласных творчых спраў, а жыў надзённымі інтарэсамі ўсёй літаратуры. Уплыў К. Чорнага на маладую беларускую прозу ў 30-х гадах ішоў у асноўным па двух напрамках. Па-першае, у той час

ён напісаў лепшыя свае раманы і аповесці, якія з'явіліся значным здабыткам беларускай савецкай літаратуры і садзейнічалі фармаванню эстэтычных густаў малодшага пакалення празаікаў. Па-другое, асабістыя сувязі К. Чорнага з маладымі літаратарамі ў тыя гады былі вельмі шырокія. Ён чытаў многа рукапісаў пачынаючых, перапісваўся з імі, часта выступаў у друку і на пісьменніцкіх сходах з разглядам іх творчасці, ахвотна дзяліўся сваімі думкамі аб пісьменніцкай працы і майстэрстве. З яго сучаснікаў бадай мала хто так непасрэдна і канкрэтна займаўся будзённымі справамі выхавання літаратурнай змены.

Думкі аб рабоце з маладымі пісьменнікамі, шчодра рассыпаныя ў яго шматлікіх артыкулах, рэцэнзіях і нататках, не страцілі свайго практычнага значэння і сёння. У апошнія гады ў нас пачалі друкавацца многія маладыя паэты, празаікі і драматургі. На старонках часопісаў і газет усё часцей і часцей сустракаюцца новыя імёны. Сярод іх ёсць, бясспрэчна, свежыя, самабытныя галасы. Гэта вельмі радасная з'ява. Дапамагчы тым, хто ідзе цяпер у літаратуру, правільна скіраваць іх творчыя намаганні і пошукі, выхаваць у іх добрыя літаратурныя густы і пачуццё адказнасці перад народам за сваю працу — пачэсны абавязак пісьменніцкай грамадскасці. Добра было-б, каб і самі маладыя часцей звярталіся да артыкулаў і выказванняў вядомых мастакоў слова, да іх вопыту і парад. У гэтых адносінах спадчына К. Чорнага (не толькі мастацкая, а і літаратурна-крытычная) можа служыць выдатнай школай майстэрства. Яго артыкулы вельмі выразна раскрываюць сутнасць пісьменніцкай працы, спецыфіку мастацкай творчасці.

Заслугоўваюць таксама пільнай увагі выказванні пісьменніка аб прынцыпах і арганізацыйных формах выхаваўчай работы з маладымі. Найбольш поўна гэтыя пытанні асвятляюцца ім у артыкулах «Пра планаванасць працы» і «Працу з кадрамі — у творчы план».

К. Чорны гаварыў, што выхаванне маладых пісьменнікаў неабходна весці «ў філасофскім плане». Гэтую думку ён паўтараў вельмі часта. Што-ж, канкрэтна, меў ён на ўвазе, калі пісаў «аб філасофскім плане» работы з маладымі аўтарамі? У артыкуле «Працу з кадрамі — у творчы план» ён так растлумачыў сваю думку: «гэта значыць у плане станаўлення марксісцка-ленінскага светапогляду маладога пісьменніка». І тут-жа дадаў: «Без гэтага наш аўтар не навучыцца майстэрству» *.

Галоўным у творчай вучобе моладзі К. Чорны лічыў авалоданне марксісцка-ленінскім светапоглядам. Чытаючы рукапісы, а таксама надрукаваныя апавяданні і нарысы пачынаючых, ён пераканаўся, што іх аўтары звычайна спыняюць сваю ўвагу на адным якім-небудзь канкрэтным жыццёвым факце і не бачаць рознастайных сувязей гэтага факту з падзеямі «за заводам, за калгасам», не ўмеюць «канцэнтраваць падзеі з шырокага круга ў адзін пункт». Гэта прыводзіла да таго, што нярэдка замест іх апавяданняў, напісаных, здавалася-б, на самыя актуальныя тэмы, складалі дробязныя, выпадковыя з'явы, якія не маглі даць сапраўднага ўяўлення аб савецкай рэчаіснасці.

«Сыры матэрыял», — называў такія творы К. Чорны. Натуралістычная падача фактаў, пісаў ён, «яшчэ не ёсць літаратурная творчасць». Між тым у многіх творах пачынаючых іменна так паказваюцца жыццёвыя з'явы, а гэта, на думку К. Чорнага, ідзе ад няспеласці светапогляду аўтараў. Некаторыя з іх часам і нядрэнна ведаюць асобныя факты з жыцця свайго калгаса ці завода, але не ўмеюць як след асэнсаваць іх, раскрыць рэальныя сувязі вядомых ім з'яў з тым, што адбываецца ва ўсёй краіне. К. Чорны выразна бачыў гэты істотны недахоп творчасці маладых аўтараў і настойліва раіў ім вывучаць жыццё. У яго артыкулах не раз падкрэслівалася думка, што толькі той пісьменнік здольны глыбока разабрацца ў складаных працэсах рэчаіснасці і правільна адлюстраваць іх, які добра валодае марксісцка-ленінскай тэорыяй.

Няспеласць светапогляду, няўменне самастойна аналізаваць жыццёвыя з'явы і ўзаемадачыненні людзей штурхаюць частку пачынаючых на шлях літаратуршчыны, сляпога пераймання гатовых творчых прыёмаў. З гэтай прычыны некаторыя з маладых імкнуцца, як зазначыў К. Чорны, «падаваць самы матэрыял без усялякага творчага вымыслу, без творчае фантазіі». На сваім уласным вопыце ён пераканаўся, што мастацкасць твора, вобразы і нават фармальныя прыёмы непасрэдна залежаць ад светапогляду аўтара. Сустрэўшы ў апавяданні аднаго пачынаючага вобраз: «дрэва, як сваха, якая прыбралася на вяселле», К. Чорны прыгадаў, што і сам ён на пачатку творчага шляху, калі яшчэ не меў ясных, сталых поглядаў на жыццё, часамі захапляўся вось такімі штучнымі аздабленнямі.

Пісьменнік абавязан глыбока асэнсоўваць з'явы, раскрываць унутраныя заканамернасці іх развіцця, бачыць у рэчаіснасці самае істотнае. Інакш ён не зможа

* К. Чорны. Збор твораў у шасці тамах, т. VI, стар. 257.

ўзняцца да ўзроўню патрабаванняў жыцця, не зможа выявіць думкі і імкненні грамадства. А дзеля гэтага трэба навучыцца абагульняць падзеі, рабіць філасофскія вывады з шырокага кола фактаў і грамадскіх з'яў.

Падкрэсліваючы першаступеннае значэнне для пісьменніка цвёрдых марксісцка-ленінскіх перакананняў, К. Чорны пісаў: «Па -мойму, работу з маладым аўтарам трэба пачынаць з таго, што ўжо з самага пачатку ставіць перад ім праблемы творчага вымыслу, творчай фантазіі» *. Там, дзе няма аўтарскага «філасофскага дачынення да рэчаіснасці», няма, на яго думку, і мастацтва. І як далёка ад разумення сапраўдных задач выхавання пісьменніцкай моладзі стаяць тыя крытыкі, якія ў нядаўніх сваіх артыкулах імкнуліся пераканаць пачынаючых аўтараў, што ім трэба вучыцца майстэрству на ўзорах фармалістычнай паэзіі, і ўзнімалі на шчыт бяздумныя, «прыгожа» зробленыя строфы і радкі. Увесь шматгадовы вопыт савецкай літаратуры красамоўна сведчыць, што занядбанне яе ідэйных прынцыпаў, захапленне слоўным штукарствам уяўных «наватараў», далёкіх ад рэальнага жыцця народа, нічога, акрамя шкоды, не прыносіць пісьменніку. Вядома таксама, што нельга стаць майстрам слова, не авалодаўшы літаратурнай тэхнікай, багаццем творчых прыёмаў. Але-ж нельга і ператвараць гэта ў нейкую самамэту. Авалоданне майстэрствам, сцвярджаў К. Чорны, «ні ў якім разе не павінна адрывацца ад працы над глыбокім зместам» твора.

Не так цяжка адчуць, як удумліва і патрабавальна падыходзіў К. Чорны да выхавання пісьменніцкіх кадраў, наколькі блізкай была яму гэтая справа. Яго аднолькава цікавілі і творчыя, і арганізацыйныя моманты ў рабоце з пачынаючымі. Гэтую работу ён лічыў не якойсьці асобнай галіной дзейнасці Саюза пісьменнікаў, а неадлучнай часткай усяго працэсу развіцця літаратуры. «Уласна кажучы,—зазначаў ён,—я выразна не бачу той мяжы, па адзін бок якое стала-б праца з маладым аўтарам, а па другі—творчая работа самога пісьменніка» **.

Пісьменнік вучыцца на працягу ўсяго жыцця. Нават на адну хвіліну не могуць спыніцца яго творчыя пошукі. І як нельга аддзяліць яго ўласную вучобу ад працы над новымі творамі, гэтак-жа немагчыма аддзяліць выхаваўчую работу з маладымі ад усёй творчай дзейнасці пісьменніцкага калектыву.

«У гэтай кожнадзённай вучэбнай рабоце,—пісаў К. Чорны,—павінна канцэнтравацца практыка ўсяго актыву савецкіх пісьменнікаў. Гэта павінна быць адна лінія работы на адным вялікім фронце, на якім расстаўлены і «старыя», і «маладыя» пісьменнікі, і пісьменнікі з творчай практыкай, і пісьменнікі пачынаючыя ***.

Вялікае значэнне надаваў К. Чорны арганізацыйным формам работы з пачынаючымі. У той час, як і цяпер, існавала шырокая сетка літаратурных гурткоў. Ніколькі не прымяншаючы іх ролі, К. Чорны ўсё-ж лічыў, што асноўная ўвага Саюза пісьменнікаў павінна скіроўвацца не на арганізацыю гурткоў, а на жывую, непасрэдную выхаваўчую працу вопытных пісьменнікаў з моладдзю. Сам ён чытанне рукапісаў пачынаючых разглядаў як частку ўласнай творчай дзейнасці.

Асабістая сувязь гэтага выдатнага мастака слова з многімі маладымі празаікамі плённа ўплывала на фармаванне іх літаратурных поглядаў, стылю, творчых індывідуальнасцей. Парады, якія даваў ён, напрыклад, Ус. Краўчанку, калі разглядаў яго апавяданні ў дакладзе на Усебеларускім злёце літгурткоўцаў (1934 г.) і ў артыкуле «Пра вучобу і творчасць пачынаючых», спрыялі выяўленню лепшых якасцей стылю гэтага пісьменніка. Заўважыўшы ў першых творах маладога празаіка «ўмельства насычаць мову тонкім гумарам, перадаваць гумар гнуткасцю мовы», К. Чорны раіў яму і далей развіваць гэтую якасць. Ус. Краўчанка ўлічыў параду. У яго апавяданнях заўсёды адчуваецца той прывабны, незласлівы гумар, які падабаўся Чорнаму.

Ёсць у К. Чорнага артыкул «Вялікая і малая тэма». Напісаны ён быў спецыяльна для маладых пісьменнікаў і друкаваўся ў часопісе «Заклік», вакол якога ў пачатку 30-х гадоў групавалася літаратурная моладзь. Цікавы гэты артыкул перш за ўсё сваёй канкрэтнасцю.

Складаную праблему вырашэння ідэйна-мастацкага замыслу ў творы К. Чорны разгледзеў у гранічна зразумелай і павучальнай для маладых пісьменнікаў форме. На прыкладзе свайго апавядання «Брыгадзірава памылка» ён паказаў, як у працэсе напісання твора паступова разгортваўся аўтарскі замысел. К. Чорны ўвёў маладых пісьменнікаў у сваю творчую лабараторыю, раскрыў ім некаторыя асаблівасці сваёй працы над мастацкай дэталлю. Артыкул знаёміць з тым, як выбіраў аўтар матэрыял для апавядання, якія з выкарыстаных у творы факты ён бачыў у жыцці, а якія «выдумаў» сам, у адпаведнасці з характарамі герояў.

Не ўсё з таго, што гаварылася на касцікавым двары ўвечары, калі дзялілі мануфактуру, трапіла ў апавяданне. Твор

* К. Чорны. Збор твораў у шасці тамах, т. VI, стар 256.
** Там-жа, стар. 257.
*** Там-жа.

пісаўся, як зазначыў К. Чорны, «наконт справы з паркалёвай хусткай, дык ён узяў толькі тое, што круцілася вакол гэтае справы». Каб паўней ахарактарызаваць, напрыклад, Уладзю Гельскага, пісьменнік прыдумаў справу з квасам на сенажаці. Хтосьці прынёс на сенажаць біклагу квасу, і Уладзя «ніштавата пацягнуў з біклагі разам з усімі». А пасля прабурчаў, каб усе пачулі: «От, каб квасу, канешне! А вады з-пад гнілое крыніцы не хочаш?!» Прыдуманы эпізод вельмі арганічна вынікае з таго, што вядома было да гэтага пра Уладзю, і таму, чытаючы апавяданне, ніхто не падумае, што Гельскі не мог так паступіць. Гэта ўжо «рэальны» факт.

Расказаўшы аб тым, якім чынам паркалёвая хустка дасталася спачатку брыгадзіравай Галене, хоць тая і не хадзіла на поле, і як потым брыгадзір Косцік Раўтовіч, зразумеўшы сваю памылку, сам аднёс гэтую хустку Марылі, К. Чорны вырашыў «малую тэму» пра дзяльбу мануфактуры. «Але,—піша ён,—не скончылася справа з чалавечымі вобразамі, з тымі **вялікімі прычынамі**, якія вымушалі людзей рабіць **малыя справы** (падкрэслена аўтарам.—**Я. К.**), калі ў брыгадзіравым двары спрачаліся за паркалёвую хустку» *.

У артыкуле падрабязна прасочваецца працэс асэнсавання пісьменнікам некаторых нязначных, на першы погляд, учынкаў герояў. У першай частцы твора, дзе малюецца сцэна дзяльбы мануфактуры, ёсць некалькі вельмі характэрных і глыбокіх па сэнсу дэталей. На іх і спыніў увагу аўтар артыкула. Есіп Катлубайскі, напрыклад, калі ўгаворваў Косціка, каб яго жонка ўзяла хустку, «падаўся наперад гэтулькі, каб яго добра заўважыў сам брыгадзір Косцік Раўтовіч. Але і не нагэтулькі ён вылез наперад, каб вельмі аддзяліцца ад натоўпу. Усё было зроблена неўзаметку і ў меру». Пра косцікаву хату ў апавяданні напісана: «Газоўка ледзьве асвятляла гэтую старую, трухлявую, чорную, як склеп, хаціну».

Дэталі гэтыя самі па сабе шмат гавораць аб людзях, пра якіх пісаў К. Чорны, трапна характарызуюць іх. Але пісьменніка цікавілі ў першую чаргу тыя «вялікія прычыны, якія вымушалі людзей рабіць малыя справы». Чаму такі няшчыры, хітры чалавек Есіп Катлубайскі? Волечка назвала яго «пахлебнікам», і гэтае слова выдатна выяўляе сутнасць характару Есіпа. Ён і стараецца падлізацца да брыгадзіра, і ў той-жа час не хоча, каб астатнія калгаснікі заўважылі гэта. Навошта было і Косціку Раўтовічу вельмі паказваць перад людзьмі сваю стараннасць, калі ён пасля дзяльбы мануфактуры «сумысля і без патрэбы пайшоў гэткі заклапочаны на калгасны двор»?

Каб правільна ацаніць і растлумачыць учынкі чалавека, каб глыбока пазнаць яго якасці, трэба ведаць усё яго жыццё. «Кожная чалавечая якасць, — кажа К. Чорны,—пазнаецца з яго дзейнасці» **.

Працуючы над апавяданнем «Брыгадзірава памылка», пісьменнік старанна вывучаў жыццё людзей, якія сталі прататыпамі для стварэння вобразаў Есіпа Катлубайскага, Косціка Раўтовіча, Уладзі Гельскага. Зазіраючы ва ўчарашні дзень гэтых людзей, ён па-новаму ўбачыў і іх цяперашнія ўчынкі. Ці мог, напрыклад, быць інакшым Есіп Катлубайскі, гэты «тып гаротніка», бацька якога, такі-ж, як і ён, гаротнік, калісьці разбіў каменем галаву суседу за тры калівы тытунёвай расады? А якое магло быць ранейшае жыццё ў Косціка Раўтовіча, калі яго хаціна мела такі выгляд?

Гэтыя людзі толькі пачыналі жыць пасапраўднаму ў калгасе (апавяданне напісана ў 1933 годзе) і, зразумела, не паспелі яшчэ вызваліцца ад псіхалагічнай спадчыны мінулага.

А Уладзя Гельскі? Эпізод з калгасніцай Рывай, якой Гельскі сказаў ісці не на той палетак, куды ёй трэба было, звесткі пра ранейшае яго гандлярства (у хаўрусе з Пракопам Кірбуцем ён меў у мястэчку «ні то крамку, ні то «піцейную кантору») і іншыя дэталі прымушаюць па-другому глянуць на гэтага чалавека. Высвятляецца, што Гельскі «з самай вясны стараўся пасварыць калгаснікаў аднаго з адным». Гэта не проста «бурклівы смяхун», як магло здавацца ў эпізодзе з паркалёваю хусткаю, а хітры вораг, кулак.

Зазіраючы ў мінулае герояў, прыгадваючы некаторыя факты з іх ранейшага жыцця і асэнсоўваючы гэтыя факты ў сувязі з падзеямі таго часу, К. Чорны ўсё шырэй і шырэй разгортваў тэму апавядання. Малая тэма пра дзяльбу мануфактуры перарасла ў вялікую тэму сялянства, яго лёсу і гістарычных шляхоў і, такім чынам, выйшла за межы апавядання. «Перад намі,—піша аўтар,—працэс жыцця, наш замысел накіроўвае нашу ўвагу на гістарычную абумоўленасць жыццёвых падзей, чалавечых учынкаў, чалавечых вобразаў».

Артыкул «Вялікая і малая тэма» пралівае святло на некаторыя вельмі важныя моманты з творчай практыкі К. Чорнага. Паказваючы маладым пісьменнікам, якім шляхам вырашаўся аўтарскі замысел у апавяданні «Брыгадзірава па-

* К. Чорны. Збор твораў у шасці тамах, т. VI, стар. 266.
** Там-жа, стар. 267.

мылка», як шырока можна разгарнуць тэму гэтага твора, якія пласты гістарычнага жыцця можна ўзняць, калі зазірнуць у глыб часу, К. Чорны знаёміў чытача з самім працэсам філасофскага асэнсавання рэчаіснасці, з працэсам стварэння вобразаў. У артыкуле закрануты такія важнейшыя праблемы пісьменніцкай творчасці, як спосабы тыпізацыі з'яў рэчаіснасці, шматграннасць чалавечых характараў, роля аўтарскага вымыслу, фантазіі ў стварэнні рэалістычнай карціны жыцця і інш. Гэтыя праблемы глыбока цікавілі К. Чорнага. Грунтоўнае выра-шэнне яны атрымалі ў такіх яго літаратуразнаўчых працах, як «Рэальная шматграннасць і філасофскае адзінства», «Заўвагі пра драматургію», «Вучоба і творчасць пачынаючых літаратараў», «Рэальнасць, фантазія, вымысел» і інш.

К. Чорны гаварыў, што пісьменнік толькі тады дасць значны твор, калі ён «будзе ісці ад рэальнага разумення свету».

На адным і тым-жа матэрыяле можна пабудаваць звычайную маленькую замалёўку, дзе будуць занатоўвацца толькі некаторыя жыццёвыя з'явы, і можна «разгарнуць найвялікшае літаратурнае палотнішча», «даць вялікія карціны жыцця цэлае грамады». Маладыя аўтары часцей за ўсё пішуць замалёўкі, пакуль не навучацца канцэнтраваць матэрыял, асэнсоўваць падзеі, раскрываць шматгранныя сувязі адной з'явы з мноствам другіх. Каб даць у творы мастацкую карціну жыцця, «патрэбна, сцвярджаў К. Чорны, апроч фактычнага матэрыялу, яшчэ фантазія аўтара». Толькі фантазія можа «з'еднаць у адно стройнае цэлае матэрыял з розных пунктаў чалавечай дзейнасці».

У прамове на першым Усесаюзным з'ездзе пісьменнікаў «Рэальнасць, фантазія, вымысел» К. Чорны з асаблівай сілай падкрэсліў значэнне творчага асэнсавання матэрыялу. Для пісьменніка важна не толькі ўмець заўважаць, выбіраць характэрныя факты ў жыцці, а і самому ствараць «рэальныя магчымыя падзеі» на аснове пазнаных законаў рэчаіснасці.

«Мы павінны заўсёды займацца збіраннем рыс, — пісаў ён. — Рысы ўдарніка, напрыклад, павінны быць сабраны з усёй краіны; гэтыя рэальныя рысы павінны прайсці праз мастацкі вымысел аўтара. Толькі ў такім выпадку мы дамо месца рабоце мастака» *.

Крыху раней гэтую-ж думку К. Чорны разгорнута выказаў у артыкуле «Некалькі заўваг да вучобы пачынаючых пісьменнікаў»:

«Я думаю, што ў маладога аўтара трэба будзіць і развіваць творчую фантазію, накіроўваць яго на мастацкі вымысел. Гэты вымысел — рэальны вымысел. І сутнасць яго ў тым, што аўтар падае з'явы, стварае вобразы — характэрныя і тыповыя, але сабраныя не з аднаго толькі завода ці калгаса, а сканцэнтраваныя ў творы з самага шырокага круга. Пры гэтым — факты самыя цікавыя і характэрныя. Аўтар выходзіць за межы свайго толькі завода і калгаса, ён у сваім мысленні стварае падзеі, канцэнтруе іх у вузел. Гэтыя падзеі маюць сваіх прататыпаў у жыцці, або калі не маюць дакладнага свайго прататыпа, ці калі аўтар не бачыў яго, дык усё-ж гэтыя падзеі ёсць рэальныя. Гэта значыць, што на аснове законаў жыцця, руху, развіцця грамадства, на аснове законаў свету — яны могуць быць» **.

Так К. Чорны падводзіў маладых пісьменнікаў да разумення самой сутнасці літаратурнай творчасці. «Творчасць — гэта не ёсць умелая падача гатовага матэрыялу. Творчасць — гэтаператварэнне матэрыялу ў новыя якасці», — пісаў ён ***.

Пытанні творчай вучобы, авалодання пісьменніцкім майстэрствам К. Чорны разглядаў надзвычай шырока. Само майстэрства ён не зводзіў да сумы голых фармальных прыёмаў і тэхнічных навыкаў, як гэта часамі наглядаецца ў крытычных артыкулах. Гаворачы аб майстэрстве, ён меў на ўвазе, у першую чаргу, уменне ствараць характары, тыпы, маляваць рэалістычную карціну жыцця і ўжо ў залежнасці ад гэтага разглядаў мастацкія і стылявыя прыёмы. Мы-б глыбока памыліліся, калі-б на гэтай падставе зрабілі вывад, быццам К. Чорны ў нейкай меры недаацэньваў пытанні літаратурнай тэхнікі, мастацкай формы. Наадварот, у сваёй уласнай творчай практыцы і ў літаратуразнаўчых артыкулах ён надаваў вялікае значэнне форме твора, усім яе элементам. Мала хто з нашых празаікаў так старанна працаваў над словам, сюжэтам, кампазіцыяй, над дэталямі кампанентаў твора, як К. Чорны. Яго апавяданні, аповесці і раманы вызначаюцца гарманічным адзінствам зместу і формы. Пісьменнік дамагаўся, каб з твора «нельга было ні выкінуць самай найменшай сітуацыі, фразы і слова, ні каб нельга было нічога гэтага дадаць» ****.

* К. Чорны. Збор твораў у шасці тамах, т. VI, стар. 299.
** Газета «Літаратура і мастацтва» ад 16 лютага 1934 г.
*** К. Чорны. Збор твораў у шасці тамах, т. VI, стар. 299.
**** Там-жа, стар. 239.

Працу над мастацкай формай, літаратурную тэхніку К. Чорны ставіў у непасрэдную залежнасць ад працы над зместам твора. Гэта сведчыць аб яго глыбокім разуменні асноўных патрабаванняў метаду социялістычнага рэалізма, сутнасці і прызначэння совецкай літаратуры.

«Пытанне сюжэтнасці, — пісаў К. Чорны, — пытанне тыпізацыі герояў, пытанне дыферэнцыяцыі мовы па героях — цесна звязана са зместам пытання фантазіі — мастацкага вымыслу» *.

Не выпадкова ён любіў паўтараць думку, што цікава, займальна пабудаваць твор зможа толькі той аўтар, у якога ёсць што сказаць чытачу, у якога вялікі запас уражанняў аб жыцці і людзях. «Мы не павінны корпацца ў маленькім, нецікавым, — гаварыў ён на першым пашыраным Пленуме аргкамітэта ССП Беларусі ў сакавіку 1933 года.— Мы павінны рабіць вялікія абагульненні і мы аб гэтым добра ведаем» **.

У артыкулах, напісаных спецыяльна для пачынаючых, К. Чорны заўсёды спыняў увагу на самых карэнных пытаннях творчага майстэрства, вучыў маладых пісьменнікаў «мысліць у сваёй рабоце ў вялікіх маштабах». Як гэта непадобна на той вузкі практыцызм у выхаванні літаратурнай моладзі, які вызначыўся ў нас у апошні час. Аўтары многіх артыкулаў і рэцэнзій на першыя зборнікі паэтаў і празаікаў па сутнасці водзяць пальцам па радках паасобных вершаў і апавяданняў і паказваюць, які радок варта было-б паправіць, якое слова лепш было-б замяніць другім. Нярэдка і на семінарах маладых пісьменнікаў іменна так разглядаюцца іх творы. І гэтым, вядома, трэба займацца. Аднак мала карысці прынясе такая вучоба маладым пісьменнікам, калі перад імі адначасова не будуць ставіцца вялікія ідэйна-творчыя задачы. А вось К. Чорны не баяўся рабіць гэта. Ён верыў у здольнасці літаратурнай моладзі і накіроўваў яе на шлях самастойных творчых пошукаў, будзіў яе думку, творчае ўяўленне. У каго былі «крупінкі таленту», той добра разумеў яго патрабаванні. У каго-ж іх няма, таму не дапамогуць і самыя канкрэтныя парады, як паправіць той ці іншы радок або слова.

К. Чорны вучыў маладых шанаваць высокае званне совецкага пісьменніка, глыбока пазнаваць жыццё, клапаціцца аб змесце і форме сваіх твораў, нястомна шукаць свой уласны стыль. Яго думкі і нагляданні аб працы над словам, аб народных вытоках мовы мастацкага твора, аб рознастайнасці і шматграннасці творчых стыляў і пісьменніцкіх індывідуальнасцей прынясуць вялікую карысць усім, хто ідзе ў літаратуру.

Чалавекам вялікай душы называюць у нас К. Чорнага. Такім ён і ўвайшоў у свядомасць народа. Выдатны празаік і драматург, ён бязмежна любіў родную літаратуру і дбаў аб яе будучыні, радаваўся яе поспехам. Шчыра і шчодра дзяліўся ён з маладзейшымі літаратарамі сваім багатым творчым вопытам. Вось чаму не толькі пісьменнікі, якім К. Чорны асабіста дапамог на першых кроках, а і тыя, што пачалі пісаць пасля яго смерці, з удзячнасцю называюць яго сваім настаўнікам, дарадчыкам і другам.



---

* К. Чорны. Збор твораў у шасці тамах, т. VI, стар. 276.

** Газета «Літаратура і мастацтва» ад 19 сакавіка 1933 г.

**Сяргей СЕЛІХАНАЎ**

# ТРЫ МЕСЯЦЫ ПАДАРОЖЖА І ПРАЦЫ Ў КІТАІ

**Малюнкі аўтара.**

Станцыя Адпор — апошні прыпынак на нашай савецкай зямлі. За плячыма засталіся многія тысячы кіламетраў ад Мінска, цераз Маскву, па неабсяжных прасторах нашай Радзімы. І калі цягнік крануўся, праз пятнаццаць хвілін мы зноў прыпыніліся, але ўжо за мяжою, на кітайскай станцыі Манчжурыя.

Ёсць у кожнага чалавека нейкае асаблівае, нават невымоўнае пачуццё, якое апаноўвае яго, калі ён пакідае родную зямлю. Развітаўшыся з ёю, у цябе паяўляецца вострае адчуванне новага і незнаёмага. Нават паветра здаецца іншым. І гэта натуральна, бо ўсё тут зусім непадобнае на тое, да чаго ты прывык. А таму хочацца перадаць хоць асобныя, даволі няпоўныя, але ўсхваляваныя ўражанні ад бачанага ў гарадах і вёсках гэтай суседняй, сяброўскай, магутнай і цудоўнай краіны.

Першае і, бадай, характэрнае для ўсіх уражанняў было адно відовішча, якое мы ўбачылі хутка пасля пераезду граніцы. Наш цягнік спыніўся на адной невялічкай станцыі. Непадалёк ад чыгункі ўзвышалася велізарная скала, азораная ружовым святлом сонца, якое павольна ўзнімалася над сопкамі Манчжурыі. Угледзеўшыся на скалу, мы заўважылі, што яна нібыта варушыцца... І сапраўды было так. Дзесяткі соцень людзей, як мурашкі, абляпілі яе. Здабываючы матэрыял на будоўлю, яны дзяўблі кіркамі і скідалі ўніз вострыя аскабалкі камення. Ля падножжа скалы яны складалі іх у кучы — штабялі. Адвечная каменная глыба ніжэла, раставала. Асабліва прыкметны быў нейкі выключна жывы тэмп работы. Дружна працавалі ўсе. Мне гэта запомнілася назаўсёды; відовішча стаіць перад маімі вачыма, калі я ўспамінаю працалюбівы і дружны кітайскі народ.

Прыехаўшы ў Пекін, дзе нас ветліва спаткалі нашы сябры і гаспадары, і адпачыўшы крыху, мы першым чынам накіраваліся на цэнтральную плошчу сталіцы Кітайскай Народнай Рэспублікі. Трэба прызнацца, што плошча Цяньаньмынь нечым нагадвае нашу Красную плошчу ў Маскве, асабліва ноччу.

На вуліцах Пекіна ўвечары бывае ціха. Шпацыруючай публікі мы не ўбачылі, нягледзячы на тое, што была якраз нядзеля. Нам насустрач траплялíся людзі, якія, відаць, спяшаліся на работу. Адны з іх былі на веласіпедах, другія — спыняліся на прыпынках трамвая. Увогуле, поўнае ўяўленне працоўных будняў вялікага горада.

Паглядзеўшы цэнтр Пекіна, мы пачалі раіцца між сабою, як нам з найбольшай карысцю выкарыстаць свае 90 дзён, каб як мага глыбей пазнаёміцца з жыццём кітайскага народа, усё пабачыць, пра ўсё распытаць.

Нас прыехала пяць чалавек. Мэта нашай паездкі была не якаянебудзь турысцкая, а творчая. На руках мелі творчыя камандзіроўкі. Натуральна, што разам з вялікім жаданнем, як можна больш пабачыць, у кожнага расло імкненне як мага больш зрабіць у сваёй галіне мастацтва, каб, вярнуўшыся дадому, паказаць хоць у нейкай ступені жыццё і людзей братняга нам Кітая. Вырашыць гэтае пытанне дапамаглі нашы пекінскія сябры, чый клопат і ўвагу адчувалі мы ў далейшым на працягу ўсяго вялікага падарожжа па краіне, ад Пекіна да Юліна.

Склаўшы падрабязны план і вызначыўшы маршрут, мы, не трацячы дарэмна і дня, прыступілі да справы.

Ёсць у Пекіне нямала гістарычных помнікаў. Агледзець усё мы не змаглі. Аднак важнейшыя, у прыватнасці былы імператарскі парк Бэйхай, мы наведалі ў першую чаргу.

Было халоднае ветранае надвор'е. Зіма, дзе-б яна ні наставала, была зімою. Замёрзлая сажалка. Бязлістыя дрэвы... І ўсё-ж вялікі даўні парк зачараваў нас сваімі загадкавымі таямніцамі, прыгажосцю, што была створана ў далёкім мінулым, сваімі цудоўнымі павільёнамі, што гарманіравалі з рэльефам мясцовасці. Глыбы камення, якія ляжалі тут з незапамятных часоў, былі выкарыстаны так, што выконвалі і дэкаратыўную ролю і адначасова служылі шматлікімі прыступкамі. Усё гэта ўспрымалася як натуральнае збудаванне самой прыроды дзеля людскога прытулку. Вонкава як-быццам і не прыкмячалася рука чалавека, а разам з тым гэта была праца чалавечага генія многіх стагоддзяў.

Гара з манументальнай вежай Бэйхай, якая завяршае ўсю прыгажосць парка, высока ўзнімаецца над зямлёю, з яе можна глядзець на ўвесь Пекін. На гэтай гары цэлы лабірынт лесвіц, пячор, пля-



Пекін. Плошча Цяньаньмынь.

цовак, упрыгожаных філіграннай тонкасці арнаментам на мармуры, каляровай керамікай! І ўсё гэта — у яркіх фарбах: чырвонай, зялёнай. Надзвычай цікавай з'яўляецца Сцяна дзевяці драконаў, дзе размалявана бойка гэтых драконаў. Помнік зроблен з глазіраванай каляровай керамікі.

Парк і возера Бэйхай цяпер з'яўляецца найлепшым, любімым месцам адпачынку працоўных сталіцы, дзе налічваецца больш трох мільёнаў жыхароў. Летам тут плавае мноства лодак, а зімою — люстраны каток.

Ва ўсходняй густа населенай частцы Пекіна знаходзіцца наступны гістарычны помнік, сусветна вядомы Храм Неба. Ён быў пабудаваны ў 1420 годзе ў часы дынастыі Мін, а ў сярэдзіне XVIII стагоддзя, пры дынастыі Цын, ён быў разбудаваны і павялічаны. Набліжаючыся да яго, здаецца, што храм не надта ўжо велічны. Толькі вызначаецца сілуэтамі сваёй круглай пабудовы. Усе збудаванні тут круглыя. Гэта ад таго, што даўнія продкі Кітая мелі старажытнае ўяўленне: «Неба — круглае, а зямля — квадратная».

Калі мы па прыступках узняліся на выбрукаваную каменнымі плітамі алею, якая мае метраў дзвесце даўжыні і метраў трыццаць шырыні, мы былі ўражаны геніяльным па архітэктурнай планіроўцы ансамблем. Тут няма нічога лішняга. Па абодвух даўжэзных баках алеі стаяць манументальныя аркі, за якімі, калі пайсці ў адзін канец алеі, выйдзеш на ўзвышша з круглай пляцоўкай. Ярусы, што акружаюць яе, абкладзены мармурам. Тут, узышоўшы на цэнтр «круга-цуда», сапраўды можна ўявіць цуд. Стоячы на мармуровай пліце і вымаўляючы словы, вы чуеце і адчуваеце, як яно імчыцца бясконца далёка, не так як рэха ў лесе, а нібыта гук яго ўзмацняецца дзесьці ў вас пад нагамі і штосьці прымушае слова гучаць таямнічай, не да зямлі, а ўгору ўзнімаючай сілай. Цудоўны неразгаданы рэзананс! На гэтае месца мог калісьці станавіцца толькі адзін імператар і нібыта размаўляць з небам, як намеснік бога на зямлі.

На другім супрацьлеглым канцы алеі — храм. Перад уваходам у яго таксама круглая пляцоўка дыяметрам метраў восемдзесят і абнесеная сцяною вышынёю каля трох метраў. Паабапал сцен знаходзяцца адзін насупраць другога два невялікія павільёны. Досыць зусім ціхенька вымавіць што-небудзь, стоячы каля сцяны, як на процілеглым баку ўсё выразна чуваць. Так у мінулым імператар мог падслухоўваць размовы сваіх прыбліжаных.

Цяпер гэтыя калісьці збудаваныя таленавітымі сынамі Кітая помнікі і запаветныя месцы даступны для ўсіх. І як радасна бачыць тут простых людзей — рабочых і сялян, дзядоў барадатых і піонераў, якія з захапленнем разглядаюць усё, ступаючы на некалі забароненыя мармуровыя пліты, слухаць, як яны на ўвесь голас самі «размаўляюць з небам», размаўляюць са сваімі сябрамі-наведвальнікамі.

Аддаўшы некалькі першых дзён азнаямленню са славутымі мясцінамі Пекіна, мне найхутчэй хацелася сустрэцца, як кажуць, з братамі па зброі, са скульптарамі. І такое спатканне здарылася. Гэта было на плошчы Цяньаньмынь. Яшчэ ў першы вечар, праязджаючы тут, я звярнуў увагу на высокі абеліск, пакуль што абнесены плотам. Зараз мне паказалі тут усю кіпучую работу вялікага калектыву скульптараў, архітэктараў, гранітчыкаў, рабочых. Усе працавалі надта старанна. Гэта ўзводзіцца помнік у гонар вызвалення Кітая. Ён павінен грандыёзна дапаўняць ансамбль плошчы. І сапраўды, гэтае архітэк-

турнае збудаванне будзе арганічна ўплятацца ў стыль старажытнай архітэктуры. А разам з тым, тут вызначаюцца элементы новага як у дэталях форм, так і ў скульптуры з васьмі барэльефаў, дзе адлюстравана гісторыя барацьбы кітайскага народа, пачынаючы з Тайпінскага паўстання 1840 года і канчаючы 1949 годам, калі гераічны кітайскі народ пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі заваяваў сабе волю.

Народны ўрад Кітая клапатліва ставіцца да ўвекавечання памяці барацьбітоў, якія аддалі жыццё за ўсеагульнае шчасце. Кіраўнік усіх работ на будаўніцтве манумента расказаў, што для праектавання былі прыцягнуты лепшыя сілы скульптараў і архітэктараў. У выніку доўгіх пошукаў быў зацверджаны праект калектыву вопытных і маладых майстроў на чале з прафесарам-скульптарам Лю Кай-чы. Таварыш Лю Кай-чы і вядзе гэтую работу, якая зараз толькі разгарнулася, дзе для таленту маладых архітэктараў і скульптараў Кітая ёсць поўны размах. Трэба адзначыць, што ўжо прыкметны контуры гэтага выдатнага манумента.

Тут-жа, на плошчы, прайшоўшы галоўныя вароты, я наведаў былы зімні палац імператара, а цяпер так званы музей «Гугун».

Музей «Гугун» — гэта цэлы ансамбль палацаў. Усе збудаванні яго складаюцца з двух асноўных частак: унутранай і знешняй. Палацы, размешчаныя ў знешняй частцы, прызначаліся для дзяржаўных перагавораў і прыдворных цырыманіялаў. Ва ўнутранай жыў імператар і яго сям'я. Яшчэ глыбей знаходзіўся імператарскі сад. У гэтым садзе няма ніводнага квадратнага сантыметра плошчы, над якім не папрацавала-б чалавечая думка. Старанныя рабочыя рукі ператварылі ўвесь сад у казачны рай.

Праўда, не зусім казачным было жыццё жонак імператара, якіх па закону яму належала мець аж семдзесят дзве. Тут вузкія праходы між двух сцен, маленькі дворык з калодзежам і адным-двума кусцікамі раслін, ды каменная спальня. Вось і ўсё жыццё няшчаснай пад аховай грознага вартавога з мячом.

На заходнім баку палацаў «Гугун» над Пекінам узвышаецца гара, якая ад падножжа да верхняй пясчынкі насыпана чалавечымі рукамі. Гэтыя гістарычныя месцы і помнікі шматвяковай культуры Кітая пасля вызвалення Пекіна з-пад рэжыму Чан Кай-шы ўзяты народнай уладай пад ахову і старанны догляд.

У сталіцы Кітайскай Народнай Рэспублікі нам трэба было пабываць яшчэ ў шмат якіх рэдкіх месцах згодна выпрацаванага намі плана, але з-за недахопу часу сёе-тое даводзілася абмінаць, прапускаць. Амаль кожны дзень мы былі поўнасцю заняты. Але, калі нам прапанавалі наведаць домік-музей выдатнага кітайскага мастака Сюй Бэй-хуна, мы адразу-ж, пакінуўшы свае карандашы, фарбы і стэкі, адправіліся ў дарогу.

Імя Сюй Бэй-хуна даўно вядома ў нас, у Совецкім Саюзе. Яшчэ ў 1934 годзе ён прыязджаў у Маскву, і тады, як адзін з першых сучасных кітайскіх мастакоў, завязаў моцную дружбу двух народаў у галіне мастацтва. Да апошніх дзён жыцця ён сваімі шматлікімі палотнамі змагаўся за мір ва ўсім свеце. Сюй Бэй-хун быў дэлегатам Варшаўскага кангрэса абаронцаў міру. Характэрнае для творчасці выдатнага мастака тое, што ён, у дасканаласці валодаючы прыёмамі майстэрства кітайскага нацыянальнага жывапісу «гохуа», бліскуча маляваў прыроду, жывёлу, асабліва віртуёзна — коней у розных паваро-

тах і рухах, у апошні-ж перыяд шмат папрацаваў над стварэннем вобраза чалавека. Работа, якая засталася ў яго майстэрні на мальберце, — гэта распачаты партрэт Лу Сіня. Сюй Бэй-хун па праву з'яўляецца гонарам кітайскіх мастакоў, традыцыі якога будуць развіваць далей майстры жывапісу новага Кітая.

Мы наведалі Цэнтральны мастацкі інстытут і азнаёміліся з работамі студэнтаў. Тут у нас адбылася цікавая сустрэча з прафесарамі і выкладчыкамі інстытута. Прысутнічала каля пяцідзесяці чалавек. Гаворка была доўгая і шчырая. Трэба адзначыць, што кітайскія мастакі вельмі цікавяцца жыццём і творчай працай нашых савецкіх мастакоў. Кожнае слова, кожную навінку аб нашым айчынным мастацтве, што мы расказвалі, яны выслухалі з выключнай увагаю.

Надта жывая гутарка была на тэму, як мы ставіліся да кітайскага нацыянальнага жывапісу «гохуа». «Гохуа» — гэта жывапіс тушшу і вадзянымі фарбамі на паперы або на тонкім шоўку. Асобая тэхніка, матэрыял і інструменты, якімі карысталіся кітайскія мастакі на працягу многіх стагоддзяў, вызначылі своеасаблівы стыль жывапісу. Каліграфічнасць і мяккасць размываў тушы, лаканізм і падрабязнасць у дэталях знайшлі сваё развіццё ў розных творах і розных мастацкіх школах Кітая.

Жывапіс маслам для кітайскіх мастакоў таксама не новая справа. У мінулым некаторыя з іх прайшлі школу ў Еўропе і Амерыцы. Аднак жывапіс маслам не меў шырокага распаўсюджання. І вось, нейкі час у крытычных артыкулах паасобных мастацтвазнаўцаў былі памылкі ў вызначэнні кірунку развіцця выяўленчага мастацтва, была дапушчана залішняя арыентацыя на так званы «еўрапейскі — масляны жывапіс», а свой нацыянальны «гохуа» замоўчваўся. Пасля 8-га з'езда Компартыі Кітая, пасля абвяшчэння прынцыпу «няхай цвітуць усе кветкі, няхай спаборнічаюць усе вучоныя» наступіў вялікі размах усіх жанраў нацыянальнай культуры і ў тым ліку нацыянальнага жывапісу. Каштоўная спадчына «гохуа» была як належыць успрынята мастакамі новага Кітая. Яно даходлівае і зразумелае народу, і народ сваіх лепшых майстроў ведае, любіць і цэніць. Натуральна, што мы выказалі сваё захапленне жывапісам «гохуа», як вялікім дасягненнем нацыянальнай культуры, і пажадалі мастакам яшчэ глыбейшага адлюстравання будаўніцтва новага жыцця ў краіне сродкамі гэтага мастацтва.

Што датычыцца жывапісу маслам, то ў цяперашні час у мастацкіх навучальных установах Пекіна, Ханчжоў і іншых гарадах у гэтым жанры падрыхтоўваюцца маладыя кадры. Сярод тых, каго мы бачылі, ёсць надта шмат таленавітай моладзі, і можна з упэўненасцю сказаць, што ў недалёкім будучым паявяцца новыя імёны і ў гэтай галіне.

Вялікай радасцю для нас была сустрэча з сусветнавядомым мастаком Цы Бай-шы, пабачыць якога мы хацелі з самага пачатку прыезду. У Саюзе мастакоў мы разглядалі яго выстаўку, успамінаючы ўсё аб ім напісанае, нам хацелася адразу спаткацца з Цы Бай-шы, але кітайскія таварышы пачалі нам расказваць пра стан здароўя мастака. Не дзіва, яму ўжо споўнілася 97 год.

Нарэшце нам паведамілі, што Цы Бай-шы можа нас прыняць. Нашы машыны спыніліся каля чырвоных варот на тыповым для Пекіна вузкім завулку з цёмнашэрымі цаглянымі паабапал сценамі. Прайшлі адзін маленькі дво-

рык, пераступілі парог круглых варот у сцяне і апынуліся на другім дворыку, залітым яркім ранішнім сонцам. Тут стаіць некалькі бязлістых дрэўцаў. Кітайская зіма,— як наша позняя восень. І вось перад намі яшчэ адна сцяна, зашклёная, з чырвонымі дзвярамі ў кватэру Цы Байшы.

Першым нас спаткаў сын Цы Бай-шы са сваёй жонкай. Яны правялі нас у светлы пакой, дзе мы ўбачылі круглы накрыты стол, расстаўленыя крэслы. Печка паліцца. І Цы Бай-шы сядзіць тутжа на крэсле. Але ён спіць... Мы неяк разгубіліся. Стаім, маўчым. Аббыўшыся, зразумелі — сын яго нам растлумачыў: Цы Бай-шы даўно чакае нас. Чакаў, чакаў і задрамаў... Старэчыя гады! Аднак з выгляду ён быў нібы паглынуты нейкай глыбокай задуменнасцю. Магчыма, што гэта і было так.

Калі Цы Бай-шы адкрыў вочы, ён абвёў усіх нас доўгім позіркам. Яму дапамаглі падняцца, і тады вочы яго заіскрыліся. Ён ажывіўся. Позірк стаў пранікнёны, востры.

Падняўшыся, ён у адказ на наша прывітанне сказаў, што сам горача вітае Савецкі Саюз, сказаў, што ён вельмі састарыўся і чамусьці, мабыць, думаючы пра нашу краіну, запытаўся: колькі кіламетраў да Масквы? Размова стала шчырай. Карэспандэнт «Огонька» тав. Мержанаў М. І. папрасіў у Цы Бай-шы навагодняе віншаванне, якое, памятаеце, і было надрукавана ў першым нумары часопіса.

Потым Цы Бай-шы запрасіў усіх на чай, і нас, хто тым часам захапіўся накідамі карандашом абстаноўкі ў пакоі вялікага мастака і яго самога, паклікалі да стала. Цяжка было адмаўляцца, ды гэта гасцінны звычай ва ўсіх кітайскіх сяброў.

Сустрэча была памятнай. Мы сфатаграфаваліся з Цы Бай-шы. Развітаўшыся, усе накіраваліся да выхаду і тут здарыўся хвалюючы момант, якога я не забуду ніколі. Дзевяностасямігадовы стары ўстаў з крэсла, падышоў да расчыненых дзвярэй і па-бацькоўску на развітанне памахаў нам услед рукою...

Знаёмства з культурным жыццём сталіцы адбывалася паволі, але з кожным днём усё шырэй і шырэй. Так, аднойчы мы пайшлі па кнігарнях, і ў магазіне замежнай літаратуры я з прыемным гонарам убачыў на паліцах кнігі Якуба Коласа і Янкі Брыля. Тут можна было знайсці ўсе навінкі нашай савецкай літаратуры, якімі надта цікавяцца ў брацкім Кітаі.

Аднак не меншай пашанай карыстаецца і свая айчынная літаратура. Гэта мы адчулі, будучы ў музеі Лу Сіня. Прыкладна так, як у нас гучыць імя заснавальніка сацыялістычнага рэалізма, пралетарскага пісьменніка Максіма Горкага, так там гучыць імя Лу Сіня, як сцяг новай літаратуры.

Павільён-музей Лу Сіня пабудаваны і адкрыты зусім нядаўна. У прасторных і светлых залах наведвальнікі знаёмяцца з жыццём



Пагада ў Сучжоў.

і дзейнасцю свайго выдатнага пісьменніка-рэвалюцыянера, які доўгі час правёў у падполлі. Вядома, што Лу Сінь быў вельмі сціплым у жыцці. Гэта відаць адразу, калі наведвальнікі заходзяць у пярэднюю яго кватэры, такую маленькую, што чатыром чалавекам нельга павярнуцца. І тут-жа ў пярэдняй: рукамыйнік, люстэрачка, невялікі столік, крэсла, адзежная вешалка. Праз тры крокі — уваход у рабочы кабінет, дзе была і спальня пісьменніка. У нашым уяўленні рабочы кабінет і спальня не ўкладваецца з тым, што мы бачылі. Стол з пісьмовымі прыладамі, плеценае крэсла і побач амаль палову ўсяе прасторы займае пасцель — два казлы, на іх дошкі, а на дошках тонкі матрац, накрыты пакрывалам. На сценах вісяць чатыры малюнкі, якія падаравалі пісьменніку яго сябры-мастакі.

Налева з пярэдняй — другі пакойчык — бібліятэка, застаўленая сцелажамі, забітымі зверху да нізу рознымі кнігамі.

Направа — пакойчык, дзе жылі жонка з сынам.

З дворыка можна трапіць яшчэ ў два пакойчыкі, дзе Лу Сінь сустракаўся з маладымі літаратарамі, вёў з імі доўгія гутаркі, вучобу. У іншых выпадках тут ён хаваў рэвалюцыянераў ад паліцыі. Так жыў і працаваў Лу Сінь у перыяд з 1924 па 1926 гг.

Цяпер сюды прыходзяць шматлікія наведвальнікі, чытачы вялікага пісьменніка.

Наша знаёмства са сцэнічным мастацтвам сталіцы адбылося ў двух тэатрах — Пекінскай оперы і Маладзёжным тэатры. Маладзёжны тэатр — гэта драматычны нядаўна створаны тэатр, які развіваецца ў рэалістычным кірунку. Тэатр Пекінскай оперы, старэйшы ў краіне, мае вялікую гісторыю. Не так даўно ў Мінску была на гастролях Шаасінская опера, якую наш глядач ведае і помніць. Тэатр Пекінскай оперы мала чым адрозніваецца ад Шаасінскай оперы. Мы прысутнічалі ў тэатры ў той час, калі на сцэне паказваліся невялікія пастаноўкі з класічнага рэпертуару: «Нефрытавы бранзалет» і «Выпадак у гасцініцы на скрыжаванні дарог». Нашы перакладчыкі самі вельмі захапляліся тым, што адбывалася на сцэне, а мы і не турбавалі іх, бо выключна пластычнае выкананне артыстаў было зразумелым для ўсіх. Ход падзеі быў зразумелы. Касцюмы, грым, маскі — усё было цікавым і захапляючым. Мы амаль, як і ўсе гледачы, хваляваліся за герояў. Уся перапоўненая зала надзвычай бурна рэагавала. Трэба сказаць, што такі гарачы прыём з боку гледача мы заўважылі ва ўсіх кітайскіх тэатрах, дзе мы бывалі. Гэта сведчыць і аб растучым культурным узроўні публікі, якая не пакідае ніводнага вольнага месца ў зале тэатраў, а таксама і аб папулярным майстэрскім выкананні артыстаў. Ніякай «броні» ў касах тэатраў мы не бачылі. Сядзелі ўсе без адбору і на першых і на апошніх радах, ад кіруючых таварышаў да простых рабочых і сялян. Кажучы яшчэ аб звычаях, якія бытуюць у кітайскіх тэатрах, павінен успомніць такі факт. Як толькі мы ўвайшлі ў вестыбюль Маладзёжнага тэатра, то пачалі шукаць гардэроб. У гардэробе мы заўважылі прылавак, дзе гардэробшчык адначасова прадаваў розныя кандытарскія вырабы. І тут, між іншым, нас папярэдзілі, каб мы ні ў якім выпадку не плацілі за паслугу. Гэта будзе ўспрынята, як крыўда. Ды гэта ніхто і не возьме. І так ва ўсіх грамадскіх месцах, ва ўсім Пекіне, ва ўсіх гарадах. З 1952 года па ўсёй краіне была праведзена ўсенародная кампанія па барацьбе з хабарніцтвам. Пры гэтым адналька-

ва караліся як тыя, хто дае, так і тыя, хто бярэ. Вынікі відавочныя — хабараў няма.

У адзін з вечароў мы былі запрошаны на канцэрт. Кітайскія спевакі выконвалі кітайскія, рускія, заходнееўрапейскія творы, у тым ліку М. Глінкі, П. Чайкоўскага, Э. Грыга. І што надзвычайна: канцэрт закончыўся выкананнем беларускай «Перапёлачкі». Мяне адразу за тысячы кіламетраў перакінула да роднага краю, калі я слухаў гэтую нашу народную мелодыю.

Хутка мы павінны былі выехаць з Пекіна. Усё бачанае пакідала незабыўны след. Як гарачы прыхільнік сваёй галіны мастацтва, я павінен прызнацца, што на мяне зрабілі вялікае ўражанне наведванні палацаў і старажытных храмаў горада. У іх найбольш поўна праявіўся ўвесь геній кітайскіх майстроў і ў архітэктуры, і ў скульптуры, і ў жывапісе. Тут можна меркаваць і аб стылявых асаблівасцях розных эпох гісторыі Кітая, якія накладвалі свае адбіткі на багатую шматвяковую культуру.

Які цудоўны храм «Біюнсы» на ўскраіне Пекіна! Гэты храм называецца храмам пяцісот будаў. Калі ідзеш анфіладай, то ты бачыш 500 скульптур вучняў буды. Уся гэтая галерэя скульптур пакрыта золатам. І характэрна, што кожная фігура буды, адна ля адной, выканана ва ўмоўнай стылізаванай манеры, у сядзячай позе, у адных памерах, дзе нават трактоўка паасобных частак твару, напрыклад вуха, аднолькавая, павароту галавы ўбок няма. І разам з гэтым яны ўсе розныя і па руху, і па выразу аблічча. Прычым, усе твары з выразам дабраты, але кожны непаўторна, пасвойму выказвае ўнутраны стан.

Дарэчы, у гэтым храме знаходзіцца срэбраная труна, прысланая з Масквы ў 1925 годзе для пахавання Сун Ят-сена. Аднак яна была прывезена з вялікім спазненнем і зараз захоўваецца як гістарычная рэліквія.

А храм «Вофосы»! Па сваіх памерах ён значна меншы, але нібыта з'яўляецца завяршэннем ідэі першага. Тут няма статуй вучняў буды. Затое ў храме знаходзіцца Спячы буда. Ён усё пазнаў, усё пасцігнуў! Гэта велізарная, ляжачая, пакрытая золатам фігура з валасамі ў глыбокім сінім кобальце і са смарагдам на ілбе.

Павінен адзначыць, гаворачы пра храмы, што некаторыя з іх ахоўваюцца як гістарычныя помнікі, а некаторыя дзейнічаюць, пры іх ёсць манахі, якія спаўняюць рэлігійныя намалебствы. Такім храмам-палацам з'яўляецца «Юнхэгун». У «Юнхэгуне» на ўзвышшы ёсць два крэслы, якія прызначаны на выпадак прыезду ў храм Далай-ламы і Панчэн-ламы. У час адсутнасці на крэслах выстаўлены іх фота. У гэтым храме мы бачылі намалебства манахаў. Падышлі. На нізенькай лавачцы сядзяць шэсць хлопчыкаў, апранутых у жоўтыя халаты. Яны слухаюць малітву ламы. Угледзеўшы нас, яны ажывіліся. Адзін нават стаў грымасы рабіць свайму сябру, які сядзеў насупраць. Гэта будучыя ламы... З аднаго памяшкання мы пачулі гул, які нагадваў манатонны звон працуючай дынамамашыны. Зайшлі. Чалавек шэсць лам, апранутых у чырвоныя шоўкавыя мантыі, і дванаццаць падлеткаў у жоўтых халатах хто



Вёска пад Нанкінам.

басам, хто дыскантам, без слоў, неяк нудна гулі. Па асобным знаку, які зрабіў старэйшы лама, усе надзелі капелюшы і, хутка ўстаўшы, накіраваліся да сваіх жылых памяшканняў.

За два тыдні жыцця і працы ў Пекіне мы прывыклі да горада. Усюды, дзе мы ні бывалі, бачылі энтузіязм у працы і шчырасць пачуццяў у адносінах да нас, як прадстаўнікоў Совецкага Саюза. Так, надта запомніўся адзін дзень паездкі ў дзяржаўную гаспадарку за 20 кілометраў ад Пекіна.

Калі мы сабраліся ў дарогу, падняўся моцны вецер. Яго парывы ўзнімалі цэлыя хмары пылу і пяску. Зіма, а снегу — няма, толькі мароз. Такая пекінская пясчаная мяцеліца збівае з ног людзей на дарозе, якія па-аднаму, групамі брыдуць у горад. Рыкшы на веласіпедах выбіліся з сіл. Перавальваючыся з аднаго боку на другі, з усяе моцы ціснуць нагамі на педалі веласіпедаў. Некаторыя ўжо змарыліся і вядуць машыны за руль. Хто вязе вугаль, хто — будаўнічыя матэрыялы, тару з-пад грузаў, велізарныя цюкі. Усё па дарозе рухаецца, нягледзячы на страшэнны сівер. Наглядаючы за ўсім, міжволі пранікаешся вялікім пачуццём да простых працаўнікоў на гэтых дарогах.

У дзяржаўнай гаспадарцы нас спаткалі традыцыйным кітайскім чаем. За сталом у нас завязалася ажыўленая гаворка з сельскімі працаўнікамі. Нам паказалі цяпліцы, дзе вырошчваюць памідоры, агуркі і іншую гародніну. Мы бачылі кватэры рабочых, дзе жывуць сем'і, і інтэрнаты, дзе жывуць нежанатыя. Шмат чаго ў быту рабочых яшчэ нестае, аднак, нягледзячы на тое, што гаспадарка арганізавана зусім нядаўна, прыбытак з кожным днём расце і расце. Калектыўная праца ўсім падабаецца. Сваю гаспадарку ўсе любяць.

Пекін мы пакінулі 14 снежня і згодна вызначанаму плану выехалі ў Нанкін. Позна ўвечары развіталіся са сваімі сябрамі, і цягнік нас памчаў на поўдзень.

Нанкін, былая сталіца Кітая, таксама горад з вялікай шматвяковай гісторыяй. Для гэтага горада характэрны больш спакойны рытм жыцця. Тут роўныя і шырокія вуліцы. Будынкі маюць у асноўным шэры колер. У архітэктуры няма рэзкіх кантрастаў. Рака Янцзы паклала вялікі адбітак на працу жыхароў гэтага горада. Калі мы выйшлі на прыстань ракі, цераз якую плылі на велізарным пароме, дзе змясціўся ўвесь цягнік, нас здзівіла безліч джонак (лодак) каля берагоў, а таксама на хвалях. Яны снавалі ў розных напрамках і нават пад вялікімі ветразямі.

У горадзе шмат кулі, якія выконваюць цяжкую работу па перавозцы саматугам рознай паклажы. Калі мне давялося ляпіць скульптуру кулі, у размове я выказаў сваё спачуванне яго непасільнай рабоце. Ён мне адказаў, што яго лепшай марай з'яўляецца той час, калі ў Кітаі не будзе гэтых калясак-самакатак. І бадзёра дадаў, што гэты час настане.

Сапраўды, ужо ў Кітаі пушчаны першы ў краіне аўтамабільны завод. Ён выпускае свае айчынныя машыны. Можна з упэўненасцю сказаць, што спадзяванні кулі збудуцца. Гэты час не за гарамі.

У адным з нанкінскіх тэатраў мы глядзелі драму «Малітва аб шчасці» па матывах Лу Сіня. Гэты спектакль расказвае пра цяжкі лёс сялянскай беднаты да вызвалення. Сёння гэта глядзіцца як мінулае. І цяперашні кулі, безумоўна, ставіцца да свае работы, як да часовай з'явы. Яму цяжка, але ён ганарыцца за сваю працу; ён добра ведае — сёння перанесены і пакладзены камень стварае

падмурак, на якім будзе пабудавана шчасце яго і яго дзяцей.

З гістарычных помнікаў Нанкіна мы агледзелі старажытны храм Лін-чу і Мінскія магілы.

Пагада Лін-чу выклікае захапленне наведвальніка сваёй дасканаласцю будаўнічай тэхнікі. Збудавана яна больш за трыста год таму назад з бетону, а ў сценах не знойдзеш ніводнай расколіны. Вышыня яе 75 метраў. Унутры маецца вінтавая лесвіца, і з вышыні пагады адкрываецца неабсяжны гарысты ландшафт, дзе месцамі блішчыць, як люстра, Янцзы.

Мінскія магілы — гэта авеяныя сівой мінуўшчынай, напоўразбураныя магілы часоў дынастыі Мін, якая існавала ў XIII — XVII стагоддзях. У тую пару надзвычай шмат аддавалі ўвагі скульптурнаму афармленню дарог. Едзеш — і па абочынах шматкілометравай дарогі выглядаюць аграмадзіны, высечаныя з камення. Нярэдка гэтыя фігуры стаяць проста ў чыстым полі, на ўзараных сялянскіх землях. Яны зроблены ў выглядзе, галоўным чынам, жывёл: сланоў, вярблюдаў, коней, дзікіх звяроў, чарапах і фантастычных страшыдлаў. Трапляюцца скульптуры ў выглядзе чалавека. Яны сімвалізуюць воінаў і рэлігійных мудрацоў. Некаторыя з іх ужо разбураюцца. Але, дзякуючы клопатам народнай улады, зараз вядуцца рэстаўрацыйныя работы па захаванню гэтых каштоўных помнікаў гісторыі.

Мы наведалі маўзалей, дзе пахаваны Сун Ят-сен.

У Нанкіне мы агледзелі выстаўку мясцовых мастакоў. Большасць работ была выканана ў стылі «гохуа», хоць былі таксама масляны жывапіс, акварэлі і гравюры. Трэба адзначыць віртуёзнае майстэрства кітайскіх мастакоў асабліва ў маляванні прыроды. У гутарцы з імі мы падзяліліся сваімі ўражаннямі. Калі ў Пекіне мы яшчэ маглі паказаць кітайскім сябрам толькі фота і рэпрадукцыі сваіх ранейшых работ, то ўжо ў Нанкіне мы паказалі сваю новую працу, выкананую за першыя тыдні падарожжа. Мы прыслухоўваліся да іх вельмі каштоўных заўваг. Нярэдка нашы сябры таксама бралі карандашы, пэндзлі і працавалі побач.



Сельскі кааператыў «Сунла» пад Кантонам.

Асабліва плённымі былі для мяне дні прабывання ў Шанхаі. Мяне апанаваў працавіты настрой. Калі ў Пекіне мы ўсе, а я ў прыватнасці, быццам не змаглі зрабіць усяго, што хацелася, то цяпер для мяне ўжо ўсё было зразумелым: што трэба зрабіць і дзе нагнаць прапушчанае. Вядома, мы там шмат захапляліся экскурсіямі, знаёмствам з новай краінай і неяк не маглі сабрацца з думкамі, не было мэтанакіраванасці ў рабоце. Цяпер-жа мы наладзілі творчую атмасферу. У Шанхаі ўся наша група за рэдкім выключэннем упарта працавала з ранку да позняга вечара. Мне адвялі месца ў майстэрні, дзе было яшчэ восем маладых кітайскіх скульптараў, і там я працаваў на працягу трох тыдняў. За гэты час мы здружыліся, дзелячыся сваімі меркаваннямі пры рабоце і так у гутарцы. Тут я вылепіў партрэты: пісьменнікаў Ба Цзіня — славутага сучаснага пісьменніка Кітая, сябра Лу Сіня, драматурга Шэн Сі-фу, крытыка-літаратуразнаўцу Тан Тао — аднаго з вучняў Лу Сіня; вядомых



Кантон. Пагада.

артыстаў: Цзао Тана, Бай Ян, Юан Се-фын; героя працы КНР — Фан По-мэя. Я зрабіў некалькі эцюдаў, партрэтаў на ўвесь рост.

Забягаючы наперад, скажу, што перад маім ад'ездам з Шанхая ў майстэрні каля гэтых работ сабраліся ўсе пералічаныя таварышы. Гэта была своеасаблівая, непасрэдная творчая сустрэча, якая мяне і ўсіх надта ўсхвалявала. На развітанне мы разам сфатаграфаваліся.

Наогул, у Шанхаі мы завязалі моцную дружбу з тутэйшымі мастакамі. У горадзе налічваецца вялікі калектыў работнікаў выяўленчага мастацтва. У нас было некалькі сустрэч і гутарак з імі. У час адной з іх, напрыклад, мастакі «гохуа» прадэманстравалі нам прыёмы работы тэхнікай «гохуа». Калектыўна намаляваўшы некалькі работ, яны падпісалі і падаравалі гэта кожнаму з нас на памяць.

Мы былі запрошаны ў майстэрню мастака прафесара Лю Кай Су. Гаспадар прыняў нас вельмі цёпла. Ён прайшоў еўрапейскую школу і працуе маслам. Мастак умее ярка перадаць каларыт пейзажа розных месцаў Кітая.

У час аднае сустрэчы мясцовыя мастакі наладзілі невялікую выстаўку, якая дала нам уяўленне аб living разнастайнасці і мастакоў, і почаркаў, і жанраў, у якіх яны працуюць. Мастакі Шанхая часта сустракаюцца з прадстаўнікамі сваёй прафесіі з розных канцоў свету. Аб гэтым красамоўна гавораць экспанаты, развешаныя на сценах і на стэндах у зале Саюза мастакоў.

Горад і людзі, з якімі давялося сустракацца, разам працаваць, пакінулі надта сардэчнае ўражанне. Само жыццё Шанхая — невычэрпная крыніца натхнення і творчасці.

Шанхай — самы вялікі, шматлюдны горад краіны. Мы прыплылі да яго на параходзе па Янцзы. Шырокую, як вокам акінуць, Янцзы, дзе яна ўпадае у Жоўтае мора, мы пакінулі, параход павярнуў направа, і па каналу Вампу мы пачалі набліжацца да горада. Насустрач нам усё часцей сталі трапляцца джонкі з велізарнымі ветразямі, параходы і кацеры. На пад'ездзе да Шанхая джонкі і параходы запоўнілі ўвесь канал. Яшчэ здалёк мы заўважылі сцяну дыму над фабрычнымі комінамі і сілуэты небаскробаў.

Па архітэктуры горада выразна відаць тое, як жылі ў раскошных асабняках багацеі, заморскія імперыялісты, і як жыў просты люд у вузенькіх бітком набітых вулачках і завулках. Асабліва характэрны ў гэтых адносінах раён «Чапей». Нездарма да вызвалення ён славіўся сваімі рэвалюцыйнымі выступленнямі. Тут згуртавалася рабочая бедната.

Цяпер, вядома, не тое. Там, дзе калісьці кітайцу забаранялася нават прайсці, зараз у асабняках жывуць тыя, хто будаваў гэтыя

прыгожыя будынкі, рабочыя шанхайскіх фабрык і заводаў, а дансінгі і атэлі ператвораны ў памяшканні культуры. Людзі сталі гаспадарамі свайго горада, свайго жыцця. Яны строга стаяць на ахове заваяваных рэволюцыяй парадкаў і не дазваляюць нікому іх парушаць.

Нам расказвалі такі цікавы выпадак. Прыехалі ў Шанхай японцы і некаторыя з іх па старой памяці надумаліся «павесяліцца». Загадалі рыкшу везці іх у такое месца, дзе можна пазабаўляцца. Рыкша выслухаў японцаў, пасадзіў іх у каляску і адвёз... у аддзяленне паліцыі.

Калісьці для заморскіх каланізатараў Шанхай быў горадам экзатычных забаў.

Сёння Шанхай жыве новым жыццём. Мы бачылі новабудоўлі ў рабочых кварталах, бачылі, як займаюцца ў школах дзеці, а таксама і дарослыя, ліквідоўваючы сваю непісьменнасць. Мы размаўлялі з імі, зрабілі малюнкі маладой настаўніцы, якая працуе ў школе дарослых. Яна вырасла ў гэтым бедным асяроддзі, але цяпер мае вышэйшую адукацыю і навучае другіх.

У горадзе нямнога зялёных насаджэнняў, а там, дзе яны ёсць, старанна ахоўваюцца жыхарамі. Гэта, уласна кажучы, характэрна не толькі для Шанхая, а для ўсяго народа. Вы нідзе не ўбачыце, каб нават дзеці дазволілі сабе сарваць лісцік на дрэўцы або хто-небудзь наступіў нагой на газон кветак. Нідзе гэтага не заўважыш. У кітайцаў з маленства прывучаюць дзяцей любіць прыроду і працу. Адтаго яны такія працавітыя і гаспадарлівыя на кожным шматку зямлі.

Горад Шанхай прачынаецца рана. Калі едзеш ноччу па вуліцах, нярэдка можна ўбачыць палаючыя вогнішчы, дымныя кухні. Гэта гатуюць снеданне к заўтрашняму дню. Усходзіць сонца, і абуджаецца рабочы горад.

Вельмі прыемна было наглядаць ранішнюю гімнастыку, асабліва на ўзбярэжнай Вампу. Фізкультура, як залог здароўя, зрабілася масавай. У раннюю пару ды і днём можна было наглядаць групы людзей, па два — тры чалавекі і адзіночак, якія займаліся фіззарадкай. Кітайская фіззарадка адрозніваецца ад нашай тым, што яна больш пластычная.

У Шанхаі мы спаткалі новы 1957 год. Мы былі надта ўдзячны нашым сябрам, шанхайскім мастакам, якія падзяліліся з намі гэтай святочнай радасцю. І хоць на пяць гадзін раней, чым у нас на Радзіме, мы дружна ўзнялі навагодні тост і выпілі «гам бэй» да дна. У Шанхаі мы пабывалі ў тэатры, у кіно. Асабліва спадабаўся нам кітайскі цырк.

Аднаго разу, у перапынку ад работы, шанхайскія сябры прапанавалі нам экскурсію ў суседні невялікі гарадок — Сучжоў. «Невялікі» гэта ў параўнанні з Шанхаем, бо насельніцтва Сучжоў налічвае каля 600 тысяч чалавек. Гісторыя горада векавая, ён заснаваны больш 2500 год таму назад. Чымсьці ён падобны на Шанхай. Толькі вуліцы тут значна вузей, а народу ад гэтага здаецца яшчэ больш. Горад спаласаваны нешырокімі, а ў асобных выпадках двух — трохмятровай шырыні каналамі. Над імі цесна стоўпіліся будынкі. Па каналах бесперапынку снуюць джонкі. Галоўная магістраль — канал Сучжоў злучаецца ў Шанхаі з каналам Вампу. У Сучжоў яна нагадвае доўгі кірмаш, нібыта вуліца забіта павозкамі. Толькі гэта не павозкі, а джонкі на вадзе, нагружаныя саломай і іншым скарбам, які прывезлі ў горад з акаляючых сёл. Сучжоў славуты саматужнымі

вырабамі. Галоўныя з іх — веперы з сандалавага дрэва, вышыўкі на шоўку. Вышыўка тут надзвычай тонкай работы. Так, напрыклад, вышыванне на адным квадратным метры шоўку робіцца 2—3 жанчынамі на працягу цэлага года. Але ўжо кожная работа літаральна з'яўляецца ўнікальнай. Тут ёсць шмат майстроў—рэзчыкаў па дрэву і слановай косці.

Сучжоў яшчэ вядомы тым, што ў часы Тайпінскага паўстання тут знаходзіўся штаб народных паўстанцаў. Ён стаіць у садзе-парку і нагадвае ў мініятуры пекінскі парк-палац. Так знарок яго пабудаваў сабе калісьці адзін прыдворны саноўнік.

З Шанхая маршрут наш ляжаў на Ханчжоў.

Ханчжоў — вядомы сваёй прыгажосцю горад. Гэта жывапісны куток на кітайскай зямлі. Стаіць горад на поўднёвым узбярэжжы ракі Янцзы. У народзе здаўна гавораць: «На небе — рай, а на зямлі — Ханчжоў». Разбудаваўся горад на ўскраіне раўніннай мясцовасці. Сваёй захапляючай і своеасаблівай прыгажосцю Ханчжоў штогод сустракае звыш мільёна людзей, якія прыязджаюць сюды на адпачынак або на экскурсію.

Клімат тут сярэдні, вільготны. Гэта ўжо добры поўдзень. Аднак на другі дзень, як мы прыехалі, пайшоў снег. А снег тут рэдкая з'ява. Праўда, ён падаў і тут-жа раставаў. Назаўтра ўсталявалася цёплая спакойная пагода.

Спыніўшыся ў гасцініцы «Інтурыст», мы зрабілі падарожжа па гораду і яго ўскраінах. Цесна прымыкаючы да гандлёвага раёна горада, прасціраецца на захад ціхае і спакойнае возера Сіху плошчаю каля 5—6 квадратных кілометраў. Яго абступілі горныя хрыбты, а на ўзбярэжжы Сіху мноства цудоўных садоў-паркаў. У гарах сярод магутных вечназялёных кедраў, кіпарысаў і стройных бамбукаў узвышаюцца пагады, храмы, павільёны, альтанкі і нядаўна пабудаваныя санаторыі. Ханчжоў ператвараецца ў горад-курорт.

Акрамя маляўнічага ландшафту, створанага возерам і горнымі ланцугамі з трох бакоў, тут прыцягваюць увагу і захапляюць людзей велічныя старажытныя храмы і манастыры, кумірні і маўзалеі герояў і паэтаў даўніх часоў, крынічная вада крыштальнай чысціні, глыбокія горныя пячоры, цудоўныя сцежкі на схілах гор, яры, па якіх цякуць бруістыя ручаі, і, нарэшце, мастацкія работы, зробленыя на высокіх і крутых скалах.

Мы бачылі парк Лятаючая гара, бачылі высечаныя на скале фігуры буды. Яны відаць на далёкай адлегласці.

Храмы Ханчжоў, як, напрыклад, храм-манастыр «Уцякаючы тыгр», храм «Вясёлы буда», велізарная пагада Ці Цан, пабудаваная з дрэва, адрозніваюцца ад тых храмаў, якія мы бачылі, яшчэ большай жывапіснай ігрой архітэктурных ліній. У храмах сустракаюцца вялікія палотны «гохуа» і партрэты заснавальнікаў гэтых збудаванняў.

У Ханчжоў мы былі запрошаны на канцэрт агляду мастацкай самадзейнасці ўсяе правінцыі. Праграма канцэрта была вялікая. Нам асабліва спадабаўся танец чарапашак з крабам, два танцы з драконамі, сола на флейце і нацыянальны аркестр. Радасна, што ў кітайскага народа такія вялікія магчымасці ў праяўленні свайго таленту ва ўсёй яго рознастайнасці.

Двое сутак кур'ерскі цягнік імчаў нас далей і далей на поўдзень. У адрозненне ад поўначы краіны пасля Ханчжоў прыкметна стала гушчыня насельніцтва, часцей пачалі сустракацца населеныя пункты. Гэта прыкметна было і на

апрацоўцы зямлі. Абложных зямель зусім няма. Раўніны і даліны часта змяняліся гарамі. Аднак за доўгія вякі горы ператвораны нібыта ў велізарныя прыступкі-тэрасы. Кожная тэраса падзелена на палоскі заліўных зямель. Чым далей мы ехалі на поўдзень, тым больш траплялася зялёных палеткаў. З акна вагона нашы позіркі ўсё часцей і часцей сустракалі бананавыя пальмы.

Кантон спаткаў нас дваццаціградуснай тэмпературай цяпла. Стаяла такая пагода, як у нас улетку. Па карце горад знаходзіцца на мяжы поўночнага тропіка.

У Кантоне мы ўбачылі яшчэ больш незнаёмага і новага. Тут шмат зеляніны, шумлівыя стракатыя натоўпы людзей на вуліцах. Усё не так, як на поўначы. Ёсць прыкметнае адрозненне нават у абрысах твару. Мы гэта адразу прыкмецілі і маглі лёгка адрозніць кантонца ад пекінца. Па мове таксама, хоць яна і кітайская, але пекінская і кантонская, — гэта дзве зусім розныя па вымаўленню мовы. Так што з двух перакладчыкаў Чэна і Вана, з якімі мы шчыра здружыліся за час падарожжа, у Кантоне ўся нагрузка легла на Чэна. Тут ён калісьці правёў сваё маленства і мог размаўляць з усімі бойка, як кантонец.

Як і ў кожным горадзе, першна-перш мы знаёміліся са славутымі і выдатнымі мясцінамі. Мы наведалі вялікі гістарычны музей. У ім, як звычайна ва ўсіх такіх музеях, першыя аддзелы запоўнены археалогіяй. Аднак апошнія аддзелы нас вельмі зацікавілі дакументальным матэрыялам. Тут сабрана ўсё, што адлюстроўвае гераічную барацьбу кантонцаў з іншаземнымі захопнікамі-каланізатарамі, а таксама з унутранай контррэвалюцыяй. У 1927 годзе здраднік інтарэсаў народа Чан Кай-шы ўтапіў у крыві Кантонскую комуну. Дзесяткі соцень барацьбітоў былі замучаны і расстраляны. І вось, шануючы памяць загінуўшых у барацьбе, народ ставіць ім велічны помнік. Наогул, у кітайцаў ёсць добры звычай, які выхоўваецца змалку, звычай павагі да старэйшых, ушанавання памяці памёршых. Мы былі на тым месцы. Гэта вялікая плошча, у цэнтры якой насыпан вялікі курган. На гэтым кургане будзе пастаўлены мармуровы абеліск, работы над якім завяршаюцца.



Пекін. У парку Бэйхай.

У Кантоне мы былі якраз напярэдадні Свята вясны, якое адзначаюць радасна і весела. Намеснік старшыні кантонскага таварыства культурнай сувязі з заграніцай запрасіў нас да сябе на вячэру. Акрамя гаспадара, гаспадыні і нас, там прысутнічалі яшчэ кантонскія мастакі. Стол быў застаўлены кітайскімі стравамі. Ён нам спадабаўся, аднак гаспадар у пачатку вячэры папрасіў у нас прабачэння за тое, што на стале не будзе смажанай качкі. Яна павінна была быць, але перад святам уладамі горада была вынесена прапанова, каб кіруючыя работнікі не закуплялі ў крамах і на рынку качак, з тым, каб гэтага харчу як мага больш засталося простым людзям.

Вячэра сапраўды прайшла весела і радасна. Нас не падманулі, калі папярэджвалі, што Свята вясны асабліва прыгожа і ўрачыста ўмеюць наладжваць у Кантоне.

Калі мы выйшлі прайсціся, то са здзіўленнем убачылі, што на вячэрніх вуліцах горада плыве бясконцы натоўп. Усе па-святочнаму прыбраныя. Усюды гоман і смех. Асабліва выбух весялосці чуўся там, дзе запальвалі ляскаўкі. Даўнія вынаходцы пораху прыдумалі ляскаўку, запаліўшы якую, чуцен трэск, прычым цэлым струменем выбухаў. Гэта надзвычай пацешна і весела і для малых і для дарослых. То тут, пад нагамі, то ззаду, то наперадзе чулася чарга за чаргою траскатня ляскавак, а потым выбух рогату. Усе ішлі з запаленымі markрознакаляровымі ліхтарыкамі, факеламі. Моладзь у масках, як на маскарадзе. Фейерверкі. Атракцыёны. І доўгія рады, дзе прадавалі кветкі. Рынак кветак! Свята вясны!

Зайшоўшы на адзін з цэнтральных сквераў, дзе была вялікая эстрада, мы анямелі, угледзеўшы, можна сказаць, апафеоз свята — танец дракона. Дракон у кітайцаў — сімвал шчасця, мудрасці. Лепшыя танцоры, майстры гэтай справы, чалавек пятнаццаць выконвалі танец на эстрадзе. Ён патрабуе шмат пачуцця, разумення рытму і ўзаемаразумення, а таксама вялікага фізічнага напружання. Хоць танец выконваецца надта доўга, яго глядзіш увесь час з неаслабнай цікавасцю. Здаецца спачатку, што вельмі абмежаваныя рухі выканаўцаў, аднак гэта толькі першае ўражанне. Прыгледзься, уся група пад пакрывалам дракона выробляе такія замысловатыя рухі, што некаторыя патрабуюць сапраўднай цыркавой акрабатыкі.

Часта на вуліцы чуўся барабан, і пад гэты акампанемент натоўпы вясёлай моладзі праносілі ў паветры павівастага дракона.

У Кантоне вельмі хутка гусцее змрок, а потым наступае світанне. І змрок вечара не такі, як у нас. Паветра нібыта афарбоўваецца чарнілам, і ўзыходзіць вялікі залацісты месяц. Ён асвятляе і без таго жоўтую ваду на рацэ Жамчужнай.

Праз расчыненыя вокны нашай гасцініцы, якая стаіць на беразе Жамчужнай, мы чулі гудкі і звон сігналаў на параходах, гоман насільшчыкаў, якія разгружаюць і нагружаюць трумы параходаў, баржы і джонкі. Тут сотні і тысячы джонак, якія запоўнілі ўсе прыстані на рацэ і каналах, дзе бурліць своеасаблівае працоўнае жыццё, якое заціхае познім вечарам і прабуджаецца рана-рана. Яно прабуджаецца з зычным крыкам газетчыкаў: «Жэньміньжыбао! Жэньміньжыбао!» — назва цэнтральнай газеты Кітая.

Адзенне і будынкі ў Кантоне хутчэй служаць для ўкрыцця ад спёкі, а не ад холаду. Поўдзень! На вуліцах горы мандарынаў, апельсінаў, яблыкаў і рознай садавіны.

Аднаго разу кітайскія сябры запрасілі нас пакаштаваць вядомае на поўдні блюда — «бойка тыгра з драконам». Яны павялі нас у рэстаран, які трымае гаспадар У Ман, або, як яго празвалі кантонцы, Цар гадзюк. У гэтым рэстаране адной з самых каштоўных страў з'яўляецца ежа, прыгатаваная з гадзюкі. Дастаткова сказаць, што кухня за тыдзень выкарыстоўвае ў сярэднім каля 1000 гадзюк. Гэта паведаміў У Ман. Забяспечваюць рэстаран гадзюкамі сяляне. На поўдні ёсць прымаўка: «Вінаваты той, хто не забіў гадзюкі». У вітрынах магазінаў, у клетках мы ўжо бачылі гадзюк, чулі, што іх ядуць, а цяпер і самі парашылі пакаштаваць гэты экзатычны далікатэс. Не меншая цікаўнасць мучыла нас: як гэта робіцца такое блюда на кухні. У Ман загадаў паказаць нам усю сервіроўку. Спачатку прынеслі ў скрынцы ўдава. Ён быў незвычайнай велічыні, нам не здаралася бачыць такога ў заапарках. Потым

прынеслі металёвую клетку, дзе клубком вярцеліся, кішэлі гадзюкі розных парод. Пры нас афіцыянт смела патрашыў нажом гэтых вёрткіх, як уюноў, поўзаючых стварэнняў і выціскаў на сподачак іх жоўць. Жоўць, як сказаў У Ман, мае лекавую ўласцівасць. Яе разбавілі вадой і налілі нам у чаркі...

А праз нейкі час падалі страву, якая называецца «Бойка тыгра з драконам».

Кантон — адзін з буйнейшых прамысловых цэнтраў краіны. Паказчыкам росту прамысловасці яго з'яўляецца хоць-бы папяровая фабрыка. Фабрыка заснавана ў 1933 годзе і да 1949 года на ёй працавала ўсяго толькі 90 чалавек. Цяпер тут працуе 2 500 рабочых. Тут навейшае абсталяванне, ёсць свая электрастанцыя, дзіцячы сад, клуб, сталовая і рэстаран, інтэрнат і кватэры, вячэрняя школа для рабочых і дзяцей. Фабрыка дае восемдзесят тысяч тон гатовай прадукцыі ў год.

Мы правялі адзін дзень у сельскагаспадарчым кааператыве «Сунло». Вялікія перамены адбыліся ў жыцці сялян за два—тры гады, як яны арганізавалі кааператыў. Узначальвае яго былы батрак тав. Чэн Сун. Дзяржава, як ён расказаў нам, дапамагла гаспадарцы набыць буйвалаў, інвентар. Характэрнай асаблівасцю кааперавання ў Кітаі з'яўляецца прынцып абсалютнага добраахвотнага ўступлення і выхаду з кааператыва. Хто не жадае жыць і працаваць, можа выйсці з кааператыва, тут-жа атрымаўшы сваю зямлю і маёмасць, якую ўнёс пры ўступленні. Але такіх «выхадцаў» няма. Сяляне поўнасцю пераканаліся ў перавагах калектыўнага вядзення гаспадаркі. Трэба сказаць, што мінулы год быў неўрадлівы. Здарылася засуха, якой даўно-даўно не было. Пры мінулым рэжыме многія сяляне пайшлі-б па свеце жабраваць, а ў кааператыве «Сунло» нічога падобнага не адбылося. Гледзячы на калектыўнае жыццё сялян, зараз да іх у кааператыў уступілі нават былыя кулакі і памешчыкі.

Гаспадарка становіцца заможнай. У ёй, акрамя асноўнай крыніцы прыбытку ад пасеву рысу, цукровага чароту, яшчэ вялікай падмогай з'яўляецца свінагадоўля, птушкагадоўля, рыбаводства, а таксама садоўніцтва і агародніцтва. Мы наглядалі, як старанна, а гэта значыць з вялікай затратай энергіі, апрацоўваюць кітайскія сяляне сваю зямлю. Сапраўды, як адзін наш кантонскі сябра заўважыў: селянін тут любіць апрацоўваць і ўгнойваць глебу і робіць гэта так, што бярэ яе ў пальцы на вобмацак, нюхае, кладзе ў рот і прабуе языком на смак. Таму тут кожны кавалак зямлі дагледжаны і прыносіць заслужаную ўзнагароду хлебаробу.

Да вызвалення амаль усе на сяле былі непісьменныя. Цяпер навучаюцца ў школе: адны — днём, другія — вечарам, пазменна, тры разы ў тыдзень. Ёсць у кааператыве клуб, дзе раз у тыдзень выступае гурток мастацкай самадзейнасці, два разы бывае кіно, працуе гурток сучасных танцаў. У «Сунло» маецца медыцынскі пункт. Нават гэты няпоўны пералік новых пераўтварэнняў сведчыць аб тых вялікіх зрухах у жыцці кітайскага селяніна, які стаў на шлях сацыялістычнага будаўніцтва. За ўсё гэта ён выказвае вялікую любоў і адданасць сваёй Камуністычнай партыі і падзяку Савецкаму Саюзу за братэрскую дапамогу. У гэтым мы маглі пераканацца сваімі вачыма і не толькі ў кааператыве пад Кантонам.

Мы бачылі багатую дзяржаўную гаспадарку на востраве Хайнань, куды спачатку на машынах ад Кантона, а потым пасажырскім

параходам цераз праліў прыбылі са сваім імклівым жаданнем пабываць на самай поўднёвай зямлі Кітайскай Народнай Рэспублікі.

Там, на Хайнані, гаспадарка шматгалінная. Земляробы культывіруюць плантацыі кофе, чорнага перцу і пахучай травы, перапрацоўваючы якую, здабываюць водарнае масла для парфюмерыі. Кожная пядзя надта ўрадлівай зямлі адваёўваецца на схілах высокіх гор. У дзяржаўнай гаспадарцы маецца каля 20 аўтамашын, і працуе ў ёй каля 5 тысяч чалавек.

Агледзеўшы гаспадарку, зрабіўшы замалёўкі з натуры, мы рушылі далей і ў другой палове дня дасягнулі самага поўднёвага пункта на востраве, прыехалі ў горад і порт Юлін. Поўдзень нас цягнуў да сябе. Была сярэдзіна лютага. Успамінаючы беларускае надвор'е, Мінск, дзе ў гэтую пару лютаваў мароз, мне нават не верылася, што я ў такім цяпле, сярод вечназялёных раслін.

Быў ціхі, як у нас улетку, цёплы вечар. Усё было афарбавана ў ружова-ліловы колер. З невялікай гавані Юліна, якую справа і злева абступалі абрывістыя скалы, відаць быў гарызонт акіяна. Над намі хутка згушчаўся змрок. Вось яшчэ нейкі час зіхацеў акіян, як брыльянт, а потым стаў зліваецца з небасхілам.

Раніцай мы блукалі па беразе, збіраючы на пяску цудоўныя ракавінкі і каменьчыкі. Мы наглядалі, як рыбакі цыравалі сеткі і канапацілі вялікую марскую лодку. Нідзе за час усяго падарожжа мы не трацілі ніводнай магчымасці, каб не замаляваць з натуры. Потым пакупаліся ў акіяне...

...Адсюль, можна сказаць, пачынаўся наш зваротны шлях, шлях дадому.

Цэнтральная дарога вяла нас у глыбіню вострава па крутых гарах, між субтрапічных і трапічных зарасляў. Мы бачылі магутныя дрэвы, здратаваныя ліянамі, а ля падножжа іх ледзь прыкметныя сцежкі. Часамі траплялася ярка-чырвоная дарога, такая ўтаптаная, што машына бегла па ёй, як па асфальту. Па абочыне дарогі ў бамбукавых зараслях рэдка сустракаліся сяляне, абавязкова па два і больш. У гэтых гаях водзіцца шмат драпежнікаў, з якімі адзін на адзін спатыкацца небяспечна. Смагу ад спёкі мы час-адчасу праганялі сокам какосавых арэхаў, якімі на развітанне досыць багата пачаставаў намеснік мэра горада Юліна.

Па дарозе мы праехалі аўтаномную вобласць нацменшасцей мяо і лі. У мінулым асноўныя жыхары вострава народнасці мяо і лі жорстка эксплуатаваліся каланізатарамі. Іх выцяснялі з урадлівых раўнінных зямель узбярэжжа, і яны вымушаны былі пасяляцца ў гарах, на дзікіх аблогах. Цяпер людзі гэтых двух народнасцей уваходзяць роўнапраўнымі членамі ў вялікую шматнацыянальную сям'ю народаў Кітая і будуюць сваё новае жыццё і культуру. Яшчэ ў Кантоне, прысутнічаючы на канцэрце ансамбля песні і танца з вострава Хайнань, мы былі ў захапленні ад самабытнасці, прыгажосці і музычнасці напеваў гэтых невялікіх народнасцей мяо і лі.

У Хайкоў, сеўшы на самалёт, мы вярнуліся ў Кантон. Пры ўсім, што мы цяпер пакідалі ў гэтай цудоўнай краіне, ужо апаноўвала пачуццё канчатковага развітання. Тэрмін нашага падарожжа заканчваўся.

Кантон, які мы наведалі яшчэ раз, пры звароце дадому, запомніўся мне, як горад выдатных майстроў бытавой жанравай керамікі. Можна было толькі захапляцца, наколькі дасканала з пакалення ў пакаленне перадаецца майстэрства лепкі, падчас мікра-

скапічных памераў: людзей, жывёл, птушак і інш. Таму не дзіўна было, калі на вуліцах Кантона я сустракаў людзей, якія, седзячы на тратуары, тут-жа пры ўсіх на віду, за некалькі хвілін вылеплівалі з каляровага рысавага цеста ўсё, што вам захочацца... птушачак, звяркоў, людзей. Прытым у гэтых мініятурах ёсць усё: вочы, нос, рот, вушы і больш таго — пэўны выраз. Нездарма вакол такога майстра абавязкова кішаць гурты дзяцей. Рукі, як у гэтага майстра, падумаў я, сапраўды ствараюць рамяство, якое з'яўляецца часткай нацыянальнай культуры.

Мы заехалі ва Ухань — горад, які стаў вядомы на ўвесь свет будаўніцтвам грандыёзнага маста цераз магутную Янцзы. Упершыню ў гісторыі Кітая два берагі гэтай шырокай, быстрай ракі злучаліся двухпавярховым мастом. Працягласць яго 1670 метраў. Па адным паверсе будзе адбывацца чыгуначны рух, па другім — гужавы і пешаходны. К часу, калі я здаваў у друк гэтыя ўспаміны, радыё прынесла вестку, што ў сувязі з тым, што была ўстаноўлена апошняя стальная ферма на будаўніцтве Вялікага Уханьскага маста цераз Янцзы, быў урачысты мітынг будаўнікоў. Будаўнікі паднеслі савецкім спецыялістам, якія ўдзельнічалі ў збудаванні маста, букеты кветак... Тады, калі мы былі ва Ухані, будаўніцтва было ва ўсім разгары. Мост, сапраўды, будаваў увесь народ. Кожная правінцыя прыслала прадстаўнікоў для ўдзелу ў будаўніцтве. Неяк сімвалічна гучала гэтая справа. Мост злучае тры буйныя прамысловыя гарады Кітая. Мала гэтага. Тут гамінданаўцы не змаглі стрымаць наступу Народна-рэвалюцыйнай арміі, якая фарсіравала раку і нанесла, бадай, рашаючы ўдар здраднікам. А яны акапаліся тут моцна. На левым беразе, дзе стаіць горад Ханькоў, узвышаецца вялікая гара, на якой яшчэ і цяпер разяўлены гамінданаўскія доты. Не лёгка было фарсіраваць. Шырыня ракі неабсяжная, глыбіня ў гэтым месцы дасягае да 50 метраў, і хуткасць плыні вады да трох метраў у секунду. Цяпер тут мост. Ён сведка і доказ таго, што можа зрабіць кітайскі народ. Вельмі хараша сказаў Клімент Ефрэмавіч Варашылаў, наведаўшы будаўніцтва Уханьскага маста ў час сваёй гасціннай паездкі па Кітаю. Ён сказаў: «Мост сапраўды добры. На свеце няма другога такога маста». І калі яму сказалі, што будаўніцтва вялося з дапамогай Савецкага Саюза, К. Е. Варашылаў дадаў: «Такому народу, як кітайскі народ, вельмі прыемна дапамагаць. Памажы яму крышку, ён сам зможа горы перавярнуць» («Дружба», 4 мая 1957 года).

А ў Пекіне была яшчэ зіма.

Нам заставалася некалькі дзён да канца нашай творчай камандзіроўкі. І вось, у Пекіне, я паспрабаваў ажыццявіць сваю запаветную мару, якая нарадзілася ў час падарожжа: вылепіць партрэт мастака Цы Бай-шы! Я ведаў, якое яго здароўе, што ён не можа доўга пазіраваць. І, наогул, ён яшчэ ніколі не пазіраваў. Фатаграфаваць яго — фатаграфавалі, а ляпіць скульптуру — за ўсе 97 год жыцця яшчэ ніхто не ляпіў. Я вельмі баяўся, што Цы Бай-шы мне адмовіць паўторнае спатканне. Якая радасць апанавала мяне, калі вялікі мастак даў сваю згоду!

Літаральна за два дні я зрабіў яго партрэт, аб якім шмат думаў, да работы над якім рыхтаваўся. На гэтым была закончана мая творчая праца. Партрэт Цы Бай-шы — 35-ая лепленая работа, не лічачы замалёвак карандашом,

маслам, за тры месяцы падарожжа ў Кітаі. З усім гэтым чытач можа пазнаёміцца на выстаўцы, якая хутка будзе адкрыта.

Пакідаючы сталіцу Кітайскай Народнай Рэспублікі, мы развіталіся са сваімі сябрамі, як з любімымі прыяцелямі, і ад сэрца дзякавалі. Гэта яны арганізавалі ўсё так, каб ніводны наш дзень не прапаў марна. Усё і ўсюды было падрыхтавана так, нібыта ўсе здагадваліся пра нашы думкі і жаданні. Асабліва мне ўяўлялася цяжкай задача: абсталяванне на кожным новым месцы скульптурнай майстэрні. Аднак, як паказала падарожжа, клапаціцца мне пра гэта не даводзілася.

Такі далёкі па адлегласці ад нас Кітай стаў для мяне блізкім і родным цераз праяўленне шчырай і сардэчнай увагі к нам кітайскіх сяброў.

Безумоўна, для таго, каб глыбока вывучыць і зрабіць што-небудзь грунтоўнае, вартае такога вялікага народа, як кітайскі народ, каб выказаць свае ўсе гарачыя пачуцці ўдзячнасці, вядома, што тры месяцы нагляданняў не такія ўжо дастатковыя. Аднак усё што было зроблена, то зроблена шчыра, старанна і няхай яно паслужыць маленькай крупінкай для яшчэ большага збліжэння нашых мастацтваў і прадстаўнікоў мастацтва.

